## СЛОВА НА ДАРОГУ

Даўно мне хацелася напісаць пра беларускую мінуўшчыну. Яшчэ ў маленстве (яно такое далёкае), чытаючы кніжкі пра славутых віцязяў, пра аблогі гарадоў, пра жахлівыя вастрадзюбыя бярвенні-тараны, якія, нібы шкарлупінне, праломвалі акутыя жалезам брамы, марыў я нейкім чынам сустрэцца з продкамі — з крывічамі, дрыгавічамі. Але як?

Сто гадоў таму назад у багатых дамах Еўропы і Паўночнай Амерыкі на спірытычных сеансах выклікалі душы продкаў. Я не ўмею гэта рабіць і не веру ў такое дрымучае шарлатанства. Я пішу кнігу, каб сустрэцца з продкамі. Каб напісаць гэту кнігу, мне трэба ведаць гісторыю.

Гісторыя... Якое прывабнае і якое няўлоўнае паняцце! Каменная сякера ў руках дзікуна — гісторыя. Юрый Гагарын у космасе — гісторыя. Сказ, напісаны мною за імгненне да сказа, які я зараз пішу,— гісторыя. Бясконцы ланцуг... Ні пачатку, ні канца не відно...

"Гісторыя — гэта вялізны, разнастайны вопыт чалавецтва, сустрэча людзей у стагоддзях". Так напісаў гісторык Марк Блок, герой французскага Супраціўлення, расстраляны фашыстамі.

У кожнага народа павінна быць нацыянальная энергія і гістарычная памяць. У кожнага.

Калі Навухананосар заваёўваў чужы горад, ён адразу ж разбураў гарадскія сцены, найбольш уплывовых палонных кідаў у падзямелле. Яны сядзелі ў цемры, сядзелі, здаралася, дзесяткі гадоў, да скону жыцця, і ўласнымі рукамі пераціралі на пясок, на пыл косці сваіх продкаў. Так сціралася памяць.

Старадаўнія грэкі мацеркай усіх муз называлі Мнемазіну — музу памяці. У іх, мудрых і вясёлых элінаў, ужо тады, тысячагоддзі назад, была свая гісторыя і

прадгісторыя, і Парфенон быў пабудаваны на месцы нейкага пракаветнага, дужа старога храма. Сяджу, пішу кнігу... Канчаецца зімовы дзень, і я ўключаю святло. Маленькае сонца электралямпачкі ззяе над галавой. Утульна, самотна... Аказваецца, электралямпачка, яе ніць, у адну секунду 50 разоў(!) патухае і ўспыхвае, патухае і ўспыхвае. Чалавечае вока па сваёй фізічнай прыродзе не здольна ўлавіць, зафіксаваць гэтыя рытмічныя чаргаванні святла і цемры, і нам здаецца, што электралямпачка гарыць роўным спакойным святлом. Нешта падобнае можна заўважыць і ў гісторыі. Імгненні, чалавечыя жыцці зліваюцца ў вечнасць, у адну суцэльную плынь.
З дваццатага стагоддзя пераношуся ў трынаццатае, у самы яго пачатак, пераношуся ў Полацкае княства. Яно тады займала амаль усю Беларусь, было дзяржавай еўрапейскіх памераў і значэння.
У склад Кіеўскай Русі Полацкая зямля ўвайшла ў канцы IX стагоддзя. Пасля смерці Уладзіміра Манамаха Кіеўская Русь распалася. Яшчэ раней, у XI стагоддзі, выдзелілася з яе Полацкае княства. І гэта, як можна меркаваць, не выпадковасць.
Усе гісторыкі, усе даследчыкі адзначаюць "сепаратызм" полацкіх князёў, або крывіцкіх ці крыўскіх, як іх яшчэ называлі. Тут ёсць над чым задумацца і гісторыку, і раманісту, і кожнаму, хто цікавіцца славянскай даўнінай. Лаўрэнцьеўскі летапіс паведамляе: "Мечь взимають Роговоложи внуци противу Ярославлим внуком". "Ярославли внуци" — князі кіеўскія, з гнязда Яраслава Мудрага. "Роговоложи внуци" — полацкія князі. Чаму ж ідзе такая барацьба паміж імі, чаму гараць гарады і весі, вынішчаюцца нівы, льецца братняя кроў?
Гісторык Васіль Ключэўскі, тлумачачы механізм перадачы ўлады ў Кіеўскай Русі, калі ўлада ад князёў-бацькоў пераходзіла да князёў-сыноў, піша пра князёў-ізгояў. Ізгоем князь мог стаць з-за дачаснага сіроцтва, калі яго бацька паміраў раней яго дзеда. Такі князь страчваў чаргу да ўлады, выцясняўся з гэтай чаргі. Ключэўскі, даючы спіс такіх князёў, піша: "Яшчэ раней за ўсіх гэтых ізгояў у становішчы выдзеленых князёў апынуліся не з-за пазачаснага сіроцтва, а ў выніку **асаблівых абставін,** князі полацкія, нашчадкі старэйшага сына Уладзіміра Святога ад Рагнеды". Што ж гэта за асаблівыя абставіны? Хто адкажа?
Да Рагнеды павінны мы звярнуцца, да гордай дачкі полацкага князя Рагвалода, якая не прыняла багатых падарункаў, не захацела стаць жонкай князя Уладзіміра, сказаўшы: "Не хачу разуць рабыніча". Уладзімір, помсцячы, і помсцячы жорстка, узяў сілай Рагнеду на

вачах у яе родзічаў, а потым забіў яе бацьку Рагвалода, маці і двух братоў і павёз зняволеную князёўну ў свой гарэм. Ён тады яшчэ быў язычнікам, меў, калі верыць летапісам, некалькі соцень наложніц.
І вось Рагнеда, яна ж Гарыслава, а потым, у манастве, Анастасія — жонка вялікага князя кіеўскага Уладзіміра Святаславіча. Высока ўзляцела дзвінская чайка, усе ёй зайздросцяць, але хто бачыў яе тайныя слёзы, хто чуў, як плача яна ўначы? Ніхто не чуў і не бачыў. Муж, вялікі князь Уладзімір, не чуў і не бачыў, бо быў заняты сваёй дзяржавай, сваёй дружынай і сваім гарэмам.
Але адна душа ўсё-такі пачула. І быў гэта яе першынец, сын Ізяслаў.
І вось Рагнеда, дачка забітага Рагвалода (гісторык Тацішчаў піша, што ён забіты ў 975 годзе, а гісторык Шахматаў — што ў 970), нарадзіўшы сыноў забойцу сваёй радні, пражыўшы з ім у шлюбе па розных падліках ад 10 да 18 гадоў, узнімае на яго корд[1]. Уладзімір Краснае Сонейка і тут выходзіць сухім з вады. Рагнеду чакае пакутлівая смерць. Ды ў 988 годзе Уладзімір мяняе гнеў на літасць, будуе ёй горад Ізяслаў (сённяшняе Заслаўе) і разам з сынам Ізяславам адпраўляе Рагнеду ў гэты горад.
Што ж выратавала Рагнеду ад непазбежнай смерці? Па-першае, відаць, тое, што Уладзімір у гэты час прыняў хрышчэнне, распусціў гарэм і як хрысціянін (смерды ж і баяры глядзяць на яго!) "вазлюбіў бліжняга свайго", тым болей што гэтым "бліжнім" была яго жонка. Па-другое, а відаць, зноў жа, па-першае, тое, што за маці заступіўся Ізяслаў.
Тут маецца нейкая тайна, якую мы з вамі, напэўна, так і не разгадаем. Але я хачу прапанаваць ключык для разгадкі. С. Аннінскі, перакладчык "Хронікі Лівоніі" Генрыха Латвійскага на рускую мову, у сваіх каментарыях да "Хронікі" зазначае: "Спрадвечнай княжацкай дынастыяй, якая наследна правіла Полацкам, былі Рагвалодавічы. Шэраг абставін (своеасаблівасць княжых імён гэтай дынастыі, амаль пастаянная ізаляванасць полацкай палітыкі ад палітычнага жыцця Рурыкавічаў, родавая нянавісць і стогадовая барацьба паміж нашчадкамі Рагвалода і "ўнукамі Яраслава" ў 1021—1129 гг.) дазваляе думаць, што "ўнукі Рагвалода" не належалі да Рурыкавічаў, таму што і першы з іх, Ізяслаў, сын Рагнеды, не мог быць сынам Уладзіміра".
Вунь яно што! Калі ісці за гэтай версіяй, то шмат праясняецца. І чаму Ізяслаў уступіўся за маці супроць нярóднага бацькі, і чаму Уладзімір, захаваўшы жыццё

[1] Корд — доўгі нож.

Рагнедзе, выслаў разам з ёю ў Ізяслаўль свайго першынца. Ды таму, што Ізяслаў быў не яго сын!
Хто ж мог быць бацькам Ізяслава? Як вядома, да Рагнеды адначасова з Уладзімірам, які ў той час княжыў у Ноўгарадзе, сватаўся Яраполк Кіеўскі, і Рагнеда хацела выйсці за Яраполка, кахала яго.
Меркаванні, легенды... Без легенд гісторыя губляе сваю прывабнасць, таямнічасць. Гэта — як неба без зорак.
Калі ж глянуць вачамі гісторыка-эканаміста, то адасабленню Полацкага княства ад Кіеўскай Русі садзейнічала больш ранняе развіццё феадальных адносін, чым у іншых месцах. Баяры-землеўладальнікі і купцы былі зацікаўлены ў моцнай мясцовай уладзе, якая надзейна ахоўвала б іхнія інтарэсы. Полацк на Заходняй Дзвіне меў свой гандлёвы шлях у Еўропу, жыў у адносным міры са сваімі суседзямі, у той час як на паўднёвыя і ўсходнія рубяжы Кіеўскай Русі адна за адной накочваліся хвалі захопнікаў.
Гісторыя Полацкай зямлі —
такое мора, у якім знойдзецца месца і свежы вецер кожнаму ветразю. Упершыню думку аб стварэнні спецыяльна полацкай гісторыі выказаў у пачатку XIX стагоддзя кобрынскі манах ордэна піяраў Мацвей Брадовіч. Потым прыйшлі і гісторыкі — Ігнат Даніловіч, Зміцер Леанардаў, Васіль Данілевіч, Аляксей Сапуноў... Ёсць яны і сёння — Георгій Штыхаў, Леанід Аляксееў, Мікола Ермаловіч...
Гісторыкі ёсць, a летапісаў, полацкіх летапісаў няма. Не захаваліся летапісы, зніклі... А яны ж былі, былі! Толькі кавалачкі засталіся нам ад таго вялікага залатога сасуда, які быў разбіты, раскрышаны бязлітасным часам,— “Жыцие Ефрасінні”, твор, прысвечаны дзейнасці Ефрасінні Полацкай, і аповесць аб Святохне, змешчаная Васілём Тацішчавым у яго “Гісторыі Расійскай”.
Полацкія летапісы былі, бо калі ў час Лівонскай вайны кароль Рэчы Паспалітай Стэфан Баторый 30 жніўня 1579 года штурмам узяў Полацк, яго салдаты, па ўспамінах відавочцаў, хадзілі ў бібліятэцы Сафійскага сабора “па нейкіх дужа старых кнігах”.
Полацкія летапісы былі, бо сам Васіль Тацішчаў успамінаў, што бачыў і чытаў іх у бібліятэцы Пятра Яропкіна, рускага дойліда, якога ў 1740 годзе чвартавалі па загаду імператрыцы Анны Іаанаўны. Яропкін склаў галаву за тое, што быў лютым ворагам немцаў, якія набралі вялікую сілу пры двары самадзержыцы.
Яшчэ ў пачатку XIX стагоддзя частка летапісаў захоўвалася ў Бельчыцкім манастыры. У 1821 годзе рускі бібліёграф Пётр Кепен, які падарожнічаў па Беларусі,

бачыў у Бельчыцах "древние грамоты, среди которых одна какого-то Ярослава Изяславича".

Былі... А можа, яны (не ўсе, частка іх) ёсць недзе і сёння, як ёсць у нечай калекцыі славуты крыж Ефрасінні Полацкай? Шасціканечны напрастольны крыж, шэдэўр нашага мастацтва, у 1161 годзе зроблены Лазарам Богшам, роўна праз 780 гадоў, у час захопу фашыстамі Магілёва, бясследна знік.

Летапісы паміраюць. Народ жыве.

Цяжка плысці па рацэ, імя якой — Гісторыя. Асабліва цяжка дабірацца да вытокаў, да тых мясцін, дзе ракі, па сутнасці, няма, ёсць тоненькія ручайкі, вадзяныя ніткі, з якіх праз колькі дзесяткаў кіламетраў спляцецца, сатчэцца шырокі абрус ракі.

Еўрапейская, а разам з ёй і славянская гісторыя, відаць, усё-такі бярэ свой адлік з вялікага перасялення народаў і з паходаў, якія сучаснікі назвалі крыжовымі.

Той, хто быў крыжаносцам, лічыў сябе разумнейшым, мацнейшым, адным словам, "звышчалавекам" у параўнанні з жыхаром, тубыльцам той зямлі, куды ён "нёс" крыж. Пад гэтыя амбіцыі падводзілася навуковая база, пісаліся цэлыя трактаты. Народам, расам адмаўлялася ў праве на ўласную гісторыю, на родную мову. Лозунг быў адзіны: "Рабы ды загавараць на мове сваіх гаспадароў".

Большасць з нас крыжовыя паходы звязваюць толькі з Усходам, з Іерусалімам і Палесцінай. Але ў канцы XII стагоддзя германскія феадалы Генрых Леў і Альберт Мядзведзь рынуліся крыжовым паходам на сваіх суседзяў палабскіх славян — бодрычаў і люцічаў. Германцы і англасаксы ўжо тады аб'яўляліся "вышэйшымі" за славян, арабаў, яўрэяў.

У часы першых крыжовых паходаў "вышэйшымі" за ўсіх лічылі сябе, вядома ж, Рымскія Папы. На тых, хто сумняваўся ў гэтым, яны накладалі царкоўнае праклянцце, анафему. Вось яе тэкст: "Адлучаем ад царквы і анафемствуем таго ліхадзея, які завецца (называлася імя "ліхадзея"), і адганяем яго ад дзвярэй святой Божай царквы, каб ён аддадзены быў на вечныя пакуты з усімі, хто кажа Госпаду Богу: "Адыдзі ад нас, бо мы не жадаем ведаць шляхоў тваіх!" Ды будзе ён пракляты ўсюды, дзе б ні знаходзіўся: у доме, у полі, на стайні, на вялікай дарозе, у вадзе, на лесвіцы, у пустыні і нават на парозе царквы. Ды будзе пракляты ён у жыцці і ў час смерці! Ды будзе пракляты ён ва ўсіх справах сваіх, калі ён п'е, калі ён есць, калі ён насычаецца і прагне, калі ён пасціцца, калі ён спіць і калі не дрэмле, калі гуляе і калі адпачывае, калі ён сядзіць або ляжыць, калі ён стаіць або сцякае

крывёю! Ды будзе пракляты ён ва ўсіх частках свайго цела, унутраных і знешніх! Ды будзе пракляты волас яго і мозг яго, мазжачок яго, скроні яго, лоб, вушы, бровы, вочы, шчокі, нос яго, кісці рук, пальцы, грудзі, сэрца, страўнік, унутранасці яго, паясніца, сцёгны, калені, ногі, пазногці яго. Ды будзе ён пракляты ва ўсіх суставах сваіх ад макаўкі галавы да ступакоў ног! Каб хваробы грызлі яго! Ды пракляне яго дзівосная рацы пакутнікаў за веру! Ды пракляне яго хор святых дзеў, якія дзеля славы Хрыстовай пагрэбавалі мітуснёй і тлумам свету! І каб неба і ўсе жывыя сілы абрынуліся на яго, каб пракліналі да таго часу, пакуль не дасць ён нам поўнага пакаяння. Ды будзе так! Амен!"

Як бачыце, праклёнцаў не шкадавалі, кожны валасок чалавечага цела аддавалі на пакуты.

На самым пачатку трынаццатага стагоддзя наш народ жыў, павярнуўшыся тварам да Балтыкі, бо адтуль, як ненажэрная саранча, лезлі і лезлі крыжакі. Шмат крыві пралілося ў той час, шмат чалавечых касцей бялелася паміж маўклівых прыморскіх дзюнаў, на берагах Дзвіны і Нёмана. Знікалі цэлыя народы. Дзе сёння прусы і яцвягі? Іх няма. Яны загінулі пад мячамі крыжакоў, пад капытамі рыцарскіх коней, часткова былі асіміляваны. Ад ліваў, магутнага і шматлікага народа, засталося некалькі дзесяткаў чалавек, маленькая этнаграфічная групка, якая жыве на Рыжскім узмор'і.

Нашы продкі ўзялі шчыты, узялі мячы і разам з продкамі эстонцаў, латышоў і літоўцаў пайшлі на святую бітву за сваю зямлю, за сваё жыццё. Гэта было на самым золку XIII стагоддзя...

# I



ака
трывожна шумела ў начным змроку. Пахла гнілымі водарасцямі, рыбай, паленым драўняным вугалем, які штогод выкідвалі ў Дзвіну з дружыннай кузні, што стаяла на самым беразе.

Чалавек нячутна, як прывід, вынырнуў з вады. Трымаючыся левай рукой за бервяно (гэта быў разбураны вільгаццю і часам ствол калісьці магутнай ліпы), ён плыў, шырока і моцна падграбаючы правай рукою. За спінаю ў чалавека быў прывязаны шчыт і кароткае кап'ё-суліца. Чалавека вельмі непакоіў месяц, які вось-вось павінен быў выкаціцца з-за хмар на сінюю прагаліну начнога неба. Чалавек хацеў быць нябачным для ўсіх, акрамя Бога.

Месяц усё-такі заззяў над зямлёй, як вялізная срэбная грыўня. Малочна-залацістае месячнае святло палілося на цёмную раку. Грабеньчыкі хваль рэзка выступілі з цемры, і адразу адчулася магутная сіла ракі і бясконцасць ночы. Вада нястрымна неслася ўдалеч. Яна і чалавека з ягоным бервяном магла б падхапіць і, як трэску, завалачы ў самае Варажскае мора,[1] але чалавеку неабходна было прыбіцца да берага. Ён мацней упіўся пальцамі ў слізкае, дрогкае на хвалях бервяно, напружыў усе сілы.

Месячныя промні ўспыхнулі на металічным наканечніку суліцы, і той засвяціўся, як вугалёк. Чалавек не мог гэта бачыць, але здагадаўся, мякка перавярнуўся ў вадзе і паплыў на спіне. Цёплая вада

[1] Варажскае мора — Балтыйскае мора.

пяшчотна казытала шчокі, і ён успомніў пальцы маці. Калісьці маці, як толькі ён, зусім яшчэ маленькі, прачынаўся, любіла гладзіць яму шчокі пальцамі.
Чалавеку зрабілася сумна і адзінока. Маўклівае неба вісела над ім. Таемная сіла запальвала ў небе зоркі. "Пэўна, гэта мая апошняя ноч і я не дажыву да раніцы",— падумаў чалавек.
Бервяно з лёгкім сухім шоргатам уткнулася ў прыбярэжны пясок, і чалавек нецярпліва і радасна зняў руку са слізкай мяккай кары — яму ўвесь час чамусьці здавалася, што ён трымае ў руцэ слізкую мяккую жабу. Ён нават намацаў дно і, растапырыўшы пальцы, пачаў радасна церці рукою аб пясок, нібы змываў са скуры богведама які бруд. Потым нерухома, як вялізная знясіленая рыбіна, ляжаў на самай мяжы вады і берага, супакойваў дыханне, даваў адпачыць целу, чакаў свайго спадарожніка. Той выплыў з цемры, таксама трымаючыся за бервяно.
Нейкі час яны моўчкі ляжалі побач, і толькі шумела чорная, як дзёгаць, рачная вада. А можа, гэта шумела кроў у вушах ад вялікай напругі?
Проста перад імі, у некалькіх сажнях ад берага Дзвіны, шчаціniліся на высокім пагорку дубовыя забаролы грознага замка. Быў час другой варты. Воі на забаролах свяцілі паходнямі, сонна, млява крычалі, перагукваліся між сабою: "Полацк!.. Менск!.. Друцеск!.. Рша!.."
Той, што прыплыў пазней, паправіў на поясе меч, прыжмурыўся, сказаў нібы сам сабе:
— Вось ён — Кукейнос, гняздо мярзотнага Вячкі. Мы раструшчым гэты пракляты горад, як курынае яйка. Мы знішчым князя і княжых слуг. Птушкі балотныя і гады паўзучыя звіюць гнёзды ў іхніх чарапах. І ты дапаможаш святому божаму войску, Брацiла.
У словах, якія ён вымавіў, была такая злосць, такая пякучая нянавісць, што Брацiла міжволі ўздрыгнуў. Кожнае слова здавалася кропляй атруты. Упадзі такое слова на прыбярэжны пясок, і пясок (Брацiла не сумняваўся) зашыпіць, расплавіцца.
Увесь той час, калі яны, чакаючы наступлення цемры, хаваліся, адлежваліся ў зарасніках на

супрацьлеглым беразе Дзвіны, Браціла баяўся зірнуць у твар свайму спадарожніку. Нейкая невядомая сіла адводзіла ўбок позірк. Браціла ўжо даўно, амаль з маленства, ведаў за сабой такое — хоць забі, а не мог паглядзець прама ў вочы чалавеку. Быццам у глыбіні, на дне тых вачэй, быў яму, Брацілу, смяротны прысуд.
Зараз жа, карыстаючыся цемрай, асмялеўшы пры набліжэнні небяспекі (а небяспека заўсёды гарачыла яго, растаплівала льдзінкі ў крыві), Браціла краем вока глянуў на таварыша па рызыцы і, магчыма, па смерці. Тэўтон[1] з Рыгі (Браціла не ведаў ягонае імя) быў высокі, танклявы ў поясе, але шыракагруды. Сонцаваротаў[2] дваццаць, магчыма, трохі меней, жыў ён на зямлі. Доўгія льняныя валасы буйна кучаравіліся і, каб не закрывалі вочы, былі перахоплены на лбе і на патыліцы тонкім скураным раменьчыкам. Кроплі рачной вады, як зорачкі, густа ззялі на аголеных смуглых руках і нагах. У руцэ тэўтон трымаў сталёвы нож з жоўтай касцяной ручкай. У адрозненне ад Брацілы ён не ўзяў з сабой шчыт і кап'ё, але цяжкі шырокі меч, з тых, што куюць на Гоцкім беразе, вісеў у тэўтона каля левага сцягна.
Тонка звінела рачная вада. Рака была сплецена, скручана з вялікага мноства танюсенькіх струменьчыкаў, і кожны, нават самы малы, стараўся падаць свой голас. Густа, як гэта заўсёды бывае ў серпені, падалі ў небе зоркі. "Душы грэшнікаў ляцяць у пекла",— халадзеючы спінай, думаў Браціла. Няўмольна бег час, неўзабаве на забаролы Кукейноса павінна была выйсці трэцяя варта, а ў яе (добра ведаў Браціла, бо сам быў калісьці кукейноскім муралём) адбіраліся самыя пільныя, самыя адважныя воі з баявымі сабакамі-ваўкадавамі.
Тэўтон, затаіўшы дыханне, як скамянеў побач. У цемры ён здаваўся Брацілу драўляным ідалам-балванам, якія стаяць, хаваючыся ад папоў і князёў, на здзічэлых лясных капішчах Полацкай зямлі.
— Час ісці,— нарэшце выдыхнуў тэўтон, пераклаў

---

[1] Т э ў т о н — так называлі ў той час немцаў
[2] С о н ц а в а р о т — год.

нож з правай рукі ў левую і шырока перахрысціўся.— З намі Бог і Святая Дзева Марыя. Потым наблізіў свой твар да Брацілы, амаль кранууўся Брацілавай шчакі, прашаптаў:
— Ты помніш клятву, якую мы далі епіскапу Альберту?
Тэўтон быў белатвары і драбнавокі. Вочы маленькія, як недаспелыя лясныя арэшкі.
— Помню,— сказаў Брацiла.
— Паўтары нашу клятву.
— Імем апостальскай рымскай царквы, імем яе малодшай дачкі — царквы рыжскай — клянемся пайсці ў Кукейнос, узяць душу нягоднага Вячкі, дзе б ён ад нас ні хаваўся, і ўручыць гэтую сляпую і дзікую душу ў найсправядлівейшыя Богавы рукі.
— Добра,— аднымі вуснамі ўсміхнуўся тэўтон.— Вячка павінен загінуць. Такая воля Ўсявышняга. Амен.
Брацiла згодна хітнуў галавой, моўчкі глядзеў перад сабой у цемень. У яго быў вельмі востры зрок, зрок рысі, што водзіцца ў лясах ля стольнага Полацка, і за некалькі сажняў уперадзе, там дзе пачынаўся абарончы роў, ён убачыў кусцікі нейкай дзіўнай травы. Гэтая трава, доўгая, прамая, з калючымі пругкімі мяцёлкамі на самым версе, вельмі нагадвала стрэлы з лука, што ўпіліся ў зямлю.
“Дрэнны знак”,— падумаў Брацiла.
Тэўтон між тым страсна, як малітву, шаптаў побач:
— Нас нельга спыніць, бо нельга спыніць марскі прыбой і ўзыход сонца. Мы нясем святло веры, нятленны Крыж Гасподні.
“Баіцца”,— падумаў Брацiла. Ён, Брацiла, не баяўся. Страх застаўся ззаду, за плячамі, у Рызе, куды ён мінулым летам прыбег з Кукейноса, ратуючыся ад дружыннікаў князя Вячкі. У Кукейносе ён быў муралём — з шэрага цвёрдага камення-плітняка, які здабывалі ў ваколіцах горада, будаваў разам са сваім бацькам і дзедам царкву. Але рабіць не хацелася. Цяжкі камень адрываў рукі, а маладое здаровае цела прагла любошчаў-уцех. Ён уцёк са скамарохамі, вадзіў мядзведзя, іграў на гудку, мілаваўся з бессаромнымі маладзіцамі, піў мёд, а потым разам з сябрукамі забіў багатага латгала з-за грыўняў.

Галаўнік[1], праклятты сваёй сям'ёй і горадам, стаяў ён каля забаролаў Кукейноса і слухаў, як перагукваюцца воі, як звіняць іхнія мячы. Ён даўно не чуў родную гаворку. Гэта была адзіная радасць, што засталася ў яго,— стаяць каля гарадскога вала, у цемры, і слухаць знаёмыя з дзяцінства словы.

— Полацк! Менск! Друцеск! — даносілася зверху.

А яму здавалася — гэта плача ягоная маці, распусціла сівыя ад гора валасы, пасыпала іх пяском-жарсцвяком і кліча: "Браціла! Браціла!"

Тэўтон лёгенька таўхануў яго пад бок, падаў нешта круглае, невялікае.

— Пі,— сказаў тэўтон.

Гэта была бронзавая карчажка, выкаваная ў форме гусінага яйка. Браціла ўзяў карчажку.

— Пі,— зноў сказаў тэўтон.— Мы вып'ем гэты святы эліксір і зробімся празрыстымі, як начны туман. І нас не заўважыць варта на гарадскім вале. Пі.

Браціла недаверліва трымаў у руках карчажку. На ёй былі выкаваны кветкі, зоры, птушкі. Яна была цёплая.

— Мы зробімся, як туман. Мы праплывем над валам. Гэты эліксір даў мне абат цыстэрцыянскага манастыра ў Рызе Тэадорых, брат епіскапа Альберта,— страсна блішчалі ў змроку вочы тэўтона.

Браціла асцярожна паднёс карчажку да вуснаў. Падумалася са спалохам: ці не атруту дае тэўтон? Яны, божыя баяры з Рыгі, усё могуць зрабіць з чалавекам, які асмеліцца пайсці супраць іхняй волі. Тэўтонскі бог мацнейшы за царгародскага, за рускага бога. Рыга, што зусім нядаўна села ў вусці Дзвіны, мацнейшая за стольны Полацк, які стаіць з сівой пракаветчыны, з часоў святога Рагвалода. Рыжскі епіскап Альберт мацнейшы і хітрэйшы за вялікага князя полацкага Уладзіміра. Куды ж Вячку, гэтаму маладому князю-жарэбчыку, які запёрся ў Кукейносе з полацкай дружынай і латгальскімі старэйшынамі, узнімаць дзясніцу на тэўтонаў? Зловяць яго, як зайца ў цянёты, і зарэжуць.

Браціла маленькім глыточкам пракаўтнуў халодную

---

[1] Галаўнік — забойца.

кіславата-горкую вадкасць с карчажкі. Стаяў і не ведаў: смерць або святую божую сілу ўпусціў у скляпенні цела свайго?
Востра свіснула крыллямі начная, нябачная воку птушка, паляцела над хвалістай узбунтаванай ветрам Дзвіной. Яму раптам захацелася зрабіцца гэтай птушкай, шчаслівай птушкай, якой не трэба лезці на страшныя забаролы княжацкага замка, дзе чакаюць коп'і і мячы.
Нечакана пачаўся дождж, густы, гаманлівы.
— Добра, што пайшоў дождж,— ціха сказаў Браціла тэўтону. Той разумеў мову полацкіх крывічоў і ў знак згоды кіўнуў галавой.
Дождж патушыў паходні, якія варта паліла на забаролах. Магільны змрок абрынуўся на зямлю. Браціла не бачыў тэўтона, які стаяў, дыхаў усяго за два ці тры локці ад яго. "Пітво з карчажкі зрабіла нас нябачнымі",— падумаў Браціла. Гэта яго ўзрадавала. Ён ушчыкнуў сам сябе за руку, каб адчуць сваю плоць, каб пераканацца, што яна не знікла.
— Не падавіўшы пчол, мёду не есці,— рашуча выдыхнуў з цемры тэўтон.— Пайшлі, Браціла. Ісус і Дзева Марыя абароняць нас.
Браціла пайшоў першы, тэўтон за ім. Яны прыгнуліся, амаль на карачках ішлі-паўзлі па мокрай слізкай зямлі. Гэтую зямлю Браціла добра ведаў, і яна ведала, помніла яго. Ягоны бацька нарадзіўся тут, у Кукейносе. Маці ягоная была з мясцовых латгалак. Хлапчуком разам з сябрамі ён выганяў за гарадскі вал у зялёныя лугі коней і кароў. У спякоту купаўся ў Дзвіне і пачуваў сябе ў імклівай празрыстай вадзе як рыба. Ён ведаў, што дзяды дзядоў называлі раку Дзвіну Рубонам, і яшчэ й цяпер ярасны баявы кліч палачан "Рубон!" палохае і тэўтонаў, і літоўцаў, і літоўскіх саюзнікаў селаў. Ён, як вуж, поўз па гэтай зямлі, ён уплішчваўся ўсім целам у яе, каб пад покрывам ночы прабрацца ў Кукейнос і забіць князя Вячку.
Па горла ў вадзе перайшлі роў. Шумеў дождж. Вецер дзьмуў з ракі, удараўся аб земляны гарадскі вал, аб дубовыя забаролы, адскокваў і заплёўваў вочы дажджом.

Тэўтон як прыліп да Брацілы — шнураваў ззаду

крок у крок. "Ідзе Вячкава смерць",— думаў Брацiла.
Выйшлі якраз у тое месца гарадскога вала, куды і меркаваў трапіць Брацiла. Тут каркас з сасновых бярвенняў, які мацаваўся ў тоўшчы вала, крыху асеў, асунуўся. Напэўна, падтачылі падземныя ручаі.
Брацiла спыніўся, і за яго спінаю адразу ж спыніўся тэўтон. Бясконца шумеў дождж. Плакала чорнае неба. Брацiла перахрысціўся, шырокай даланёю старанна выцер мокры твар. Потым са свайго скуранога пояса адчапіў прасмоленую пяньковую вяроўку, да якой была прывязана стальная трохрогая "кошка". Размахнуўшыся, ён кінуў гэту "кошку" ўверх, у цемру, і яна, глуха стукнуўшыся аб дубовы забарол, упілася, учапілася ў дрэва. Ён лёгенька тузануў на сябе вяроўку, потым тузануў мацней, правяраў, ці надзейна трымаецца вяроўка. Нейкае імгненне пастаяў у нерашучасці, потым папляваў на рукі і, спрытна і хутка ўпіраючыся нагамі ў слізкі частакол, рыўкамі падцягваючы ўгору буйное цела, палез на забарол. Гэта была звычайная для яго справа — начны тацьё ён не раз пералазіў так цераз самыя высокія сцены.
Забарол у гэтым месцы быў вышынёй каля чатырох махавых сажняў. Брацiла, калі яшчэ разам з бацькам рабіў муралём, ведаў і малую пядзь, і вялікую пядзь, і махавы сажань, і касы сажань. Дарослы мужчына раскідваў, разводзіў у бакі рукі, і адлегласць паміж кончыкамі пальцаў левай і правай рукі была махавым сажнем.
Ды яму ўжо не быць муралём. Ніколі не быць. Хто пакаштаваў крывавага мяса, не захоча есці параную рэпу. Ярыжка-валацуга не будзе ў полацкай Сафіі адбіваць паклоны Ўсявышняму.
Апынуўшыся на самым версе кукейноскага вала, Брацiла замёр, затаіў дыханне. Перад ім у глухой апраметнай цемры спаў Кукейнос. Ніводнага агеньчыка, ніводнай іскрынкі не бачыла вока. Шчыльнымі цёмнымі купамі стаялі сядзібы купцоў і рамеснікаў. Вакольнага горада, як у Полацку ці ў Герцыке, тут не было: два гады назад спалілі літоўцы. Маленькі ваяўнічы Кукейнос усіх сваіх жыхароў сабраў у адну жменю, у адзін кулак —

пасяліў на дзядзінцы. Дубовы церам князя Вячкі ўзвышаўся побач з праваслаўнай царквою.
"Спі, Вячка,— з помслівай радасцю падумаў Браціла.— Сёння ноччу ты заснеш навекі".
У гэтым горадзе ён ведаў усе хады-выхады. Завяжы яму вочы, выкалі вочы, ён усё роўна пройдзе, як па нітцы, па вузкіх, замошчаных сасновымі і дубовымі плахамі вулках, не саб'ецца, не заблудзіць. І княжыя харомы ён ведае, вывучыў як свае пяць пальцаў.
Рэзка і адрывіста, захліпаючыся ад злосці, забрахаў вартавы сабака. Вoi на забаролах, што, пэўна, сядзелі, прыкрыўшыся ад дажджу шчытамі, адразу ўспалашыліся, пачалі перагуквацца. Зазвінелі мячы.
Браціла, як толькі мог, прыпаў да дубовага частаколу, шчакой уціскаючыся ў мокрую халодную шурпатасць дрэва. Ён адчуў, як па спіне пабеглі дрыжыкі.
Але сабака заціх. Пакрысе супакоіліся вoi. Дождж барабаніў па Брацілавым шчыце.
Канец вяроўкі Брацiла кінуў уніз, тэўтону. Праз нейкія імгненні тэўтон, цяжка дыхаючы, узабраўся на забарол. Крануўся плечуком Брацілы і замёр, маўклівы, бясшумны, як начная сава.
Брацiла ямчэй уладкаваў за спінаю шчыт і суліцу. Трэба было спускацца ў цемру, у невядомасць, на зямлю Кукейноса.
Ён лёгенька скокнуў, стаў на гэтую зямлю. І ўсё перабіраў нагамі, пераміналася з нагі на нагу, быццам стаяў на чырвоным распаленым жалезе.
"Брацiла! Што ты хочаш рабіць, сынок?" — раптам нібы прагучаў у ягонай душы голас маці. Столькі слёз, столькі пакуты было ў гэтым голасе.
Ён стаяў, не адважваўся зрабіць першы крок. Ён успомніў сябе малым. "Не рабі чорную справу. Не пралівай кроў",— звінеў у душы голас маці, як звініць царкоўны звон, шырока і неадступна.
Брацiла стаяў, маўчаў. Глухая ноч плыла над Кукейносам. Яшчэ да раніцы было далёка. Яшчэ спаў князь пеўняў Будзімір, якога так шануюць смерды Полацкай зямлі. Вецер аж вішчаў у высокім частаколе гарадскога вала.
— Ты чаго спыніўся? — злосна зашаптаў ззаду тэўтон.
— Цемра... Нічога не відно,— нерашуча сказаў Брацiла.

— Не лічы мяне за дурня,— тэўтон вастрыём мяча лёгка кальнуў Брацілу між лапатак.— Ты пакляўся. І наша царква добра заплаціла. Епіскап Альберт даў табе сорак грыўняў серабра. Калі ты здрадзіш, шалудзівы пёс, я адсяку табе галаву. Ва імя Ісуса Хрыста, Сына Божага, пайшоў уперад!
Брацiла выцягнуў з-за спіны шчыт, узяў яго ў левую руку, у правай руцэ сціснуў суліцу, прыгнуўся і бясшумна нырнуў у цемру. Тэўтон, як лісіны хвост, адразу ж шмыгануў следам.
Вулкі Кукейноса былі вельмі вузкія, брудныя. Гразь хлюпала па сасновых і дубовых плахах, якімі яны былі вымашчаны. У такой цемры, у дождж Брацiла і тэўтон кожнае імгненне маглі звярнуць сабе шыю, але зацята і няўмольна кіраваліся ўперад, у самае сэрца дзядзінца.
Сядзібы кукейносцаў мясціліся ўпрытык адна да адной — локця не прасунеш. Тут было шмат важнецкай ежы для агню, які не раз, як жахлівая чырвоная птушка, налятаў на гэтыя хаткі, на гэты горад.
У хатках, што чарнеліся ўздоўж вуліц, спалі са сваімі жонкамі і дзецьмі рымары і броннікі, кавалі і сырамятнікі, цесляры і скрыннікі, муралі і апоннікі. А яшчэ — дымары, плавільшчыкі жалеза. І гаплічнікі, тыя, што з косці і дрэва вырабляюць гузікі і кручкі для адзення. І кансвісары — адліўшчыкі царкоўных званоў. Тысячы сноў спляталіся ў адзін вялізны, усеабдымны, глыбокі і ў той жа час трывожны сон, бо хіба можна было спаць спакойна на самым пачатку трынаццатага стагоддзя, на самай мяжы Полацкай зямлі і ўладанняў рыжскага епіскапа Альберта?
Брацiла з тэўтонам прабіваліся праз дождж, і здавалася, ніколі не будзе канца ні гэтаму дажджу, ні гэтай цемры. Тэўтон, хоць і не быў палахліўцам, ужо не раз з лёгкай дрыготкай ў целе ўспамінаў Вельзевула, біблейскага князя злых духаў і змроку. Брацiла ж стараўся ні пра што не думаць і з асаблівай халоднай злосцю гнаў са сваёй душы матчын голас, які яшчэ ў часы ягонага бадзяння па Рызе пачаў напамінаць пра сябе, рвацца з самага нутра на волю.
Раптам ён паслізнуўся і ўпаў. Ён разбіў бы сабе

галаву, як вароняе яйка, але ў самы апошні міг паспеў, выпусціўшы кап'ё і шчыт, сустрэць нябачную зямлю рукамі. Толькі халоднай граззю запырскаў увесь твар.
Тэўтону падалося, што гэта засада, што Браціла ўпаў, прабіты стралой княжацкага воя, і ён цяжка і адчайна сekануў цемру мячом. Але меч сустрэў пустату.
— Наважыл, гэта ты? — пачуўся раптам ціхі і сумны жаночы голас. Белая тонкая постаць мільганула за высокім драўляным парканам, якім быў абгароджаны адзін з двароў. Для Брацілы з тэўтонам гэты нечаканы жаночы голас быў як гром нябесны.
— Наважыл, дзе ты ходзіш? Ідзі сюды. Я не сплю... Я чакаю цябе.
Жанчына, прыкрываючы рукой грудзі, ужо выходзіла на вуліцу.
— Я не Наважыл. Я — Сямідол, отрак князя Вячаслава Барысавіча,— разгублена азваўся Браціла, устаючы з зямлі, абтрасаючы з рук ліпкі бруд.— Ідзі спаць, жанчына. Я Сямідол.
Жанчына спынілася. Была яна (шкада, што Браціла з тэўтонам не бачылі ў цемры) у белай ільняной сукні, перахопленай чырвоным паяском. Срэбныя пакручастыя колты[1] ззялі на скронях. Яна стаяла за два крокі ад Брацілы з тэўтонам і плакала.
— Ты Сямідол? А дзе мой Наважыл? Другую ноч мой одр пустуе... Наважыл паплыў у лоддзі і абяцаў да змяркання вярнуцца... Прасвятая Багародзіца, дзе мой муж?
— Я заб'ю яе,— шапнуў тэўтон, узважваючы ў мускулістай руцэ меч,— яе пачуе варта і прыйдзе сюды.
— Не трэба,— спыніў тэўтонаву руку Браціла. Голас роднай маці зноў прачнуўся ў ім, вугольчыкам прапякаў сэрца. Слабасць была ў ягонай душы, млявасць і крохкасць. Хацелася слёз. І не чужых, а сваіх. Але сваіх слёз у яго ўжо не было.
— Ідзі спаць, жанчына,— строга сказаў ён.— Ідзі, сагравай одр для свайго Наважыла.
Ён узяў жанчыну за цёплы плячук і лёгенька

[1] Колты — жаночае ўпрыгожанне.

адпіхнуў ад сябе. Яна, як белая здань, растварылася ў цемры, а Браціла з тэўтонам лёгкім спорным крокам, пільна ўзіраючыся ў змрок, накіраваліся да княжацкіх харомаў. Густым бурлівым даждждом плакала ноч аб грахах чалавечых... Чым глыбей уваходзілі яны ў Кукейнос, тым усё больш прыгожых высозных палат сустракалася ўздоўж вуліцы. Тут жылі багатыя купцы, якія срэбра мераюць гаршкамі, ■ ракавіны кавуры, што на ўсім двухбярэжжы Дзвіны аж да самага Варажскага мора служаць і грашамі і ўпрыгожаннямі, мераюць мяшкамі. Тут жылі і баяры: полацкія і мясцовыя, латгальскія. Было на што падзівіцца, але вочы Браціллы і тэўтона туманіла прага крыві, і была гэта прага сляпою, як бычыны пузыр, што зацягвае акенцы ў хатках смердаў. Толькі ўперад імкнуліся яны, толькі да княжацкага двара. Быццам чакала іх там найвялікшае шчасце, якое можа сустрэць смяротны чалавек пад цяністай смакоўніцай у раі. Вуліца тым часам узбіралася ўгору, на самую вяршыню агромністай выспы, якая спрадвеку грузна стаяла ў самым сутоку Дзвіны і ракі Кокны і на якой ужо некалькі стагоддзяў шумеў, будаваўся, наліваўся сілай Кукейнос. Браціллу нават падалося, што па левую руку бліснула Кокна, нібы вузкі халодны меч выцягнуў нехта з пахваў і паклаў у начную чарнечу. Кокна — тая, што нясе дрэвы. Так называюць раку латгалы. І сапраўды — пачынаючыся ў глухіх лясах, мацнеючы там, рака прыносіць да сцен Кукейноса, асабліва вясною і асабліва ў навальніцу, вырваныя з коранем дрэвы. Латгалы кажуць, што гэта Гаспадары Лясных Гушчароў, сярдзітыя духі, палохаюць людзей, напамінаюць людзям аб сваім існаванні.
Нарэшце падкраліся да княжацкага церама. Ён быў высокі, двух'ярусны, зрублены з тоўстых дубовых бярвенняў. У першы ярус князь, дружына і слугі ўваходзілі проста з двара праз высокі ганак, аздоблены бліскучымі срэбнымі бляшкамі, на якіх былі выбіты галовы розных заморскіх звяроў, дзівосныя птушкі, рыбы і зоркі. Ход з двара вёў у вялікую грыдніцу, уздоўж сцен якой стаялі шырокія дубовыя лавы. Сцены грыдніцы былі абабіты

беласнежным ільняным палатном, шкурамі тураў, мядзведзяў і ваўкоў. Са сцен тырчалі адпаліраваныя да мядовага бляску даўжэзныя рогі аленяў і ласёў. Падлога грыдніцы была нацёрта воскам, і калі праз вузкія, у алавяных рамах, вокны ўрывалася сонца, грыдні і баяры, цівуны і купцы, што чакалі княжага выхаду, седзячы на лавах, зажмурвалі вочы.

На першым ярусе была княжацкая трапезная. Тут таксама са сцен тырчалі аленевыя і ласіныя рогі, але абпіленыя на канцы, пeратвораныя ў падсвечнікі. Вялізны доўгі стол, пакрыты залататканым абрусам, займаў амаль усю трапезную. У сцяне насупраць стала была зроблена агромністая ніша, выкладзеная шэрым палявым каменнем. У гэтай нішы, асабліва зімовымі і восеньскімі вечарамі, заўсёды гарэў агонь. Для яго ў цераме яшчэ з вясны назапашваліся дровы. І больш за ўсё шанавалі тут асінавыя дровы, бо яны гараць роўным белым полымем, не дымяць, не даюць сажы.

На другі ярус, на “верх”, можна было прайсці па шырокай лесвіцы з абабітымі серабром і меддзю балясамі. Там былі княжацкія пакоі, там князь Вячка прымаў самых блізкіх сваіх людзей, а таксама паслоў з Рыгі, з Літвы, ад эстаў і ліваў. Там жа, у кутным пакоі, была ягоная спальня, каля дзвярэй якой удзень і ўначы неслі варту ўзброеныя мячамі і баявымі сякерамі воі-дружыннікі. Муха і тая не магла праляцець незаўважанай, але Брацілa, які добра ведаў жыццё і норавы церама, меў свой хітры план пранікнуць у святую святых. У цераме за печніка і вадавоза быў ягоны добры знаёмы латгал Сцегіс. З гэтым Сцегісам яны вадзіліся яшчэ з маленства: пасвілі коней за гарадскім валам, купаліся, высочвалі пчаліныя борці ў навакольных лясах, пераплыўшы на чоўне Дзвіну, кралі ў селаў гусей і авечак, падросшы, узмужнеўшы, разам заляцаліся да дзяўчат. Сцегіс, на думку Брацілы, і павінен быў яму памагчы.

Каля самай сцяны церама Брацілa паклаў у густую мокрую траву шчыт і суліцу, даў знак тэўтону замерці, чакаць, а сам, увесь наструніўшыся, затаіўшы дыханне, падкраўся да акенца каморкі, у якой табараваўся латгал, пастукаў костачкамі

пальцаў у вузенькае акно. Нейкі час ніхто не азываўся. Але вось у акенцы затрапятаўся залацісты матылёк свечкі. Сцегіс, трымаючы свечку ў высока ўзнятай руцэ, прыпаў тварам да шкла.
— Сцегіс, адчыні,— папрасіў Браціла.
— Хто ты? — данёсся глухі голас латгала.
— Браціла. Мураль.
— Згінь, нячысцік,— рукою са свечкай перахрысціўся Сцегіс.— Брацілу яшчэ у мінулае лета забіў Халадок, старшы вой князя.
— Я — Браціла. Магу паклясціся на крыжы.
Браціла засунуў руку за пазуху, выцягнуў нашыйны каменны крыжык, перахрысціўся ім, потым пацалаваў яго. Пасля некаторага роздуму латгал, грукнуўшы завалай, адчыніў нізкія дзверы сваёй каморкі, насцярожана застыў са свечкай у руцэ. У яго былі пшанічныя вясёлыя бровы.
— Ад страху язык прымёрз да зубоў? — лёгенька стукнуў яго па плячы Браціла.— Ды не дрыжы, не дрыжы. Я цябе не з'ем. Можаш памацаць мяне — я не з дыму і не з сажы.
Сцегіс і сапраўды працягнуў уперад худую касцістую руку, лёгенька крануў начнога госця доўгімі празрыстымі пальцамі.
— Не апёкся? — Браціла ўжо сеў на чурбанчык. Асінавымі чурбанчыкамі была завалена падлога каморкі. Пэўна, Сцегіс звечара нацягаў дроў з вуліцы ў жытло, каб на золку, калі трэба будзе распальваць у печы, яны былі пад рукою.
Летгал нарэшце паверыў, што перад ім не ўпыр-пярэварацень, а ягоны колішні сябрук. У невялікіх шэрых вачах успыхнулі іскрынкі здзіўлення і нават радасці, але адразу ж зніклі.
— Ты забіў Дотэ, купца з Прэйльскай акругі,— ціха сказаў Сцегіс.— Князь Вячка загадаў забіць цябе, але ты ўцёк...
— Я ўцёк у Рыгу. Праўду кажаш, Сцегіс.
— У Рыгу? Да гэтых псагалоўцаў, якія забіраюць нашу зямлю і апаганьваюць магілы нашых продкаў? Вочы ў Сцегіса сурова ззялі.
Браціла нечакана кінуўся перад ім на калені, шырока перахрысціўся, заплакаў, загаварыў, глытаючы калючыя слёзы.

— Я пракляў той дзень, калі забіў Дотэ і калі збег да тэўтонаў. Справядліва кажа найміласэрнейшы Бог: "Ператвару святы вашы ў плач і песні вашы ў рыданні". Колькі слёз я праліў, Сцегіс! А ты ж помніш — я быў вясёлы. Помніш, Сцегіс?
Ён знізу ўверх пранізліва глянуў на латгала. Сваім позіркам, як кап'ём, прабіваў ён мяккае сэрца Сцегіса.
— Помню... Устань, Браціла... Я ж не князь і не баярын.
— А помніш, як мы з табою ўцякалі з таго берага Дзвіны ад селаў і літоўцаў і ў наш човен упілося аж сем стрэл? І як мяне параніла?
— Помню. Але навошта ты вярнуўся, Браціла? Вярнуўся, як пёс на сваю блявоціну.
— Не мог я там... Паміж тэўтонаў... Ні вера іхняя, ні мова, ні жанкі прыгожыя — нішто мне душу не грэла. Маці сваю хачу ўбачыць.
— Маці твая жывая,— сказаў Сцегіс.— Зялейніца на ўвесь Кукейнос. Травамі людзей лечыць, сухімі і зялёнымі, дымам, вадой, шэптам... І Словам Божым...
Браціла парывіста ўзняўся з каленцаў...
— Скажы, Сцегіс, а Соф'я, дачка князева, здаровая?
Латгал спахмурнеў.
— Дрэнна з ёй. Хворы дух пасяліўся ў Соф'і. Гарыць, як у лютым агні, не спіць, плача цэлыя ночы. Пэўна, Бог хоча ўзяць да сябе князёўну. Князь Вячаслаў казаў перад баярамі і купцамі: "Хто вылеча дачку, таго шчодра ўзнагароджу. І хвала таму будзе вечная і ад жывых людзей, і ад бацькавых касцей".
— Дык вось ведай, Сцегіс,— радасна і ўрачыста абвясціў Браціла,— я вылечу князёўну Соф'ю. Я! Дзеля гэтага я да тэўтонаў уцёк.
— Ты вылечыш?
Латгал ад здзіўлення раскрыў рот, і ярка, прыгожа блiснулі ягоныя часночна-белыя дробныя зубы.
— А хіба ты забыўся, што я родны сын зялейніцы Домны? Яна мне ўсё сваё вядунства адкрыла. Сілу я маю вялікую, таемную. І траву з Рыгі прывёз ад лекараў тэўтонскіх. А трава гэтая з самога Рыма. На гары Везувій расце, з якой агонь і смурод падземны

вырываюцца. Хто стаўчэ гэту траву, потым змеліць, потым у кіпецень кіне...
— Дзе трава? — перарваў яго Сцегіс. Твар у латгала быў бледны, усхваляваны. Яму так не цярпелася хутчэй убачыць дзіўную заморскую траву, якая валодае незвычайнай сілай. Ён любіў маленькую светлавалосую князёўну, якая пражыла на зямлі ўсяго толькі пяць сонцаваротаў і неўзабаве павінна была з-за невылечнай хваробы назаўсёды адплысці ў Лоддзі Смерці туды, дзе блукаюць няясныя самотныя цені мёртвых. Ён і сам заўсёды баяўся смерці. Убачыць маланку — хаваецца пад абрывісты бераг Дзвіны, або ў лес, або ў якую-небудзь яму і шэпча: "Бог мяне шукае, пакараць хоча".
— Вось гэта трава,— сказаў Брацiла і дастаў з-за пазухі невялікі мяшэчак. Не спяшаючыся, нахмурыўшы цёмныя бровы, развязаў яго, асцярожна, двума пальцамі дастаў тонкія светла-зялёныя сцяблінкі.
Латгал аж дыхаць перастаў. Памкнуўся ўзяць траву, панюхаць яе, але Брацiла не дазволіў, схаваў свой цуд назад у мяшэчак, растлумачыўшы:
— Нельга яе ў чужыя рукі аддаваць. Сілу сваю губляе ад чужых рук. Толькі мяне яна слухае, трава гэтая заморская. I толькі ноччу можа піць яе хворы чалавек, бо яна баіцца сонца.
— Дык пайшлі ў апачывальню князёўны Соф'і... Хутчэй пайшлі! Я завяду,— хвалюючыся, усклікнуў Сцегіс.
" Што ты робіш, сынок? — нечакана, у які ўжо раз, апёк Брацілаву душу голас маці.— Гэту траву ты нарваў на тым беразе Дзвіны. Гэта наша трава, а не заморская. I не мае яна такой сілы. Спыніся, сынок".
Брацiла нібы спатыкнуўся на роўным месцы, спыніўся. Сэрца білася ў грудзях, як злоўлены ў цянёты верабей. Стала цяжка дыхаць.
— Са мной прыйшоў яшчэ адзін чалавек. Я не магу лячыць без яго. Ён павінен, толькі ён, падрыхтаваць з травы цудадзейны эліксір,— сказаў Брацiла.— Пакліч гэтага чалавека з двара. Там дождж, і ён стаіць пад дажджом.

Лагтал адкінуў дубовую завалу, расчыніў дзверы. Густы шум дажджу ўварваўся ў каморку. Хліпнула і патухла свечка. Тэўтон, як халодны начны вецер, увайшоў з двара.
— Зараз я запалю свечку,— хваляваўся, няўпэўнена адчуваў сябе ў цемры Сцегіс.— Толькі знайду крэсіва.
Ён пачаў лопаць рукамі ў цемры, нечым грукаць, нешта адсоўваць. Тэўтон тым часам аддаў Брацілу шчыт і суліцу, якія той пакінуў на двары.
Нарэшце латгал выбіў іскру, запаліў свечку. Насцярожана глянуў на тэўтона, спытаўся ў Брацілы:
— Хто гэты чалавек?
— Гэта божы пілігрым з Рыгі. Хоча прыняць полацкую веру,— схлусіў Брацілa.
Латгал, здаецца, паверыў.
— Вядзі нас да князёўны Соф'і,— загадаў Брацілa.— Табе ж аднаму князь Вячка давярае свае ключы і запоры.
Сцегіс памкнуўся ісці, але раптам спыніўся, паказаў рукою на меч тэўтона і кап'ё Брацілы:
— Нельга са смяротным жалезам ісці ў адведкі да нявіннай душы. Можна спалохаць анёлаў, якія яе ахоўваюць. Пакіньце зброю тут.
Тэўтон пры гэтых словах кінуў маланкавы позірк на Брацілу, чакаў ягонага рашэння, сціскаючы рукаяць мяча.
— Нам можна,— упэўнена сказаў Брацілa.— Мы — богава воінства, і наша жалеза нікому не прыносіць зла. Вядзі, Сцегіс, калі хочаш выратаваць князёўну.
Яны выйшлі з каморкі латгала, прайшлі праз княжацкую трапезную, дзе пахла смажаным мясам, па вузкай каменнай лесвіцы спусціліся ў змрочнае халоднае падзямелле. Кроплі вады, зрываючыся з нябачнай столі, часта падалі зверху на лоб, на шчокі. Латгал хуценька ішоў наперадзе, трымаючы ў руках свечку. Агеньчык свечкі, кволы, няўпэўнены, вырываў з цемры толькі невялічкі кружок, у якім можна было бачыць пад нагамі сцёртыя ад часу каменныя пліты.
"Ідзе твая смерць, Вячка,— думаў Брацілa, сціскаючы вострую суліцу.— Да цябе нам не

дабрацца. Цябе, як псы, дзень і ноч ахоўваюць верныя воі. Але мы возьмем тваю дачку, адзіную тваю дачку, мы пераплывём з ёю на той бераг Дзвіны. У чараты і хмызнякі, і ты заўтра прыбяжыш туды, прыбяжыш адзін, без дружыны, бо ты любіш сваю дачку. Я ведаю, што ты моцна любіш яе. І там, у хмызняках, цябе сустрэне смерць".
Ён, Браціла, нават не ведаў, калі б у яго спыталіся, за што ён так ненавідзеў Вячку. Ён ужо прывык да думкі, што абавязкова павінен забіць яго. Але за што? За тое, што Вячка князь? Князёў шмат, і Вячка не з горшых. З Рагвалодавага кораня, з полацкага дому. За тое, што Вячка малады і прыгожы? Магчыма. За тое, што ён удачлівы, смелы? Таксама магчыма. "Было б святло, а матылькі прыляцяць",— казала некалі Брацілава маці. Ідучы па змрочным падзямеллі, Браціла, здавалася яму, пачынаў разумець няпросты сэнс гэтых чутых у маленстве слоў. Ён быў матыльком, ён ляцеў на святло, каб патушыць тое святло, якое заўсёды рэзала вочы, раздражняла, псавала кроў.
Латгал раптам спыніўся, ды так нечакана, што Браціла, аддаўшыся сваім думкам, наляцеў на яго. Патухла свечка.
— Ты што, Сцегіс? — разгубіўся Браціла.
— Значыць, князёўну лячыць хочаш? — пытаннем на пытанне адказаў латгал.
— Хачу.
— Траву заморскую прывёз?
— Прывёз. Ты ж яе бачыў, Сцегіс.
— А Богу ў вочы не пабаішся глянуць, калі настане твой час?
— Не пабаюся. Ты ведаеш мяне. Запалі свечку, а то шыі скруцім.
— Ісці ўжо недалёка,— чамусьці прыцішыў голас латгал.
Яны зноў пакрочылі ў цемры, зноў звонка падалі кроплі вады, і раптам Сцегіс рэзка рвануўся ўбок, у нішу, якую ведаў толькі ён адзін. Браціла з тэўтонам зрабілі крок-другі ўперад, і вялізная каменная пліта паплыла ў іх з-пад ног, перавярнулася. Нават не паспеўшы спалохацца, войкнуць, яны паляцелі ўніз, у калодзеж-пастку.

## II

Князь Вячка дрэнна спаў у гэту ноч. Трохі прыдрамаў на адно вока, нібы малады воўк пад кустом, і зноў пругкае моцнае цела падкінула з одра трывога. Ён устаў, да хрусту ў плячах пацягнуўся, узяў са стала срэбную карчагу з вадой, глыток адпіў, астатнюю ваду лінуў сабе на рукі, апаласнуў ёю твар. Сон адразу ж адляцеў ад яго.

Апошнія ночы ён вельмі мала спаў. Хварэла дачка, пяцігадовая Соф'я. З захаду, з вусця Дзвіны, даходзілі кепскія навіны. Рыжскі епіскап Альберт са сваімі пілігрымамі і рыцарамі, мяркуючы па ўсім, зламаў супраціўленне ліваў, ахрысціў іхніх старэйшын, а сыноў старэйшын узяў у заложнікі. Тэўтоны на ніжнім цячэнні Дзвіны ліхаманкава будавалі крэпасці, каменныя замкі. Альберт, праўда, яшчэ не бярэ даніну і царкоўную дзесяціну з ліваў. Лівы пакуль што лічацца даннікамі вялікага князя полацкага Уладзіміра Валадаравіча. Але што будзе заўтра? Што прынясе новы світанак?

Вячка падышоў да акна апачывальні. Тысячамі нябачных пагрозлівых вачэй глядзела на яго цемра. Дзесьці там цякла Дзвіна, шырокая і няспынная. І цяжка было яму думаць, што за некалькі попрышчаў ад Кукейноса тэўтонскія рыцары пояць з яе коней.

Учора на забаролах воі бачылі ў небе вогненнае воблака. Ціха праплыло яно над Кукейносам. Ціха і няўмольна. Гэта дрэнны знак для горада, для дружыны, для яго, князя.

Ён задумліва пагладзіў рукою халоднае, бліскучае ад дажджавых кропель шкло, падышоў да дачкі. Соф'я спала ў прыгожай, выразанай з моранага дубу калысцы-гушкалцы, якая белымі пяньковымі вяроўкамі была прывязана да срэбнага колца ў столі апачывальні. Светлыя доччыны валасы рассыпаліся па чырвонай падушцы. На Соф'і была жоўтая ядвабная кашулька, на правай руцэ, тонкай і смуглай, свяціўся бранзалет кіеўскага сіняга шкла з залатымі пражылкамі. Твар у дачкі гарэў.

На падлозе апачывальні, ледзь не пад самай калыскай, лежачы на мядзведжай шкуры, спала

карміцелька Соф'і Тадора з абельных халопак. Яе сухі жоўты тварык быў лагодна-шчаслівы. Яна тоненька пасопвала ў нос.
Вячку не спадабалася, што халопка сніць шчаслівы мірны сон у той час, як маленькая гаспадыня пакутуе ад хваробы. Наском зялёнага саф'янавага бота ён лёгенька наступіў на руку халопцы.
Карміцелька спалохана ўсхапілася, адвесіла Вячку паясны паклон, праспявала трэснутым сухім галаском:
— Многая лета табе, князь-бацюхна.
І зноў нізка пакланілася.
— Глядзі князёўну, старая,— нястрога сказаў ёй Вячка. Ён не сумняваўся ў тым, што карміцелька, якая калісьці і яго гушкала і няньчыла, хутчэй памрэ, чым дапусціць, каб Соф'ю хоць на малюсенькую макулінку нехта пакрыўдзіў.
Паслухмяная верная рабыня. Дзень і ноч моліцца за князя Хрысту, не забываючы, аднак, пра Перуна і Дажджбога.
Вячка стаяў пасярэдзіне апачывальні, глыбока задумаўшыся. Старая Тадора, папраўляючы падушку пад галавой Соф'і, краем вока пазірала на яго.
Ён быў высокі, дзесяць вяршкоў росту, гнуткі ў поясе, светла-русы, з кароткай бградой, якая злёгку кучаравілася. Касці быў не шырокай, але моцнай, пругкай, створанай для цяжкага мяча і паходнага сядла. Быў апрануты ў прасторную зялёную кашулю з адамашку. Залатая грыўня, знак княжацкага роду, бліщчала на смуглай шыі. "Целам — чалавек, душой — анёл",— думала пра свайго маладога князя старая рабыня. Яна шчыра паважала яго, нават па-свойму любіла, але было ў гэтай любові нешта ад той, якой разумны пакорлівы сабака любіць свайго гаспадара.
— Не трывожся, князь,— яшчэ раз пакланіўшыся, сказала карміцелька.— Зеллем і малітвамі выганім хваробу з тваёй дачкі. А ты ідзі, ідзі ў сваю святліцу беладубовую.
Але тут прачнулася, заплакала князёўна Соф'я. Карміцелька ўзяла яе на рукі, прытуліла да сябе, пачала ціха напяваць песню, якая гучала і гучыць у чорных хатах смердаў над ракой Палатой, над Дзвіной і Друццю:

Люлі-люлі, баю-бай,
Засні, мая зорка.
Калі ж дзетка не засне,
Буду плакаць горка.

Люлі-люлі, трэба спаць.
Засынайце, вочкі.
Будуць дзетку калыхаць
Рэчкі-ручаёчкі.

Люлі-люлі, трэба спаць.
Вее вецер золкі.
Будуць дзетку калыхаць
Матылькі і пчолкі.

Князёўна сціпылася, але неўзабаве зноў заплакала.
— Карміцелька, пакліч зялейніцу Домну,— загадаў Вячка.
Старая Тадора хуценька выйшла з апачывальні, паклаўшы Соф'ю ў калыску. Князь нахіліўся над дачкою, доўга і ўважліва глядзеў у змучаны хваробай тварык. Цёмныя пушыстыя вейкі малой слаба ўздрыгвалі, трапяталіся. Як падобна яна была на сваю маці, княгіню-нябожчыцу Звеніславу! Тыя ж вочы, блакітныя і гордыя, той жа нос з лёгкай гарбінкай, толькі зусім маленькі — яшчэ не вырас. Звеніслава, нарадзіўшы Соф'ю, праз тры дні памерла ад гарачкі. Усіх ведуноў-шаптуноў сабраў Вячка з Кукейноскага княства, з Полацка былі, нават вучоны рамей быў з Царграда. Нічога не памагло, патухла маладая княгіня, як свечка. Зялейніца Домна перад самай смерцю давала ёй піць траянку — грэтае віно, змешанае з чырвонай глінай, мёдам і каровіным маслам. Не памагло. Паклалі княгіню Звеніславу ў дубовай корсце-труне на шкут пад чорным ветразем, павезлі па Дзвіне ў Полацк, у Бельчыцы, там пахавалі.
Дачка глядзела на бацьку знізу ўверх напружанымі, туманнымі ад хваробы вачамі.
— Хочаш, як і ўчора, пачытаю табе "Александрыю"? — ціха запытаў Вячка.
— Чытай,— адказала Соф'я.
Вячка ўзяў са стала жоўта-карычневы пергамен. Прамыя прыгожыя літары, старанна выведзеныя ўставам, былі як жывыя. Цяжкія старонкі пахлі мятай, на якой настойваўся кінавар. Вячка пачаў чытаць, павольна вымаўляючы кожнае слова:
— І паслаў Дарый Аляксандру са сваімі пасламі грамату, мячык, бізун і скрынку з золатам. І было ў той царскай грамаце напісана: "Я, Дарый, цар царам, радня багам і сам бог, ззяю разам з сонцам, загадваю табе, Аляксандр, рабу свайму, вяртацца да



2 Зак. 2990

сваіх родзічаў ва ўлонне маці сваёй Алімпіяды, так як табе належыць яшчэ вучыцца і ссаць матчыну цыцку, і таму пасылаю табе мячык, палку і каўпак блазна. Выбірай, што хочаш. Мячык азначае, што табе трэба яшчэ гуляць з равеснікамі, палка — што ты павінен яшчэ вучыцца, а каўпак блазна пасылаю табе затым, каб ты забаўляў падобных табе разбойнікаў, калі яны вернуцца на айчыну. А не падпарадкуешся мне, то загадаю сваім воінам узяць цябе і распяць".
— Што зрабілі з Аляксандрам? — раптам запыталася дачка.
— Ён перамог Дарыя і заваяваў паўсвету.
— А што зрабілі з Дарыем?
— Яго забілі. Забілі ўласныя слугі.
— Шкада Дарыя,— горка ўздыхнула Соф'я.— Скажы, а цябе могуць забіць твае слугі?
Вячка ўсміхнуўся:
— Дрэнны той князь, на якога ўздымаюць дзясніцу ягоныя ж халопы. Слуг трэба трымаць у паслушэнстве, Соф'ечка.
— Ты добры,— сказала дачка.— I мне з табой добра. Мы будзем з табой сябраваць. Не бяры ў жонкі Дабранегу.
Малады князь уздрыгнуў, уважліва паглядзеў на дачку. Адкуль яна ведае пра Дабранегу? Недзіцячыя думкі ў яе, недзіцячыя словы.
— Княства не можа быць без княгіні,— нарэшце парушыў маўчанне ён.— Дзе ты бачыла пчаліны рой без маткі? Баяры патрабуюць, каб я жаніўся. Дабранега будзе добрай гаспадыняй Кукейноса. Яна з менскіх Глебавічаў, а яны зараз у сіле, у пашане. Вялікі князь полацкі Уладзімір Валадаравіч таксама з іхняга роду.
— Князь Уладзімір не любіць цябе.
— Ніколі і нікому не кажы такіх слоў, дачка. Чуеш? Ніколі і нікому.
— Навошта ж ён зрабіў чарняцом[1] твайго брата, князя Васільку?
У гэты час у апачывальню ўвайшла зялейніца Домна, нізка пакланілася князю, са срэбнай карчажкі пачала паіць князёўну сваім зеллем,

[1] Чарнец — манах.

шаптаць святыя замовы. Старая латгалка была апранута ў доўгую тунікападобную кашулю з вышыўкай вакол шыі, у клятчастую спадніцу, у скураныя лапці. На грудзях у яе была вялікая прыгожая брошка-сакта, на галаве — ільняная шапачка.
Значыць, дачка не хоча мець мачаху. Што ж, ён разумеў яе, вельмі добра разумеў. Ён сам зведаў холад сірочага жыцця, калі на месцы роднай маці, на месцы сонца, якое павінна саграваць дзіцячую душу, была чужая, незразумелая жорсткая жанчына, як ледзяная зорка ў марозным зімовым небе. Ён ніколі не бачыў усмешкі на прыгожым твары сваёй мачахі Святохны, дачкі князя Баляслава Паморскага. Яна, вядома, усміхалася. Усміхалася свайму мужу, бацьку Вячкі, князю Барысу Давыдавічу, усміхалася полацкім баярам і купцам, якім хацела спадабацца, усміхалася, хоць і вельмі рэдка, сваім слугам і служанкам. А вось Вячку і яго старэйшага брата Васільку яна проста не заўважала. Яны былі для яе горш, чым тыя сабачкі, якіх дужа шмат гаўкала ў княжацкім цераме ў Бельчыцах. Яна чамусьці вельмі любіла сабак. Завязвала ім ружовыя і блакітныя банцікі на шыях і хвосціках, сама варыла для іх адмысловыя стравы. Лацінянка, яна прыняла праваслаўную веру, каб супакоіць мужоўвечнікаў, але ў душы смяялася над сваім новым богам, шануючы толькі аднаго бога, рымскага. Вячка, якому было гадоў сем, хацеў аднойчы прылашчыцца да яе, але яна строга зірнула чорнымі лёдзістымі вачамі, суха спыталася: “Што табе трэба, ваўчаня? Гэтым халодным раўнадушным пытаннем яна нібы ўбрала, адсунула яго са сваёй дарогі, як непатрэбную рэч. Калі полацкае веча ўдарыла ў Вялікае Біла, калі чорны пасадскі люд уварваўся ў княжацкія пакоі, яна моўчкі сустрэла смерць, толькі адно крыкнула адчайна-страсна: “Сына, сына майго Уладзіміра пашкадуйце!” Але і сына забілі разам з ёю і шпурнулі яго маленькі трупік ёй на грудзі.
Вячка, начапіўшы на пояс меч, накінуўшы на плечы барвовае карзно, выйшаў з апачывальні. Пры яго з’яўленні малады рында-целаахоўнік Нядзіл, які нёс варту ля дзвярэй апачывальні, стукнуў аб

падлогу дрэўкам кап'я, выдыхнуў прывітанне, баявы кліч палачан:
— Рубон!
— Рубон,— ціха адказаў Вячка.— Што чутно, Няздзіл?
— Усё добра, княжа,— аблізнуў пунсовыя, як у дзяўчыны, вусны Няздзіл.— У падзямеллі церама, у каменным мяшку, сядзяць два рыжскія лазутчыкі. Іх завёў туды латгал Сцегіс.
— З Рыгі? — перапытаў Вячка.— Чаго ішлі да нас?
— Невядома, княжа. Старшы вой Халадок будзе весці допыт агнём і жалезам.
— Што ж, хай пакаштуюць агню тэўтоны,— пасля некаторага роздуму сказаў Вячка.— Самі звілі вяроўку свайго жыцця.
— Там адзін нашай веры. Мураль Браціла з Кукейноса.
— Браціла? — здзівіўся Вячка.— Трапіў нарэшце пярэварацень у пастку. Гэтага асабліва строга дапытваць, агню не шкадаваць.
Няздзіл схіліў галаву ў знак згоды, і водбліск ад паходні, што гарэла непадалёку, уваткнутая ў доўгі тураў рог, успыхнуў на місюрцы — жалезным шлеме з кальчужнай сеткай.
Вячка хацеў спускацца на першы ярус церама, але, ідучы доўгім зацемненым праходам, убачыў жоўтую палоску святла, што вырэзвалася праз няшчыльна зачыненыя дзверы каморкі перапісчыка пергаменаў Клімяты. Ён увайшоў у каморку.
Клімята сядзеў спінаю да дзвярэй і маленькім бронзавым ножыкам саскрэбваў са старога пергамена літары, рыхтаваў месца для новых літар.
— Хто? — ціха спытаўся Клімята, не азіраючыся.
— Твая смерць,— надаючы голасу злавеснасць, прашаптаў Вячка.
— Тады пачакай, бо яшчэ не час. Я яшчэ павінен закончыць гісторыю Полацкай зямлі,— адказаў Клімята, захоплены сваёй справай, і зноў не азірнуўся.
Вячка не вытрымаў, засмяяўся. Толькі тады Клімята павярнуў галаву, убачыўшы князя, узняўся і пакланіўся.
— Будзь здароў, князь Вячаслаў.

Быў ён шчуплы, невысокі, з доўгімі белявымі валасамі, без левай рукі — страціў у сечы.
— Значыць, не баішся смерці, Клімята? — весела сказаў Вячка.
— Смерць — нямая тайна. Сваімі рукамі трымаем і меч свой і лёс свой.
Яны былі аднагодкі і сябравалі, хоць адзін трымаў Кукейноскі сталец, а другі, збегшы ад бацькі — багатага баярына, пакляўся напісаць полацкі летапіс. Клімята верыў у несмяротную сілу слова і сказанага мудрым мужам, такім, як Іаан Златавуст ці Кірыла Тураўскі, і напісанага кінаварам або золатам на пергамене.
— Сядай, князь,— падсунуў Клімята Вячку невялікі дубовы ўслончык.— Цесна і смуродна ў маёй каморцы, але ведай, што гэта святы пах — пах цялячай скуры і пах кінавары. Ты ваюеш, ты ўвесь час у сядле, ды сіла, князь, не ў мячы, а ў мудрасці. Запомні гэта.
— Пергаменамі, Клімята, не спыніш тэўтонаў. Трэба меч, востры, гартаваны меч, які не баіцца варожай крыві.
— Праўду кажаш, князь,— згадзіўся Клімята, трасянуўшы кужэльнымі валасамі,— але аднаго мяча мала. Я таксама быў нядрэнным ваяром, я біўся, ты ж памятаеш,— з аўкштайтамі і селамі, пакуль жалеза не адгрызла мне руку. І ўсё-ткі мудрае слова мацнейшае за меч. Меч кароткі. Слова доўжыцца ў людскіх пакаленнях.
— Хай будзе па-твойму. Вы, кнігачоты, бліжэй да неба і да Божага прастола. Вы лепш бачыце дарогу жыцця і мудрасці. Скажы мне, Клімята, пра што ты зараз пішаш?
Вячка ўстаў з услончыка, узяў у рукі цяжкі скрутак пергамена, трымаў яго, як бы ўзважваючы. Вочы ў Клімяты натхнёна заблішчалі. Ён таксама дакрануўся рукою да пергамена, нібы сагрэўся гэтым дотыкам.
— Пра што пішу? Я ўжо скончыў жыцці Рагвалода, Рагнеды і сына яе Ізяслава. Пра Усяслава пішу, якога народ Чарадзеем назваў. Пра тое, як сядзеў ён у стольным Кіеве ў порубе і як вызвалілі яго з цямніцы і вялікім князем Кіеўскім абвясцілі.

— Пра мой род пішаш,— ціха сказаў Вячка.
— Не толькі пра твой род. Пра ўсю зямлю славянскую. І пра нашу Полацкую зямлю, бо яна дачка зямлі славянскай. Хачу, каб не толькі ў стольных Кіеве і Полацку свой летапіс быў, а каб і Кукейнос меў яго.
— Чым я табе магу памагчы, Клімята? — запытаўся Вячка, збіраючыся выйсці з каморкі.
— А мне нічога не трэба,— Клімята ўжо размешваў тонкай касцяной пласцінкай-мастыхінам кінавар.— Дзякуй, князь, за хлеб, за ваду і мёд, якія прыносяць твае чалядзіны, толькі аб адным хачу папрасіць цябе...
— Аб чым? — спыніўся на парозе Вячка.
— Твае ратайныя людзі, што робяць на зямлі, часам выкопваюць з яе свяшчэнныя камяні, ідалаў, дзедаўскую зброю, касцякі невядомых жывёл. Не трэба гэта знішчаць. Захоўваць, берагчы ўсё гэта трэба, каб ведаць, што было на нашай зямлі да нас. Вочы жывых людзей не павінны быць у павуцінні. Нам трэба бачыць і глыбока, і далёка, шанаваць родную зямлю. Помні, князь: дарагі той куток, дзе рэзалі пупок. Хто скажа за нас перад Богам, калі не мы самі? Так што хай не знішчаюць знойдзенае ў зямлі.
— Добра,— паабяцаў Вячка.— Аб гэтым будзе сказана ратайным старастам, цівунам і радовічам. Будзь здароў, Клімята.
— Многая лета табе, князь,— пакланіўся Вячку перапісчык пергаменаў.
Вячка, шчыльней захінуўшыся ў карзно, спусціўся на першы ярус церама, выйшаў на двор. Нікога з дружыннікаў ён не ўзяў з сабою, не надзеў на галаву баявы шлем, бо любіў, калі расчэсвае валасы халодны суровы вецер. Ужо не першы раз да горкай сліны ў роце захацелася яму пабыць аднаму, сам-насам з нялёгкімі думкамі. Ён адчуваў, як страшэнна стаміўся за апошняе лета і вясну. Стома каменем ляжала на сэрцы, але нельга было паказваць яе ні дружыне, ні баярам, ні пасадскаму люду. Паміж гвалту і шуму жыцця, паміж грукату мячоў, паміж галасу паходных труб пакрысе выспявала, налівалася болем і сумам звонкая і непрыкметная, як мужчынскія слёзы, цішыня. І ён

быў пасярод гэтай трывожнай цішыні, як пясчаны бязлюдны востраў пасярод хваль Дзвіны. Ён быў адзін. Адзін як палец, адзін як вока ў лобе. Толькі старшы вой Халадок, толькі Клімята, толькі дачка Соф'я заставаліся ў яго. Ды заставалася надзея яшчэ на адну спагадлівую душу, на князёўну Дабранегу, залатакосую шэравокую прыгажуню, якая жыла ў сядзібе Свіслач, у густых дрымотных лясах, што на самым сутоку Свіслачы і Бярэзіны. Дачка Соф'я, ледзь што не па ёй, ледзь чым не ўгодзіш, плача і кажа яму, бацьку: "Не буду з табой дружыць". Быццам яе дружба, быццам увага пяцігадовага неразумнага чалавечка самая высокая ўзнагарода бацьку на гэтай зямлі! А можа, так яно і ёсць, можа, так і ёсць?
Вячка стаяў адзін у цемры, наструнена прыслухоўваўся да ўсхліпаў дажджу. Гэта быў ужо восеньскі дождж, мёртвы дождж. Ён не мог даць сілы ні зярняці, ні траве. Ужо нішто не расло пад гэтым дажджом, толькі камяні. Аб тым, што камяні растуць, расказваў Вячку ягоны бацька князь Барыс Давыдавіч. І Вячка верыў, што камяні растуць,— і маладзенькія каменьчыкі велічынёй з арэх, і шматпудовыя валуны, якім не адна тысяча гадоў. "Зрабіцца б каменем,— падумаў раптам ён,— каб усё было каменнае, для ворагаў недаступнае. Толькі сэрца жывое. Я б скінуў тэўтонаў у мора і вярнуў Полацку Дзвіну, наш Рубон".
Чорнаяаграмадзіна царквы ўразалася ў неба побач з княжацкім церамам. І Вячка, як бы нешта ўспомніўшы, пакрочыў да царквы. Ён разбудзіў дзяка, які спаў у царкоўным прытворы.
— Дзе айцец Сцяпан? — спытаўся Вячка ў дзяка, сухенькага, сагнутага, як сярпок, старога.
— Святы айцец два дні назад конна паехаў у Полацк да ўладыкі Дзяніса,— спалохана сказаў дзяк. Ён з маленства баяўся ўзброеных людзей.
— Адчыні царкву і запалі тры свечкі,— загадаў Вячка.
Дзяк яшчэ болей сагнуўся, хацеў нешта сказаць, але толькі перасмыкнуў сухімі губамі і пакорліва загрымеў вязкай ключоў.
Цішыня і цемра абрынуліся на маладога князя ў начной царкве. Ён запаліў свечкі, стаў на калені. Па

старадаўняму звычаю ён хацеў папрасіць парады ў продкаў.
Замірала сэрца. У скронях звінела кроў.
Парыў ветру ўварваўся ў адчыненыя дзверы.
Патухла свечка.
— Ты прыйшоў, Усяслаў? Я чую цябе,— дрогкім голасам сказаў Вячка.
Патухла другая свечка.
— Ты бачыш мяне? Дапамажы. Асвяці мой розум і мой шлях.
Патухла трэцяя свечка.
— Дзякуй табе. Ты ўхваліў маё рашэнне. Я ведаў, што так будзе і што ты зразумееш мяне. Нашу размову не падслухаюць чужыя вушы, бо мы размаўлялі сэрцамі. Дзякуй табе, прыснапамятны князь.
Лёгкім крокам выйшаў Вячка з царквы. Крумкач трывогі зляцеў з душы, вальней стала дыхаць, будучыня зрабілася святлейшаю і весялейшаю. Праз начны дажджысты морак ён пакрочыў на гарадскі вал да сваіх ваяў. Зараз ён павінен быў быць з імі, толькі з імі.
— Рубон! — строга крыкнулі з цемры.
— Рубон! — адказаў князь.— Хто на варце?
— Старшы дружыннік Мсцібог з усім сваім сцягам[1]. І сцяг Халадка.
Вячку спусцілі лесвіцу, і ён спрытна ўзабраўся на забаролы. На самым версе землянога вала каля дубовага частаколу была выкладзена з камення вузкая сцежка — па ёй хадзілі воі-дазорцы.
— Што чутно? — спытаўся Вячка ў Мсцібога, які паверх кальчугі апрануў лісіны кажух.
— Усё спакойна, князь. Вецер і дождж ідуць з Дзвіны. Ноч золкая, і я дазволіў людзям надзець кажухі. Табе таксама загадаю прынесці.
— Не трэба,— спыніў яго Вячка.— Кажаш, усё спакойна? Ты, Мсцібог, спіш са сваімі воямі. Толькі што ў цераме злавілі двух псагалоўцаў з Рыгі.
Мсцібог, здаецца, анямеў. І не ад страху — ад здзіўлення. Ён лічыў сябе мудрым і вастравокім, як

---

[1] Сцяг — тагачаснае вайсковае падраздзяленне колькасцю ў 50 чалавек.

начная сава. Ён хваліўся, што за некалькі попрышчаў можа пачуць свіст стралы.
— Князь, напэўна, яны былі з крыллямі і пераляцелі ў горад па паветры,— нарэшце вымавіў ён разгубленым голасам.— Добра, што хоць іх усяго двое.
— І адзін камень шмат гаршкоў разбівае,— незадаволена сказаў Вячка. Прытрымліваючыся рукою за мокрыя слізкія штыкеціны забаролаў, ён пайшоў па каменнай сцежцы, пакінуўшы Мсцібога ў сораме і трывозе. І ўвесь час глядзеў у густы змрок, на захад. Туды, на захад, цякла Дзвіна. Туды несліся неспакойныя думкі маладога князя.
Калі б ён зараз сеў на шкут або на лайбу, у якіх купцы плаваюць па Дзвіне, то ўжо на світанку з правай рукі ад сябе ўбачыў бы замак Ашэрадзен. А трохі ніжэй — Леневардзен. А потым — Ікесколь і Гольм і нарэшце Рыгу. І ўсюды сядзяць тэўтоны. Усе гэтыя замкі — гнёзды ненаедных каршуноў. Адсюль божыя пілігрымы, несучы крыж і меч, ходзяць у паходы на эстаў Сакалы, на латгалаў Таловы. Сюды яны вяртаюцца, гонячы палонных жанчын і дзяцей, коней, кароў і авечак, везучы нарабаванае дабро. У самым вусці яны наступілі на горла Дзвіне, слаўнаму полацкаму Рубону, і Вячку часам здаецца, што любімая рака задыхаецца, б'ецца ў сутаргах, чарнее і вось-вось знікне пад зямлёю, растворыцца ў пясках і балотах, абы толькі не бачыць глум і здзек, якія пасяліліся на яе берагах. Спрадвеку была Дзвіна полацкім вадзяным ходам у Варажскае мора, на Гоцкі бераг і да паўночных людзей — урманаў. Латгалы, селы і лівы караніліся ўздоўж яе. Яны яшчэ былі язычнікамі і плацілі полацкім князям даніну. Іхнія старэйшыны і купцы ўсё часцей прымалі праваслаўную веру, не забываючы, праўда, і сваіх мясцовых багоў і бажкоў. Які ж злы вецер прыгнаў сюды караблі тэўтонаў?
Тэўтоны прыплылі з крыжамі, схаваўшы на першым часе мячы пад сутаны. І на гэтых берагах, у гэтых палях і лясах рымскі крыж сутыкнуўся з крыжам славянскім.
Вячка павольна ішоў уздоўж забаролаў. Воі

пазнавалі князя, віталі яго. Большасць з іх Вячка ведаў у твар, помніў іхнія імёны, і дружыннікам было прыемна чуць свае імёны з вуснаў самога князя. Ён любіў сваю дружыну, ганарыўся ёю, бо дружына давала яму і славу, і сілу, і ўладу ў Кукейноскім княстве. Без дружыны яго б не было — ён цвёрда ведаў гэта. Пакуль у яго ёсць дружына, з ім будуць лічыцца і рыжскі епіскап Альберт, і князь Герцыке Усевалад, і вялікі полацкі князь Уладзімір. Але сённяшняй ноччу смутак браў у абладу Вячкава сэрца, і ён суха і стрымана вітаўся з дружыннікамі. Смяротны час надышоў для Кукейноса. Лівень, агонь і серу гатовы праліць нябёсы. Няўжо згарыць церам, у якім памерла княгіня Звеніслава, у якім жыве маленькая Соф'я? Няўжо серп вайны без літасці сажне жыта на кукейноскіх нівах і людзей, якія пасеялі гэта жыта? З трывогаю, з вялікім хваляваннем глядзеў Вячка на захад, і дождж з ветрам білі яму у твар, зрывалі з плячэй барвовае карзно.
З горыччу думалася маладому князю, што дужа глыбокія карэнні паспелі пусціць тэўтоны не толькі ў Рызе, але і ў некалькіх попрышчах ад Кукейноса. Спачатку прыплылі ў вусце Дзвіны брэменскія купцы. Потым свяшчэннік ордэна блажэннага Аўгусціна Мейнард са жменькай клірыкаў пачаў будаваць царкву  для ліваў у Ікесколе. Потым пачаў будаваць каменны замак. Ды прыйшлі лівы і сямігалы з даўжэзнымі карабельнымі канатамі і спрабавалі сцягнуць гэты замак у Дзвіну, каб ён сплыў у мора. Лівы верылі і вераць у святую сілу дзвінскай вады. Яны прынялі хрышчэнне ад Мейнарда, але адразу ж змылі гэта хрышчэнне рачной вадой. Мейнард памёр, стварыўшы епіскапскую кафедру ў Ікесколе і ўзвёўшы яшчэ адзін замак — Гольм.
Тэўтонам шанцуе. Лівы з Тарэйды хацелі манаха цыстэрцыянскага ордэна Тэадорыха прынесці у ахвяру сваім багам. Але свяшчэнны конь, на якога пасадзілі манаха, пераступіў уваткнутыя ў зямлю коп'і нагой жыцця, правай нагой. І Тэадорыху, хітрай заморскай лісе, захавалі жыццё, хоць ліўскі вяшчун-вядзьмар старанна працёр конскую спіну

мокрым пяском — змыў, скінуў з яе хрысціянскага бога. Чаму так шанцуе тэўтонам?
Праўда, другога епіскапа — Бертольда, якога пасвяціў у гэты сан архіепіскап брэменскі Гартвін, ліў Імаўт у час адчайнай сечы навылет прабіў кап'ём. Але прыплыў з-за мора на 23 караблях Альберт, новы епіскап, набраўшы людзей на Гоцкім беразе, у Даніі, у Саксоніі, атрымаўшы благаславенне папы Інакенція III і падтрымку караля Піліпа Швабскага. Лівы скарыліся, прынялі ў свае замкі тэўтонскіх свяшчэннікаў і прызначылі штогод на ўтрыманне кожнага паўталанта жыта з плуга. Чаму так шанцуе тэўтонам?
Полацкі князь Уладзімір Валадаравіч, бачачы, што ў ліваў з'явіўся новы гаспадар, сабраў раць і ў лета 6714-е[1] спусціўся на стругах, шкутах і плытах уніз па Дзвіне, выклікаў епіскапа Альберта на перамовы на раку Вогу, што цячэ непадалёку ад Ікесколы. Ды Альберт і не падумаў выйсці з Рыгі, вырашыў адседзецца за яе сценамі. Тады Уладзімір узяў у аблогу замак Гольм. Вячка быў там са сваёй дружынай, дапамагаў Уладзіміру, і з болем і сумам успамінаюцца яму тыя дні.
Тэўтонскія арбалетчыкі са сцен Гольма прабівалі шчыты і кальчугі палачан цяжкімі жалезнымі балтамі. Воі Уладзіміра і Вячкі стралялі з лукаў. І хоць праўду кажуць, што стрэлы ў палачан лётаюць хутка, але нічога не маглі зрабіць лучнікі, хоць і паранілі многа тэўтонаў.
Тады рашылі падпаліць замак. Разам з лівамі, якія прыйшлі на дапамогу, ссякалі ў навакольных лясах дрэвы, складвалі іх у велізарныя кучы. Але каменны град з тэўтонскіх камнямётаў параскідаў, патушыў кастры. Князя Уладзіміра камень ударыў у калена, і воі ледзьве адцягнулі яго ў бяспечнае месца, каб перадаць зялейнікам, што залечваюць раны.
Неба ў тыя дні было супраць палачан. Адзінаццаць дзён трымалі яны Гольм у аблозе, але са сцен замка ляцелі камяні і жалезныя балты, як смертаносны дождж. Ды ўсіх даканала навіна, якую прынеслі

---

[1] Лета 6714-е — каб даведацца, які тады быў год па нашаму летазлічэнню, трэба ад лічбы 6714 адняць 5508. 6714 – 5508=1206.

ліви-разведчыкі. Аказваецца, усе нівы і дарогі вакол Рыгі епіскап Альберт загадаў, як насеннем, засеяць металічнымі трохзубцамі. Як ні кінь той зубец, як ні павярні, усё роўна хоць адзін рог ды будзе тырчаць угору. Ліви пакалечылі там сваіх коней і, кінуўшы іх, кульгаючы, бо таксама не мінавалі трохзубцаў, вярнуліся ў лагер палачан. Уладзімір Валадаравіч, лежачы ў паходных насілках, якія былі нацягнуты між двух коней, адразу спахмурнеў, пачаў маліцца і, параіўшыся з тысяцкім Іларыёнам і з баярамі, даў сігнал да адступлення. Сіпла зараўлі трубы, загрымелі бубны. Баявыя лодкі-насады з воямі паплылі ўверх па Дзвіне, змагаючыся з моцным сустрэчным цячэннем. Конніца пайшла правым берагам ракі. На сценах Гольма тэўтоны, якія ў думках ужо сустракаліся з пеклам, радасна закрычалі, а потым заспявалі “Багародзіцу”.

Чаму ж так шанцуе тэўтонам?

Вячка стаяў на забаролах, і не сціхаў дождж, і шумеў вецер, і рака ў сваім адвечным руху да мора спявала дзікую ўрачыста-журботную песню. Нейкія галасы, зямныя і нябесныя, чуліся князю. Нехта яго клікаў, нехта стагнаў і плакаў, і такімі блізкімі, такімі роднымі былі ўсе гэтыя гукі-зыкі, што затрапяталася сэрца, агонь пабег па жылах, захацелася, як у снах маленства, адштурхнуцца нагамі ад зямлі і палящець-паплыць пад самыя аблокі, разграбаючы рукамі золкі салодкі вецер, і закрычаць там, у начных нябёсах, як вольны хуткакрылы птах, і каб крык твой, адбіўшыся ад сонных хмар, упаў на маўклівую зямлю, і каб нехта пачуў яго і з надзеяй паглядзеў на неба.

Крочыла ноч па балотных пустках, па лазняках і ракітніках, па сыпучых пясках дзюнаў... Стамляўся, лянотна брыў у Варажскае мора дождж. Але ноч не вечная, нават самая цёмная і доўгая. І вось ужо замест сляпой сажы замігцела на небасхіле чэрненае срэбра. Потым сталёвы водсвет з’явіўся ў нябёсах, ён святлеў, ярчэў, званчэў, быццам сталь награвалі ў агні. Потым пачуўся лёгкі няўлоўны хруст, нібы нехта, як хлебны каравай, пераламаў над яшчэ соннай зямлёй агромністую дажджыстую хмару. І дождж раптам сціх. І цішыня была такая густая, такая шчыльная і бясконцая, так пахла

мокрай травой, мокрым дрэвам, мокрымі лісінымі кажухамі вояў, што Вячка заплюшчыў вочы і злёгку пахіснуўся. Ён доўга стаяў так — ці то драмаў, ці то думаў аб нечым. Усё цела было лёгкае, паслухмянае, бязважка-маладое. У вачах, здавалася, лёталі зялёныя мяккія матылькі і медна-залатыя пчолы. І быў пярэсты мільгатлівы кругабег зыркіх сонечных промняў.

Калі ён расплюшчыў вочы, дажджу не было, не было начнога змроку. Пачыналася раніца... Набухала чырванню неба...

Вярнуўшыся ў церам, Вячка паснедаў. Еў ён, як звычайна, мала. Кавалачак чорнага жытняга хлеба са смажаным шчупаком, некалькі лыжак паранага гароху і кубак густога светлага піва, якое літоўцы завуць "алус". Пасцельнічы Іван зняў з князя мокрае карзно, асцярожна накінуў яму на плечы блакітную, прашытую залатымі тонкімі шнуркамі світку-размахайку.

— Кліч старшага воя Халадка,— загадаў Вячка.

Праз нейкія імгненні ў святліцу ўвайшоў Халадок, пакланіўся, зняў з галавы шлем з прылобкам з воўчага футра. Быў ён у доўгай кальчузе з плоскіх каваных колцаў, у бліскучых жалезных накаленніках. На нагах былі поршні — мяккія скураныя боты без абцасаў, завязаныя на шчыкалатцы вузкім раменьчыкам. Як і Вячка, Халадок меў дваццаць тры сонцавароты з часу нараджэння, быў такі ж высакарослы, моцны целам, сінявокі. Толькі валасы з-пад шлема выбіваліся не светла-русыя, як у князя, а чэрмныя, рыжыя.

— Што кажуць начныя госці? — адразу запытаўся Вячка. Ён упрытык падышоў да старшага воя, глянуў таму ў вочы.

— Гавораць, што заблудзіліся, што ішлі ў Герцыке да князя Усевалада.

— І ты, Халадок, ім паверыў? Іх, вядома ж, святы дух перанёс цераз гарадскі вал, і яны гэтага зусім не заўважылі?

— Не, князь, я не паверыў ім,— скупа ўсміхнуўся Халадок.— І мае людзі не паверылі. Мураля Брацілу раздзелі да голай скуры, на левую нагу накінулі вяровачную пятлю і ўніз галавой падцягнулі на дыбе пад столь катавальні. Пасля

трэцяга ўдару бізуном ён закрычаў, што яны з тэўтонам павінны былі ўкрасці тваю дачку, а потым забіць цябе самога, князь.
Пры гэтых словах старшага воя Вячка пабляднеў, сціснуў срэбную рукаяць мяча. Тонкія ноздры затрапяталіся, нянавісцю ўспыхнулі вочы.
— Зноў прыйшлі да нас з Рыгі ржа і моль,— гнеўна сказаў князь.— Я ж ездзіў мінулым летам да епіскапа Альберта, я быў у ягоных палатах, і епіскап Крыжам Гасподнім пакляўся, што не мае ніякага тайнага ці яўнага зла супраць Кукейноса, што толькі бязбожных ліваў хрысціць будзе. Адпіў з аднаго са мною кубка... Не чалавек — сык змяіны! Чаму толькі адзін Бог павінен быць? І толькі іхні — тэўтонскі? Чаму мы не можам мець свайго Бога, сваёй дзяржавы?
Халадок маўчаў. Твар ягоны здаваўся бясстрасным, замкнёным, але, як агонь пад попелам, бушавалі ў ягонай душы словы, гарачыя, разумныя, ды ён маўчаў — раб павінен праглынуць язык, калі гаворыць гаспадар. Ён ведаў — князь нашуміцца, накрычыцца, а потым і яму слова дасць, ягонай думкай зацікавіцца.
— Чаго маўчыш, Халадок? — як і чакаў вой, запытаўся нарэшце Вячка.
— Слухаю цябе, твае мудрыя словы,— спакойным голасам адказаў Халадок.
— Што ж нам рабіць? На што надзеяцца і спадзявацца?
— Уся надзея ў чалавека на лук, меч і хутканогага каня. На свае рукі спадзявайся, князь, і на сваю дружыну. Думаецца мне, што з Полацка нам вялікай падмогі не будзе.
— Чаму? — уздрыгнуў Вячка.
— Альберт цераз тваю галаву, мінуючы Кукейнос, вядзе перамовы з вялікім князем Уладзімірам. Ганцы шнуруюць уверх і ўніз па Дзвіне. Некаторых мае дружыннікі падстрэлілі з лукаў, але некаторыя прасачыліся, як пясок між пальцаў.
Халадок растапырыў пальцы на правай руцэ. Пальцы былі моцныя, шурпатыя, як дубовыя сукі. Вячка колькі імгненняў глядзеў на гэтую руку, і яму чамусьці ўспамінаўся аднарукі перапісчык пергаменаў Клімята. Аб чым зараз піша Клімята? Ці

напіша ён калі-небудзь пра яго, Вячку, пра Кукейнос?
— Ты думаеш, князь Уладзімір мяне не падтрымае? — ціха спытаўся ён у Халадка і, не чакаючы адказу, працягваў: — Мы ж абодва Рагвалодавічы. Кроў Рагнеды цячэ ў нашых жылах. За Полацкую зямлю, за Русь мы павінны касцьмі легчы, а не пусціць заморскіх псоў на Дзвіну. Хаця не ўсе думаюць так, не ўсе... Полацкім купцам і баярам трэба сваё жыта, свой воск везці на Гоцкі бераг і далей. Срэбра ім даражэй за родную веру і зямлю. Што ім Вячка і Кукейнос? Яны ўжо сёння гатовы цалавацца з мечаносцамі, з Альбертам. Князь Уладзімір не здолеў скрышыць Рыгу і зараз будзе хітрыць, выкручвацца, як ліс. Я чуў, што епіскап Альберт паабяцаў яму плаціць даніну за ліваў, якую раней збіралі мы. Навошта тады Кукейнос і я, неразумны князь Кукейноса?
Вячка змоўк. Дзесьці за сценамі церама ярка ўставала сонца, і начныя птушкі хаваліся ў дуплы.
— Але ж ёсць сіла, якая павінна нам дапамагчы,— нечакана парушыў цішыню Халадок. Вячка здзіўлена паглядзеў на старшага дружынніка.
— Я пра царкву, князь, кажу,— прыгладзіў шырокай даланёю свае чэрмныя валасы Халадок.— Не можа праваслаўная вера адступіць перад верай рымскай. Памаліся Богу, святой Прачыстай Багародзіцы і Міхаілу, архангелу божаму, князь. Едзь у Полацк да ўладыкі Дзяніса, а калі трэба, да кіеўскага мітрапаліта. Хай ў званы ўдараць. Хай усе пачуюць пра бяду нашу: і Кіеў, і Ноўгарад, і Пскоў. Сцяною станем на Дзвіне.
— Айцец Сцяпан ужо там, у Полацку,— сказаў Вячка.— Ён будзе гаварыць з уладыкам.
— Едзь ты, князь. Сам едзь.
Халадок вымаўляў гэтыя словы з такой рашучасцю, з такой настойлівасцю, так натхнёна гарэлі ягоныя вочы, што Вячка разгубіўся. Не чакаў ён такога спрыту ад старшага дружынніка. Халадок мячом умее гаварыць, а не словамі, а тут...
— Хочаш мяне ў Полацк адправіць, а сам Кукейноскі сталец узяць? — пранізліва, ранячы позіркам душу, глянуў ён на Халадка. Халадок пабляднеў, потым пачырванеў, пакутліва прыкусіў

губу, рухнуў на калені, пакорліва схіліўшы рыжавалосую галаву. Шырокія, абвітыя кальчугай плечы дрыжалі. У святліцы наступіла цішыня, і гэта гнятлівая цішыня, адчуваў Вячка, з кожным імгненнем аддаляла яго ад вернага воя.
— Устань, Халадок,— сказаў ён,— не да твару палачаніну стаяць на каленях. Толькі перад Богам мы на каленях стаім.
— Князь, адпусці ў Полацк,— хрыпла папрасіў Халадок, не ўзнімаючы галавы.— У манастыр пайду. Чарняцом стану. За цябе і за Кукейнос буду маліцца.
— Устань,— быццам не пачуў ягоных слоў Вячка.— Не гожа князю раба свайго прасіць, але я прашу. Забудзь мае словы. Не падумаў я, што сказаць. Як верабей, вылецела слова, і не зловіш яго.
Я ведаю — ты верны мне.
Халадок павольна ўзняўся. На твары не было ні крывінкі. Ён усё яшчэ не адважваўся глянуць у вочы князю.
— Пайшлі драць пер’е з тэўтонскіх гусей,— рашуча і нават, падалося, весела выгукнуў Вячка, шырока расчыніўшы дзверы святліцы. Яны спусціліся на першы ярус церама, прайшлі па доўгім вузкім калідоры, дзе на сценах дзень і ноч гарэлі паходні. На падлогу ад іхніх фігур клаліся чорныя пачварныя цені, зломленыя якраз пасярэдзіне. Гулкае рэха ляскатала пад змрочнымі скляпеннямі. У самым канцы калідора Вячка выцягнуў з туравага рога, што быў прыбіты да сцяны, паходню, пачаў свяціць ёю, бо па няроўных каменных сходах трэба было спускацца ў падзямелле. Паветра тут было спёртае і вельмі халоднае. Адчувалася блізкасць ракі — вада буйнымі бліскучымі кроплямі сачылася па сценах падземнага хода. Вячку думалася, што так жалобна блішчаць вочы людзей, якія шмат летаў назад сустрэлі смерць у гэтым аспідным змроку. Вячка ўдарыў нагою ў нізенькія тоўстыя дзверцы і разам з Халадком увайшоў у катавальню.
Гэта быў локцяў на пятнаццаць удоўжкі і ўшыркі скляпок з каменнай слізкай падлогай, з вельмі высокай столлю. У столь быў убіты жалезны масіўны крук, праз які былі прапушчаны шматлікія рамяні і вяроўкі дыбы. Печачка, складзеная з

круглага палявога каменя, тулілася ў самым куце катавальні. Там на агніста-чырвоных галавешках да белага колеру награваліся абцугі, нажы, тонкія вострыя спіцы.
Спатнелы кат у высокіх чорных скураных ботах, у чырвоным фартуху адпачываў, седзячы каля печачкі, трымаючы ў руках бізун. Яго падручны, шыракаплечы светлавалосы здаравяка, круціў ручку калаўрота, нацягваючы, наструньваючы рамяні дыбы, на якой трашчалі косці Брацілы. Тэўтон са скрываўленай спінай ляжаў на ахапку жоўтай саломы і ціха стагнаў. Каты, убачыўшы Вячку з Халадком, пакланіліся ім у пояс.
Жорсткі быў век. Жорсткі і крывавы. Людзей дзесяткамі і сотнямі спальвалі ў велізарных драўляных клетках. Жанчын і грудных дзяцей саджалі на палю. Жывое чалавечае цела рвалі абцугамі, пратыкалі спіцамі, распілоўвалі піламі, расціскалі дубовымі брусамі і камянямі. У Германіі адразалі языкі прыгонным сялянам, у Візантыі вырывалі вочы парфіраносным імператарам. "Пакінем ім толькі вочы, каб аплакваць свае няшчасці!" — такі надпіс загадаў выбіць на скале пра сваіх ворагаў дахрысціянскі цар Навухаданосар. У хрысціянскі век не пакідалі і вачэй.
— Што выпыталі? — строга глянуў на катаў Вячка. Старшы кат, кіўнуўшы галавой у бок Брацілы, які хрыпеў на дыбе, сказаў нізкім прастуджаным голасам:
— Мураль прызнаўся, што хацеў забіць цябе, князь. І княгіню Соф'ю ўкрасці.
— А тэўтон?
— Маўчыць. У тэўтона моцная скура.
Вячка падышоў да палоннага, сеў перад ім на кукішкі, запытаўся:
— Хто ты?
Тэўтон глянуў на яго мутнымі вачамі, ціха адказаў:
— Граф Гадзескальк Пірмонт, божы пілігрым. Служу апостальскай царкве, рыжскаму епіскапу Альберту фон Буксгеўдзену.
Галава ягоная ўпала на грудзі, у горле захрыпела, заскрыгатала, і ён сказаў нібы трызнячы:
— Недасяжная мара мужчыны — памерці там, дзе нарадзіўся.

— За што ты хацеў забіць мяне? Я князь гэтага горада, кароль па-вашаму.
— Ты не кароль. Ты каралёк. Кароль Уладзімір сядзіць у Полацку. Ты — бяльмо на воку нашай царквы, а ў царквы павінен быць зрок арла, бо толькі ёй дадзена ўбачыць будучыню гэтага краю.
Вячка прыжмурыў вочы, сціснуў зубы, падышоў да дыбы, на якой канаў Брацілa.
— З-за чаго, мураль, адзеўся ў сабачую шкуру? Хлеба і мёду было мала? Адказвай, пёс.
— Блуд найшоў,— прастагнаў Брацілa. Крывавымі вуснамі ён пачаў шаптаць: — Божа, не пакінь мяне... Умацуй душу маю... Дай сілу...
— Ты памрэш,— сказаў яму Вячка.— Ты гэта ведаеш. Ачысці душу перад смерцю. Скажы, хто мінулым летам папярэдзіў тэўтонаў аб тым, што князь Уладзімір пойдзе на Рыгу? Хто?
Кат павольна пачаў выцягваць з печачкі распаленую вострую спіцу. Брацілa глянуў на ката, на гэтую спіцу. Ён успомніў пальцы маці, пяшчотныя пальцы. Калі, зусім маленькі, ён прачынаўся, мяккія матчыны пальцы гладзілі яму шчокі. Уся ягоная знясіленая плоць затрапяталася перад новай пакутай, ён кожнай клетачкай цела адчуў, што дасягнуў мяжы, пасля якой не вытрымае, лопне, як гліняны гаршчок, сэрца. Ён глуха выдыхнуў:
— Баярын Доўбня з Полацка.
— Здыміце мураля з дыбы,— загадаў Вячка.— Хай ноччу дзяк паспавядае яго. Хутка мураль памрэ.
Каты замітусіліся, пачалі змотваць, скручваць, як павукі павуціну, свае смяротныя снасці.
— Што будзем рабіць з тэўтонам? — запытаўся ў Вячкі Халадок.
Пры гэтых словах граф Пірмонт устрапянуўся, расплюшчыў вочы і нечакана для ўсіх засмяяўся. Але гэта не быў смех вар'ята, калі душа ад страху ці ад болю збіваецца са светлай сцежкі. Тэўтон смяяўся весела, шырока, і вочы ззялі розумам і нязломнай сілай. Каты і Халадок разгублена глядзелі на Вячку.
— Смяешся? — прыкусіў губу Вячка.— Няўжо табе, граф, весела паміраць? Няўжо не хочаш дажыць да старасці, да белага воласу і чорнага зуба?
Тэўтон з пагардай зірнуў на маладога князя. Потым

прыўзняўся, сеў на скрываўленай саломе, сашчапіўшы на каленях загарэлыя моцныя рукі.
— Я не баюся смерці,— цвёрда сказаў Пірмонт.— Забі мяне, каб я хутчэй стаў перад Божым прастолам. Забі мяне, брудны палахлівы каралёк.
Ён зноў засмяяўся.
— І я не баюся болю. Я плюю на тваіх крывавых шкурадзёраў. Я з ордэна "Братоў рыцарства хрыстовага". На сваім белым плашчы пад вышываным чырвоным крыжам я нашу чырвоны меч.
— Мечаносец, значыць? — з нянавісцю глянуў на тэўтона Халадок.
— Мечаносец. Я валодаю мячом так, як ты не валодаеш сваёй бруднай лыжкай, сёрбаючы свінячую пахлёбку.
— Князь, дазволь, і я адсяку яму галаву,— пацямнеў у твары, умольна глянуў на Вячку Халадок.
Але Вячка маўчаў. Нешта стрымлівала яго. За сваё нядоўгае суровае жыццё ён пакрысе навучыўся сцішваць свой гнеў. Так моцнай цвёрдай рукой на ўсім скаку спыняюць гарачага баявога каня, стальнымі цуглямі разрываючы яму губы. Вячка слухаў пахвальбу тэўтона і маўчаў.
— Палахлівыя чэрві,— пляваўся крывавай слінай Пірмонт.
— Князь, дазволь,— прасіў Халадок, павольна выцягваючы з похваў меч.
— Я трапіў у пастку. Я прайграў не ў рыцарскім паядынку, не ў чыстым полі, а ў падземнай мышалоўцы,— не спыняўся тэўтон.— Мне не пашанцавала. Але я памру як герой і атрымаю нябесныя вянцы ад Хрыста.
— Твой лёс у тваіх руках,— з халоднай усмешкай сказаў нарэшце Вячка.— Калі ты не пустабрэх, калі ты адважны вой, калі ў тваіх жылах чырвоная кроў, а не тухлая балотная вада, праз тры дні я скрыжую з табой меч і кап'ё. Мы сыдземся з табой у паядынку. Хто каго стопча канём, выб'е з сядла, таго й верх. Так сказаў я, князь Кукейноса. Маліся свайму лацінскаму богу, тэўтон.
Вячка ўдарыў даланёй па рукаяці свайго мяча, упарта, як перад скачком, нахіліў галаву і, ні на кога не глянуўшы, імкліва выйшаў з катавальні.

# III

Ранішняе сонца нясмела ўставала над зямлёй, наколвалася на зубцы зарэчнага лесу. Першыя яго промні ўпалі на званіцу праваслаўнай царквы, потым на княжацкі церам. Асмялеўшы, набраўшыся моцы, пачалі гуляць на вузкіх вулках Кукейноса. Шматгалосы і бадзёры прачынаўся горад. У дружыннай кузні звонка ляскаталі цяжкія малаткі. З дзвінскага берага, дзе густа стаялі купецкія стругі, чуліся галасы арцельшчыкаў, рыпелі дошкі сходняў, па якіх паўголыя загарэлыя грузчыкі насілі велізарныя шэра-жоўтыя камяні воску, кіпы звярыных шкур, крыцы сырадутнага жалеза, амфары з заморскім вінoм, лубяныя кашалі са свежай рыбай, зернем, соллю. Апусцілі пад'ёмны мост, і пастухі пагналі на пашу кароў, свіней, коз і авечак. Дробны стукат капытоў, гром нашыйных званочкаў на нейкі міг заглушыў усе астатнія ранішнія галасы і гукі.Рамеснікі раздзімалі свае горны, безліч дымкоў заструменілася ў блакітнае бяздоннае неба, смачна запахла свежым хлебам. Бегалі на падворках, смяяліся і крычалі дзеці. Панына спявалі жабракі, калікі вандроўныя. Суседкі снавалі да суседак, бо заўсёды цікава ведаць, што варыцца ў чужым гаршку. Баярскія дочкі, уздыхаючы аб жаніхах, цярпліва ўмошчваліся за верацёны, праселкі ў якіх былі з прыгожага ружовага шыферу.
У гэты час князь Вячка садзіўся на свайго баявога каня Печанега. Смольна-чорны з рудоцінкай конь сярдзіта грыз цуглі. Пунсовае сонца глянула на княжацкі двор, і медныя сполахі пабеглі па гладкай конскай спіне. Продкаў Печанега прыгналі ў свае табуны полацкія князі, калі разам з усімі рускімі князямі хадзілі ў паўдзённыя стэпы ваяваць бязбожных торкаў.
На Вячку ззяла кальчуга, сплеценая з тоўстых кляпаных колцаў. Пад кульчугу ён апрануў сінюю пакаленную кашулю. На галаве ў яго быў высокі жалезны шалом з наноснікам, з выразамі для вачэй, з кальчужнай сеткай-бармiцай, якая ахоўвала шыю і плечы. У левай руцэ князь трымаў ярка-чырвоны шчыт з выявай святога Георгія, заступніка палачан.

Шчыт быў не круглы, а міндалепадобны, са зрэзаным верхам. Ён прыкрываў князя ад падбародка да калена. На ногі князь нацягнуў кальчужныя панчохі і вастраносыя боты з цвёрдай туравай скуры са шпорамі-шыпамі. У правай руцэ Вячка сціскаў кап'ё з чатырохгранным бранябойным лязом. Кап'ё — зброя першага ўдару, і Вячка, як і ўсе палачане, добра валодаў ім. На поясе ў князя вісеў доўгі прамы меч у прыгожых інкруставаных жоўтым металам похвах. Гэтым мячом можна і секчы, і праколваць, прабіваць, пранізваць наборныя даспехі, якія апошнім часам замест кульчуг пачалі апранаць у сечу тэўтонскія латнікі.
Вячка ўскочыў у высокае сядло і адчуў, як наспружыніўся, затанцаваў пад ім Печанег. Добрая прыкмета, калі танцуе, ірвецца ў сечу баявы конь. Конскі крыж быў старанна прыкрыты цвёрдай скураной апонай-лічынай, на грудзях і на шыі ў каня звінелі рознакаляровыя металічныя бляхі. Рысталішча, месца для паядынку, было выбрана на двары княжацкага церама. Вячка бачыў мышыную мітусню слуг, строгія твары сваіх вояў, густыя калматыя бароды баяр і просталюдзінаў.
Насупраць Вячкі, на другім канцы двара, нецярпліва прыўзнімаўся ў сядле граф Гадзескальк Пірмонт. Жыццё зноў свяціла тэўтону ўсімі сваімі зоркамі. Ён не сумняваўся ў сваёй перамозе над гэтым тубыльцам. Бацька ягоны, граф Годфрыд, з'еў у дзяцінстве воўчае сэрца, уліў у кроў сваіх патомкаў сілу, хітрасць і жорсткасць. "З мячом я гуляў яшчэ ў калысцы",— горда думаў малады тэўтон, і ярасць бушавала ў ім, як грымучая майская навальніца над Рэйнам. Яму вярнулі ягоны меч, верны востры меч, на клінку якога крыху ніжэй рукаяці былі выбіты майстрам-збройнікам два магічныя словы: "Пі кроў".
Чым не рыцарскі турнір чакае яго? Ёсць праціўнік, ёсць стрэмя пад нагой, ёсць меч у руцэ, ёсць гледачы — яны шумяць, хвалююцца, як шэрае неспакойнае мора. (Чаму ўвесь гэты народ так смярдзіць кіслай аўчынай, кажухом?) Ёсць нават герольд, юны, зусім хлапчук. Вось-вось ён затрубіць у паляўнічы рог, дасць сігнал. Няма толькі Дамы

сэрца. Няма той, да чыіх пяшчотных ножак кладуць салодкі груз перамогі. Хутчэй жа, хутчэй трубі, герольд! У рай ідуць па лязу мяча.
Граф Пірмонт быў апрануты ў кальчугу з доўгімі рукавамі, з капюшонам-хаўберкам, які ахоўваў галаву. Паверх хаўберка ён надзеў мяккую ваўняную шапку з тоўстым валікам. Шапку вянчаў стальны кляпаны шлем, падобны на вядро, з адтулінамі для вачэй, з дзірачкамі для дыхання. Гэты даспех воі князя Вячкі садралі тры дні назад з забітага тэўтонскага латніка, калі тэўтоны спрабавалі адбіць і пагнаць у замак Ашэрадзен кукейноскую гавяду — кароў і коз.
Заспяваў, ускрыкнуў рог. Граф Пірмонт ударыў каня шпорамі, уздыбіў яго, цвёрдай рукой накіраваў насустрач праціўніку. Камякі вільготнай цёмна-рыжай зямлі пырснулі з-пад цяжкіх капытоў. Пахіснулася, зарыпела сядло з высокай пярэдняй лукой, якая аберагае жывот ад таранных удараў кап'я.
Прыгнуўшыся, выставіўшы ўперад кап'ё, прыкрыўшы галаву і сэрца шчытамі, Вячка і тэўтон ірвануліся насустрач адзін аднаму. Быццам два смертаносныя жахлівыя адзінарогі, якія жывуць у заморскай краіне Ханаан, сутыкнуліся між сабою. Стогн металу разрэзаў цішыню. Гэта быў першы саступ, першы збой, у час якога правяраецца моц рыцарскай зброі і рыцарскага пляча. Абодва не пахіснуліся. Толькі ад страшнага ўдару коні прыселі на заднія ногі.
Тэўтон гатоў быў заспяваць. Баец, які ніколі не быў пабіты да сінякоў, не можа, горды духам, уступіць у адзінаборства. Хто бачыў сваю ўласную кроў, чые зубы скрыпелі пад кулакамі праціўніка, той, хто распасцёрты на зямлі, утаптаны ў яе ворагам, не траціў мужнасці, той, хто ўзнімаўся яшчэ больш непахісны, колькі б яго ні збівалі з ног, ідзе ў бой з вялікай надзеяй. Узнагароды за цярпенне выплачваюцца ў храмах перамогі.
Так думаў граф Пірмонт, паварочваючы каня, каб зноў рынуцца на Вячку. Здаецца, усе мінезінгеры[1] Саксоніі, Тэўтоніі і Швабіі спявалі яму зараз.

[1] Мінезінгеры — сярэдневяковыя вандроўныя спевакі.

Ён нанёс магутны ўдар кап'ём. Так ярасная маланка б'е ў дубы. Але князь Вячка, які яшчэ юнаком гуляў з каменнямі-жарнавікамі, узнімаючы іх на грудзі і шпурляючы на пятнаццаць локцяў, сустрэў удар шчытом. Шчыт быў з трох слаёў бычыных шкур, сцягнутых металічнымі пласцінамі, і ўсё-такі кап'ё праламала яго, прашыла наскрозь, нібы яечнае шкарлупінне.
Гэты ўдар, у які тэўтон уклаў столькі сілы і страсці, дорага каштаваў яму, бо кап'ё засела, завязла ў шчыце, быццам трапіла ў пашчу дракона.
Вячка размашыста, ва ўпор кінуў сваё кап'ё ў тэўтона. Кап'ё збіла шлем, і тэўтон пахіснуўся ў сядле. Правай рукою Вячка ў імгненне вока выхапіў з похваў меч, ударыў па кап'ю праціўніка, перасек дрэўка. Тады і тэўтон схапіўся за меч. Сутыкнулася лязо з лязом, іскры пасыпаліся, як чырвоны дождж. Ярасць коннікаў перадалася коням. Белая пена клубілася ў іхніх ноздрах. Яны ржалі, храплі і кусалі адзін аднаго.
Улучыўшы момант, Вячка разбітым шчытом ударыў тэўтона па галаве і адначасова клінком мяча пырнуў яго ў грудзі. Кальчуга выратавала тэўтона, але ён збіў дыханне, захаўкаў ротам. Адразу ж пачаў заліваць вочы густы ліпкі пот. Уся агіда такога поту ў тым, што яго няма часу выціраць — рукі заняты зброяй, праціўнік атакуе.
І ўсё-такі граф Пірмонт не сумняваўся ў перамозе. Ад бацькі ён ведаў, што іхні графскі род пачаўся з вікінга Конрада, які захапіў Сіцылію і штурмаваў Неапаль. Конрад быў берсеркам. Гэтыя берсеркі перад бітвай знаходзілі і елі чырвоныя мухаморы. Пякучы грыбны сок п'яніў іх, узбуджаў, даводзіў да шаленства. Яны крычалі, вылі, танцавалі з мячамі ў руках, кусалі шчыты і з дзікай неадольнай сілай кідаліся ў атаку. Адзін берсерк, не адчуваючы ран, забіваў дзесяткі ворагаў. У сэрцы Пірмонта кіпела кроў берсерка, і ён біў і біў мячом, не зважаючы на стому, на горкі пот, што выядаў вочы.
Але ён недаацэньваў Вячку, як і наогул усіх мясцовых людзей: палачан, латгалаў і селаў, якіх пагардліва называў сыраядцамі. Ён не ведаў, што крывічы разам з палянамі, вяцічамі, драўлянамі

яшчэ за некалькі стагоддзяў да ягонага нараджэння ў баявых лоддзях пераплылі бурны Понт[1], прымусілі грэчаскага імператара выйсці са сталіцы з залатым вянком міру ў руках і прыбілі свой баявы шчыт на варотах Царагграда. Гэта было земляное племя, ратайнае племя, ды гордае, непалахлівае, бо ў час смяротнай сечы за зброю разам з мужчынамі браліся і жанчыны.

Ужо ў дзесяць летаў Вячка, жывучы ў Друцеску, вучыўся біцца на доўгіх дубовых кіях, а потым на коп'ях з тупымі наканечнікамі. Не адзін шрам насіў ён на целе і заўсёды помніў бацькаў запавет: "Сыне, не падстаўляй пад удар спіну".

Сонца тым часам стрэльнула са свайго залатога лука, густа кінула промні на церам, на царкву, на рысталішча, вакол якога то радасна шумеў, то напружана заміраў агромністы натоўп. Усе зычылі перамогі свайму маладому князю, усе хваляваліся за яго. І ў халодным падзямеллі, у катавальні, Браціла, які дажываў свае апошнія хвіліны, прагна прыслухоўваўся, лавіў усё гэтыя галасы, гэты людскі гуд. Шум рысталішча, шум бою, быў тым адзіным ручаём, які цадзіўся ў цемру ягонай турмы, звязваў яго з жыццём. Яму хацелася, каб паядынак віхурыўся бясконца.

— Дзева Марыя, дапамажы мне! — натхнёна крыкнуў тэўтон і зноў ударыў мячом. І ў гэту хвіліну карміцелька Тадора вынесла з церама князёўну Соф'ю. Вячка ўбачыў маленькі бледны тварык, цёмныя шаўкавістыя броўкі. Дачка спалохана глядзела на яго, яна здавалася безабароннай мяккай вавёрачкай, якая асцярожна выторквае галоўку са свайго сховішча, з дупла, якой так цікава, так край трэба зірнуць на шырокі незразумелы свет, дзе яе могуць забіць, злупіць і кінуць на зямлю яе цёплую шкурку.

Распараныя мокрыя коні сутыкнуліся грудзьмі, шыямі. Коні цяжка, са стогнам і хрыпам, дыхалі. Вячкаў Печанег заржаў, нібы просячы дапамогі. Вячка ўхіліўся ад удару тэўтона — меч глуха свіснуў за нейкую пядзю ад галавы — і вастрыём свайго мяча кальнуў у вузкую загарэлую палоску

---

[1] П о н т — Чорнае мора.

шыі, якая на імгненне мільганула перад ім. Тэўтон узмахнуў рукамі, выпусціў меч і потырч паляцеў з каня. Нага зачапілася ў стрэмені. Конь адразу ж спыніўся, асцярожным вінаватым позіркам глянуў на свайго гаспадара.
Вячка саскочыў з Печанега, правай нагою прыдавіў тэўтону грудзі, цяжка ўзвіў над ім чырвоны меч. Светлыя стомленыя вочы без страху глядзелі на князя. Толькі здзіўленне і халодны сум бліснулі на момант у іх.
— Бі,— ціха сказаў тэўтон.
Радасна загуў, закрычаў натоўп, вoі ўзмахнулі мячамі, тэўтон сцяўся, скурчыўся на ўзаранай конскімі капытамі зямлі, і тут Вячка пачуў слова. Адно-адзінае слова з мора слоў:
— Татухна!
Гэта ўскрыкнула дачка Соф'я.
Ён азірнуўся, глянуў на яе, і меч абвяў у ягонай руцэ. Яму расхацелася абрываць нітку чужога дыхання.
— Князёўна Соф'я даруе табе жыццё,— сказаў ён Пірмонту.— Маліся за яе, тэўтон.
Пірмонт маўчаў, кашляў. Ён быў падобны на чалавека, якога толькі што знялі з крыжа. Яму здавалася, што з нябёсаў, з-за белых воблакаў, глядзяць ягоныя продкі-рыцары і праклінаюць яго за свой растаптаны гонар. Чаму не грыміць, не скрыгоча зубамі гром?
Кукейносцы тым часам крычалі славіцу свайму князю. Натоўп любіць тых, хто перамагае. Самы слабы, самы маленькі і нікчэмны з натоўпу адчувае сябе ў такія хвіліны пераможцам.
— Слава! Слава! — грымела наўкол.
— Рубон! — ускідвалі ўгору мячы дружыннікі князя Вячкі.
— Рубон! — апантана падтрымліваў натоўп.
І ўсё-такі большасць кукейносцаў была незадаволена тым, што князь не прыкончыў чужака. Яны мелі права на відовішча крыві, усе гэтыя рамеснікі і купцы, баярская чэлядзь і смерды з навакольных селішчаў. Яны патрабавалі крыві, бо ад ліваў чулі, што ў вусці Дзвіны тэўтоны праліваюць чалавечую кроў рэкамі.

— Князь, вазьмі ягоны жывот! — ярасна гуў натоўп.— Забі тэўтона!
Вячка зняў з галавы шлем, трасянуў спатнелымі валасамі. Пакрысе супакойвалася ўзбунтаваная паядынкам кроў. Ён сарваў пук травы, выцер ёю меч, з хрустам загнаў меч у похвы.
— Забі! Забі! — роў натоўп.
Ён узняў угору дзясніцу ў баявой пальчатцы.
— Забі! — крычала жанчына, трымаючы на руках дзіця.
— Забіць лёгка,— сказаў Вячка, і адразу замоўк, як знямеў, натоўп.— Жыццё адлятае ад чалавека, як шпачынае пёрка. Чалавечую выю можна перашчыкнуць двума пальцамі. Я не шкадую яго,— глянуў князь на тэўтона, які сядзеў на пяску, абхапіўшы галаву рукамі.— Ён ішоў забіць мяне. А зараз ён, як чарвяк, на якога магутным капытом наступіў пушчанскі зубр. Ён ляжыць ля маіх ног, а хацеў сядзець на маіх плячах і абразаць мне вушы. Там,— рэзка махнуўшы рукою, паказаў Вячка на захад,— ягоныя браты востраць мячы, каб адсекчы нашым воям галовы, уюць вяроўкі, каб звязаць і пагнаць у няволю нашых жанок і нашых дзяцей. Там насыпаюць у скрыні зерне, каб пасеяць яго на магілах нашых дзядоў. Я, князь Кукейноса Вячаслаў, кажу: адпусцім яго, захаваем жыццё крываваму тацю, каб там, у Рызе, пачулі нашы словы. А словы нашы такія: мы не хочам вайны ні з рыжскай царквой, ні з ордэнам тэўтонаў. Не мы да іх. Яны прыплылі да нас. Хай глянуць на неба, хай убачаць Божы прастол. І Бог скажа ім: спыніцеся! Спыніцеся, бо анафема чакае вас і геена вогненная. Я адпускаю тэўтона,— махнуў дзясніцай Вячка.
— Слава! — закрычаў натоўп.
— Хай убачыць тэўтон, як мы ўмеем помсціць. Прывядзіце з катавальні мураля Брацілу,— загадаў воям князь.
Знясіленага, знявечанага Брацілу выцягнулі, быццам бервяно, з падзямелля, паставілі перад знямелым натоўпам. Ён ледзьве стаяў, бледны, кволы, як абадраная ліпка. І тут, распіхваючы людзей, выбегла зялейніца Домна.
— Светлы князь,— упала яна ў пясок перад Вячкам,— не губі майго сына. Пашкадуй мяне,

тваю чорную рабыню. У цябе ж таксама ёсць дзіцятка. Пашкадуй майго Брацілу. Я ж тваю дочачку лячыла і лячыць буду. Я вечна за цябе, светлы князь, Богу маліцца буду. Пашкадуй.
— Твой сын — таць і галаўнік. Ён хацеў забіць мяне, князя,— строга сказаў Вячка.— Ідзі ў церам, зялейніца.
Домна падпаўзла да сына, абвіла ягоныя ногі рукамі.
— Зернетка маё... Сонейка маё... А як жа ты маленькі быў і зубік у цябе першы вырас і потым выпаў, я загарнула зубік у палатно, кінула за печ і сказала: "Мышка, мышка, на табе лубяны, дай мне касцяны..." Сатлеюць твае зубкі ў сырой зямлі...
Яна загаласіла, закалацілася, пачала браць жменямі шэра-жоўты пясок, сыпаць сабе на галаву. Браціла глядзеў на яе, здавалася, не пазнаваў маці, а можа, не хацеў пазнаваць. Голас, што палохаў яго ўначы, калі ён разам з тэўтонам лез цераз кукейноскія забаролы, знік. Лёгка было душы без гэтага голасу.
— Кат,— зычна сказаў Вячка,— вяршы суд і справу.
Кат са сваімі памочнікамі звязаў Брацілу рукі і ногі вяроўкай, сплеценай з конскага хваста. Потым Брацілу ўвапхнулі ў вялікі скураны мяшок.
— Тэўтону даруюць жыццё, а майго сына забіваюць?! — ускрыкнула старая зялейніца. Яна, як раз'ятраная ваўчыца, ускочыла на ногі. Здавалася, гора памаладзіла яе, бо дзіка заблішчалі вочы, смелымі і рашучымі зрабіліся рухі. З галавой, пасыпанай пяском, яна падбегла да Вячкі, стала насупраць яго, гнеўна загаварыла: — Зашывай у мяшок абодвух. І тэўтона зашывай. Хай рака возьме дзве душы, а не адну. Чуеш, князь?
Вячка маўчаў. Са здзіўленнем глядзеў ён на сваю рабыню. Загаварыў камень. Загаварыла сама зямля. Старая вераб'іха замахнулася кволым абскубеным крылейкам на льва. Цуд, дый годзе! Ды ён зараз загадае вытрасці душу з гэтых старых жоўтых мошчаў. Раб павінен маўчаць, схіліўшы выю, калі гаворыць або думае гаспадар.
— Чуеш, князь? — не адступала зялейніца.
Ён бачыў шэры мох броваў, у якіх жаўцеўся пясок.
— Няздзіл,— сказаў Вячка вою, таму, хто першы трапіўся на вочы.— Гэтай жанчыне тут не месца.

Завядзі яе ў церам.
Няздзіл быў малады, шыракаплечы і паслухмяны. Ён згроб зялейніцу ў ахапак і панёс у церам. Зялейніца залівалася слязьмі.
Брацілу вось-вось павінны былі зашыць у мяшок. Апошнія імгненні ззяла над ім неба. Апошні раз кратаў валасы вецер, які вольна лётаў над Дзвіной, над Кукейносам. У натоўпе ён убачыў латгала Сцегіса. Латгал стаяў з бярэмем дроў у руках, нецярпліва перасмыкаў худымі шчокамі, пэўна, спяшаўся ў час запаліць усе печы ў княжацкім цераме.
— Благаславі, ойча,— сказаў Брацiла дзяку, які ў адсутнасць іерэя Сцяпана вёў службу ў кукейноскай царкве.
— Бог благаславіць,— хмура выдыхнуў дзяк, але сухой шчэпаццю акрэсліў над Брацілам святы крыж. Калі доўгі нязграбны мяшок неслі да ракі, падалося людзям у натоўпе, што з мяшка, са смяротнай цемры, чуліся ціхія ўсхліпы.
Тэўтона ж адпусцілі ў Рыгу. Але не конна і нават не пешшу. Змайстравалі невялічкі плыт са слупком пасярэдзіне, пасадзілі на плыт і моцна прывязалі да слупка графа Пірмонта. Ён толькі соп, апусціўшы на грудзі галаву.
— Плыві да епіскапа Альберта,— сказаў Вячка.— Калі Бог за вас, тэўтонаў, то неба напоіць цябе вадой, а чайкі не выдзеўбуць вочы. Калі Бог за вас, рака не зацягне цябе ў вір і лівы з узбярэжнага хмызняку не ўсадзяць у бок кап'ё. Скажы рыжскай царкве, што тут, у Кукейносе, жывуць хрысціяне, такія самыя, як вы, і не гожа вам праліваць хрысціянскую кроў.
Вячка з дружынаю ўзышлі на забаролы і доўга глядзелі на раку, па якой плыў тэўтон. Плыт пахіствала імклівая дзвінская хваля, ён аддаляўся, змяншаўся, вось ператварыўся ў трэску, у камара, знік...

Пераначаваўшы ў Кукейносе, Вячка на золку са сцягам Халадка, з пятнаццаццю латгальскімі лучнікамі старэйшыны Ніцына конна рушыў у стольны горад Полацк. Але перад самай дарогай з

перапісчыкам пергаменаў Клімятам ён узняўся на пясчаную, парослую светлым бярэзнікам выспу, якая крута ўставала над Дзвіной. Тут арцель каменячосаў шчыравала над велізарным каменем-пісанікам.
Шмат камянёў спрадвеку драмала на гэтай зямлі. Іх вырваў з абдымкаў суровых паўночных гор ледавік, прывалок сюды і, страціўшы сілы, кінуў у дрымучых лясах, на зялёных лугах. Большасць з іх сцерлася на арэх, на гарох, але некаторыя, веліканы з веліканаў, палохалі людзей сваімі незвычайнымі памерамі. На гэтых камянях полацкія князі, пачынаючы з Рагвалода, загадвалі высякаць свае імёны. Смерды і рамеснікі пісалі на бяросце, князі — на камянях.
Камень, перад якім у пачцівым маўчанні спыніліся Вячка і Клімята, быў падобен на агромністага старога тура, што задрамаў у цяньку, пад нямоўчны шум бяроз. Шэра-рыжымі касмылямі звісаў з яго мох. Колькі чалавечых жыццяў вясновымі ручаямі адзвінела каля яго! Колькі яшчэ адзвініць!
Вячка з хваляваннем глядзеў на маўклівую аграмадзіну. На камені быў выбіты вялікі шасціканцовы крыж і пад крыжам словы: “У лета 6714-е, у серпеня дзесяты дзень узведзены гэты крыж. Божа, памажы рабу свайму Вячку”.
З сённяшняга дня, як вянок, кінуты ў раку часу, паплыве ўдалеч ягонае імя. З сённяшняга дня ён ужо не ўладны над сваім імем. Разбурыцца, знікне грэшная плоць, сатруцца сляды на зямлі, а гэты камень будзе ўзвышацца над ракой, над вольнай сіняй дарогай. І некалі, у недасяжна далёкі дзень, паплыве тут пад белым смелым ветразем малады вой або малады купец. Аб чым падумае ён, убачыўшы гэты камень, прачытаўшы надпіс? Хоць на імгненне б адхінуць чорную заслону гадоў, глянуць у той дзень.
Кіраваліся на ўсход правым берагам Дзвіны. Тут, паміж лясоў і балот, пралягала старадаўняя дарога, па якой полацкія князі са сваімі дружынамі хадзілі браць даніну з латгалаў і ліваў. Вячка вёў вояў з вялікай асцярогаю, бо кожны момант можна было чакаць нападу літоўцаў і іх саюзнікаў-селаў, якія ў гэтых мясцінах пераправуляліся цераз Дзвіну, каб

рабіць набегі на землі эстаў. Праз тры дні на супрацьлеглым беразе ракі ўбачылі высокі земляны вал Селпілса, галоўнага гарадзішча селаў. Там віднеліся слупы чорнага дыму, пэўна, селы палілі сігнальныя агні. Некалькі чоўнаў з узброенымі селамі пагналіся па рацэ за дружынай Вячкі, але неўзабаве адсталі.
За Селпілсам пачаліся ўладанні герцыкскага князя Усевалада. На герцыкскай зямлі было пяцьдзесят замкаў, мноства ўмацаваных узвышшаў, за сценамі іваламі якіх людзі хаваліся ў часы небяспекі. Найбольш магутнай, багатай і прыгожай між іх была сама Герцыке, шумны людны горад з дзвюма праваслаўнымі цэрквамі, з грозным княжацкім церамам, з шыкоўнымі сядзібамі баяр і купцоў. Герцыке нельга было абмінуць, дый Вячка даўно хацеў сустрэцца з мясцовым князем Усеваладам. Начавалі пад адкрытым небам. Халадок і старэйшына латгалаў Ніцын выстаўлялі дазорцаў, загадвалі раскласці вогнішчы, рыхтаваць вячэру. Засыналі лясы. Згарнуўшыся ў клубок, засынала ў цемені лясоў звяр'ё. Неба глядзела безліччу залатых вачэй.
Нялёгкія думы гнялі Вячку, калі падклаўшы пад галаву сядло, ён стараўся заснуць на ласінай шкуры, якую заўсёды браў з сабой у дарогу. Не ўзрадуецца ягонаму прыезду вялікі князь полацкі Уладзімір Валадаравіч. Скажа: "Навошта пакінуў свой удзел? Што ты ўсё бегаеш, князь? Сядзі спакойна ў Кукейносе, з тэўтонамі не задзірайся, купцоў іхніх пускай па Дзвіне. Полацк пакуль што не можа ваяваць з Рыгай. Каб толькі адна Рыга стаяла супраць Полацка. Сам Рым стаіць з папам Інакенціем, лацінскі свет стаіць са сваім рыцарствам, Свяшчэнная Рымская імперыя стаіць. Задушаць, і вокам не міргнем... Сядзі спакойна ў Кукейносе". Як быццам ён, князь Вячка, палахлівы сляпы крот. Як быццам не цячэ ў ім кроў вялікага неўтаймоўніка Усяслава, лютага на сечу, меч якога ведала ўся Русь ад Ноўгарада да Тмутаракані. Але што можа зрабіць ён адзін, удзельны князь, малодшы князь, слуга вялікага князя?
Толькі пад раніцу засынаў Вячка. З панылых тарфяных балотаў, з цёмных залітых расой лясоў

павольна ўсплывала сонца, як чырвоны, абпалены полымем бясконцых бітваў шчыт грознага бога Сварога. Чырвоны водсвет перакочваўся па рачной і балотнай вадзе, па дрэвах, па траве. Табункі сернаў беглі на вадапой, а потым купаліся ў блакітных лясных азёрах, распырскваючы ва ўсе бакі бліскучыя начныя зоркі, якія, пэўна ж, клаліся спаць на дно азёр. Магутныя туры нетаропка калываліся ў маўклівасці ранішніх лясоў, цёрліся пукатымі лбамі аб камлі дрэў. Першыя птушкі ўзнімаліся на крыло.
І зноў звінела стрэмя, рыпела сядло, сядзельная торба мякка білася аб калена. Пад барвовымі плашчамі ў вояў зіхацелі кальчугі. На чырвоных шчытах, на жалезных нагрудніках, налакотніках і накаленніках, на мячах і баявых сякерах цёпла гарэла сонца.
Латгальскія лучнікі старэйшыны Ніцына былі ў круглых рысіных шапках, аблямаваных меднымі бляшкамі. Сіне-чорныя плашчы былі зашпілены ў кожнага з іх на плечуку спражкай-сактай.
Па правую руку ззяла ранішняя Дзвіна. Чаіцы бязладна мітусіліся ў сонечных промнях. Лось, ганарыста ўзняўшы крылатую карону рагоў, спакойна плыў упоперак ракі, разразаючы шырокімі грудзьмі вірлівую плынь.
Выйшаў з вады, страсянуўся, трошкі пастаяў і рушыў у глыб латгальскіх лясоў.
Пад самы поўдзень, калі ўжо змарыліся коні, калі ў верхавых ад спякоты і доўгай траскай дарогі пачало звінець у скронях, пачуўся востры п'янлівы пах гарачага дыму. Ён гусцеў, забіваў ноздры коням. Вої пачалі церці кулакамі вочы, кашляць.
— Князь,што гэта?! — крыкнуў Халадок.
Наперадзе, як размахнуцца позірку, з куп'істага чэзлага балота, проста з нутра зямлі, выбіваўся, вырываўся шырокімі жоўта-сінімі клубкамі дым.
— Падземныя чэрці вараць сабе есці,— ціхім спалоханым голасам, але так, што пачуў Вячка, прашаптаў малодшы дружыннік Грыкша.
Дружыннікі спыніліся. Усе пазіралі на Вячку, чакаючы ягоных слоў.
— Гэта гарыць зямля,— хвіліну-другую памаўчаўшы, сказаў Вячка.— Але хто запаліў яе?
— Запалілі селы,— пераканана загаварыў

старэйшына латгалаў Ніцын.— Яны не хочуць пусціць нас у Полацк. Ім трэба, каб мы вярталіся назад. Толькі селы запалілі гэтыя балоты, гэтыя праклятыя балоты...

Вячка глянуў на Ніцына, запытаўся:

— Але што маюць супроць Кукейноса селы?

— Яны саюзнікі літоўцаў.

— Ну й што?

— А Літва, як табе вядома, князь, узнімае апошнім часам галаву, хоча валодаць усёй Даўгавай. Літоўскія кунігасы гадуюць у лясах свае баявыя дубіны.

Гэта Вячка ведаў. І пра дубіны літоўскія ведаў. Жадаючы зрабіць сабе зброю, ідзе літовец у лес, выбірае малады дубок. Асцярожна, каб не параніць, ачышчае дрэўца ад сукоў з верху да самага нізу. Потым рассякае ў дрэве кару і абалону. У шчыліну ўтыкае вострыя рубчастыя крамяні, якія пакрысе ўрастаюць у дрэва, ды так урастаюць, што здаецца — дуб вырас з імі з самага жолуда. Праз нейкі час гатова баявая дубіна, якую літоўцы называюць мачуга. Не адзін тэўтонскі чэрап хруснуў, як гнілы арэх, пад літоўскай мачугай.

— Літва ўзнімае галаву, гэта праўда,— пасля некаторага маўчання сказаў Вячка.— Але нам трэба, каб яе дубіны білі не па нас, а па мечаносцах. Мы хутка будзем у Герцыке, Ніцын. А там сталец трымае князь Усевалад, васал Полацка. У жонкі ён узяў дачку літоўскага кунігаса Даўгерута. Усевалад верны сябра літоўцаў, і яны не нападаюць на ягонае княства. А чаму? Толькі таму, што ён зяць Даўгерута? Не, Ніцын.

Вячка пагладзіў па чорнай доўгай грыве свайго каня Печанега, які нервова перабіраў нагамі, прынюхваючыся да цяжкога смуродлівага паху гарэлай балотнай зямлі.

— Чуў я ад свайго бацькі, князя Барыса Давыдавіча, пра візантыйскі палон полацкіх князёў. Калі памёр вялікі князь кіеўскі Уладзімір Манамах, той, што ад рамейкі быў народжаны, Полацк узбунтаваўся супраць ягоных сыноў, не прыняў іх. Тады Мсціслаў, сын Манамаха, з вялікаю сілаю і з вялікім гневам рушыў на Полацк. Ішлі з ім кіяне і куране,

торкі і Расціслаў Мсціславіч са Смаленска, наўгародцы, Усеваладка з Гародні, Вячаслаў з Клецка. З усіх бакоў ішлі. Спалілі Лагожаск і ўзялі ў палон князя Брачыслава Лагожаскага. Потым зруйнавалі Ізяслаў, абклалі Полацк. Кончылася тым, што на полацкі сталец пасадзілі Рагвалода Друцкага, кіеўскага падбрэхіча, а полацкіх князёў з жонкамі, з чадамі малымі выслалі ў Візантыю, у Царгорад. Але не ўвесь, як казаў мне бацька, полацкі княжацкі дом быў згвалтаваны. Некалькі малодшых удзельных князёў з дружынамі падаліся ў Літву, у лясы ды балоты, там аселі, моцы набраліся, з Літвой параднііліся. І зараз у лясах літоўскіх ёсць такія кунігасы, якія полацкай касці-крыві. Моцны полацкі корань — агнём не спаліш, мячом не ссячэш, не вырвеш.
Вячка змоўк, бо ўбачыў, як проста на яго імчыць ахоплены полымем магутны дзікі вепр. Пэўна, звер аслеп ад агню і дыму. На ім тлела шчаціна, і ён вішчаў ад болю, і боль ягоны пераўтвараўся ў ярасны, нястрыманы гнеў.
— Сцеражыся, князь! — разам крыкнулі воі.
Некалькі коп'яў паляцела насустрач вепру.
Вячка рэзка крутануў Печанега, і вогненны вепр, пранізваючы страшнымі ікламі паветра, прамчаўся побач са стрэмем. Халадок з усяго пляча ўдарыў звера кап'ём у вуха, зваліў на траву.
Воі саскочылі з сёдлаў, пачалі свежаваць нечаканую здабычу. А Вячка адчуў, як на пераноссі праклюнуліся кроплі халоднага поту. Квік смяротна параненага вепра яшчэ звонка стаяў увушшу.
— Лепа[1] ты зрабіў, вой,— сказаў Вячка, пад'ехаўшы да Халадка, які ў пяску адшароўваў ад крыві шырокі наканечнік кап'я. Халадок глянуў на Вячку яркімі сінімі вачамі, радасна ўсміхнуўся.
Трохі перадыхнулі, парэзалі, пасалілі мяса, напакавалі вяпрацінай сядзельныя торбы і рушылі далей. Дым засціласў наваколле. З едкай дымнай імглы чуўся дробны часты стук капытоў — лясное звяр'ё ратавалася ад смерці. Дзесьці ў лесе рыпела надламанае дрэва, быццам клікала на дапамогу.

[1] Лепа — добра.



3 Зак. 2990

Непадалёку плёхнуўся ў Дзвіну, нязграбна паплыў велізарны тур. Сажа лётала чорнымі пялёсткамі, садзілася на конскія галовы.
Раптам Халадок, які ехаў леваруч ад Вячкі, з шумам і трэскам праваліўся разам з канём у вогненную яму. Полымя выела сухі торф на некалькі локцяў углыб, а зверху застаўся толькі тонкі слой злямчанай жоўтай травы. У гэтую пастку і шаснуў абедзвюма пярэднімі нагамі конь Халадка і адразу ж зламаў сабе шыю.
Воі ў разгубленасці спыніліся, пачалі паварочваць коней назад. Дый самі коні, хоць ты іх забі, ні пядзі не ступілі ўперад, бо там, у дыме, у агні, страшна ржаў, а потым захроп, паміраючы, іхні таварыш.
— Халадка ўзяў Жыжаль, уладар падземнага агню! Ратуймася! — спалохана закрычаў тонкі юначы голас. Гэта зноў быў Грыкша.
Воі, няшчадна б'ючы коней шпорамі, густым бязладным натоўпам хлынулі назад. Каля ямы, у якую праваліўся Халадок, засталіся Вячка, Ніцын і чамусьці Грыкша. Пэўна, малодшы дружыннік, або дзецкі, як іх называлі, так спалохаўся, што страціў уладу над сваімі рукамі і нагамі.
Вячка напачатку як бы здранцвеў ад нечаканасці. Але адразу ж саскочыў з Печанега, сціскаючы ў руцэ кап'ё, прыжмурваючы вочы ад іскраў і дыму, не пабег і не пайшоў, а папоўз да ямы. Так ён не раз рабіў ранняй зімой, калі лёд на Дзвіне быў тонкі і лёгкі, як дыханне, і калі разам з дружынай трэба было нечакана для селаў і літоўцаў набегчы на іхні бераг.
Ён дапоўз да ямы, канец кап'я працягнуў Халадку. Вой схапіўся за кап'ё, па пояс выстрыкнуўся з дымнай іскрыстай пасткі, і ў гэты момант кінулі аркан, вяроўкай абвілі грудзі, выцягнулі яго ў бяспечнае месца.
Ён ляжаў заплюшчыўшы вочы і, здавалася, не дыхаў. На твар яму лілі дзвінскую ваду, якую воі прыносілі ў шаломах.
Калі Вячка нахіліўся над ім, Халадок з цяжкасцю ўзняў кароткія абгарэлыя вейі, прашаптаў:
— Я цябе, князь, кап'ём выратаваў, і ты мяне...
Мы — браты па кап'ю. Дзякуй табе...

І знясілена прыжмурыў павекі, патушыўшы сіні агонь вачэй. Вяснушкі на ягоным роўным прыгожым носе былі, як жоўтыя зорачкі мёду на белым малацэ.
Вячка адчуў, як радасць і незразумелая пяшчота мякка агортваюць сэрца. Ён заўсёды любіў адважных, прыгожых людзей, бо сам быў з іхняга семені, і ён сказаў, лёгка паляпваючы, нібы гладзячы воя па плячы:
— Мы — браты па кап'ю.
Змайстравалі паходныя насілкі — між двух коней нацягнулі перавітыя яловымі лапкамі рамяні — і, спусціўшыся да самай Дзвіны, накіраваліся ў бок Герцыке. Рака пакорна лізала абдымленыя конскія капыты.
На трэці дзень дарогі мінулі Асоцкае гарадзішча, дзе сядзелі воі герцыкскага князя Усевалада, або Вісвальда, як называў яго Ніцын са сваімі латгаламі, і нарэшце ўбачылі Герцыке. Яна, хацеў бы гэта прызнаць Вячка або не хацеў, была і прыгажэйшая і буйнейшая за Кукейнос. Горад велічна ўзвышаўся на стромым беразе, ззяў чырвоным золатам царкоўных купалоў, шумеў багатым людным торжышчам. Пасад быў апаясаны высокім земляным валам з дубовымі забароламі. На пасадзе шчыльна цясніліся сядзібы рамеснікаў і гандлёвых людзей, весела дыміліся іхнія лазні. Царква пракляла лазні, назвала паганскай забаваю, бо ў іх не толькі абмываюць грахоўную плоць сваю. У святыя дні простыя людзі прыносяць у лазні, хаваючыся ад папоў, яйкі і масла і пакідаюць сваім нябожчыкам. З'ядуць мышы падарункі, не пакінуць ні крошкі, а ўсе думаюць, што ў лазні продкі смачна вячэралі, нашчадкаў сваіх хвалілі. Як бы там ні было, а лазні ў Герцыке дыміліся весела, і ўсім было відно, што жыве тут вясёлы здаровы народ. Для дружыны князя Вячкі апусцілі пад'ёмны мост, затрубілі ў баявыя трубы на забаролах. На высокай надваротнай вежы, якая ахоўвала ўваход у горад, узвіўся сцяг Усевалада і Герцыке — чырвоны, з белым крыжам. Гэта не вельмі каб спадабалася Вячку. Ён падумаў: "Свой сцяг завёў князь Усевалад, хоць, як і я, падданы Полацка. А я сваіх вояў вяду ў сечу пад старадаўнім полацкім

сцягам — белым, з харобрым коннікам, які ўздымае дзясніцу з мячом".

Князь Усевалад з княгіняй-аўкштайткай[1], маладой, прыгожай, светларусай, сустрэлі Вячку на высокім ганку свайго церама. Вакол князя тоўпіліся баяры, у багатых сукнях, у сабаліных шапках, хоць добра прыпякала сонца.

Вячка, пакінуўшы каня воям, ішоў да ганка, і халопы князя Усевалада раскочвалі, рассцілалі перад ім цудоўны рамейскі кілім, на якім золатам былі вытканы львы і арлы. "Багата жыве Усевалад",— думаў Вячка, цвёрда стаўляючы ногі ў запыленых паходных поршнях на заморскія дзівосы. Яму ўспамінаўся драўляны церам у Кукейносе, хворая дачка Соф'я, дзікія вочы пераможанага тэўтона і нянавісць у гэтых вачах. "Адсюль далёка да Рыгі,— думаў Вячка,— але не настолькі далёка, каб на пазалочаны дах Уладзіміравага церама не ўпалі іскры з тэўтонскіх кастроў".

Князь Усевалад спусціўся з ганка насустрач Вячку, абняў, пацалаваў у шчаку, сказаў хрыплаватым голасам:

— Вітаю цябе, брат мой. Хлеб і мёд Герцыке будуць тваімі.

У князя былі шэрыя стомленыя вочы, пакамечаны бяссонніцай твар. Затое ярка ззяла на князю наборная сталь, падарунак епіскапа Альберта. Яна складалася з некалькіх дзесяткаў прамавугольных і квадратных пласцін, злучаных між сабою раменьчыкамі. Грудзі закрывала стальная круглая бляха, якую тэўтоны называюць умбонам. У тэўтонаў у Рызе ўжо ёсць цэлы атрад вояў, апранутых у наборную браню. Імя ім — жалезаносцы.

— Мір табе, князь,— сказаў Вячка Усеваладу, потым павярнуўся да прыгажуні княгіні, схіліў перад ёю калена.

— Мір табе, княгіня Юрга.

Пакланіўся баярам:

— Мір вам, мужы княжыя, людзі вятшыя[1].

---

[1] А ў к ш т а й т ы — жыхары паўднёва-ўсходняй Літвы.

[1] В я т ш ы я — лепшыя, багатыя баяры.

Рукою ў баявой пальчатцы шырока павёў наўкруг сябе:
— Мір табе, слаўны град Герцыке.
Як толькі ён скончыў, у княжацкай царкве ўдарылі ў звон. Урачыста сустракаў князь Усевалад князя Вячку.
Надворныя чаляднікі павялі коней у стайню, кукейноскіх вояў запрасілі ў малую трапезную піць мёд, гуляць у косці. Князя Вячку і латгальскага старэйшыну Ніцына частаваў у вялікай трапезнай сам Усевалад. Перад гэтым княгіня Юрга паліла ім на рукі з залатой карчажкі, паднесла льняныя ручнікі.
Яна была апранута ў белую шаўковую сукенку з вышываным срэбным узорам. Плечы аблягала блакітнае, затканае золатам карзно. Вялізная залатая грыўня ззяла на тонкай пяшчотнай шыі — Вячка ўбачыў сінюю жылку, што ўздрыгвала, пульсавала на шыі. Абута княгіня была ў чырвоныя саф'янавыя боцікі. На свае светлыя, злёгку кучаравістыя валасы павязала белую палатняную павязку, якую літоўцы называюць нуаметас. "Сумуе па радзіме",— падумалася Вячку. Але за сталом княгіня Юрга была вясёлая, выпіла крышачку хмельнага мёду, заружовілася, як летні яблычак. Вячка не-не дый лавіў закаханыя позіркі, якія князь Усевалад, суровы грубаваты вой, кідаў на сваю прыгажуню жонку. Так, ён моцна кахаў яе. І калі епіскапу Альберту, вераломнай рыжскай лісе, удасца схапіць княгіню Юргу разам з яе дзецьмі і служанкамі, кінуць у халодную цямніцу, князь Усевалад, як паранены журавель, прыляціць у Рыгу, аддасць Альберту свае княства, багацце, свой гонар, адмовіцца ад прадзедаўскай праваслаўнай веры, стане рабом епіскапа, абы толькі выратаваць сваю жонку, абы толькі бачыць зялёныя сумныя любімыя вочы. Але гэта будзе пазней, а ў гэты серпеньскі вечар, у лета 6715-е, княгіня Юрга, весела смеючыся ("Яе голас, як ручаёк",— думаў Вячка), налівала з карчагі п'яны густы мёд.
— Ад прышлых тэўтонаў усе нашы няўдобіцы,— сказаў Вячка.
Ярка гарэлі вітыя свечкі ў срэбных падсвечніках.

Воск са слабым трэскам сплываў па свечках. У князя Усевалада быў добры ружовы твар.
— Што ж будзем рабіць, князь Вячаслаў? — спытаўся ён.— Мы з табой васалы. А васал, калі моцна прыпячэ, можа знайсці сабе новага гаспадара.
— Не тое кажаш, князь Усевалад,— успыхнуў Вячка.— Мы Полацку служым, а не Уладзіміру Валадаравічу. Сваёй зямлі служым. Яна не дарує нам слабасці, хітрасці, крывадушша. Я на мяжы сяджу, я сваёю скураю адчуваю тэўтонскі агонь.
— Што ж рабіць? — глянуўшы на жонку, перапытаў Усевалад.
— Меч на меч, косць на косць трэба ісці.
— Дружына ў мяне слабая. Жалеза і хлеба ў мяне мала,— паскардзіўся Усевалад. Патрэскваючы, пускаючы сіненькі дымок, пamіралі свечкі.
— У літоўскіх лясах думаеш адсядзецца? — адсунуў ад сябе карчагу Вячка.
Але Усевалад не пакрыўдзіўся. Ён быў чалавек памяркоўны, асцярожны, жыццё на літоўскім парубежжы навучыла яго разважлівасці і цярплівасці. Слова ў яго ішло наперадзе мяча. Ён быў старэй за Вячку на пятнаццаць сонцаваротаў і ў душы злёгку пасмейваўся над шчанячай гарачлівасцю маладога князя.
— Я ў Полацк іду,— не дачакаўшыся адказу ад Усевалада, страсна загаварыў Вячка.— Да князя Уладзіміра іду. У новы паход супроць тэўтонаў трэба ўзнімацца. Пра паход з вялікім князем буду размову весці. Рыхтуйся і ты, князь Усевалад. Усе ведаюць мужнасць тваіх вояў, сілу тваіх харалугаў[1]. Калі ж не пойдзеш на Рыгу — загінеш. Спачатку Кукейнос растопчуць тэўтоны, а потым і да Герцыке іхнія коні дабягуць. Рыхтуйся, князь. І цесця свайго Даўгерута кліч з усёю Літвою.
Усевалад зноў, як мудры ліс, увільнуў ад адказу. Замест гэтага сказаў княгіні Юрзе:
— Княгінечка, загадай, каб прыйшлі сюды гудошнікі, дудары і гусляры. Хай граннем сваім нас пацешаць.
Увайшлі музыкі, селі на лавах, абабітых звярынымі

---

[1] Х а р а л у г а — меч.

шкурамі. Стары сівагаловы гудошнік лёгка ўскінуў да пляча свой трохструнны гудок, ударыў па струнах смыком. Смык быў зроблены з галінкі вербалозу і конскага воласу, нацёртага смалой-жывіцай. Пранізлівы голас падхапілі дудка і гуслі, падхапілі мякка, але зладжана і надзейна — так шырокая рака прымае ў свае абдымкі гарэзу ручаёк. І нібы поле ўбачылася Вячку. Нібы вецер паляцеў з таго бязмежнага туманнага поля. І такая шыр, такая прастора былі наўкол. Маленькія вочкі азёр трывожна ззялі на далёкім небасхіле. Дзікія гусі крычалі пад хмарамі. Касцёр, шумлівы, іскрыста-залаты, падміргваў са змроку. І нечая постаць бачылася ля кастра... Жанчына... Маці... У яе бледны заплаканы твар і тонкія крылатыя бровы... Навошта ты так рана памерла, мама?
— Хачу я цябе, князь Вячаслаў, да кунігаса Даўгерута запрасіць,— сказаў як бы між іншым Усевалад. Пры гэтых словах княгіня Юрга ўскочыла са свайго месца, весела запляскала ў ладкі:
— Да татулі едзем! Да татулечкі!
І пацалавала Усевалада ў шчаку.
Назаўтра на пяці шкутах пераправіліся на паўднёвы бераг Дзвіны і нібы ў пельку праваліліся, згубіліся ў бясконцасці суровых дрымучых лясоў. У Герцыке застаўся Халадок, якога пачаў лячыць ад апёкаў мясцовы зялейнік, і латгальскія лучнікі. Латгалаў князь Усевалад не захацеў браць з сабою.
Княгіня Юрга, як і ўсе, ехала на баявым войскім кані. На светлых валасах прыгожа сядзеў маленькі пазалочаны шлем з доўгім пяром шэрай чаплі. Княгіня смяялася, жартавала, твар свяціўся шчасцем.
У Даўгерута не было пастаяннага горада або замка, у якіх бы ён сядзеў з дружынаю. Няўтомны кунігас, як хутка624ногі алень, бегаў па бязмежных пушчах і балотах — сёння быў тут, заўтра там. Толькі сляды ад паходных кастроў пакідаў за сабою.
Але князь Усевалад, мяркуючы па ўсім, добра ведаў сцежкі свайго неспакойнага цесця, бо ўжо на трэці дзень, быццам прывіды, выскачылі з лесу на калматых моцных конях аўкштайты, узялі, як яны гэта звычайна робяць, у кола вояў Усевалада і Вячкі. Цэлячыся з лукаў, размахваючы мачугамі і баявымі

сякерамі, яны насіліся на конях узад-уперад, усё тужэй сціскалі колы, і справа б скончылася вялікай крывёю, калі б літоўцы не пазналі княгіню Юргу, сваю Юргу.
Даўгерут, з цяжкай стальной сякерай у руцэ, з капой светлых, як у дачкі, валасоў, быў сумны. Дні чатыры назад каля Гольма тэўтонскія арбалетчыкі падстрэлілі яго вернага ваяводу, і ваявода паміраў, захлынаючыся ўласнай крывёю, якая цякла і цякла з горла.
Са святліцы, у якой канаў ваявода, вынеслі ўсё насенне — жыта, гарох, бо насенне, пабыўшы побач з нябожчыкам, загіне, ніколі больш не ўзыдзе. Ваявода паміраў, і ніхто ў цэлым свеце, нават сам Пяркунас і Крыва-Крывейта[1], не мог зрабіць так, каб зноў запалала сонца ягонага жыцця.
Пасля смерці цела ваяводы вымылі ў лазні, апранулі ў белую доўгую кашулю, пасадзілі на высокае драўлянае крэсла. Кунігас Даўгерут з кубкам піва ў руках, усхваляваны, сумны, звярнуўся да нябожчыка:
— П'ю за цябе, незабыўны сябра. Помніш, як добра мы білі тэўтонаў, як хадзілі на эстаў? Помніш, як па некалькі начэй не злазілі з сядла, як спалі на снезе і пад дажджом? Помніш, як ты засланіў мяне ад стралы? Ты — шчаслівы. Пра цябе будуць спяваць нашчадкам галасістыя вайдэлоты[2].
Мёртвы ваявода сядзеў на крэсле і, здавалася, вельмі ўважліва слухаў словы свайго сябра. Голас у кунігаса зазванчэў:
— Навошта ты нас усіх пакінуў? У цябе ж была добрая жонка, дзеці, добрыя сябры. У цябе было шмат жывёлы, адзення. Кланяйся на тым свеце свайму і майму дзеду, свайму і майму бацьку, нашым воям, якія палеглі ў сечах. Жыві з імі ў згодзе.
Нябожчыка перапаясалі баявой сякерай, на шыю завязалі ручнік, у які кінулі некалькі манет. У магілу паклалі хлеб з соллю і піва, каб ваявода пасля жорсткіх бітваў на нябесных дарогах (у небе ж

---

[1] К р ы в а-К р ы в е й т а — легендарны літоўскі першасвяшчэннік.
[2] В а й д э л о т ы — літоўскія жрацы.

таксама бываюць бітвы!) мог падсілкавацца харчамі з роднай зялёнай Літвы.
На ахвярным кастры спалілі каня і сабаку, якія верна служылі ваяводзе, лук, калчан са стрэламі, меч.
Потым паклалі рысіныя і мядзведжыя кіпцюры, каб нябожчыку было добра залазіць на гару, на якой сядзіць Той, што судзіць мёртвых.
Толькі пасля пахавання ваяводы кунігас Даўгерут усміхнуўся сваёй дачцэ і зяцю, усміхнуўся Вячку. І аказалася, што ў яго вельмі прыгожая ўсмешка і што ён добра ўмее частаваць гасцей.
— Госць у доме — Бог у доме,— сказаў ён Вячку.— Мы з Полацкім княствам суседзім і стараемся жыць з ім у міры.
— Дзякуй за добрыя словы, кунігас,— усміхнуўся Даўгеруту Вячка.— Пад адным небам мы жывём, з адных рэк баявых коней поім, адны пушчы нам шумяць. І так будзе да скону веку. Хай будуць моцныя Полацк і Літва. Але час нам усім глянуць на захад. З мора вылез вурдалака, які хоча пажэрці нашы нівы і нашы борці, праглынуць нашых дзяцей. Час брацца за меч, кунігас.
Пры гэтых словах Даўгерут пасуровеў, надоўга задумаўся.
— Што ж маўчыш, кунігас?
— Чатыры сонцавароты таму назад разам з Усеваладам я хадзіў на Рыгу,— нарэшце парушыў маўчанне Даўгерут.— Коней тэўтонскіх, што пасвіліся за валам, у палон забраў. Рыцараў рыжскіх пабіў, якія рыбу ў рацэ лавілі. А чатыры дні назад ужо тэўтоны на маю зямлю набеглі, ваяводу майго на той свет адправілі.
— Дык адпомсці за ваяводу! — выгукнуў Вячка.
— За ваяводу я ім адпомшчу, але трошкі пазней. Раны трэба залячыць, сілу сабраць у адзін кулак.
Вячка нахмурыўся, сказаў рашуча і рэзка:
— Чуў я, кунігас, што зноў хочаш ісці на чудзь, на эстаў. Чуў я, што багаты ўраджай думаюць сабраць эсты ў свае свірны.
Даўгерут злосна бліснуў цёмнымі вачамі.
— Але ж і ты, князь Вячка, бярэш даніну з ліваў. Хіба я папікнуў цябе гэтай данінай? Бяры, калі Бог за цябе і калі маеш сілу. У кожнага свой корм.

— У кожнага свой корм,— згадзіўся Вячка.— Яшчэ мае прадзеды, полацкія князі, хадзілі па Дзвіне браць даніну. І лівы плацілі даніну. І дапаможнае войска, калі Полацк ваяваў, выстаўлялі.
— Чаго ж ты хочаш ад мяне? — пранізліва глянуў на Вячку Даўгерут.
— Не ідзі сёлета на эстаў. Разам з Полацкім княствам, разам з Ноўгарадам, разам з зяцем сваім Усеваладам, са мной і з эстамі ідзі на Рыгу. Выкінем псоў у мора!
— Не магу. Рыга пачакае, не зляціць у неба.
— Кунігас, кунігас, не такія словы я хацеў пачуць ад цябе. Пастарэў ты, кунігас.
— Я пастарэў?
Даўгерут выцягнуў з похваў шырокі літоўскі меч, сказаўшы Вячку: “Ідзі за мною”, выйшаў са святліцы. На двары каля дубовага тыну расла бярозка. Даўгерут сашчэрыў зубы, прыжмурыў цёмныя вочы і, глуха гыхнуўшы, шырока махнуў мячом, адным ударам ссек бярозу пад корань.
— І ўсё роўна пастарэў ты,— сказаў Вячка.— Сэрцам пастарэў. Адвагай сваёй пастарэў.
Надвячоркам таго ж дня Вячка, не вяртаючыся ў Герцыке, праз лясы і балоты рушыў на Полацк. Трывожна ззялі пад святлом маладзіка шлемы і шчыты вояў. Глуха грукалі конскія капыты па каранях пракаветых дрэў. У струхлелых пнях звіваліся клубком гадзюкі. Таіліся ў дуплах совы і пугачы.

# I



лопчык ганяўся за матыльком. Матылёк быў вялікі, дужа прыгожы, з шырокімі цёмна-чырвонымі крылцамі, на якіх бачыўся незвычайны малюнак — сінія і зялёныя рыскі спляталіся ў адзіны вузел, і нібы чалавечы воблік праступаў з гэтага хітра заплеценага вузла. За свае дзесяць сонцаваротаў хлопчык такога матылька сустрэў упершыню і таму вельмі хацеў спаймаць яго, хацеў весці яго ў руках, склаўшы далоні кубарыкам, пагуляць з ім, пацешыцца, а потым паказаць маці.

Яны мітусіліся на цёплым сонечным лужку, між травы і кветак. Матылёк як бы дражніў малога. То высока ўзвіваўся ўгору, нібы іскра з вогнішча, то, робячы шырокія плаўныя кругі, раптам садзіўся на якую-небудзь аблюбаваную кветку і сам рабіўся кветкай, і нялёгка было зноў убачыць яго.

Хлопчык то прыпадаў да самай зямлі, заміраў і чуў, як усхвалявана трапечацца разагрэтае вясёлым паляваннем сэрца, то кідаўся на кветку з матыльком, сціскаў галоўку кветкі ў далонях, але ў самы апошні міг, з-пад самага носа ў яго, матылёк вырываўся ў неба.

Горача свяціла сонца. Быў яркі летні поўдзень з мяккімі белымі воблачкамі ў сінім небе, з лёгкім ветрыкам. Мясціна, дзе гулялі хлопчык з матыльком, знаходзілася на невысокай травяністай выспе, у самым сутоку дзвюх рэк. Якраз тут залатая ад сонца Свіслач улівалася ў срэбную ад сонца Бярэзіну. Чуўся плёскат вады. Лётала мноства прыгожых стракоз. Але матылёк быў адзін, адзін на цэлым свеце, і толькі за ім цікавалі радасна-

насцярожаныя карычневыя вочы хлопчыка.
Маці ішла непадалёку, несла ў белай кужэльнай посцілцы вялізнае бярэма лугавых і рачных кветак, духмянай сакаўной травы. Дома яна разбярэ ўсю гэту прыгажосць на тоненькія пучочкі, будзе сушыць да самых маразоў, і тады іхняя невялікая хатка напоўніцца такімі багатымі, такімі дзівоснымі пахамі, што аж бычыны пухір, якім зацягнута акно, разадзьме свае поўныя шчокі і нібы засмяецца.
Часам маці спынялася, здымала з плячэй клунак, нізка нахіліўшыся, нешта шукала ў траве. Потым узнімала галаву, прыклаўшы ад сонца стрэшкай далонь да вачэй, гукала сына:
— Мірошка!
— Я тут,— ціха азываўся хлопчык, каб не спудзіць прыгажуна матылька, які зноў уладкоўваўся на залітую сонцам кветку.
Нарэшце Мірошку пашанцавала. Ён кінуўся грудзьмі ў траву, тварам упаў у гарачыя кветкі і схапіў, злавіў матылька. Радасць распірала грудзі. Ён перавярнуўся на спіну, убачыў над сабой сакавіты блакіт. Мірошка захлынуўся ад шчасця.
— Мама, паглядзі! — закрычаў ён.— Я злавіў!
Маці здзіўлена азірнулася, трымаючы ў руках зялёны пук травы. Срэбная гарошына поту кацілася па смуглым ілбе сына.
— Я злавіў! — крычаў Мірошка.
Сынаў голас, падалося ёй, разлятаўся над Свіслаччу і Бярэзінай, над сінімі зарэчнымі лугамі і лясамі, над усім светам. Сынаў голас, падалося ёй, аж да аблокаў даляцеў.
— Ты што, сынок? — ціха спыталася маці. А ён ужо бег да яе, босы, русагаловы, у расхрыстанай палатнянай кашулі. Медны крыжык агніста блішчаў на загарэлых грудзях.
— Паглядзі...
Ён асцярожна, вузенькай шчылінкай адкрыў цесна сплеценыя далоні, быццам нёс у іх ваду і баяўся праліць нават кроплю.
— Ён жывы,— часта дыхаючы, сказаў Мірошка і глянуў маці ў вочы: — Прыгожы?
Але вочы маці, такія добрыя, такія светлыя, у адно імгненне пацямнелі, спалохаліся, зрабіліся калючымі і непрыгожымі. Мірошку страшэнна

ўразіла, усяго скаланула такая раптоўная перамена ў матчыных вачах.
— Што ты нарабіў, сынок? — бялеючы ў шчоках, прашаптала маці.— Ты загубіў душу продка. Вой-вой... Мне аж зімна робіцца. Ты душу продка забіў.
Клунак упаў у яе з плячэй. Плечы паніклі. Вочы патухлі. Мірошка, як аглушаны громам, з непаразуменнем глядзеў на маці. Адчуванне нечага жахлівага, непадуладнага розуму зрабіла мяккімі, як не сваімі, ногі. Успацелі далоні рук, і ён расшчапіў далоні, і матылёк, нязграбна махаючы крылцамі, як бы кульгаючы, паляцеў у бок ракі.
— Ты пакалечыў душу продка. Але, дзякуй Богу, яна жывая.
Маці апантана перахрысцілася, ухапіла Мірошку за руку, ускінула на плячо клунак з травою і амаль бегма пашыбавала дадому, у Гарэлую Весь.
Яны хуценька ішлі праз лес. З густога хмызняку, лопаючы крыллямі, раптам спалохаўшыся іх, ірванулася сава — вялікі знобкі цень махнуўся над імі. Мірошка з маці аж прыселі з перапуду. Сава праляцела нізка над сцежкаю.
Прайшоўся па вяршалінах верхавы вецер. Цёмны лес ажыў, загуў, замахаў галінамі-рукамі.
“Ты пакалечыў душу продка”,— нібы чулася Мірошку ў гэтым густым гняўлівым гудзе, і хлопчык уздрыгнуў, яшчэ мацней прыляпіўся да матчынай рукі, яшчэ шпарчэй замільгалі чорныя цвёрдыя пяткі. “Хутчэй бы дадому,— думалася яму.— Хутчэй бы ўбачыць брацІка з сястрычкай і бацьку”.
Сцежка прадзіралася праз яловую і асінавую гушчэчу. Магутныя дрэвы засланялі сонца, і ў лесе панаваў срэбна-шэры паўзмрок. Маці не казала ні слова, моўчкі праставала ўперад. Сэрца ў Мірошкі калацілася ад страху і ад стомы.
Нарэшце запахла цёплым дымам, забрахалі сабакі, забэкалі авечкі — з-за дрэў паказалася Гарэлая Весь. Пятнаццаць або дваццаць дворышчаў паўкругам ляпіліся на дзірвановым узлобку, які вытыркаўся пасярод яловых і бярозавых лясоў. Некалі Пярун кінуў вогненную стралу з неба, і весь узялася полымем, згарэла датла. Доўга людзі, продкі Мірошкі, ваявалі з агнём — закідвалі яго

зямлёй, хвасталі яловымі лапамі, выганялі са старых пнёў, з дуплаў дрэў. Нанова адбудавалі весь і назвалі яе Гарэлай Вессю.
Лес-драмняк, што з усіх бакоў аточваў весь, вельмі пацярпеў ад вогненнай буры. Агонь злізаў з дрэў кару, і яшчэ й зараз не-не ды ўбачыш чорны дуб альбо чорную бярозу.
У весі спакон веку жылі абшчынаю па ўставах і ўроках князёў свіслацкіх смерды-рольнікі. Мёдам, воскам, бабрамі і куніцамі расплачваліся яны з князямі, давалі коней для княжацкіх паходаў. Затое ніводная суседская абшчына, баючыся князя, не кратала, не перачэсвала іхнія межавыя знакі, што сякераю высякаюцца на дрэвах, і сядзелі смерды на прадзедаўскай зямлі, і зямля гэта іх карміла.
Тры, чатыры, пяць летаў радзіла зямля, але паступова сіла яе слабела, як бы замірала. І тады ўсёй абшчынаю наступалі на лес, высякалі і палілі яго, карчавалі пні, рыхтавалі новую раллю. А пакінутае поле пакрысе зарастала хмызняком, лядзела.
Хаты ў Гарэлай Весі былі зрублены з асінавых круглякоў, чатырма вугламі стаялі на камянях-рагавіках. Крылі хаты дранкай, але пасля вялікага пажару некаторыя сем'і вымушаны былі з-за нястачы карыстацца саломаю і чаротам.
— Дзе ты так доўга была, Настасся? — запытаўся Рацібор, бацька Мірошкі. Ён сядзеў на замшэлым валуне каля іхняй хаты, з вялізнай кучы нарэзанай лазы выбіраў доўгія гнуткія лазіны, плёў дзверцы для ёза. Гэтым ёзам перагароджваюць раку ў час лоўлі рыбы. На бацьку была такая ж, як на Мірошку, белая палатняная кашуля, з рудымі плямамі ад поту пад пахамі.
— На Звонкім беразе зелле рвала,— адказала Настасся і пацягнула Мірошку за рукаў: — Ідзі ў хату, стань на калені перад бажніцай і прасі ў Бога, каб дараваў табе грэх.
Мірошка, халадзеючы сэрцам, ступіў у паўзмрок хаты. Падлога ў хаце была вымашчана з шырокіх асінавых дошак. Пахла вымытымі дубовымі лаўкамі, якія стаялі ўздоўж сцен, ільнянымі ручнікамі. Пад закуранай столлю вісела калыска, у якой спаў маленькі брацік Мірошкі Дамажыр. Печ

займала амаль чвэрць хаты. Насупраць печы ў сцяне было прасечана валакавое акно для дыму, якое засоўвалася шырокай дошкай. Для сонца і святла было ў хаце чырвонае акно, большае і весялейшае за валакавое. Свяцец з абсмаленай лучынаю тырчаў з бэлькі. Ад печы да глухой сцяны былі наштукаваны палаткі, на якіх так добра спіцца, калі галосіць спанадворку восеньская халадэча. На сценах і на століі маці панавешвала вяночкі з васількоў і рамонкаў, букецікі з сушаных траў, якія пахлі соладка і дурманна.
Мірошка, ступаючы на пальчыках, каб не разбудзіць брата, прайшоўся ў чырвоны кут, стаў перад бажніцаю на калені. Маці запаліла жоўтую тоненькую свечку. Асвяціўся божы твар на іконе. У Бога былі строгія вялікія вочы, якія пранізвалі душу навылёт, нібы стрэлы вояў князя Рагвалода Свіслацкага. Мірошка асцярожна стукнуўся лбом аб падлогу.
"Божа, выратуй душу прадзеда. Навошта ты яе зрабіў матыльком? Матылёк жа такі слабы, безабаронны. Яго можа кінуць у раку вецер, скляваць птушка. А град? А снег? Куды хаваюцца ўзімку матылькі? Божа, зрабі дзедаву душу лясным голубам або мядзведзем. Лепей мядзведзем, бо людзі паважаюць і баяцца яго".
Мірошка гутарыў з Богам, і нечаканыя, незразумелыя сабе самому думкі захліствалі галаву. Ён баяўся гэтых думак, але яны накочваліся, як хваля на бераг, і не было ад іх паратунку.
Які Бог галоўны? Гэты — у хаце, на абразах, ці той, які хаваецца ў лесе і які вычасаны з высокага дубовага кругляка? Маці моліцца гэтаму Богу, баіцца яго, але часам ходзіць і да таго бога, ляснога. Ходзіць крадком і падарункі яму носіць. Як ён, Мірошка, ні прасіўся, маці ні разу не ўзяла яго з сабой у адведкі да лясного бога. Усё-такі, пэўна, гэты хатні Бог галоўны, бо лясны стаіць пад дажджом і снегам, з непакрытай галавою, стаіць уначы, і ніхто не паліць перад ім свечак. На лясного бога, пэўна ж, запаўзаюць мурашкі, садзяцца стракозы... А хатняму Богу заўсёды цёпла і ўтульна.
Раптам за спінаю ў Мірошкі нешта грукнула. Ён спужана азірнуўся — падалося, што вылазіць з-пад

печы дамавік Чур, дух мёртвых продкаў. Мірошка ніколі не бачыў яго, але кажуць, што ў Чура на галаве рожкі, на руках і нагах не пальцы, а капыткі. Ды замест Чура перад Мірошкам стаяў стрый[1] Якаў, трымаючы ў руках лук. На поясе ў Якава вісеў скураны тул[2] са стрэламі. Якаў быў старэй на шэсць сонцаваротаў за Мірошку, але яны сябравалі, не было ў іх між сабою тайнаў. Мірошка вельмі ўзрадаваўся Якаву, бо страшна было аднаму ў змрочнай ціхай хаце.

— Нехта парушыў нашы борці,— сказаў, усміхаючыся, Якаў.— Ці ліха чалавек, ці мядзведзь. Ты хочаш, Мірошка, есці мёд? Гайда са мною — праверым, хто любіць наш мёд.

— Пайшлі, Якаў,— не хаваючы радасці, усклікнуў Мірошка. Багі — і хатні, і лясны — ужо трохі надакучылі яму, ён баяўся іх і рашыў хутчэй пайсці ў лес, каб абміраючы душой, не думаць пра багоў, не чакаць іхняга гневу.

Ён любіў Якава і зайздросціў яму. Ён хацеў хутчэй вырасці такім спрытным, дужым, адважным і вясёлым, як Якаў.

Выйшлі на двор. Ярка-белыя дробныя трэскі валяліся на зямлі. Мірошкаў бацька вычэсваў плечавіны для ёза. Бледна-залаты шар сонца дасягнуў у небе вышэйшай кропкі і пачаў скочвацца ўніз. Гулі чмялі і пчолы.

Якаў ішоў наперадзе, высокі, гнуткі, хуткі. Мірошка ледзь паспяваў за ім. Загаласілі, запішчалі вечаровыя камары.

Якаў, хоць быў дзядзькам Мірошкі, братам ягонага бацькі, жыў у іхняй хаце, у іхняй сям'і. Бацькі ягоныя загінулі ў час вялікага пажару, сваю сям'ю ён яшчэ не займеў, і даводзілася перабівацца па чужых кутках. Мірошкаў бацька апошнім часам усё часцей хмурыўся, усё глыбей уздыхаў, але пакуль што маўчаў.

Яны ішлі па вечаровым лесе, і Якаў казаў Мірошку:

— Хочаш, вунь у тое дрэўца патраплю стралой? Хочаш, з елкі шышку саб'ю?

І страляў, і трапляў у дрэўца, і збіваў шышку, і

---

[1] С т р ы й — дзядзька па бацьку.

[2] Т у л — калчан.

смяяўся. Мірошка захапляўся яго спрытам і зайздросціў яму.
Нарэшце падышлі да бортных дрэў. Жыхары Гарэлай Весі ставілі на бортных дрэвах, кожны на сваіх, "знамёны" — знакі, якія гаварылі ўсім навакольным людзям, каму належыць тое ці іншае пчалінае гняздо. Мірошкаў бацька звычайна высякаў на дрэвах дзве стралы, што перакрыжоўваліся адна з адною.
Няпростая справа прывабіць пчол, вольных мітуслівых працаўніц, у свой вулей. Трэба папрацаваць, трэба апырскаць сваю борць настоямі з пахучых траў і кветак, мёдам, воцатам. Асцярожныя пчолы высылаюць ва ўсе бакі разведчыкаў, якім трэба адшукаць для пчалінай сям'і жытло. Паселяцца пчолы ў борці, пачнуць насіць мёд, мацнець, набіраць сілу, ды раптам прыходзіць вялікі ласун, мядзведзь са сваёй заграбастай лапай. Супроць мядзведзя робяць падкуры — укопваюць каля дрэва вострыя тоўстыя колікі, навешваюць каля вулляў гладкія цяжкія бярвенні. Кране мядзведзь бервяно лапай, хоча адкінуць яго ўбок, а яно вяртаецца і балюча б'е мядзведзя па галаве. Аж раве мядзведзь, шалее, б'е бервяно лапамі, ды бервяно, як жывое, адказвае ўдарам на ўдар.
Мірошка з Якавам якраз і ўбачылі такога мядзведзя. Грозна равучы, ён лез на падкур па мёд. З дрэва злупілі перад гэтым кару, яно было голае, лапы ў мядзведзя слізгалі, ды мядзведзь (хто толькі яго навучыў?) цёрся лапамі аб лясную зямлю, набіраў на кіпці ігліцы і пяску і зноў спрабаваў забрацца на дрэва.
Якаў нацягнуў цеціву лука, і страла са свістам упілася мядзведзю ў сцягно. Ён ярасна зароў, зваліўся з падкура, узняўся ва ўвесь рост, пагрозліва памахаў усяму наваколлю лапамі, але ўсё-такі забыўся пра мёд, борздзенька пабег у свой бярлог.
— Будзеш ведаць, як хадзіць у чужы мёд,— смеючыся, сказаў Якаў.— Мядзведзь разумней за некаторых людзей. Лезе, лезе на дрэва — бух! — зваліўся. Ні стогну, ні енку — сам вінаваты. Але ідзе па лесе, шышка з елкі ўпадзе, стукне па лбе — як падскочыць мядзведзь, як зараве, як зазлуе!

Смяхоцце, дый толькі.
Падышлі да ляснога ручая. Мірошка прыклаўся губамі да струменьчыка, папіў вады.Ружовыя промні вечаровага сонца мякка асвятлялі палянку, на якой прыпыніліся Якаў з Мірошкам.
Па беразе булькатлівага ручая, прадзіраючыся праз хмызняк, дабраліся да Свіслачы. Мноства баброў працавала тут. Бабры рэзалі дрэўцы, сплаўлялі іх уніз па цячэнню.
— Глядзі,— раптам зашаптаў Якаў і рукою, у якой трымаў лук, паказаў на раку. Нізка седзячы ў вадзе, з супрацьлеглага берага плыў човен. Малады светлавалосы хлопец, стаўшы на левае калена, часта і моцна гроб шырокім вяслом. За спінаю у хлопца сядзелі двое мужчын у высокіх магерках[1] з белай воўны, насцярожана ўзіраліся ў надрэчны хмызняк, дзе затаіліся Якаў і Мірошка.
Човен вузкім носам урэзаўся у шархатлівую асаку. Незнаёмцы выскачылі на бераг, пахапкам азірнуліся, выцягнулі з чоўна чалавечы труп і, ломячы зялёны чарот, па калена правальваючыся ў твань, хуценька панеслі яго ў глыб лесу. Хлопец-вясляр застаўся ля чоўна. Праз нейкі час мужчыны ў белых магерках вярнуліся, пакінуўшы труп у лесе. Човен панёсся туды, адкуль толькі што прыплыў.
Мёртвы стары з вялікай лысай галавою ляжаў на пясчаным пагорку. Зялёная муха поўзала па маршчыністай шчацэ. Страла з абламаным апярэннем тырчала ў старога ў грудзях.
— Хто яго забіў? — шэптам спытаўся Мірошка.
— Людзі з таго берага,— не зводзячы вачэй са старога, таксама шэптам адказаў Якаў.— Але яны, ты бачыў, прывезлі труп сюды, на зямлю нашай абшчыны. Яны хочуць, каб наша абшчына заплаціла князю Рагвалоду Свіслацкаму дзікую віру. Бяжым у весь, Мірошка.
"Дзікая віра! Дзікая віра!" — панеслася па Гарэлай Весі пасля таго, як туды прыбеглі Якаў з Мірошкам. Гэта былі страшныя словы. Стагадовыя дзяды разам з маленькімі карапузікамі, якія толькі што навучыліся хадзіць, пачуўшы гэтыя словы,

---

[1] Магерка — мужчынская шапка.

шчыльней зачынялі дзверы хат, з асцярогаю пазіраючы на пацямнелыя вечаровыя вокны. З навакольных лясоў і балотаў паўзла ў весь трывога, нават, здавалася, паветра было насычана ёю. Галасілі жанчыны. Ніхто не мог заснуць. Самыя адважныя мужчыны, узяўшы сякеры і рогвіцы, з якімі ходзяць на мядзведзяў, запалілі каля дубовага крыжа, што стаяў на ўскраіне Гарэлай Весі, вогнішча, гуртом сядзелі ўкруг яго.
Чаму ж так напалохала ўсіх дзікая віра? Не з-за грыўняў, якія кожная сям'я, кожны дым[1] павінны былі заплаціць за тое, што на зямлі абшчыны знойдзена мёртвае цела, а забойца невядомы. Грыўні, як бы ні было нявыкрутна, можна адшукаць. Жахлівым было тое, што нябожчык нёс праклён абшчыне і зямлі, на якой ляжаў. Дакрануўшыся да зямлі Гарэлай Весі, нябожчык як бы атручваў усю гэтую зямлю, яе ваду і траву. Заўсёды пасля такога чорны мор навальваецца на жывёлу і на людзей. Што ні рабі — закопвай труп, спальвай, кідай у рэчку, вязі на чужое поле — пячатка праклёну застаецца. Раней, яшчэ калі не было грэчаскага бога, а людзі маліліся драўляным балванам на капішчах[2], прыносілі чалавека ў ахвяру, і цёплая чалавечая кроў змывала праклён. Але новы Бог, Хрыстос, забараняе пазбаўляць чалавека жыцця.
— Трэба зарэзаць чорнага казла, кроў разліць у ваколіцах весі, а рогі закапаць пад святым крыжам,— параіў абшчыннікам самы стары жыхар весі Гняздзіла. Ягоны дзед калісьці быў вешчуном. Знайшлі чорнага казла, пры святле вогнішча адрэзалі яму галаву, усё зрабілі так, як навучыў Гняздзіла. Трывога трохі адпусціла людзей. Выдзеўблі з тоўстага дуба труну, і пад покрывам ночы самыя адважныя з мужчын, і Якаў паміж імі, узялі нябожчыка, паклалі ў труну, як у човен, і аддалі хвалям Свіслачы, сказаўшы: "Вада дае, вада бярэ".
Мірошка, стаіўшыся на палатках, не мог заснуць. Даўно заснулі бацькі; пахныкаўшы, як звычайна,

---
[1] Д ы м — падатковая адзінка ў старадаўні час.
[2] К а п і ш ч а — месца пакланення паганскім багам.

заснулі брацік Дамажыр і сястрычка Тэкля, а ён, лежачы ў цішыні, зноў і зноў успамінаў твар старога нябожчыка, калі яны з Якавам убачылі яго. Зялёная муха, што паўзла па шчацэ старога, неадчэпна мільгацела ўваччу, і, як ён ні заплюшчваў вочы, як ні варочаўся з боку на бок, не было ад яе паратунку. "Няўжо я таксама памру? — думаў Мірошка.— Няўжо і мяне засыплюць некалі зямлёй? Як жа гэта? Я ж так люблю маці з бацькам, і Дамажыра, і Тэклю. І стрыя Якава люблю. Я люблю слухаць, як булькочуць Свіслач з Бярэзінай, як лес шуміць увесну і ўвосень. Люблю на дождж глядзець. Калі дзятлоў вельмі чуваць, будзе дождж. Сыч крычыць па начах на дождж. Я ўсё гэта ведаю, ад бацькі ведаю. Дык няўжо я памру?"

З вялікім трапятаннем у душы, з вострым страхам і такой жа вострай цікаўнасцю ён звяртаўся ў думках да таго, хто трымае ў сваіх руках усё жывое, хто дае і адбірае жыццё, каму моліцца маці. "Зрабі, каб мы ўсе жылі і ніколі не паміралі,— прасіў ён.— Зрабі, каб прадзедава душа, якую я сёння пакалечыў, не са злосці пакалечыў, не пракляла мяне. Калі ты ўсё можаш, завядзі дзікую віру ў дрыгву, у пясок-плывун, каб яна не знайшла дарогі ў Гарэлую Весь". Мірошка пачаў ужо засынаць, ужо думкі рваліся, блыталіся ў галаве, як павуцінне пад ветрам-свежаком. Але раптам крокі пачуліся спанадворку, лёгкія, хуткія. "Гэта Якаў вяртаецца з лесу, ідзе адтуль, дзе аддавалі рацэ нябожчыка",— адразу ж усхапіўся Мірошка. Ён таропка, але бясшумна спусціўся з палаткаў, адкінуў дубовую завалу на дзвярах, выйшаў пад начное неба. Перуноў Шлях[1] ззяў над Гарэлаю Вессю. Абложна, з усіх бакоў, шумеў лес. На балоце чуўся чэкат дзікіх качак.
— Стрый,— ціха паклікаў Мірошка,— Якаў!
І раптам яму зрабілася так страшна, аж мароз па скуры пайшоў, аж падалося, валасы ўзвіліся дыбком і пачалі тоненька патрэскваць на галаве. Ён зразумеў, што гэта не Якаў, што Якаў яшчэ на рацэ, а ў трох-чатырох сажнях ад яго чарнеюцца нейкія

[1] Перуноў Шлях — Млечны Шлях.

чужыя, маўклівыя людзі, быццам прывіды, што ўсталі з пракаветных здзірванелых курганоў. Мірошка хацеў ускрыкнуць, хацеў ірвануцца назад у хату, але неадольная млявасць прыляпіла ногі да зямлі.

— Бяры малога,— ледзь чутна прагучаў старэчы голас, і Мірошку накінулі на галаву нешта мяккае, халоднае, шчыльнае (напэўна, мяшок), ускінулі на плячо і панеслі, як воўк носіць авечку. Усё гэта адбылося хутка-хутка, як воласу перагарэць.

— Прынясем трэбу[1] дзікай віры, і яна пашкадуе весь,— данёсся да Мірошкі ўсё той жа голас.

Дык вось што хочуць з ім зрабіць!? Яго ж, пэўна, зацягнуць у гушчар, да ляснога бога, там заб'юць і ягонай крывёю змажуць сухія вусны драўлянаму лясному богу. Дзе ж сапраўдны Бог, нябесны Бог, чаму ён не дапамагае?

— Хутчэй, хутчэй,— падганяў таго, хто нёс Мірошку, усё той жа агідны голас.

Мірошка праз мяшок з усім адчаем, з усёй злосцю ўпіўся зубамі ў чужое ненавіснае плячо, крутнуўся ўсім целам. Сіла, якую выгнаў з цела страх, зноў вярнулася.

Незнаёмец войкнуў ад болю, Мірошка з мяшком на галаве плёхнуўся на зямлю. Ён імгненна ўскочыў на ногі, садраў мяшок, закрычаў на ўсе грудзі, прарэзліва, адчайна:

— Мама! Якаў!

І рынуўся ў цемру, на нейкі міг апярэдзіўшы злыя страшныя рукі, якія гатовы былі зноў схапіць яго.

— Трымай малога! — закрычаў стары, і Мірошку падалося, што гэта голас Гняздзілы.

Але хіба можна было ўтрымаць Мірошку! Як на крылах імчаў ён да матчынай хаты, страла з лука не змагла б дагнаць яго. Ён дабег, даляцеў да хаты, бухнуўся ў нізкія дзверы і на парозе сутыкнуўся з маці.

— Мама! — толькі й крыкнуў Мірошка, і зямля паплыла з-пад ног, перакуліўся, пачарнеў срэбны Пераноў Шлях і патух, быццам не было яго на небе. Доўга хварэў Мірошка. Чорная ліхаманка

---

[1] Трэба — ахвяра.

пасялілася ў ім. Ні зеллем, ні шэптам, ні святой вадой нельга было яе выгнаць. І ніхто не ведаў, што будзе з ім, бо чалавеку не дадзена ведаць свой час. Рыбы трапляюць у невад, птушкі заблытваюцца ў сіло, сыны чалавечыя робяцца ахвярай сваіх вёснаў і зім. Той, хто нарадзіўся, павінен памерці. Такі непарушны закон прыроды, але ж Мірошку было ўсяго дзесяць сонцаваротаў. І аднойчы ён адчуў, як зноў наліваюцца сілай рукі і ногі, як вочы, што звыкліся з паўзмрокам хаты, прагнуць глянуць за небасхіл, увабраць у сябе сонечныя промні, начныя зоркі.

— Сынок,— шчасліва заплакала маці,— мы ж ужо думалі, што ты грабніцай пахнеш, памрэш. Жыві, сынок.

І моцна пацалавала Мірошку.

За час, калі хварэў Мірошка, у Гарэлую Весь прыязджаў княжацкі вірнік са сваім памочнікам. Яны прыпыніліся на пастой у бортніка Чырвона. І заплаціла весь дзікую віру, бо, як гаворыцца ва ўставах князёў свіслацкіх, "у іхняй зямлі, у іхняй верві[1] галава ляжала". Акрамя таго, заплацілі смерды за чырвоную рану трыццаць грыўняў і за сінюю рану пятнаццаць грыўняў. Акрамя таго, дала весь вірніку і памочніку ягонаму корм на сядміцу[2]: сем вёдзер соладу, сыр, хлеба колькі могуць з'есці, курэй па дзве на дзень, аўса для чатырох коней, і рыбы мноства вялікае, і мёд. Чухалі патыліцы смерды.

Ужо зіма гула над пушчай, калі ачуняў Мірошка. Мароз-ядрэц камяніў зямлю. Снег заваліў усе дарогі, усе самыя вузенькія сцяжынкі. Дрэнна было звярам вялікім і малым — зямля ўжо не хавала іхнія сляды. Мядзведзі, патлусцеўшы за лета, клаліся спаць. Ваўкі бегалі гайнёю, і лютыя галодныя ваўчыцы былі ў іх за павадыроў.

Маці сядзела за прасніцай каля маленькага, закаванага празрыстым лёдам акна і спявала:

А на тым двары ды стаяць горы,
Ды стаяць горы высокія;
А на тых гарах ды ляжаць брусы,
Ды ляжаць брусы цясовыя;

---

[1] В е р в — абшчына.
[2] С я д м і ц а — тыдзень.

А на тых брусах ды стаяць стаўбы,
Ды стаяць стаўбы маляваныя;
А на тых стаўбах ды вісяць катлы,
Ды вісяць катлы адліваныя;
А пад катламі ды гараць агні,
Ды гараць агні ясненькія,
Ды ідуць дымы сіненькія,
Там сядзяць дзядкі старэнькія.

Мірошку дужа цікава было ведаць, дзе знаходзіцца гэткі двор, дзе можна ўбачыць гэтыя горы, брусы, стаўбы і катлы. Але маці толькі сказала:

— Так мая бабка пяяла.

Прыйшоў Якаў, весела ўсміхнуўся Мірошку, скінуў з пляча на падлогу маладую забітую казулю. У казулі былі прыгожыя масляніста-цёмныя вочы.

— На Звонкім беразе падстрэліў,— пахваліўся Якаў.— Гайда, Мірошка, нешта пакажу.

Мірошка апрануў тоўстую карычневую світку, поршні з цёплымі анучамі на ногі, шапку-аблавушку з воўчай футры.

Зіма разбяліла Гарэлую Весь. Усё было заслана снегам, ды якім — пушыстым, мяккім, бязважкім! Снег, калі прыгледзецца, быў сатканы з маленькіх прыгожых белых зорачак. Мірошка браў гэтыя зорачкі на далонь, і на цёплай далоні яны пакрысе пачыналі плаваць, як плавае свіны тлушч на разагрэтай патэльні, а потым зьнікалі — толькі бліскучая кропелька вады заставалася ад іх.

— Я табе канёк зрабіў,— сказаў Якаў.— Добры канёк, касцяны. З бычынай косці вытачыў. На Свіслачы будзем катацца, там ужо лёд пластом ляжыць.

Мірошка з радасцю схапіў канёк, валовымі жыламі прыкруціў яго да нагі. Так і пабег да рэчкі па снезе з каньком на правайназе.

У самым сутоку Свіслачы і Бярэзіны знайшлі месца, дзе амаль не было снегу, і Мірошка, адштурхнуўшыся левай нагою, ездзіў на каньку ад берага да берага, выразаючы на лёдзе мудрагелістыя блытаныя ўзоры. Якаў ляпіў снежкі і цаляў імі ў Мірошку. Весела і горача было абодвум.

Раптам на стромым беразе Бярэзіны, які быў густа засыпаны снегам, Мірошка ўбачыў тонкі струменьчык дыму. Ён спыніўся, прыгледзеўся

пільней. Так, дым быў, і выходзіў гэты дым як знутры зямлі, з нейкай высока ўзнятай над ракою нары, што здалёку здавалася маленькай чорнай кропляй.
— Што там такое? — здзіўлена спытаўся Мірошка ў Якава.
— Дым.
— Я бачу, што дым. Але хто там што паліць?
— Там жыве чалавек.
— Чалавек? У снезе?
— Там жыве пустэльнік. Прыйшоў на гэты бераг, як я яшчэ цыцку ссаў, выкапаў сабе нару і жыве.
— А што ж ён есць?
— Калі рыбіну голымі рукамі спаймае, калі карэньчык салодкі з зямлі выкапае. А летам яшчарак ловіць. Яшчаркі любяць на гарачым пяску грэцца.
— Яшчарак?
Мірошка аж рот разявіў ад здзіўлення. Ніколі не чуў ён пра такое і не бачыў такога. У норах жывуць лісы, краты, барсукі, але каб чалавек, ды яшчэ ўзімку...
— Хлусіш ты, напэўна, стрый,— недаверліва сказаў Мірошка.
— Я ніколі не хлушу,— пакрыўдзіўся Якаў.— Буду я табе хлусіць... Ды глядзі — вунь ён з нары вылазіць. І сапраўды — нейкая дзіўная істота на чацвярэньках выпаўзла з-пад зямлі. Пэўна, пустэльнік прывыкаў да дзённага святла, бо колькі імгненняў, апусціўшы, унурыўшы галаву, стаяў на чацвярэньках у глыбокім снезе. Ён быў абкручаны звярынымі шкурамі. Вось выпраставў спіну, узняў галаву з доўгаю грываю сівашэрых валасоў.
— Ён босы,— сказаў Якаў.
— Босы? Дык жа снег, мароз...
— Мінулай зімою я бачыў там сляды босых ног. Кажуць, некалі ён быў княжычам у Чарнігаўскай зямлі. Ды з князем-бацькам заспрачаўся, і князь пракляў яго. Так ён зрабіўся ізгоем[1] і прыблукаў у нашы мясціны. Вяшчун ён. Паганскаму Перуну моліцца.

---

[1] Ізгоі — асобы, якія страцілі сваю сацыяльную прыналежнасць — выйшлі з абшчыны, выкупіліся з халопства, разарыліся і г. д.

— Можа, падымемся да яго? — нясмела прапанаваў Мірошка.
— Не трэба. Ён не любіць людзей, хаваецца, калі ўбачыць людзей. Ён толькі з Богам размаўляе, а не з людзьмі.
Мірошку адразу расхацелася катацца. Ён скруціў канёк з нагі, засунуў яго ў кішэню світкі. Зноў глянуў уверх, але пустэльніка ўжо не было. І дыму не было.
— Давай, Якаў, хлеба яму хоць акрайчык прынясём. Ён жа, пэўна, даўно не еў хлеба.
— Даўно,— згадзіўся Якаў.— А ты, Мірошка, добры. Сэрца ў цябе добрае. Я й сам хацеў пустэльніку гэтаму хоць нешта занесці. Шкада яго. Але не возьме ён хлеб.
— Не возьме? — панік, супуціўся Мірошка.
— Не возьме. Ён жа ад людзей, ад белага свету, ад хлеба і мёду ўцёк. Назаўжды ўцёк.
— Як гэта можна ад хлеба ўцячы, жыць без хлеба? — шчыра здзівіўся Мірошка.
— Звяры ж без хлеба жывуць.
— Дык ён жа чалавек.
Яны замоўклі, паціху ішлі кожны са сваімі думкамі. А доўгавалосы худы чалавек, сцяўшыся ў камяк, сядзеў у сваёй нары, глядзеў на чорны мёртвы попел, што застаўся ад невялічкага цяпельца, хукаў на рукі і пакрысе як бы дранцвеў, засынаў, каб зноў пабачыць ува сне зялёную вясну, спякотнае лета, залатавокіх імклівых яшчарак на сыпучым сонечным пяску. Ува сне ён сам рабіўся вёрткай яшчаркай, увінчваўся ў сухі, такі мяккі і такі цёплы пясок.
Прайшло некалькі дзён. Гулі завірухі, круціўся снег; знянацку, як птушка з мокрымі крыламі, прыляцела адліга. Набліжаліся Каляды. Мірошку, што б ні рабіў, усё ўспамінаўся, заплываў у думкі і сны пустэльнік у сваёй халоднай няўтульнай нары. Як ён там жыве? Аб чым марыць, седзячы каля маленькага цяпельца? І Мірошка не вытрымаў — крадком ад маці ўзяў паўбохана хлеба, жменю шэрай солі, якую прывозяць з Галіча, і пайшоў да пустэльніка. Нават Якаву ён не сказаў пра гэта.
Трымаючы клуначак з хлебам і соллю, ён узбіраўся

па заснежанай строме, і сэрца калацілася ад вышыні і страху. Як сустрэне яго таямнічы пустэльнік? Што скажа?
Вось і нара. Снег каля ўваходу прытаптаны, прыплясканы босымі нагамі. Валяюцца касмылі сухой травы, дробныя галінкі дрэў. Ад цішыні звініць увушшу. Мірошка прыпыніўся ў разгубленасці.
Пустэльнік вынырнуў з нары нечакана. Ён не здзівіўся, убачыўшы Мірошку, сеў на снег, падклаўшы пад сябе сасновы чурбанчык. Быў ён ахінуты калматай туравай шкурай, якая мацавалася на шырокім скураным рамяні, што апяразваў ягоную шыю. Доўгія шэрыя валасы падалі на плечы, закрывалі вочы, і вочы мігцелі з-пад валасоў, як сінія вугалі. Пустэльнік быў босы і нават пальцаў не падкурчваў ад холаду — шырокія цёмныя ступакі стаялі на снезе спакойна, не варушачыся.
Мірошка развязаў клуначак, паклаў перад пустэльнікам на снезе хлеб з соллю. Іскрынка здзіўлення ўспыхнула ў сініх спакойных вачах.
— Хто ты? — ціха запытаўся пустэльнік, не дакранаючыся да хлеба і солі.
— Я Мірошка, сын Рацібора з Гарэлай Весі.
— Чаго ты хочаш?
— Я прынёс табе хлеб. І соль. Еш.
— Хлеб? — Пустэльнік глянуў на клуначак, потым на Мірошку.— Я раздам яго птушкам. Зімой птушкі галодныя.
— Еш сам,— сказаў Мірошка.
Але пустэльнік замоўк, нібы не пачуў ягоных слоў. Пэўна, думкі ягоныя лёталі далёка і ад Мірошкі, і ад гэтага берага, і ад нары, у якой ён зімаваў. Ён пазіраў на неба, на слаістыя ледзяныя воблакі. Ён сам здаваўся Мірошку самотным шэрым воблакам, якое прыплыло з халоднага неба, упала на гэтую снежную строму, і няма ў яго болей сілы, каб зноў узвіцца ў неба.
— Хочаш ведаць, што тут будзе праз дзесяць сонцаваротаў? — нарэшце глянуў на Мірошку пустэльнік.— Свіслач пацячэ назад, да сваіх вытокаў пацячэ. Зямля перавернецца. І на месцы нашай зямлі стане рамейская зямля, а на месцы

рамейскай — нашая. Дрэвы будуць расці каранямі ўверх. Звяры пакрыюцца пер'ем, а птушкі — поўсцю.
Мірошку зрабілася страшна. Ён зразумеў, што Бог узяў у пустэльніка розум. Ён хацеў спускацца са стромы ўніз, але пустэльнік з нечаканай паспешлівасцю схапіў яго за руку, зноў загаварыў:
— І на лузе вырастуць жалезныя кветкі. І будуць сыны піць мёд з чарапоў сваіх бацькоў.
— Дзядзечка, пусці,— усхліпнуў Мірошка.— Мяне маці чакае. Памаліся, дзядзечка, за Гарэлую Весь, каб не прыйшла ў яе дзікая віра.
Але вочы пустэльніка гарэлі незямным іскрыстым святлом. Ён усё мацней сціскаў руку Мірошкі і гаварыў, гаварыў:
— Чарапаха народзіць пеўня. У ваўка вырасце пятая нага. У калодзежах будзе не вада, а малако. Людаед з жалезнымі пальцамі і вогненным вокам на патыліцы будзе хадзіць па гарадах і весях.
Пустэльнік раптам зарагатаў, закідваючы назад вялікую даўгавалосую галаву. Мірошка рвануўся, кулём пакаціўся ўніз. А ўслед яму рагатаў і крычаў пустэльнік:
— Сонца будзе ўзыходзіць ноччу, а месяц днём. І будзе чалавек шукаць чалавека.
Мірошка пабег па заснежанай рацэ. Прарэзліва рыпеў пад нагамі снег, як бы рагатаў разам з пустэльнікам. Страх гнаў Мірошку, не даваў прыпыніцца.
— Стой! — крыкнулі раптам за спінаю. Мірошка ад нечаканасці аж упаў. Калі ён узняў галаву, то ўбачыў двух верхавых, што на стомленых, шэрых ад поту конях ехалі цераз раку. За кожным з коннікаў беглі зменныя коні, таксама вельмі здарожаныя. Сядзельныя торбы былі не надта тоўстыя. Пэўна, не адзін дзень верхавыя сядзелі ў сёдлах.
Яны дагналі Мірошку, і сінявокі рыжавалосы вой спытаўся:
— Адкуль ты, хлопчык?
Ён глядзеў на Мірошку са спагаднай усмешкай. Паверх кальчугі ў яго быў накінуты прыгожы бабровы кажух. Ззяла пад зімовым сонцам кап'ё.
Мірошка маўчаў. Як і ўсе жыхары Гарэлай Весі, ён

не вельмі рады быў сустрэчы з узброенымі людзьмі. Але верхавы па-свойму зразумеў ягонае маўчанне.

— Ганарысты,— сказаў верхавы.— Носа крукам не дастанеш. Кату па пяту, а горды.

— Ды спалохаўся ён, Халадок,— умяшаўся ў гаворку ягоны спадарожнік, маладзенькі бялявы.

— Маўчы, Грыкша, калі кажа старэйшы,— перапыніў яго Халадок. Ён саскочыў з каня, падышоў да Мірошкі.

— Не бойся нас, малы.

— Я не малы,— адным духам выпаліў Мірошка і смела глянуў у вочы Халадку.

— Ого! — засмяяўся Халадок.— Дык, можа, ты тутэйшы князь? Можа, ты Рагвалод Свіслацкі? Тады мы да цябе і да тваёй дачкі — красуні князёўны Дабранегі. Бяросту[1] вязем ад князя Вячкі.

Мірошка адразу ж упадабаў Халадка. Добрых людзей, хто б яны ні былі, заўсёды няцяжка ўбачыць. Добрыя людзі не хітруюць, не спяваюць салоўкамі, не шыпяць гадзюкамі. Яны заўсёды такія, якія ёсць на самой справе.

— Значыцца, ты не князь? — абсіверанымі пальцамі круціў на Мірошкавай світцы драўляны гузік-бірульку Халадок.— Дык, можа, ты вялікі баярын? Або князеў цівун?

— Я Мірошка,— раптоўна засаромеўшыся, апусціў вочы і ціха адказаў Мірошка.

— Мірошка? А я — Халадок. Скажы нам, Мірошка, дзе вашага князя знайсці, дзе сядзіба ягоная?

— У Княжым сяльцы,— шмыгнуў скалелым носам Мірошка.

— А дзе гэтае Княжае сяльцо?

— Няўжо ты не ведаеш? — здзівіўся Мірошка.— За Грымучым борам. Я й то ведаю. Я туды з татам самоў, якіх у Свіслачы спаймалі, на чоўне вазіў. Вялізныя самы былі, доўгія, аж хвасты па вадзе за чоўнам валачыліся.

— Дык ты і самоў умееш лавіць? — пляснуў сябе даланёю па калене Халадок.— Чаго ж ты ў бацькі на печы сядзіш? Ты ж — вой. Бяры меч і гайда ў дружыну князя Вячкі.

---

[1] Б я р о с т а — ліст, пасланне.

— Я б у дружыну пайшоў,— ахвотна згадзіўся Мірошка,— маці не пусціць.
Тут Халадок з Грыкшам не вытрымалі, засмяяліся. Засмяяўся і сам Мірошка, але адразу ж спахмурнеў, зразумеў, што пацвельваюцца над ім воі.
— Дык у якім баку Грымучы бор і Княжае сяльцо? — адсмяяўшыся, спытаўся Халадок.
— Там,— махнуў рукою Мірошка.
— Дзякуй табе, Мірошка,— сказаў вясёлы вой.— Бяжы да маці, а то нос на марозе адваліцца. Будзем вяртацца назад, забярэм цябе ў дружыну князя Вячкі. Князь у нас харобры, як леў. Пойдзеш у дружыну?
Мірошка нічога не адказаў, але сэрца затрапятала, як хуткакрылы стрыж над рачной стромаю. Воі, вясёлыя, прыгожыя, ударылі коней шпорамі, гікнулі, прыгнуліся і памчаліся ў бок Грымучага бору. Снежныя воблачкі вырываліся з-пад капытоў. Мірошка глядзеў ім услед, пакуль яны не зніклі. І пустэльнік са сваёй нары таксама глядзеў услед воям.

# II

На падвор'е князя Рагвалода Свіслацкага прыпоўз, прабіўся праз снежныя сумёты вялікі абоз зімніх гасцей — кіеўскіх купцоў. Тры дзесяткі цяжка гружаных саней, запрэжаных конямі і валамі, адолелі доўгую небяспечную дарогу і спыніліся каля княжацкага церама. Бароды ў купцоў заледзянелі на марозе. Купцы злазілі з коней, аддавалі іх сваім служкам і няўпэўненымі крокамі — ногі ў страмёнах адвыкаюць ад зямлі — ішлі да высокага дубовага ганка, на якім ужо стаяў, усхваляваны і радасны, князь Рагвалод.
Абоз, асабліва ў зімовы час, заўсёды радасць для дробных удзельных князёў, іхніх баяр і чэлядзі. Яшчэ з раніцы выла завіруха, шэры калючы снег насіўся хмарамі над церамам, сярдзіта роў пустынны чорна-белы бор, сабакі і надворныя халопы хаваліся ад раз'юшанага ледзянога ветру ва ўсе шчыліны хто куды, у князя тупа ныў гнілы зуб, і раптам — гэты абоз!

Купцы пакланіліся князю. Хутчэй хацелася ў цяпло, у зацішак.
— Што прывезлі, госці? — з расцяжкаю, каб не выдаць сваёй радасці, спытаўся князь.
Купцы пакланіліся яшчэ раз. Старэйшына абозу, пошлы[1] купец Нажыр, выйшаў наперад, сказаў:
— Чалом б'ём табе, князь-хрысталюбец. Мы людзі рускія, кіеўскія, купцы нізаўскія. Вязем соль і віно рамейскае, волава і медзь для рукадзельных людзей[2], чырвоны шыфер з Оўруча, тканіны багатыя, стужкі парчовыя, бранзалеты шкляныя для маладых прыгажунь.
— А чаго хочаце? — чмыхнуў у раскошны сівы вус князь.
— Хочам срэбра твайго княжацкага. Хлеба, мёду і воску. Шкур бабровых і сабаліных. А я, купец Нажыр, хачу рабыню маладую, прыгожую, каб мой старэчы сон берагла-ахоўвала.
— Адчыніце вароты! — загадаў надворнай чэлядзі князь Рагвалод Свіслацкі.— Упусціце гасцей, накарміце іхніх коней, а гасцей я сам карміць буду.
Нажыр пакінуў на ноч каля абоза варту, ■ сам з купцамі пайшоў у княжацкую трапезную. Да самай раніцы лілося з вялізных гліняных амфар хмельнае віно, ап'янелыя купцы расказвалі князю пра далёкую небяспечную дарогу, пра санны шлях па засыпаным снегам Дняпры, пра грозныя непраходныя пушчы, у якіх віруюць лютыя воўчыя зграі, пра зледзянелыя зоркі ў чорным зімовым небе, пра вогненныя слупы і крыжы, што ў самую глухую поўнач нечакана загараюцца над зямлёй. Шмат пра што расказвалі купцы...
А ў гэты самы час князёўне Дабранезе сніўся незвычайны радасны сон. Мроілася ёй, што разам з карміцелькамі і служанкамі сядзіць яна ў сваёй белай святліцы. Карміцелькі кудзелю прадуць. Служанкі казкі баяць. І раптам у слюдзяное акно святліцы нібы вецер ударыў. Такі вецер вясною са Свіслачы лятае. Расчынілася-расхінулася акно, ды

---

[1] П о ш л ы — ад "пошліна", г. зн. старына. Пошлыя купцы — радавітыя багатыя купцы з купецкай вярхушкі.
[2] Р у к а д з е л ь н ы я  л ю д з і — рамеснікі.



4 Зак. 2990

не вецер быў за ім, а сокал залатакрылы. Кожнае пёрка, як жар іскрысты, гарэла. І былі ў гэтага сокала чалавечыя вочы і чалавечы голас, і кіпцюры меў ён вострыя, чэпкія. Падляцеў сокал да князёўны. Карміцелькі і служанкі ад вялікага страху на падлогу пападалі, вушы заткнулі, вочы заплюшчылі. Схапіў сокал князёўну Дабранегу, схапіў мякка, ды не вырвешся, і вынырнуў у акно, памчаўся ў начное неба над пушчамі і балотамі. Страшна Дабранезе, жудасць мову адбірае. Хоча крыкнуць яна, ды цёплыя сакаліныя пёры крыкнуць на даюць, рот закрываюць. Хутка-хутка імчыцца сокал, марозны вецер свішча і разбіваецца аб крыллі, зоркі, як залатыя пярсцёнкі, коцяцца па гладкім небе, і няма ім спыну. І вось віднець пачынае, святлець. Ружовыя промні сонца змрок нябесны запалілі. І бачыць Дабранега, што на агромністай залатой хмары стаіць-плыве залаты палац. Не цёмны, не дубовы, як бацькаў, а залаты, бліскучы, аж вочы слепіць. Ударыўся сокал белымі грудзьмі аб залатую хмару, нават іскры з хмары пасыпаліся, і ператварыўся ў сінявокага высокага юнака незвычайнай прыгажосці. Моцна абняў правай рукою юнак Дабранегу, засмяяўся, хацеў пацалаваць, але тут князёўна прачнулася.
Была шэрая зімовая раніца. За слюдзяным акном, шчыльна зачыненым на зіму, выў вецер, выў, як галодны воўк. Дабранега, абапёршыся на локаць, хуценькім позіркам акінула сваю спачывальню, падлогу, ложак. Залатых сакаліных пер'яў нідзе не было. Выў вецер за халодным слюдзяным акном. Яна сумна ўздыхнула, паклікала карміцельку:
— Параскева!
Служанкі, маўклівыя проставалосыя дзеўкі, апранулі яе і заплялі касу. Яна надзела на шыю жоўта-карычневыя бурштынавыя каралі, на тонкія запясці рук — срэбныя бранзалеты. Загадала служанцы, і тая прынесла залаты вяночак, аздоблены каштоўнымі камянямі,— бацькаў падарунак. Служанка, стоячы на каленях, трымала ў руках люстэрка, астатнія дыхнуць не смелі — глядзелі, як іхняя ўладарка любуецца сабою ў люстэрка. Раптам цень набег на светлае аблічча

Дабранегі, нешта ёй не спадабалася ў сваім твары, і яна ўдарыла служанку па шчацэ. За слюдзяным акном нясмела разгараўся світанак.
З самае раніцы ажыло, зашумела, загаманіла Княжае сяльцо. Бегала, мітусілася надворная чэлядзь з пунсовымі ад марозу і таўханіны тварамі. Брахалі сабакі, іржалі коні. Звінела жалеза. На ўсю зіму рабіў запасы князь Рагвалод Свіслацкі, трэба было накупляць усялякага брашна[1] аж да самай вясны, да чыстай цёплай вады, калі паплывуць па Свіслачы і Бярэзіне караваны купецкіх стругаў. Не шкадаваў князь срэбра, але кожную рэч, кожную амфару з віном, кожны локаць заморскай тканіны абмацаў уласнымі рукамі.
Паміж гэтай сумятні толькі старэйшына Нажыр быў спакойны. У якіх толькі краях ён не пабываў за сваё доўгае купецкае жыццё! Быў у Ноўгарадзе, у Смаленску, у Літве і Прусах, у Полацку і Менску. І вось такіх мядзведжых куткоў, як гэтае Княжае сяльцо, нямала пабачыў, палічыць — пальцаў на руках не хопіць. Ён стаяў у бабровым, да пят, кажусе, і на поясе ў яго вісеў скураны футарал з дарожнай вагаю і гіркамі. Срэбра без вагі не ходзіць. Кожную грыўню купцы ўзважваюць, калі трэба, адсякаюць кавалкі цьмяна-белага металу. Для разлікаў ёсць у купцоў і грыўні, і скруткі срэбнага дроту, і дырхемы, і дынары[2].
З княжацкіх паграбоў выкочвалі чалядзіны дубовыя кадоўбцы[3], у якія быў наліты густы, цягучы, светла-жоўты, як летняе сонца, мёд-ліпец. Выносілі вязкі сушанай рыбы, грыбоў. Выкідвалі скруткі звярыных шкур — чорных, сівых, карычневых, рудых. Замест гэтага дабра на самае дно паграбоў асядалі амфары з віном, а ў свірны, якіх у князя было мноства, клаўся цяжкі тавар — жалеза, медзь, волава.
Калі нарэшце скончылася мена і абодва бакі былі ёю задаволены, Нажыр, пакланіўшыся князю, падараваў яму вялізны залаты бранзалет-абярэг. Бранзалет быў сплецены ў выглядзе гнуткай змяі з

---

[1] Брашно — дабро, багацце.
[2] Дырхемы, дынары — манеты таго часу.
[3] Кадоўбцы — дзежкі, дзежачкі.

дзвюма галовамі. Нажыр сказаў, лісліва ўсміхаючыся:
— Чуў я, князь, што ёсць у цябе дачка-прыгажуня. Аддай, надзень ёй на белую руку гэты бранзалет. Ён абераджэ князёўну ад ліхога вока, ад бяссоння і бясплоддзя, ад гарачлівых думак і чорнага смутку. Рагвалод Свіслацкі дужа ўсцешыўся, загадаў халопцы, каб паклікала са святліцы князёўну Дабранегу. Русавалосая, цемнавокая Дабранега пакланілася купцу, паднесла яму кубак мёду, настоенага на карэннях і травах вакольных лясоў. Потым пілі віно і мёд, слухалі дудароў, каталіся на санях з рачнога абрывістага берага.
Дабранега доўга не магла заснуць. У змроку святліцы ззяў на запясці залаты бранзалет. Купец сказаў, што бранзалет абераджэ яе ад гарачлівых думак. Праўду сказаў купец ці схлусіў? Ведаць бы. Яна ціхенька ўстала з пуховага ложка, на дыбачках падышла да акна. Зімовая няўтульнасць, мароз і снег былі на дварэ. На дзесяткі попрышчаў наўкол Княжага сяльца — лясы і лясы... Зараз яны мёртвыя, нерухомыя, страшныя. Вецер, як злы дух, пагрозна галёкае ў лясах, калючым снежным клубком коціцца па ледзяной Свіслачы. Усё змятае на сваім шляху вецер. Кусцікі мёрзлай асакі, што тырчаць са снегу, жалобна шэпчуць аб нечым, скрушліва ўздыхаюць. Якая бясконцая ноч! Як таемна і невыносна страшна гудуць лясы!
Дабранега паглядзела у начное неба, і холад праняў яе сэрца. З-за абрыўкаў-лахманоў хмар то паказваўся, то зноў знікаў месяц. Ён здаваўся жоўтым чалавечым чэрапам, які нячысцікі выкапалі на начных могілках і закінулі ў бязмежнае марознае неба. Дабранега ўздрыгнула, адышла ад акна, хуценька лягла пад цёплую пярыну.
Купец казаў, што бранзалет абераджэ ад гарачлівых думак... Няпраўда! Што можа зрабіць гэты жоўты халодны метал? Хіба ён пачуе, як, соладка заміраючы, горача і бяссонна б'ецца яе сэрца? Хіба ён зразумее яе, Дабранегу, якой нядаўна споўнілася шаснаццаць[1] летаў?

---

[1] Шаснаццаць летаў — у старадаўняй Русі выходзілі замуж нават у 12 гадоў.

Дзе ж той, адзіны, харобры, прыгожы, які павінен прыйсці альбо прыехаць і забраць яе з сабою? Чаму яго так доўга няма? Можа, здарожыўся конь, можа, зімовы вецер асляпіў, павёў не ў той бок?
Халопкі, чалядзінкі, усё чорнае смердава племя жыве весялей за яе, князёўну. Шмат робяць, мала спяць, галадаюць, але ж толькі выпадзе вольная часіна — як спяваюць, як скачуць! У кожнай больш-менш гожай дзяўчыны ёсць свой хлопец, і яны (Дабранега бачыла на Купалле) мілуюцца, цалуюцца. Хлопцы расплятаюць дзяўчатам косы. Дзяўчаты ўюць хлопцам вянкі. Дзе той, што расплаце касу ёй, князёўне? Князь-бацька ўсё чакае сватоў з Полацка, з Друцка. І ў Літву б дачку аддаў, каб толькі за княжую кроў. Чаму яна, Дабранега, не чалядзінка! Ёй так хочацца салодкага грэху, хочацца, каб мужчына біўся за яе з другім мужчынам.
Ды не, не! Яна — князёўна! Усе яе бабкі і дзяды — род па кудзелі і род па мячы — усе з княжацкай крывёю ў жылах. Не знойдзецца жаніх — ісці ёй чарніцаю[1] ў святы манастыр. Не адна князёўна патухла за глухімі манастырскімі сценамі, як свечка... Злітуйся, Божа, не карай, бо не хочацца Дабранезе быць чарніцай, богавай нявестай. Хоча яна нарадзіць сына, а потым дачку. Дзе ж ты, нарачоны лёсам?
Надышлі доўгачаканыя Каляды. Ад Каляд сонца паварочвае на лета, а за доўгую зіму голад па сонцы грызе чалавечую душу.
Калядныя святы пачаліся куццёю. Старанна мыліся ў лазні, пасля захаду сонца селі за стол, які стаяў у куце трапезнай. На голыя дошкі паслалі сена, закрылі сена белым абрусам, на абрус паставілі куццю з грэчкі і ячменю і мядовую сыту.
Князь Рагвалод радасным вокам глянуў на сваю княгіню, на дачку, на ўсіх дамачадцаў, даў усім куццю з сытою. Павіншаваў жывых з божым святам, успомніў нябожчыкаў, з вялізнай драўлянай лыжкі сыпнуў куццю ў кут — пачаставаў снежнавалосага Зюзю, бога маразоў. Усе загукалі:

[1] Чарніца — манашка.

"Дзяды, дзяды, ідзіце куццю есці!"
Дабранега, накінуўшы на плечы кажушок, выбегла на цёмны двор, палахліва азіраючыся, паставіла гліняную міску з куццёю ля глухой сцяны церама. Зоркі глядзелі з неба, як нечыя сумныя вочы. Раптам хруст снегу пачуўся ўдалечыні. Аж горача зрабілася. Гэта дзяды ідуць з краіны мёртвых куццю есці. Дзед Судзіслаў, якога угры[1] забілі, дзед Васілёк, што ўтапіўся ў Бярэзіне. Усё бліжэй і бліжэй снежны хруст... Ужо быццам лёгкія крокі чутны... Дабранега стрымгалоў ірванулася ў церам, на дубовы засоў зачыніла дзверы.
Князь Рагвалод запусціў руку пад абрус, выцягнуў з-пад яго пучок сена, уважліва разглядаў, круціў у пальцах кожную сяннінку, задаволена сказаў:
— Добры лён зародзіць.
А потым шумнай гурбою вываліліся на двор, пільнымі вачамі ўзіраліся ў наваколле. Шмат сцежак пратоптана на двары — багатая грэчка вырасце. Шмат зорак у небе — добра жывёла расплодзіцца. Густая шэрань на галінах лягла — ад яблыкаў, ад ігруш дрэвы да самай зямлі прыгнуцца.
Дабранега з чалядзінкаю Кулінай, бо адной было боязна, забегла за церам, прыслухоўвалася — з якога боку сабакі брэшуць. Але сабакі чамусьці маўчалі, пэўна, спалі, і нельга было даведацца, адкуль жаніх прыедзе. Тады дзяўчаты, хаваючыся ад чужога вока, прыгінаючыся, пачалі бегаць пад вокнамі чорных курных хат, у якіх жыла чэлядзь надворная. Вострае вуха і чуйнае сэрца патрэбны ў такой справе. Кожная дзяўчына радуецца, калі пачуе, што ў хаце кажуць позняму госцю: "Ну ідзі, ідзі, браце, досыць сядзець". Значыць, і яна не заседзіцца, выйдзе неўзабаве замуж. Адчайваецца дзяўчына, калі чуе, што госця ўпрошваюць яшчэ пасядзець. І зусім жудасна, калі гавораць у хаце пра дошкі, свечкі і папа́ — смерць, як ні круціся, падкосіць.
Але ў гэты вечар нічога не пачулі Дабранега з Кулінаю. Вецер свістаў, лес шумеў, сэрцы ад хвалявання моцна тахкалі.

---

[1] Угры — венгры.

Сумная вярталася Дабранега ў церам. Ішла паволі, у глыбокім одуме, нават забылася, што трэба дзядоў баяцца. Ды хто сказаў, што трэба баяцца дзядоў. Дзед Судзіслаў, як памятае Дабранега, такі добры, такі ласкавы быў з ёй, унучкаю. Аднойчы зайчыка ў лесе злавіў, прынёс у паходным шаломе.
— Ідзі спаць,— строга сказала Дабранега Куліне.
Чалядзіна пакланілася князёўне, бясшумна знікла. Гэтае смердава племя жыве непрыкметна і бясшумна, як мышы, як ніцая трава пры дарозе. "Няўжо яна гэтаксама, як я, можа кахаць, чакаць, хваляваціца?" — падумала пра Куліну Дабранега.
Раптам у цемры забрахаў сабака. Колькі іх брэша заўсёды! Цэлая гайня сабак носіцца па сядзібе. Але ж сёння быў асаблівы дзень, асаблівая ноч, зараз гэты брэх быў святым знакам, сігналам — рыхтуйся, дзявочая душа, наступае твой запаветны міг.
Дабранега напачатку падумала, што ёй падалося. Але зноў азваўся сабака. Брахаў, мяркуючы па тонкім вісклявым голасе, зусім маленькі сабачка, шчанюк.
Дабранега адчула, як усё цела, ад кончыкаў пальцаў ног да вачэй і вушэй, затапляе трывожная і ў той жа час шчымліва-салодкая хваля. Такога з ёю яшчэ не было. Князёўна зняможана прыхілілася, прыпала да марозлівай дубовай сцяны церама і ўсё глядзела, глядзела ў той бок, адкуль павінен быў прыйсці яе лёс.
Цішыня павісла над Княжым сяльцом, над усім светам. Здавалася, зверху, з неба, чулася трымценне зорак. Палахлівая мыш востранькімі зубамі асцярожна, як спрабуючы, тачыла дрэва. Цішыня была глыбокая, як калодзеж, як дзявочы сум. Няўжо не было ніякага сабачкі? Няўжо зноў цэлы сонцаварот чакаць, таемна плакаць? Няўжо не будзе белага вэлюму, а будзе чорны клабук[1] манашкі? Тупат пачуўся з цемры.Зафыркалі коні. Зазвінелі цуглі. Нехта сказаў ціха і радасна, з палёгкаю:
— Прыехалі.



[1] К л а б у к — галаўны ўбор манахаў.

У Дабранегі як бы хто падрэзаў ногі. Яна ўпала ў снег і страціла прытомнасць.
Ачуняла ў сваёй святліцы. Заплаканая маці-княгіня націрала ёй скроні нейкім смуродлівым пякучым зеллем. Князь Рагвалод у разгубленасці стаяў каля ложка. Перапалоханыя чаляднііцы бязлюдным роем снавалі ўзад-уперад: прыносілі цёплую ваду, прымочкі, прыпаркі. Адна з іх трымалася за чырвоную шчаку, пэўна, маці-княгіня адвяла на ёй душу, а рука ў княгіні цяжкая.
— Дзе ён? — адразу ж запыталася Дабранега.
— Хто? — не здагадалася, чамусьці спалохалася маці. Яна, калі палохаецца, робіцца надзіва непрыгожай.
— Ён...— знясілена прашаптала Дабранега, і князь Рагвалод зразумеў дачку.
— Гукніце кукейноскіх вояў,— загадаў князь чаляднііцам.
Увайшлі воі. Адзін высокі, сінявокі, з чэрмнымі валасамі, другі ніжэйшы, бялявы. Ужо не было на іх паходнага даспеху, твары былі свежыя, вымытыя, але ўсё роўна пахла ад іх снегам, дымам, дарогай.
— Як клічуць вас, воі? — прыўзняўшыся на локаць, запыталася Дабранега.
— Я — Халадок,— весела адказаў чэрмнавалосы.— Ён — Грыкша. Занядужала, князёўна? Ад нашага гаспадара, ад князя Вячкі Барысавіча, што трымае сталец у Кукейносе на дзвінскім парубежжы, паклон табе, князёўна Дабранега, паклон тваім бацькам-князям. Слава князёў свіслацкіх дакацілася да Кукейноса. Меч моцны плячом, а плячо ў князёў свіслацкіх, як мы чулі і ведаем, заўсёды было моцнае. За зямлю полацкую, за веру дзядоў нашых непарушна стаяць яны на паўдзённых межах, як мы, людзі Кукейноса, стаім на захадзе.
Пры гэтых словах князь Рагвалод Свіслацкі паружавеў ад задавальнення, заўсміхаўся, раздзьмуў сівыя вусы. Любіў ён сечу, любіў хмельны мёд, а яшчэ любіў слова мяккае, лісліваe.
— Бяросту мы прывезлі ад князя Вячкі,— гаварыў далей Халадок, і вочы былі вясёлыя, бліскучыя.— Нізка кланяецца ён тваім бацькам,— тут воі пакланіліся ў пояс,— і просіць іх, каб дазволілі яму

злюб[1] з табою ўзяць, князёўна. Калі будзе тваіх бацькоў і твая згода, то наш князь на Вадохрышча сватоў прышле. Сам ён зараз у Полацку, з вялікім князем Уладзімірам перамовы вядзе.
Халадок змоўк, і ў святліцы наступіла цішыня. Усе глядзелі на Дабранегу. А ў Дабранегі душа спявала, вочы свяціліся, нейкі салодкі невядомы голас клікаў яе. Толькі яна чула гэты голас, яна адна.
— Я ведаю князя Вячку,— сказаў Рагвалод Свіслацкі.— І бацьку яго, вялікага князя полацкага Барыса Давыдавіча ведаў. Моцнае племя. Добрае семя. Але скажы мне, вой,— дзе жонка князя Вячкі, княгіня Звеніслава?
— Бог паклікаў яе,— ціха прамовіў Халадок.— Памерла княгіня Звеніслава, пакінуўшы ў скрусе князя і дочачку Соф'ю. Пяць сонцаваротаў малады князь сэрца і вусны смутку аддаваў, на белы свет глядзеў без усмешкі. Але жывому — жыць, сонцу — свяціць, дрэву — расці, сэрцу — спадзявацца. І таму князь Вячаслаў Барысавіч, ці Вячка, як кліча яго ўвесь люд кукейноскі, павесялеўшы сэрцам, глянуў, нібы малады голуб, нібы месяц ясны, у ваш бок. За гарамі, за лясамі, казалі нам, што ў вас ёсць галубіца. Дык ці нельга злучыць нашых галубкоў? Колькі б ад іх было галубочкаў, белых, залатых, алмазных! Як будзе ваша згода, князь Вячка гатоў Святы Крыж цалаваць на сыноўнюю вернасць вашаму дому, на вернасць, да сырой зямлі і дубовай труны, князёўне Дабранезе. Рашай, князь Рагвалод Свіслацкі. А пакуль прымі падарунак ад слаўнага горада Кукейноса. Наша мора бурштынам плача. І шле табе князь Вячка бурштын — марскія слёзы. Грыкша, нясі бурштын.
Грыкша прынёс у святліцу вялікі скураны мех, развязаў яго, высыпаў каля ног Рагвалода Свіслацкага і княгіні Мар'і цэлую гару бурштыну. Усе анямелі ад захаплення і здзіўлення. Жоўта-карычневай прамяністай вільгаццю мякка ўдарыла ў вочы. Быў тут і мядовы колер, і чырванавата-буры, і агністы, як восеньскае кляновае лісце. Бурштын зіхацеў, пераліваўся самымі нечаканымі адценнямі,



[1] З л ю б — шлюб.

лавіў дзённае святло і хаваў яго ў самую сваю глыбіню. Не холад, не падводны сум выпраменьваў бурштын. Цеплыня смалы, што бліскучым жывым ручайком цячэ па разамлелай ад сонца хваёвай кары, была ў ім.
Дабранега асцярожна ўзяла круглую ружова-залацістую гарошыну, паднесла да вачэй. Унутры празрыстай гарошыны, у самай сарцавіне, быў навекі замураваны зялёны вусаценькі жучок. Нават падалося, таемна блішчыць ягонае вочка — малюсенькая кропелька, іскрынка сонечнага святла, якое ззяла над зямлёй яшчэ да сусветнага патопу. Колькі людскіх пакаленняў знікла, згарэла ў полымі часу, а маленькі жучок, схаваўшыся ў кавалак бурштыну, глядзіць адтуль на людзей і як бы нешта хоча сказаць ім.
“Багата жывуць у Кукейносе”,— думаў князь Рагвалод Свіслацкі, не адрываючы вачэй ад іскрыстага бурштыну. І хоць не жадаў, бачылася яму пясчаная нішчымная зямля свайго княства, незадаволеныя хітрыя баяры, якія ўсё часцей шэпчуцца аб нечым за спінаю, абдзёртая дружына, якую можна трымаць у паслушэнстве толькі віном і мясам.
— Я ведаю князя Вячку. І бацьку яго, вялікага князя полацкага Барыса Давыдавіча, ведаў,— пасля нядоўгага роздуму паўтарыў князь Рагвалод словы, якія ўсе ўжо чулі. Усе хацелі пачуць новыя словы. І князь цвёрдым голасам сказаў іх:
— Аб табе, дачка мая, думаю. Аб тваім шчасці клапачуся. Хочаш за князя Вячку? Хочаш быць княгіняй Кукейноса?
Усе позіркі скіраваліся на Дабранегу. Кукейноскія воі затаілі дыханне. У князёўны горача ўспыхнулі шчокі. Яна ўспомніла, як сярдзіта і сумна шуміць зімовы начны вецер, як хутка коцяцца дні. Яна зноў глянула на ружова-залацістую гарошыну.
Вусаценькі зялёны жучок вечным сном спаў унутры гарошыны. І была гэта гарошына прыгожай бліскучай турмой.
— Хачу за князя Вячку,— дрыготкім голасам сказала Дабранега і стала перад бацькам і маці на калені. Княгіня Мар’я ўсхліпнула, аксамітным

рукавом змахнула з вачэй слязу. Рагвалод Свіслацкі радасна і шырока, нібы зерне ў раллю кінуў, перахрысціў дачку.
— Вось вам маё слова, воі,— урачыста абвясціў ён Халадку і Грыкшу.— Князёўна Дабранега згодна ўзяць злюб з вашым князем. Я і княгіня Мар'я даем ёй сваё бацькоўскае благаславенне. Усё ў волі Божай. Амінь.
Слова было сказана. Усе з палёгкай уздыхнулі, як камень з плячэй звалілі. Дабранега, апусціўшы русую касу, усё яшчэ стаяла на каленях. Чалядніцы, перахапіўшы нецярплівы позірк свайго князя, таропка збіралі ў мех бурштын. Князь Рагвалод весела паляпаў Халадка па плячы:
— Я шчодра цябе ўзнагароджу. Князі свіслацкія ніколі не забываюць сяброў.
— Будзь, князь, здаровы, як лёд калядовы,— пакланіўся Халадок.
Радасць, вялікая лепасць прыйшла ў Княжае сяльцо. Радаваўся князь Рагвалод Свіслацкі з княгіняю Мар'яй, радаваліся баяры, дружыннікі, чэлядзь надворная, смерды з вакольных селішчаў. Усе казалі, хоць амаль ніхто не бачыў на ўласныя вочы князя Вячку, што дужа добрага, надзвычай знакамітага зяця знайшоў сабе Рагвалод Свіслацкі, што дасць Вячка за Дабранегу багатае вена[1].
У княжацкім цераме да глыбокай ночы гралі музыкі, служкі ледзь паспявалі ўскрываць запячатаныя сургучом амфары з віном, на вялізных ражнах смажыліся цяляты, бараны, дзікі, зайцы. Усё выпівалася, усё з'ядалася, і зноў застолле пачыналася. Даўно не было так шумна і весела ў Княжым сяльцы.
Шчасцем ззялі вочы ў Дабранегі. Са срэбным вяночкам на галаве, у сукенцы з празрыстай светлай кімкі[2], яна падлівала і падлівала віно і мёд у кубкі Халадку і Грыкшу, пыталася:
— А ці прыгожы ваш князь?
— Наш князь — камяк чыстага золата,— ганарліва і весела адказваў Халадок.— Наш князь, як алень

[1] В е н а — выкуп за нявесту.
[2] К і м к а — тканіна з Візантыі.

хуткаfeногі. Ляціць на гарачым кані, і пушча яму ў пояс кланяецца. Затрубіць у паляўнічы рог, і лісце з дрэў валіцца.
— А ці прыгожы Кукейнос?
— Святы Рубон у нас цячэ — Дзвіна. Лясы ў нас бязмежныя. Лугі аксамітныя. У нас вясною столькі птушак спявае, колькі кропель у самага густога дажджу.
— А неба ў вас якое? — дапытвалася Дабранега.
— Неба ў нас не вышэйшае, не прыгажэйшае, але не такое, як ва ўсіх,— мядовай рэчкаю разліваўся Халадок,— неба ў нас як блакітнае шкло з твайго бранзалета, князёўна. Неба ў нас...
— У нас дажджы часта ідуць,— ублытаўся раптам ў гаворку Грыкша. Халадок няўцямна зірнуў на яго, ды так і застаўся з раскрытым ротам. Збіліся думкі ў Халадка. Дабранега да слёз на вачах рассмяялася.
— Якія дажджы? — нарэшце ачомаўся Халадок.— Ты што вярзеш, Грыкша? Ну, няхай сабе ідуць. Божы дождж патрэбен. Але навошта пра гэта князёўне казаць?
— Не баюся я дажджу, воі,— наліла мёду ў срэбныя кубкі Дабранега.— Сама ў дождж нарадзілася.
— Ці не зашмат ты, Грыкша, зубамі звоніш? — не сунімаўся пакрыўджаны Халадок, хоць Грыкша не вымавіў болей ні слова.
Надвячоркам прымчаў на ўзмыленым кані ў Княжае сяльцо старшы конюх Канопліч, грымнуўся на калені перад церамам, скінуў у снег шапку, закрычаў-загаласіў:
— Бяда, княжа! Бяда вялікая!
Сівая барада Канопліча была ў крыві і з левага боку нібы трохі выскубаная.
Рагвалод Свіслацкі борзда выкаціўся з-за хмельнага стала, выбег на двор у белай кужэльнай кашулі, грозна стаў з абвіслым жыватом над конюхам.
— Бяда! — зашываў вочы ў зямлю, баяўся глянуць на князя Канопліч.— Пустэльнік з нары вылез. Смердаў, чэрнь узбунтаваў. Усім тайны знак паказвае, вядзе натоўп вялікі сюды.
— Які тайны знак? — трасянуў старшага конюха за бараду князь.
— На левым плячуку ёсць у пустэльніка вялікая

карычневая пляма, што зарасла сівым воласам. Ён кажа смердам, што гэта знак Перуна і што быў яму, пустэльніку, у самую поўнач голас патаемны. З неба прагрымеў голас, абвясціў, што праз сядміцу скančэнне свету настане, пойдзе вада на цвердзь зямную, рыбы марскія, гадзюкі балотныя ў хаты да людзей заплывуць, выі людзям перагрызуць. Неба рухне, і будзе канец жывому.
Канопліч нарэшце адважыўся глянуць на князя, зачэрпнуў у жменю снегу, выцер ім кроў з барады.
— Гавары, сабака! — нецярпліва тыцнуў яго вастраносым саф'янавым ботам князь.
— Кажуць, у пустэльніка гэтага з рота агонь вырываецца,— прыцішваючы голас, палахліва глянуў на Рагвалода Свіслацкага старшы конюх.
— Агонь? — здзівіўся князь.— Які агонь?
— Чырвоны. Пякучы. З іскрамі.
Пры гэтых словах Канопліча Рагвалод Свіслацкі пабляднеў, разгублена глянуў на сваіх баяр, на Халадка з Грыкшам, што стаялі побач. Хмель адразу пакінуў яго. А як добра б было сядзець зараз за шырокім вясёлым сталом, піць мёд са сватамі!
— Ты сам бачыў агонь? — нахіліўся ён да конюха, зноў намерваючыся трасянуць яго за бараду.
— На свае вочы. Іскры з рота роем ляцяць. Смерды аж шалеюць. Зараз усім скопам пайшлі на Стары курган. Пустэльнік усіх павёў.
— Што ім рабіць на Старым кургане? — недаўменна азірнуўся, як бы просячы дапамогі і падказкі, Рагвалод Свіслацкі. Але ўсе маўчалі, і князь, зноў ударыўшы конюха, закрычаў:
— Трубіце ў трубы! Склікайце дружыну!
А тым часам людскі чорны вір захліснуў Стары курган, што спрадвеку паныла стаяў за два попрышчы ад Княжага сяльца. Некалі тут было паганскае капішча, ды яшчэ дзед Рагвалода Свіслацкага пасек, спаліў драўляных ідалаў-балванаў, а вешчуноў, якія служылі гэтым ідалам, зялёнай дзеразою іх аплялі, загадаў утапіць у балоце. Летам і вясною тут было зелена, вецер, налятаючы са Свіслачы, кучаравіў маладзенькія бярозкі. Увосень жа і асабліва зімою нейкая нуда, нейкая трывога навісала над Старым курганам, і

ніхто з навакольных смердаў не адважваўся ўзысці на яго, бо раптоўна падкошваліся ногі, вочы пачыналі слязіцца, сэрца білася, як верабей у цянётах. Толькі ваўкі гулялі, вылі тут. І зараз, убачыўшы на сіняватым снезе ланцуг глыбокіх ваўчыных слядоў, смерды ў вялікім жаху спыніліся, пачалі хрысціцца, крок за крокам падавацца назад, нібы дзьмуў у твары моцны вецер, які нельга было трываць.

— Чую Перуна! — пранізліва ўсклікнуў пустэльнік і, выпусціўшы з рота клубок іскраў, адважна ўзышоў на самую вяршыню Старога кургана, сеў проста ў снег. Быў пустэльнік, як звычайна, босы абкручаны звярынымі шкурамі. Грыва сіва-шэрых валасоў стаўбуном устала пад парывам ветру.

Пустэльнік сарваў з рукі драцяны бранзалет, высока ўзняў яго над сабою, натхнёна бліскаючы ярка-сінімі вачамі, закрычаў знямеламу натоўпу:

— Кажа Пярун: вазьміце сваё! Кажа Пярун: нікчэмныя рабы, станьце ўладарамі! О, громабойца ўсясільны! Дыханне тваё праліваецца на ўсё жывое, як вільгаць нябесная на сухую траву.

Пустэльнік адным рыўком, як паранены тур, ускочыў са снегу, уладна загадаў усім:

— Збірайце сухое ламачча, вецце, карчы!

Людзі, старыя і дзеці, рынуліся ва ўсе бакі, пачалі ламаць хмыз, выдзіраць з зямлі струхлелыя пні, і праз кароткі час на самай вяршыні Старога кургана грувасцілася цэлая гара дроў.

Пустэльнік чэкнуў крэсівам аб крэмень, але іскра не выбівалася. Тады ён шырока, аж пасінелі, надзьмуў шчокі, рэзка выдыхнуў, і пук агністых іскраў вылецеў у яго з рота. І адразу ж запалаў касцёр.

Людзі пападалі на калені. Жанчына ў чорным кажусе забілася-заторгалася ў істэрыцы.

— Пярун! — завыў натоўп.

Яны былі з розных весяў, з розных абшчын, яны ўпершыню сустрэліся, і сабраў іх у адзін кулак, зрабіў іх адзінай нястрыманай ракой незразумелы доўгавалосы страшны чалавек, які сядзеў на снезе перад яркім вогнішчам і вострым цвёрдым позіркам узіраўся ў віхурлівае полымя, нешта шэпчучы.

Жанчына ў чорным кажусе падпаўзла да

пустэльніка, пачала цалаваць ягоныя босыя халодныя ногі. Ён нават не глянуў на яе, не схамянуўся. Здавалася, душа ягоная была зараз там, у полымі, курчылася разам з пасмамі чырвонага агню ў найвялікшай пакуце і ў найвялікшай асалодзе.
Чакалі, пакуль дагарыць касцёр. І вось ён знясілеў, патух, памёр, і тады пустэльнік чэпкімі беднымі пальцамі з даўжэзнымі пазногцямі ўпіўся ў памякчэлую ад агню зямлю, пачаў ліхаманкава капаць яе. Так параненая ліса, ратуючыся ад смяротнай небяспекі, капае сабе нару.
Узбуджэнне натоўпу ўзрастала з кожным імгненнем. Усе неадрыўна глядзелі на вузкую спіну пустэльніка, на ягоныя рукі, што так і мільгалі, выграбаючы на белы снег жоўта-буры пясок. Вочы пустэльніка заліваў едкі пот, і ён моршчыўся, матаў галавою, нават вішчаў, але не спыняў свой занятак. Нарэшце задымілася ад поту спіна. Пустэльнік зняможана каўтнуў шырока раскрытым чорным ротам паветра, на нейкі міг перастаў капаць зямлю. Стогн расчаравання пачуўся ў натоўпе. Усе так чакалі, так спадзяваліся, што вось зараз адбудзецца цуд, а цуду не было. Некаторыя нават заплакалі. Жанчыны высока ўзнімалі сваіх дзяцей, худых, брудных, і дзеці з усіх бакоў глядзелі на пустэльніка, і ў іхніх вачах свяціўся нямы дакор.
— Цішэй! — раптам пранізліва закрычаў пустэльнік.— Цішэй! А інакш Пярун ператворыць вашы смакоўніцы ў сухія жэрдкі.
Ён прыклаўся вухам да зямлі, нешта доўга, уважліва слухаў, потым радасна, як дзіця, засмяяўся, крыкнуў: “Ёсць!” і зноў з яшчэ большай хуткасцю пачаў капаць зямлю. Натоўп як анямеў.
— Ёсць! — аж заенчыў пустэльнік, ускочыў на ногі, узвіў над галавою, трымаючы у абедзвюх руках, каменную сякеру. Яна пацямнела ад часу і цемры, бо не адно стагоддзе ляжала ў магіле невядомага, забытага людзьмі і Богам воя. Пустэльнік выкапаў і чэрап гэтага воя. Адна з жанчын уздзела чэрап на доўгі кій, высока падняла над натоўпам.
— Перунова сякера! Перунова сякера! — зашумеў, захваляваўся натоўп.— Баявая сякера продкаў!

Вочы ў людзей ззялі шчасцем, твары ў адзін міг памаладзелі. Каменная сякера, якую выкапаў пустэльнік, усіх надзяліла сілай.
— Вядзі нас, памрэм за цябе! — загукаў, завыў натоўп.
Людзі хлынулі са Старога кургана ўніз, і пaперадзе ўсіх, пускаючы іскры з рота, прытанцоўваючы, размахваючы каменнай сякерай, лёгкімі нагамі ішоў пустэльнік, былы княжыч з Чарнігаўскай зямлі.
У Княжым сяльцы ўжо чакалі гэту чорную раць. Рагвалод Свіслацкі загадаў зачыніць вароты, дружыну і ўсю чэлядзь надворную, узброіўшы, паставіў на вал. Чаляднікі без супынку палівалі вал вадою, пакуль не заблішчаў на ім голы слізкі лёд. Насупраць княжацкага церама на вялікім вогнішчы кіпяцілі ў чорных бронзавых катлах смалу.
Халадок з Грыкшам, надзеўшы баявыя даспехі, таксама сталі на вал. Дзьмуў парывісты вецер. Снежны лес тапырыўся зледзянелымі галінамі. Хмары варон, прадчуваючы крывавую сечу, з вэрхалам кіраваліся ў бок Княжага сяльца. Рагвалод Свіслацкі паглядзеў на неспакойных крыклівых варон, сказаў баярам:
— Замарач напала на смердаў. Ну, пачакайце, сыраядцы,— мёрзлай зямлёю накармлю.
Вялізны шумны натоўп выліўся чорнай ракой на шырокую заснежаную лугавіну перад Княжым сяльцом. Смерды ішлі з дубінамі, віламі-трайчаткамі, косамі. Але большасць мела толькі голыя кулакі. Шмат было жанчын і дзяцей.
Натоўп набліжаўся. Тады княжацкія дружыннікі пачалі біць смердаў з лукаў. Стрэлы ляцелі з тонкім свістам, упіваліся ў чорную людскую сцяну. Некалькі чалавек упала. Натоўп, нібы спатыкнуўшыся, прыпыніўся.
— Што вам трэба, людзі ратайныя? — крыкнуў з вала сам князь Рагвалод Свіслацкі.
Ён стаяў, закрыўшыся ад барады да пят вялізным чырвоным шчытом.
— Жытніцы адчыні! Жытніцы адчыні! — пагрозліва залямантаваў натоўп.
Камяні паляцелі ў князя. Адзін цяжка грукнуўся ў шчыт, і князь пахіснуўся.

— Адчыні жытніцы! — грымела па ўсёй лугавіне.
Тады князь узвёў лук, які падаў яму дружыннік, нацягнуў цеціву і пусціў стралу, мецячы ў пустэльніка. Ды пустэльнік увільнуўся ад стралы, закрычаў, засмяяўся:
— Мяне жалезы не бяруць!
Смерды зноў пайшлі на прыступ, хаваючыся за шчытамі, зробленымі з дошак, але, страціўшы не адзін дзесятак людзей, адкаціліся ад вала.
Прарэзліва енчылі параненыя. Галасілі жанчыны. У князя забіла аднаго воя — камень пацэліў у скронь.
І тут Рагвалод Свіслацкі схітраваў. Самыя галасістыя воі пачалі крычаць смердам з вала, што жытніцы будуць адчынены, толькі трэба для гэтага спачатку правесці перамовы. З Княжага сяльца на перамовы выйшлі Халадок з чатырма дружыннікамі. Ішлі бяззбройныя, але Халадок схаваў пад карзно шастапёр — невялікую жалезную булаву з вострымі шыпамі. Смерды для перамоваў вылучылі таксама пяць чалавек, і паміж іх быў пустэльнік.
Сустрэліся за пяцьдзесят сажняў ад вала.
Пустэльнік паклаў у снег сваю каменную сякеру, пускаючы з рота іскры, смела падышоў да Халадка.
— Ты хто? — запытаўся ў яго Халадок.
— Вяшчун. Сын Перуна,— не міргнуўшы вокам, адказаў пустэльнік.
— Чаму агонь у роце носіш?
— Як малы быў, кавалак сонца з'еў. Сонца ўва мне гарыць.
— А ці праўду кажуць, што ты адгадваеш, бачыш будучае?
— Праўду.
— Што ж з табою будзе заўтра?
— Заўтра я буду насіць залатыя порты[1] князя Рагвалода Свіслацкага.
— А што з табой будзе зараз?
— Зараз я саб'ю замок з княжацкай жытніцы і дам ім,— пустэльнік паказаў бледнай худой рукою на смердаў,— хлеб.
Тут Халадок выхапіў з-пад карзна шастапёр і з

[1] Порты — адзенне.

усяго маху ўдарыў пустэльніка па галаве. Пырснула цёплая кроў. Пустэльнік упаў, адразу адляцела душа.
Смерды анямелі ад нечаканасці і жаху. Той, каго яны лічылі ледзь не богам, хто выхваляўся сваёй несмяротнасцю, бездапаможна і квола ляжаў на снезе, як дохлая кошка. З рота ў пустэльніка выкаціўся вялікі арэх з прасвідраванымі адтулінамі. Замест ядра ў арэху быў чырвоны вугольчык з вогнішча. Халадок наступіў на вугольчык, расціснуў.
Убачыўшы, што пустэльніка больш няма, дружына князя Рагвалода Свіслацкага адчыніла вароты і з радасным ярасным крыкам урэзалася ў натоўп смердаў. Смерды пабеглі хто куды, і мячы дружыннікаў зачырванеліся ад іхняй крыві. Знузнікі[1] некалькі попрышчаў гналіся за смердамі, калолі іх доўгімі дзідамі, тапталі коньмі. Вялікі стогн стаяў над Свіслаччу і Бярэзінай.
Адзін са смердаў, ратуючыся ад знузніка, пачаў тачыцца, лезці ў старую барсуковую нару. Ды яго выцягнулі за ногі. Ён абліваўся халодным потам, круглымі спалоханымі вачамі глядзеў на занесеную над сабою дзіду, але маўчаў, не прасіўся. Дзіда ўдарыла ў абсіверaную худую выю, і смерд упаў у снег, захлынуўшыся крывёю. Гэта быў бацька Мірошкі Рацібор.

# III

Стрый Якаў на маленькіх саначках прывёз мёртвага Рацібора ў Гарэлую Весь. Правая рука, задубелая ад смерці і марозу, валачылася па зямлі, успорвала снег, нібы дубовае рала, якім аруць вясною. Настасся з галашэннем узяла гэтую руку, хацела пакласці яе мужу на грудзі, але рука цяжка баўтанулася, зноў упала ў снег.
Мірошка, маленькі Дамажыр і Тэкля стаялі каля саначак, на якіх ляжаў бацька.
— Чаму ён не ўстае? — шэптам спыталася Тэкля.— Холадна ж ляжаць...

[1] З н у з н і к і — коннікі.

— Ён не ўстане, дочачка,— загаласіла Настасся.— Памёр бацька наш.
Разам з ёю заплакалі Тэкля і Дамажыр. Мірошка пакуль што трываў, але нешта вельмі сумнае, вельмі халоднае распраствала крылы ўнутры яго, там, дзе б'ецца сэрца. Зрабілася цяжка дыхаць. Ногі падкошваліся. "Гэта дзікая віра ўзяла бацьку,— думаў Мірошка.— Яна хацела схапіць мяне, ды я ўцёк — у мяне ногі маладзейшыя. Няўжо ніколі больш не будзе бацькі?"
Тут слёзы ручаём пакаціліся ў яго з вачэй. Ён плакаў і ўспамінаў, як аднойчы, даўным-даўно, грымела жудасная навальніца. Пярун страляў з вогненнага лука, дрэвы над чорнай успененай Свіслаччу трашчалі, пераломваліся ў камлях; дробнае птаства, падхопленае бурай, каменем падала ўніз, разбівалася аб дрэвы, аб зямлю. Тады бацька з Мірошкам схаваліся ў вялікую яму, выкапаную на стромым беразе ракі. Жоўты вільготны пясок цёк з краёў ямы, пакрысе засыпаў ногі, і калі скончылася нарэшце грукатанне грому і аціх дождж, ногі ў іх былі па калена ў пяску. Бацька, моцна прытуліўшы да грудзей, нёс тады Мірошку дадому, і Мірошка чуў, як таххае, б'ецца бацькава сэрца. "Так-так-так..." — далятала з бацькавых грудзей.
Мірошка стаў на калені, прыклаў вуха, пачаў, стаіўшы дыханне, слухаць там, дзе павінна было жыць сэрца. Але глухой цішынёй поўніліся бацькавы грудзі, і хлопчык, канчаткова ўсё зразумеўшы, горка заплакаў.
У Гарэлай Весі не было свайго папа. Раней пры розных патрэбах прыязджаў з Княжага сяльца айцец Сямён у парчовай, тканай золатам рызе, але свежай крывёю было адрэзана Княжае сяльцо ад селішчаў смердаў, і Рацібора, не адпяваючы, аддалі сырой зямлі. Пахавалі яго на ялані[1] там, дзе ўжо былі магілы абшчыннікаў з Гарэлай Весі. Зрэзалі лапатамі дзірван, паклалі Рацібора на пясок, галавою на захад, туды, куды спяшаецца сонца. Каля правага пляча пакінулі нябожчыку жалезны

[1] Я л а н ь — лясная паляна.

нож, каля левага сцягна — крэсіва і кавалкі крэменю. У нагах паставілі гліняны гаршчок з гарохам і жытам. Насыпалі над Рацібoрам сажань мёрзлага пяску, і ўсё, як і не было ў Мірошкі бацькі. Цяжкае жыццё пачалося ў Настассі. Трэба было без карміцеля ўзнімаць на ногі трое малых дзяцей. Добра яшчэ, што Якаў дапамагаў, дый Мірошка з кожным днём ўсё больш уцягваўся ў працу, якой у тых, хто жыве з зямлі, ніколі не пераводзіцца. Зімой, пакуль зямля адпачывае, чакаючы новага насення, занятку таксама хапае. Смерды гнуць палазы, дугі, абады, рыхтуюць восі, аглоблі. З дрэва робяць вёдры, крукі, граблі, карцы, міскі, пакрываючы ўсё гэта прыгожай разьбою. Ідуць на замёрзлыя рэкі і азёры і, грукаючы па лёдзе дубовымі доўбнямі, глушаць рыбу. Палююць на тураў, ласёў, дзікоў, барсукоў, зайцоў...

Чалавек як бы раствараецца ў кругабезе няспынных дзён. Толькі зробіць адно, як навальваецца другое. Але на ўсёй Полацкай зямлі сонцаварот для смерда пачынаецца з Калядаў. А там ён ужо цвёрда ведае, што ад Калядаў да Звеставання 12 сядміц, да Юр'я —16, да Міколы — 20, да Купалы — 26 і да Калядаў таксама 26 сядміц. Вось і ўвесь клубок часу, у які кароткай ніткай уплецена чалавечае жыццё.

Чалавек асабліва на задумваецца, дзеля чаго ён нарадзіўся на свет. Не ён першы, не ён апошні. Былі дзяды-прадзеды, будуць праўнукі. Гэтак жа сама, як людзі, нараджаюцца і праз нейкі час знікаюць назаўсёды пакаленні птушак, дрэў, грыбоў... Усё злучана, звязана, знітавана між сабою. Паспрабуй хоць карэньчык вырваць з гэтай бязмежнай велічнай пушчы!

Але ж зімою ўсё-ткі болей выпадае вольнага часу. Зашуміць на некалькі дзён завея, замуруе пухкім снегам усе сцяжынкі, стрэльне ў камлях дрэў мароз-ядрэц, і збіваюцца людзі ў цесныя цёплыя хаты. І які-небудзь хрышчаны ў Княжым сяльцы дзед з белай барадою, седзячы на печы, трымаючыся аслабелай рукою за "каня"[1], пачынае баяць пра рай і пекла, пра святых людзей, пра нябожчыкаў. Аж

---

[1] "К о н ь" — драўляны слуп, на якім мацаваліся палаткі.

валасы ў слухачоў дыбам устаюць! Аж казытлівыя мурашкі пад кашулю бегаюць. А дзед гаворыць і гаворыць, зрэдку кашляючы ў сухі кулак, нібы сам ён відок[1] усіх гэтых жахаў і дзівосаў.

Мірошка ў такія часіны садзіўся на дубовую лаву падалей ад акна, сціскаўся ў камячок і, прагна ловячы кожнае слова, слухаў, слухаў... Гарэла сухая лучына пад задымленай столлю. Цень ад барадатага дзеда, вялізны і страшны, чарнеўся на сцяне, і калі дзед, кашляючы, падносіў кулак да рота, здавалася, нейкі вурдалак замахваецца на Мірошку цяжкай кіпцюрыстай лапай.

Што толькі не пачуў Мірошка! Ды асабліва ўразіў, апёк сэрца сказ пра тое, як Багародзіца разам з архангелам Міхаілам спускалася ў пекла, каб глянуць на пакуты грэшнікаў. Там навекі зняволены тыя, хто не верыў у Тройцу і Багародзіцу, шанаваў паганскіх багоў, парушаў хрэсную клятву, а таксама праклятыя бацькамі, блудніцы, людаеды, зладзеі. Адны вымушаны стаяць у вогненнай рацэ — хто па калені, што па самую шыю. Другія ляжаць у ложках, абвітых полымем. Трэція падвешаны на жалезных дрэвах — за зуб, за язык, за тое, што мужчыны ад староннiх вачэй хаваюць. Вечны стогн, вечны крык стаіць у пекле. Незгасальны агонь гарыць там.

Ноччу Мірошка ўскрыкваў, усхопліваўся з палатак. Здавалася, што з усіх бакоў глядзяць на яго злавесныя вогненныя вочы, што жахлівыя кіпцюры і зубы цягнуцца да яго. Хацелася ўцякаць, бегчы ад гэтага страхоцця, але ногі як не свае — блыталіся ў нейкай даўжэзнай пякучай траве або засмоктвала іх агідная хлюпоткая багна. Падыходзіла маці з карцом халоднай вады, асцярожна катурхала сына за плячук. Мірошка прачынаўся, піў ваду, прасіў маці, каб пасядзела побач, і толькі тады сон браў яго ў абладу, зноў блукаў хлопчык па таямнічых чароўных сцежках, але былі яны ўжо добрыя, вясёлыя. Там гулялі рахманыя зайцы. Там валасатыя магутныя туры даверліва бралі Мірошку да сябе на спіну, і ён імчаўся ў бясконцыя лясы, у лугі, што аж гарэлі ад яркіх кветак.

---

[1] Відок — сведка.

— Ты, брат, чаго крычыш уначы? — смяяўся раніцой Якаў.— Ты ўдзень ідзі ў пушчу, адкрычыся і ноччу будзеш спаць як у Бога за пазухай.
Яны і сапраўды ішлі на Свіслач, у засыпаную снегам пушчу, і крычалі, галёкалі на ўсю моц маладых грудзей:
— Ого-го-го-го! Эге-ге-гей!
Бялюткі снег тонкімі струменьчыкамі зрываўся з калматых ялін. Перапалоханыя вавёрыцы імклівымі чародкамі ўцякалі па вяршалінах дрэў. Аднойчы пагрозна зараўло, гнеўна закрактала пад яловым вываратнем.
— Уцякайма, Мірошка! Мядзведзь прачнуўся! — весела закрычаў Якаў. Яны далі такой лататы, што аж вецер свістаў увушшу.
У час сваіх лясных блуканняў патрапілі Якаў з Мірошкам на паганскае капішча. У цэнтры круглай лясной паляны стаяў высокі, амаль у тры сажні ростам, дубовы бог (папы завуць яго ідалам), упрыгожаны рознакаляровымі стужкамі, пацеркамі з жалудоў, арэхаў і сушаных ягад. Наўкол галоўнага бога, па крузе, стаялі маленькія бажаняткі. Іх было як падлічыў Якаў, дванаццаць, столькі, колькі ў сонцавароце чартогаў — месяцаў.
Да капішча з усіх бакоў лесу былі густа пратаптаны сцежкі. Снег з балвана і балванчыкаў быў старанна змецены.
— Ходзяць сюды людзі,— сказаў Якаў.— І твая маці ходзіць.
“Дык вось які ты, лясны бог”,— думаў Мірошка, асцярожна падыходзячы да галоўнага ідала, узіраючыся ў цёмныя, груба высечаныя з дрэва рысы загадкавага суровага твару. У ідала не было ні ног, ні рук — толькі галава на тоўстым дубовым камлі. “Тут моліцца мая маці, суседка Праскоўя. Сюды пад покрывам цемры, каб ніхто не заўважыў, прыходзяць, пракрадваюцца людзі з усіх вакольных абшчын. Чым ты вабіш іх, лясны бог? Што даеш? Цябе б даўно пасеклі на дробненькія кавалкі і спалілі князь з папом, каб толькі знайшлі. Скажы, лясны бог, як жыве на тым свеце мой бацька Рацібор? Ці добра яму там? Ці ўспамінае ён мяне?”
Якаў, відно па ўсяму, таксама быў усхваляваны нечаканай сустрэчай з лясным богам. Зняў шапку,

стаяў, маўчаў, глядзеў на цемнатварага дубовага ідала.
Раптам прамень сонца, прабіўшы снегавыя хмары, упаў на твар ідалу. І адбыўся цуд — ярка і весела заззялі, засвяціліся, як у жывога чалавека, вочы ў ідала. Мірошка з Якавам так і здранцвелі, застылі не дыхаючы.
Яны маглі паклясціся на крыжы, што за імгненне да гэтага ў ідала не было ніякіх вачэй, твар быў цёмны, плоскі, мёртвы, сляпы. І раптам — гэтыя вочы!
Сонечныя промні, як залатыя ніткі, затрапяталіся на шчоках у ідала. Здавалася, ён адначасова і смяецца, і плача.
Схавалася за хмары сонца, патух прамень, ідал зноў зрабіўся ідалам — нерухомым цёмным мёртвым кавалкам дрэва.
— Што гэта было? — беручы Якава за руку, спалохана прашаптаў Мірошка.
— Вочы... Вочы глядзелі на нас,— ціхім голасам адказаў Якаў.
— А дзе яны зараз?
— Бог іх заплюшчыў. Ён убачыў нас, прывітаў і зноў заплюшчыў вочы. Ён не хоча дужа доўга глядзець на людзей, бо людзі здрадзілі яму, памянялі яго на грэчаскага бога, якога салодкім дымам з кадзільняў абкурваюць папы. Пойдзем адсюль, Мірошка.
Яны асцярожна па адной са сцяжынак, каб не пакідаць лішніх слядоў, пайшлі па зімовым лесе, і Мірошка ўсё бачыў перад сабой таямнічыя яркія вочы. Яны глядзелі на яго са снегу, з цёмна-зялёных яловых галінак, з неба, нават са спіны Якава, што ішоў паперадзе.
"Што гэта было? — думаў, пакутаваў Мірошка.— Чаму маўчыць Якаў? Ён жа так любіць пра ўсё расказваць, усё растлумачыць, павучыць, дзе трэба і не трэба".
Якаў і праўда ведаў, што гэта было такое. На месцы вачэй у ідала былі ўвабіты два маленькія каштоўныя каменьчыкі. Іх прывезлі дужа здалёку, з цёплага мора, да якога хіба толькі птушкі далётваюць. Ажно лашт[1] мёду і воску аддалі за іх купцам людзі з

[1] Л а ш т — тона.

берагоў Свіслачы і Бярэзіны. Якаў ведаў пра гэта, ды чамусьці не захацеў расказваць Мірошку — хай помняцца хлопцу не камяні, а вочы, жывыя, нясцерпна-бліскучыя.
А зіма ўсё болей выхалоджвала зямлю і пушчу. Потым паваліў снег, ды такі густы, такі спорны, што за некалькі дзён Свіслач замяло па самыя берагі. Гарэлая Весь згубілася пад снегам, толькі нячастыя дымы, як звярыныя хвасты, павольна калыхаліся ў стылым небе.
Ямы, у якіх хаваюць зерне, замуравала, да іх цяжка, амаль немагчыма было прабіцца, і голад рэзаў жываты. Звяры і птушкі некуды зніклі — ці то пахаваліся ад лютай зімы, ці то перабеглі і пераляцелі ў больш бяспечнае месца. Паляўнічыя вярталіся з ціхай пушчы з туламі, поўнымі стрэл, з рогвіцамі, якія так ні разу і не ўпіліся ў цёплы звярыны бок. У сілкі, у пасткі, у звярыныя ямы траплялі толькі снег і леташняе мёрзлае лісце.
У асабліва лютую марозную ноч на небе ўспыхнуў вялікі срабрыста-белы крыж. Ён пагрозліва ззяў над зямлёй. Усе прачнуліся ў Гарэлай Весі — старыя і малыя. Усе са страхам глядзелі ў ледзяную вышыню, чакалі канца свету.
Назаўтра чорная нітачка людзей пацягнулася з Гарэлай Весі ў Княжае сяльцо. Ішлі з уздыханнем і плачам, пакорліва. Слёзы на вачах у жанчын камянелі, ператвараліся ў бліскучыя халодныя гарошыны.
Рагвалод Свіслацкі сустрэў змарнелых смердаў мірам і ласкавым словам, як бацька сустракае сваіх блудных дзяцей.
— Князь-хрысталюбец, князь-міласэрнік, дай хлеба,— зняў шапкі, бухнуўся ў шорсткі снег натоўп.— У вачах цёмна... Дзеці пухнуць... Хоць на конскім хвасце вешайся...
— А вы парэжце сваіх коней і ешце іх, сыта зарагатаў з вала старшы канюшы Канопліч, які не забыўся, як гэтыя ціхмяныя авечкі нядаўна па валасіне выдзіралі яму бараду.
— Не тое кажаш, раб,— сярдзіта глянуў на Канопліча Рагвалод Свіслацкі.— Што смерд без каня? Хмара без неба. Дзьмухне вецер — і няма

хмары.— І зноў павярнуўся да натоўпу, што безгалоса стаяў на каленях.— Сасновую кару ясце?
— Ядзім, княжа. І мох ядзім...
— Дрэнна. Хрысціяне павінны есці божы хлеб, а не траву падножную. Я дам вам хлеба. Адчыню жытніцу. Сказана ў "Слове пра багатага і беднага Лазара": "Ты ж, калі ўвойдзеш у палаты, калі ляжаш на ложа і паставяць перад табой вялікую і поўную трапезу, тады ўспомні таго беднага, што блукае, як пёс, па вуліцах у змроку і брудзе і адтуль ідзе не на ложа, не да жонкі, а на саломе, быццам пёс, усю ноч вые".
— Дзякуй табе ў ногі, князь-заступнік,— квола, бо не было сіл, загаманіў натоўп.
— Я дам вам хлеба, а вы майму агнішчаніну[1] Някрасу аддасцё зарэчны луг, на якім пасвілася абшчынная гавяда.
Падумалі смерды, што ўжо не першаму агнішчаніну аддаюць яны кавалак сваёй зямлі, ды не хапіла моцы пярэчыць, бо галодныя бліскаўкі зіхацелі ўваччу, бо дзеці плакалі.
Княжы хлеб выратаваў Гарэлую Весь. Перабіліся, пракідаліся, перацярпелі, а там і зіма адпусціла, і сонейка пачало з неба ўсміхацца, і той, хто не памёр у маразы, ужо верыў, што неяк дажыве да вясны, да дня Барыса і Глеба, калі зерне ў раллю кідаюць, спяваючы:

Святы Барыс ляды паліць,
Зямлю грэе, ячмень сее
З паўсявалачкі, з правай жменькі.
Кінеш рэдка — дасць Бог густа.

Ды рана радавалася Гарэлая Весь. Глыбокі снег, што заваліў яе перад гэтым, не толькі бяду і пакуту прынёс. Ён і вялікую ласку ёй зрабіў — адрэзаў ад усяго свету. У тым ліку і ад ворагаў, ад тацей-жывадзёраў, у якіх учэпістыя рукі, ненаедныя жываты і злыя мячы. А толькі паменела снегу ў пушчы і на рэках, толькі змог войскі конь, не праваліўшыся ў снег па самы жывот, дабегчы да Гарэлай Весі, як прыйшла ў Свіслацкае княства

[1] Агнішчанін — гаспадар пасекі, "агнішча", "княжы муж".

дружына друцкіх князёў. Кажуць жа людзі: куды конь з капытом, туды і рак з кляшнёй.
Рагвалод Свіслацкі не чакаў такога паспеху ад суседзяў. Сам ён у наезды хадзіў, калі зіма з ільдзінамі па рэках сплывала, калі снегу рабілася цесна на цёплай зямлі. Запёрся Рагвалод у Княжым сяльцы, дружыну на вал паставіў, чэлядзь узброіў — рашыў адсядзецца да лепшага часу. Штоноч маліўся Богу ў царкве і дзядам-прадзедам сваім маліўся, на дапамогу клікаў. І думаў ці са злосцю, ці з адчаем: "Яны, дзяды-прадзеды, памерлі. Ім — добра. А тут яшчэ трэба будзе паміраць". Ставіў свечкі ўсім святым: і Ефрасінні Полацкай, і братам Барысу і Глебу, і Феадосію Пячэрскаму. Ды чамусьці нічога не лепшылася для князя.
Astronomically Дручане палезлі былі на вал, але сустрэў іх Рагвалод стрэламі калёнымі, каменнямі-галышамі з камнястрэльнай машыны, якую пасля бунту смердаў на двары паставіў, смалой і агнём. Крык і енк да неба далятаў.
Дручане, сербануўшы ліха, рассыпаліся, як таці, па ўсёй акрузе, пачалі рабаваць смердаў, не здымаючы, аднак, аблогі з Княжага сяльца, правільна рашыўшы, што не толькі смеласць гарады бярэ,— голад таксама бярэ. Сядзеў князь, як паранены вепр, за валам, глядзеў на дым і агонь, што паўсюдна небасхіл засланялі, і плакаць хацелася, бо гэта ягонае багацце, ягоная сіла дымам у неба ішлі, ворагу даставаліся.
Гарэлая Весь, ужо не першы раз на сваім вяку пабачыўшы разбой, рыхтавалася да новага разбою. Людзі заганялі жывёлу ў лес, у гушчар. Што ў каго было — зерне, добрае адзенне, посуд, золата і срэбра,— усё складвалі ў торбы, хавалі ў дуплах дрэў, у ямах.
Настасся з Мірошкам таксама нагрузіліся, подбегам пашыбавалі ў пушчу. Дамажыр з Тэкляю засталіся дома. І Якаў застаўся — нагу падламаў, за собалем на ловах[1] бегаючы.
— Хутчэй, сынок, хутчэй,— прыспешвала маці.
Яны цягнулі санкі з хатнім скарбам, раз-пораз

[1] Л о в ы — паляванне.

правальваючыся ў ліпкі адліжны снег. З-за Грымучага бору, адтуль, дзе было Княжае сяльцо, плылі хмары чорнага дыму. Там грымеў і грымеў, аж захлынаўся, царкоўны звон.

— Што ж гэта дзеецца? — шаптала маці.— За што бяда такая?

Мірошку жудасць брала. Дрэнна, што няма побач стрыя Якава. З Якавам і страх меншы, і дарога карацейшая, і ўсе сцежкі лясныя ён ведае.

— Хутчэй, сынок, хутчэй,— адно толькі і казала маці.

Нарэшце яны знайшлі сваё дрэва з дуплом-хованкай. Кожная сям'я з Гарэлай Весі мела такое патаемнае дрэва. З дрэва папярэдне выкурваюць трутным дымам пчол. Потым чысцяць, пашыраюць дупло, і лясны куфэрак гатовы.

— Адпачнем трохі,— калі ўсё было зроблена, сказала маці. Яны прыселі на саначкі, сцішыліся. Маркотна шумела пушча. Дрэвы жылі прадчуваннем недалёкай вясны, і хоць замест бурлівага соку ў жылах дрэў быў яшчэ халодны лёд, і хоць карані іхнія драмалі ў мёрзлай зямлі, як спруцянелыя чорныя вужакі, нешта змянілася ў дрэвах, і Мірошка адразу ж прыкмеціў гэту перамену. Голас у дрэў зрабіўся мякчэйшы, весялейшы. Дрэвы глядзелі са сваёй недасяжнай вышыні на Мірошку і быццам пазнавалі яго, быццам усміхаліся яму.

"Эге-ге-гей, Мірошка,— чулася хлопчыку ў лясным гудзе,— ты яшчэ малы, зусім малы. Паглядзі, якія мы вялікія, тоўстыя, моцныя, як абраслі мы зялёным мохам, нібы воі Рагвалода Свіслацкага барадамі. Мы стаім сцяной. Мы нікога не прапусцім у пракаветны лясны гушчар — ногі пераплящем каранямі, вочы галінамі выб'ем. А ў тым гушчары залатая хатка стаіць. Срэбны дымок з меднага коміна ўецца. Там дзядок-лесавічок жыве. У яго вочкі, як брусьнічкі. У яго бровы — мяккі жоўты мох. А ў тых бровах залатыя пчолкі поўзаюць, варочаюцца. Яму вавёрыцы служаць, і куніцы, і ваўкі. Вожык дзядку-лесавічку на вострых іголках кіслыя лясныя яблыкі носіць. Адкусіць лесавік яблык, зморшчыцца, чхне, і адразу пацямнее,

зашуміць, застогне пушча. Совы закугукаюць. Пугачы залямантуюць. Гнілы зялёны туман па-над балотам павісне, і ў тым тумане, як прыгледзішся, нейкія людзі плаваюць. Рукі ў іх на грудзях складзены. Гэта — тапельцы, якіх узяло, засмактала балота. Не ідзі на балотны мох... Не ідзі на балотны мох..."

— Мірошка,— усклікнула маці.— Ты што — заснуў?

Яна трасянула сына за плячо. Мірошка борздзенька ўсхапіўся на ногі.

— Пойдзем, мамка, дадому,— папрасіўся Мірошка, бо яму чамусьці зрабілася дужа самотна, захацелася хутчэй пабачыць стрыя і Дамажыра з Тэкляй. Ён пацягнуў парожнія саначкі і ўсё глядзеў на агромністыя дрэвы, што сягалі ў нябесную бездань. "Хто гэта мне шаптаў? Чый голас я чуў? — пакутліва думаў ён. — Ці чула гэты голас маці?" Але ў маці не адважыўся папытацца — адразу прымусіць, як прыйдуць дадому, стаць на калені перад хатнім пранізлівавокім Богам і маліцца.

— Дымам пахне,— раптам сказала маці і спынілася. Спыніўся і Мірошка з саначкамі.

Яны ўжо амаль дайшлі да Гарэлай Весі, трэба было толькі ўзняцца на парослы маладым хвойнікам узлобак.

— Не наш дым,— асцярожна ўцягнула паветра ў нос, прынюхалася маці. Мірошка здзівіўся: як гэта яна можа адрозніць, наш дым ці не? Дым заўсёды аднолькавы. Але маці, пабляднеўшы, звузіўшы вочы, ступіла колькі крокаў уперад і цяжка села проста ў снег.

— Авохці, Мірошка,— раптам сарвала з галавы цяжкую шэратканую хустку маці,— няма нашай весі.

Мірошка, уздрыгнуўшы, здзіўлена зірнуў на маці. Што яна кажа? Як гэта — няма? Весь — не лісцік з бярозы, не паляціць у неба.

Ён, не кідаючы саначак, жвава ўзбег, ускочыў на ўзлобак і анямеў. Не хаты суседзяў-абшчыннікаў убачыў ён, а вогнішчы. Замест хаты — вогнішча. І так скрозь па ўсёй Гарэлай Весі. Слупы агню і дыму стаялі на месцы хат. Ён зірнуў туды, дзе заўсёды

была, дзе павінна была быць іхняя хата, і ўбачыў вострыя чырвоныя касмылі агню. Ён роспачна павярнуўся да маці:

— Мама, што гэта?

Маці не адказвала. Яна як скамянела. Бліскучыя, белыя вочы глядзелі паўз Мірошку, праз Мірошку, не бачачы яго.

— Дамажыр...Тэклечка...— шаптала маці.

Мірошка заплакаў. Але маці не ўбачыла — не ўбачыла! — ягоных слёз. Гэта было ўпершыню. Заўсёды яна, ледзь чмыхне сын, ледзь пусціць слязу,— прыбяжыць, прытуліць, прылашчыць...

— Дамажыр! Тэкля! Дзеткі мае залатыя! — закрычала маці і пабегла, правальваючыся ў снег, да Гарэлай Весі.

— Мамачка,— яшчэ галасней заплакаў Мірошка і не ведаў — бегчы за ёю ці не, кідаць саначкі ці не. Гарэлай Весі не было. Яна зноў згарэла, згарэла ўшчэнт. Кароў і авечак, якіх не маглі пагнаць з сабой, воі друцкага князя зарэзалі, а мяса кінулі сваім сабакам. Згаладалыя сабакі, аб'еўшыся, ап'янеўшы ад гарачай крыві і тлушчу, упокат ляжалі ўздоўж вуліцы, потым, калі праходзіла ікотка, калі трохі лягчэў жывот, падніваліся і, збіўшыся ў гайню, беглі па слядах друцкай дружыны — ад Гарэлай Весі праз лес да Свіслачы і там, па лёдзе ракі, на поўнач.

Такога вялікага варопу[1] даўно не бачылі на берагах Свіслачы. І не печанегі напалі, не угры, не арда вандроўная, а свае аднакроўцы, аднаверцы. Ды, пэўна, так яно і вядзецца здавён, што свае б'юць балючэй, бо ведаюць, куды ўдарыць, як ударыць, ведаюць, якіх балячак ты асабліва не любіш. Дручане, хоць іх і асцерагаліся, напалі на Гарэлую Весь знянацку. Вываліліся з лесу, як чорная хмара з-за гары. Абчысцілі кожную хату, узламалі кожны куфэрак. Забралі ўсё, што можна было забраць. А нельга было забраць толькі зямлю, неба і хаты. І тады яны хаты падпалілі, атруціўшы неба і зямлю горкім дымам.

---

[1] В а р о п — разор, знішчэнне.

Якаў якраз быў на двары, адграбаў падталы снег ад клеці. Хацеў схавацца, ды спрыту не хапіла, падламаная нага падвяла. Друцкія воі накінулі яму на шыю драўлянае ярмо, пагналі разам з іншымі маладымі мужчынамі і хлопцамі з сабою. А каб дарэмна сіла не прападала, упраглі іх у сані, нагрузілі тыя сані баявой здабычай. Ішоў Якаў, губы кусаў з адчаю і крыўды. Ён, вольны смерд, павінен зрабіцца чалядзінам, рабочай жывёлай, якая ўмее размаўляць. Дамажыра і маленькай Тэклі няма — згарэлі ў хаце, захлынуўшыся ад дыму. А Настасся з Мірошкам нават не будуць ведаць, куды дзеўся ён, Якаў. Будуць попел разграбаць, косці шукаць. Бывай, старонка родная. Ці ўбачымся болей? Бывай, рака шумнацечная. Бывай, бор золатагаловы. Бывай, сцяжынка лясная, імклівая, пакручастая. Засумуюць, заплачуць па табе мае ногі далёка ад дому.
Настасся з Мірошкам, каб трохі раней выйшлі з пушчы, маглі б сутыкнуцца з Якавам і яго сябрамі па няшчасцю. Ды надта глыбокі быў снег, ногі засмоктваў, блытаў, і яны ўбачылі не натоўп нявольнікаў, а толькі сляды гэтага натоўпу. Сытыя сабакі, раўнадушна глянуўшы на Настассю з Мірошкам, ланцужком беглі ўслед за друцкай дружынай. Часам сабакі спыняліся, адрыгвалі пад якім-небудзь кусточкам вялізныя кавалкі неператраўленага каровінага мяса і трушком беглі далей.
Нярадасным было вяртанне. Толькі чорны попел, толькі дым і ярка-чырвоныя плямы крыві на снезе ўбачылі Настасся з Мірошкам. Жыццё ў Гарэлай Весі спынілася надоўга, можа, назаўсёды. Калі яшчэ народзяць новыя мацеркі новых сыноў, калі яшчэ гэтыя новыя сыны прыйдуць сюды, каб дубовай двухзубавай сахой узараць,узадраць знямелы дзірван?
Маці галасіла, заломвала рукі, шукала ў попеле костачкі сваіх дзяцей. Бог узяў яе розум. Яна забылася пра Мірошку і ўсё корпалася, корпалася ў попеле да самага змяркання.
Насоўвалася ноч. Трэба было клапаціцца пра начлег. Ды маці, растаптаная сваім горам, не думала

пра гэта, і Мірошка, абышоўшы Гарэлую Весь, знайшоў больш-менш ацалелую хатку, у якой да наезду друцкай дружыны жыў каваль-сырадутнік Чухома. Каваля пагналі з палонам, дзяцей у яго не было, і Мірошка — што ж будзеш рабіць? — рашыў асталявацца ў ягонай хатцы.
Перш-наперш рыззём, што патрапілася пад руку, ён заткнуў акенца, у якім быў разарваны бычыны пухір. Потым назбіраў трэсак, дошак, аскабалкаў бярвенняў, якіх пасля пагрому шмат валялася на вуліцы, кінуў усё гэта ў астылую печ. З папялішча прынёс у бяросце вугольчыкаў, раздзьмуў агонь. Праз нейкі час весела загаманіла печ, полымя асвяціла куткі беднай хаты. На бажніцы Мірошка не ўбачыў каляровых дошак з выявай хатняга Бога — пэўна, забралі друцкія воі — і ўзрадаваўся. Не будуць гнясці душу суровыя пільныя вочы, не трэба будзе, баючыся Бога, сядзець маўчком, як рот замазаўшы.
Крыху перачакаўшы, Мірошка пайшоў на сваю сядзібу, каб адтуль прывесці маці ў хату Чухомы. Тоненька рыпеў пад нагамі цёмны снег. Ён быў цёмны ад змроку, попелу, сажы... Дзе-нідзе яшчэ датлявалі, свяціліся вугольчыкі на папялішчах. Маці корпалася ў попеле.
— Мама! — ціха паклікаў Мірошка.
Яна рэзка азірнулася, і ён убачыў бліскучыя страшныя вочы.
— Дамажыр! — закрычала маці.— Ты вярнуўся, сынок!
— Я не Дамажыр,— яшчэ больш ціхім голасам адказаў Мірошка.— Пойдзем адсюль, мама.
— Хто ж ты? — уся ўстрапянулася, а потым сцялася, як бы чакаючы ўдару, маці.
— Я твой сын,— заплакаў Мірошка.
— Ты мой сын?
Маці асцярожна ўзнялася, нахіліўшы галаву, падышла на дыбачках да Мірошкі, пачала ўважліва ўглядацца ў ягоны твар. Яна нават дыхаць перастала. Яе твар быў амаль упрытык з тварам Мірошкі, і хлопчык убачыў, убачыў упершыню, сівыя валасы ў маці на скронях, тоненькія маршчынкі каля рота.

— Ты мой сын? —перапытала маці і дакранулася лёгкімі халоднымі пальцамі да Мірошкавай шчакі.
— Я ведаю цябе! — раптам закрычала яна.— Ты забіў душу нашага продка. Навошта ты забіў яе?
Маці, сцяўшыся ў чорны палахлівы камяк, упала на зямлю, у попел. Мірошка нахіліўся над ёю, плачучы, пачаў гладзіць ёй валасы, цалаваць рукі. Ён усё-такі ўпрасіў, угаварыў маці, і яны пайшлі начаваць у хатку Чухомы.
Упершыню Мірошка адчуў, што залежыць сам ад сябе, што як ні кінь вокам наўкруг, няма яго каму абараніць — ні спераду, ні ззаду. Застаўся ён, як дрэўца ў чыстым полі. Раней думалася прыкладна так: вось жывем мы, наша сям'я, доўга-доўга жыць будзем, потым памрэ бацька, потым маці, за імі Якаў, а за Якавам ужо ён, Мірошка. Жыццё здавалася вечным. Як сцяной, ён быў адгароджаны да смерці бацькамі, старэйшымі векам людзьмі. Смерць уяўлялася страшнай казкай, сном, у якога абавязкова будзе шчаслівы канец — ён, Мірошка, прачнецца. Зараз жа, упершыню за сваё нядоўгае жыццё, хлопчык зразумеў, што людзі жывуць і паміраюць не па чарзе, што некага, маладзейшага, Бог можа паклікаць да сябе раней, чым старога.
Назаўтра маці адкапала на папялішчы два маленькія чарапы — Дамажыра і Тэклі. І гэта, аж Мірошка здзівіўся, адразу ж супакоіла яе. Яна болей на плакала, не хавалася ў цёмныя куткі, вочы пацяплелі. Яна адразу ж і Мірошку прызнала.
— Вось наша сямейка,— усміхаючыся сама сабе, лагодна сказала маці і паставіла чарапы на бажніцу.— Вернецца Якаў, і будзем жыць мы, Мірошка, як раней жылі. Улетку на Звонкім беразе кветкі рваць будзем.
Яна падперла шчаку тонкай рукою, знерухомела, усё глядзела і глядзела на маленькія задымленыя чарапы, і яны здаваліся ёй яе дзецьмі, жывымі, вясёлымі, яснавокімі. Мірошка ж ні разу не адважыўся зірнуць на бажніцу, нават не хадзіў у той кут хаты. "Маці забудзецца пра іх,— думаў хлопчык,— і я іх закапаю там, дзе бацька ляжыць".
Так і пачалі жыць Мірошка з маці, ветрам бітыя, небам крытыя. А да вясны яшчэ было далёка. Зноў

абрынуліся на пушчу і на Гарэлую Весь пякучыя завірухі. Зноў бог марозаў Зюзя страляў у камлях дрэў.
Маці нічога не рабіла, сядзела ля бажніцы, глядзела на чарапы дзяцей. Мірошка, знайшоўшы ў Чухомы трошкі гароху і рэпы, налаўчыўся варыць такую-сякую поліўку. Ён быў увесь перапэцканы сажай, збіў рукі аб гаршкі і дровы. Так цягнуліся дні. Мірошка згубіў лік гэтым дням, адчуваў, як паступова прытупляецца, цішэе душа, як ужо нецікава глядзець на прыгожае чырвонае неба на захадзе, на срэбныя ад лёгкага снегу галінкі дрэў, на мудрагелістыя сляды розных звяроў, што ўначы падыходзілі да іхняй хаткі. Адно хацелася — спаць, заплюшчыць вочы і спаць, згарнуўшыся ў клубок.
Але аднойчы маці як бы скінула з сябе злое закляцце. Гэта было раніцою. Маці слаба войкнула, нейкім дзіўным прасветленым позіркам глянула на Мірошку, глянула на бажніцу, дзе стаялі чарапы, хуценька загарнуўшы ў посцілку, панесла іх на ялань і там закапала. Потым прыбегла з ялані, чыста падмяла хату, пачала паліць у печы, нагатавала ў дубовыя ночвы вады, распранула Мірошку, мыла яго, націрала пахучым зеллем, выцерла насуха, прычасала валасы.
— Устала я, сынок, з божай пасцелі,— радасна сказала маці Мірошку.— Думала, што памру, цябе аднаго пакіну. Але вярнуў мне Бог памяць. Памолімся, сынок.
Яны апусціліся на калені, і мо ўпершыню за доўгі час Мірошка маліўся шчыра і апантана, са светлымі слязамі на вачах.
Добра, калі ёсць маці! Ах, як гэта добра! Чалавек, асабліва маленькі чалавек, не можа без маці. Як сонца, узыходзіць яна над сынавым ложкам. Як белы непагасны месяц, асцярожна стаіць над сынам уначы, глядзіць, ці не мулка яму спаць, ці не млосна, ці не хоча ён папіць халоднай вады, ці цёпла ўкрыты ногі мяккай барсуковай шкурай.
“Раскажы мне, мама, казку. Хай вые за сцяной вецер, хай калоціцца наша хатка, хай нас толькі двое, толькі двое перад гэтай ноччу і перад цэлым жыццём. Мы — адна кроў, адна душа, адна сляза, адно дыханне. Раскажы мне, мама, казку”.



5 Зак. 2990

Маці прыбірала ў хаце, варыла есці, а Мірошка, з чырвонымі ад марозу рукамі, гойсаў па лесе, прыглядваўся да звярыных слядоў-хадоў, цікаваў за дупламі, адкуль можа ў любы міг выглянуць пушыстая мордачка якога-небудзь звярка. Цяжкі лук Чухомы цягаў ён на правым плячы.
Аднойчы белы зайчык выскачыў, выкаціўся з невысокага, засыпанага снегам асінніку, стаў на доўгія заднія лапы, памахаў кароценькімі пярэднімі, быццам некаму пагразіў. Ён быў як гарэзлівае дзіця. Мірошка, суцішваючы хваляванне, нацягнуў цеціву з пругкіх бычыных жыл. Свіснула цяжкая кляновая страла з алавяным наканечнікам, і заяц, разы са два перакуліўшыся, упаў, паторгаў лапамі, заціх. Мірошка, кінуўшы ад радасці лук, падбег да яго, нецярпліва схапіў першую ў сваім жыцці здабычу. Як хацелася яму, каб бачыў яго ў гэты міг стрый Якаў!
Ды ў наступныя дні паляўнічае шчасце адвярнулася ад яго. Як ён ні стараўся, як ні бегаў па зімовай пушчы, ні птушынага пёрка, ні звярынага хвосціка не ўдалося яму здабыць. Быццам нехта зачараваў ягоны лук. Стрэлы чамусьці ляцелі ў бок ад звяр'я, бяссільна ўпіваліся ў снег. Мірошка аж заплакаў аднойчы.
Пайшла на паляванне маці, але і яна вярнулася з лесу з пустымі рукамі. Голад пастукаўся ў іхнюю хатку, уладна адчыніў дзверы ды так і пасяліўся разам з Настассяй і Мірошкам.
Аднойчы, у самую глухую поўнач, завылі ў пушчы ваўкі. Мірошка спаў, а маці прачнулася, з дрогкасцю ў сэрцы слухала пагрозлівае пералівістае выццё. Здавалася, ваўкі таксама жаляцца-скардзяцца небу на голад і холад. Высокія і нізкія ваўчыныя галасы лunалі над бязмежнай пушчай, над замёрзлай Свіслаччу, і ўсё жывое замірала, глыбей хавалася ў норы і дуплы.
Раніцой Мірошка ўбачыў каля хаткі вялікія глыбокія сляды і зразумеў, што́ за нязваныя госці знайшлі дарогу ў Гарэлую Весь. Хаваючыся ад маці, ён пачаў рыхтаваць стрэлы, яму патрэбна было нарабіць як мага болей стрэл, каб абараніць хатку ад ваўкоў. Як ён будзе ваяваць з ваўкамі, ён не 

ведаў, адно яго суцяшала — у яго ёсць зброя, ён, калі спатрэбіцца, зможа пастаяць за маці і за сябе. Маці бачыла ягоныя рыхтаванні, сумна ўсміхалася. Ваўкі, якія таксама пакутавалі ад голаду, пасяліліся ў Гарэлай Весі, зрабілі лагво, потым другое на папялішчах, пад разваліінамі хат. Яны адчувалі сябе поўнымі гаспадарамі весі. Спачатку, баючыся Настассі і Мірошкі, хадзілі па вуліцы толькі ўначы, але неўзабаве, зразумеўшы, што з людзей тут жывуць усяго толькі жанчына і маленькі хлопчык, а іншыя людзі, якія ацалелі, сышлі ў белы свет, ваўкі настолькі асмялелі, што пачалі хадзіць сярод белага дня.

У хатцы перавялася вада. Настасся ўзяла дубовае вядро, адчыніла дзверы, каб схадзіць на крыніцу. Каля дзвярэй сядзеў воўк, худы, светла-шэры, ільдзістымі галоднымі вачамі глядзеў на яе. Настасся ўскрыкнула, махнула вядром. Воўк адбегся на некалькі крокаў, зноў сеў. У ягоных вачах свяціўся нясцерпны голад. І жанчына зразумела, што гэта воўк-людаед, што ўсе ваўкі, якія пасяліліся ў Гарэлай Весі,— людаеды. Яна закрычала мацней, адчайней. Выкульнуўся з хаткі Мірошка з лукам, пусціў у ваўка стралу. Воўк падцяў хвост, адскочыў убок, ашчэрыў зубы, уважліва паглядзеў на Настассю з Мірошкам, потым на стралу, прыпадаючы да зямлі жыватом, падкраўся да стралы і панюхаў яе. Прыбегла яшчэ трое ваўкоў, адзін вялізны, рыжаваты, без левага вуха — ці адмарозіў, ці ў бойцы з родзічамі страціў. Ваўкі селі паўкругам, перагарадзіўшы сцяжынку, што вяла да крыніцы.

Вельмі хацелася піць, і Мірошка, выцягнуўшы з акенца камяк змёрзлага рыззя, якім сам калісьці заткнуў яго, палэпаў рукою спанадворку, нашкроб жменю снегу, потым яшчэ і яшчэ... Снег растапілі ў печы і пілі цёплую нясмачную ваду. Але аднойчы, калі Мірошка зноў хацеў такім самым чынам здабыць снегу, у акенца ўсунулася вялізная воўчая морда. З ноздраў у ваўка вырывалася цёплая пара. Воўк разявіў рот, шчоўкнуў зубамі, паглядзеў, пранізваючы позіркам навылёт, на Мірошку.

 Хлопчык схапіў каля печы бярозавае палена,

шыбануў у ваўка. Морда адразу знікла. На вуліцы пачуўся незадаволены пагрозны віск.
Ваўкі ўзялі хатку ў аблогу. Нават на страху забіраліся, якая была засыпана тоўстым пластом снегу. Уначы, а потым і ўдзень тупацела на страсе, рыпеў снег пад моцнымі кіпцюрыстымі лапамі. Настасся і Мірошка, узняўшы галовы, халадзеючы, прыслухоўваліся да таго, што рабілася на страсе. Ваўкі ў любы міг маглі пачаць раздзіраць лапамі і мордамі страху.
Так прайшло некалькі трывожных дзён. Больш немагчыма было трываць голад і смагу. Настасся, узяўшы ў рукі сякеру, вырашыла ісці ў пушчу і пашукаць што-кольвечы з яды ў дуплах дрэў. Мірошка праз шчыліну ў акенцы бачыў, як маці, азіраючыся, хуценька крочыла па замеценай сцяжынцы. Здаецца, пашанцавала ёй, здаецца, прайшла, як раптам, нібы з-пад зямлі, з'явілася зграя ваўкоў на чале з аднавухім. Настасся адчайна ўзмахнула сякерай, але аднавухі клубком пакаціўся, ударыў ёй пад ногі, зваліў. Толькі матчыну руку ўбачыў Мірошка ў мільгаценні шэрых воўчых спін і галоў, дый рука ў той жа міг знікла.
Так ён застаўся адзін. Не было жывой душы побач. Не было паратунку. Усе слёзы былі выплаканы, і Мірошка болей не плакаў.
Ваўкі хадзілі па страсе, вылі пад сценамі хаткі. Заўсёды адзін з іх сядзеў на варце, якраз насупраць дзвярэй. Ваўкі чакалі, калі ж і Мірошка выйдзе з хаткі. Яны былі ўпэўнены, што хлопчык выйдзе. Мірошка зусім аслабеў. Часам даставаў праз акенца жменю снегу, смактаў яго. Шумела ўвушшу. Ён спачатку думаў, што гэта шуміць лес... Халодная абыякавасць была разліта па ўсім целе, абыякавасць і страшэнная стома. Ён садзіўся на падлогу, прысланіўшыся спінаю да яшчэ цёплай печы, і нібы правальваўся ў цёмную бездань, доўга ляцеў, падаў уніз. Усё часцей яго пачаў зморваць сон. Аднойчы падалося, што твар маці мільгануў над бажніцаю. Мірошка прыўзняўся, з цяжкасцю дайшоў да бажніцы, нават сцяну рукой пакратаў. Нікога нідзе не было...
Усё часцей у вачах пачалі ўспыхваць залатыя

мільготкія бліскаўкі. Па першым часе яны адразу ж знікалі, але паступова ўсё даўжэй танцавалі ўваччу. І ён прывык да іх. Яны былі прыгожыя, дробненькія, як бліскучыя мошкі. Ён ужо чакаў іх. Было цяжка дыхаць застаялым паветрам, і Мірошка выцягнуў рыззё з акенца ды так і пакінуў акенцаназаткнутым. Свежы вецер уляцеў у хатку. На вуліцы было сонечна. Мірошка прыпаў да акенца. Прагна пачаў глядзець на белы свет, які быў у кроку ад яго і ў той жа час недасяжна далёка. Ззяў снег. Кропелькі іскрыстай вады былі ўжо разліты па снезе. Нават кавалачак неба ўбачыў Мірошка. Вясёлыя ружовыя воблакі павольна плылі на небе. Яшчэ ён убачыў сцяжынку, што бегла да Грымучага бору, а на сцяжынцы — воя на кані.
Але ён не ўзрадаваўся. Ён добра ведаў, гэта яму толькі здаецца, што вой вось-вось знікне, як знік матчын твар над бажніцаю.
Вой трымаў у правай руцэ доўгае кап'ё і вёз над сабою, накалоўшы на кап'ё, вялізнае светлае воблака, якое ўздрыгвала, злёгку пагойдвалася. "Навошта воблака вою? — падумаў Мірошка.— Зараз і вой і воблака знікнуць".
Ён заплюшчыў вочы і ў дрыготкай цемры ўбачыў маці і бацьку. Дамажыра і Тэклю. "Ідзі да нас,— сказала Тэкля.— Тут добра". Астатнія маўчалі, толькі загадкава пасміхаліся самі сабе.
Не было сіл расплюшчыць вочы, і Мірошка сядзеў як сляпы. "Што робіцца з вачамі людзей у магіле?— раптам падумаў ён.— Маці казала, што яны ператвараюцца ў расу. І праўда, раніцою, як глянеш на луг, здаецца, людскія вочы свецяцца з травы і кветак".
Ён сядзеў з заплюшчанымі вачамі і чакаў смерці. Лёгкасць была ў руках і нагах. Каб з'еў хоць кавалачак хлеба, паляцеў бы пад воблакамі, як птушка.
Конскі тупат раптам пачуўся каля хаткі. Мірошка ўздрыгнуў, расплюшчыў вочы. Трымаючы ў руцэ кап'ё, перад хаткай гарцаваў на кані вой. Воблака на кап'і не было, але вой быў, той самы, вясёлы, чэрманавалосы, якога Мірошка сустрэў на рацэ.
 І тут востры страх пранізаў Мірошку. Вой можа

паехаць, паехаць назаўсёды. Што яму нейкая разбураная хатка? Зараз ён ударыць шпорамі каня, і памінай як звалі. Мірошка, напружваючы апошнія сілы, крыкнуў. Толькі нейкі свіст вырваўся з грудзей, нейкае шыпенне. Але вой пачуў. Глянуў на акенца, убачыў хлопчыка, лёгка саскочыў з каня. А па вуліцы, каля папялішчаў, каля разбураных сядзіб, ехалі і ехалі дружыннікі ў бліскучых шлемах, з чырвонымі шчытамі.

# I



Полацк

прыйшла вясна, прыйшла дружна і нечакана. Спачатку лопнуў, узарваўся лёд на Палаце. Мутна-малочная вада з шыпеннем, грукатам і трэскам панесла зеленаватыя льдзіны ў Дзвіну. Было гэта якраз на дзень сарака мучанікаў севасційскіх, ці на Саракі, як кажуць смерды.

Дзвіна яшчэ драмала, закаваная ў ледзяны панцыр, але сонечныя промні і цёплы мяккі вецер ужо ў шмат якіх месцах пратачылі лёд, нарабілі ў ім малюсенькіх круглых дзірачак. Лёд быў падобны на сіта. Ён яшчэ стаяў у берагах, чапляўся за берагі, ды ўжо нараджаліся недзе ў патаемнай глыбіні ракі магутныя шырокія хвалі, якія гатовы былі зламаць лёд, на сваім хрыбце памчаць яго ў Варажскае мора.

Крыгі з Палаты з усяго наскоку ўдарылі ў ледзяны панцыр на Дзвіне, які даўно чакаў такога ўдару. Дзвіна толькі дзеля прыліку нібы пакрыўдзілася на сваю малодшую сястру Палату, але адразу ж вялікія сілы, што ўсю зіму рыхтаваліся да гэтага дня, прачнуліся, узбунтаваліся ў ёй. Велізарныя трэшчыны ва ўсе бакі пабеглі па Дзвіне. Лёд пачаў разломвацца на кавалкі, гэтыя кавалкі, у сваю чаргу, крышыліся, разбіваліся,ператвараліся ў іскрысты звонкагалосы друз. Пачуўся густы нямоўчны шум вады. З дна да самага верху рака нібы закіпела. Падлёдныя цячэнні, віры, што заўсёды жылі ў ёй, зараз, у міг вызвалення, зараўлі, затрубілі, заспявалі. На многія попрышчы разляцеўся гэты спеў, гэты радасны крык шчаслівай ракі. І, падтрымліваючы яго, званар Багародзіцкай царквы, што стаяла на востраве пасярод Дзвіны, ударыў ва

ўсе званы. Няхай накладуць на яго заўтра эпітымію[1], няхай загадаюць дваццаць дзён і начэй стаяць на пакаяннай малітве, але сёння ён званіў і званіў, дзяліўся сваёй радасцю з усімі людзьмі.
І Полацк, старшы горад, Рагвалода гняздо, пачуў яго. Пачулі на дзядзінцы, дзе сяміверхая Сафія, нібы свечка, узлятала ў празрыстае вясновае неба. Сабор, які заклаў і пабудаваў князь Усяслаў Брачыславіч, быў добра відзён з ракі. Сцены сабора былі выкладзены з шырокіх плоскіх цаглін — плінфы і вялізных неапрацаваных камянёў — булыг. Плінфа і булыгі чаргаваліся між сабою. Дойліды не тынкавалі сабор, і Сафія была чырвона-пярэстая.
Званара з астраўной царквы пачулі на Вялікім пасадзе, дзе жыў і працаваў рукадзельны люд. Воўна і косць, жалеза і волава, бурштын і самшыт, гліна і дрэва, звярыныя шкуры і лён, срэбра і медзь — усё праходзіць праз рукі жыхароў Вялікага пасада, каб зрабіцца тым, без чаго нельга жыць чалавеку.
Голас Багародзіцкай царквы даляцеў да торжышча, дзе полацкія купцы трымалі важніцу для ўзважвання свайго і заморскага грузу і тапніцу для перагонкі воску.
Вясёлага званара пачулі манашкі-чарнарызніцы ў Спаскім дзявочым манастыры, які стаіць на поўнач ад Полацка ў лукавіне Палаты і які заклала Ефрасіння, дачка князя Георгія Усяславіча, а заклаўшы падаравала манастыру Святы Крыж з часцінкай "Дрэва Гаспадняга". Манашкі, усе як адна, паднялі сумныя прыгожыя твары да неба, і святло, не святое, а вясновае, загарэлася ў іхніх вачах. Недалёка ад ісціны быў той чалавек, які сказаў аднойчы: "Калі б не было высокіх манастырскіх сцен, усе манашкі даўно разбегліся б".
І ў Бельчыцы, у святліцу вялікага князя полацкага Уладзіміра Валадаравіча, даляцеў переразвон. У князя балела спіна, якую ён, ганяючыся за аленямі, застудзіў на ловах, ужо некалькі дзён зялейнікі,

[1] Эпітымія — царкоўнае пакаранне ў выглядзе паста, доўгіх малітваў і г. д.

полацкія і рамейскія, націралі спіну мядзведжым салам і крывёю чырвонага пеўня, сокам шэрай пякучай крапівы і атрутай з зуба чорнай гадзюкі. Боль крыху адпусціў. Сёння князю да праступджанага месца прыкладвалі гарачыя камені. Князь моршчыўся, але цярпеў, бо заўтра ці паслязаўтра трэба будзе стаяць на вечы каля сабора святой Сафіі.

Уладзіміру Валадаравічу пераваліла ўжо за пяцьдзесят сонцаваротаў. Шырокая русая барада, перасыпаная сівізной, бледны тонкі твар, чэпкія светла-карычневыя вочы, ладная мужная пастава — усё ў яго было ад знанай крыві, ад Рагвалодавічаў, і ён хацеў не горбіцца і не моршчыцца ад болю на вечы. Хай баяры, і купцы, і ўсе палачане бачаць свайго князя бодзёрым, упэўненым, вясёлым.

Адчыніліся высокія, абцягнутыя рысінай шкурай, абабітыя срэбнымі бляшкамі дзверы, і ў святліцу ўвайшоў тысяцкі[1] Жыраслаў. Пад Гольм, на тэўтонаў, тысяцкім хадзіў Іларыён, але нядаўна зусім раптоўна памёр — быў пакусаны ўласным дваровым псом. Веча выбрала тысяцкім Жыраслава, і зараз Уладзімір Валадаравіч, узіраючыся ў суровы бясстрасны твар новага кіраўніка полацкага гарадскога апалчэння, думаў: "За каго ён будзе стаяць? За мяне ці за баярскіх крыкуноў-падбрэхічаў на вечы?"

Увайшоў служка і аб'явіў:

— Вялікі князь, уладыка полацкі Дыянісій прыехаў.

Дыянісій быў невысокі, шчупленькі, з белым клабуком на галаве, у дарожнай расе, паверх якой на каваным срэбраным ланцугу вісеў вялікі шасціканечны залаты крыж. У руцэ ў Дыянісія горда плыў доўгі цёмнага дрэва посах са срэбнай булдавешкай. Епіскап сухой ручкай акрэсліў над князем святы крыж, запытаўся:

— Усё пакутуе плоць твая, князь?

— Пакутуе, уладыка,— прыўзняўся з набітых гусіным і цецеручыным пяром падушак Уладзімір: — Аж страх бярэ.

---

[1] Т ы с я ц к і — вайсковы кіраўнік гарадскога апалчэння, "тысячы".

Епіскап Дыянісій бясшумна сеў на мяккую з гнутымі ножкамі канапу, зняў з галавы клабук, паклаў яго побач з сабой, сказаў:
— Усе людзі рабы. Адзін раб уцех плоцкіх, другі — скнарнасці, трэці — славалюбства, усе разам — рабы надзеі і ўсе — рабы страху.
Тысяцкі Жыраслаў таксама сеў, але шлем з галавы не зняў, тоўстымі цяжкімі пальцамі перабіраў па рукаяці свайго мяча. Гэта не спадабалася Уладзіміру.
— З якімі навінамі прыйшоў, уладыка? — спытаўся Уладзімір у Дыянісія.
— Усе навіны ад Бога,— асцярожна дакрануўся да свайго зіхоткага крыжа, пагладзіў яго епіскап.— Хочуць тэўтонскія купцы на полацкім торжышчы сваю лацінскую царкву будаваць. Побач з нашай, праваслаўнай. Іхні старэйшына Конрад да мяне прыходзіў.
— Асінае гняздо хочуць віць у Полацку! — усклікнуў Жыраслаў і аж рукою стукнуў па рукаяці мяча.
Але вялікі князь быў спакойны.
— І што ты, уладыка, адказаў Конраду? — уважліва глянуў ён на Дыянісія. Цяпер і Жыраслаў упіўся ў твар епіскапа пранізлівым паглядам.
— Няможна будаваць,— звонка і цвёрда сказаў Дыянісій.— Наш крыж не можа суседзіць з крыжам лацінскім.
У гэты час пачуўся ярасны гул крыгаходу. Дзвіна, што цякла зусім непадалёку да Бельчыцаў, дзе была загарадная рэзідэнцыя полацкіх князёў, застагнала, заскрыгатала льдзінамі. Епіскап Дыянісій жвава ўсхапіўся з канапы, падбег да вялікага акна, учапіўся рукамі за алавяную раму, пачаў глядзець на раку. Твар ягоны асвяціла сонца, і ён соладка зажмурыўся, зрабіўся падобны на маленькага разамлелага на гарачай печы катка, што, паставіўшы трубою хвост, пацягваецца і мурлыкае. Тысяцкі Жыраслаў таксама падышоў да акна. Толькі Уладзімір з-за сваёй хваробы, абпаленай гарачымі каменнямі спіны, не мог зрабіць гэтага, і злосць успыхнула ў ім — вялікая, нечаканая. Аж увушшу зазвінела. Але ён, задыхнуўшыся,

прыкусіўшы губу, прагнаў, выкінуў з душы гэту злосць, як добрая гаспадыня выкідвае з-пад курыцы-наседкі яйка-баўтун. Яму патрэбна быць асцярожным і цярплівым. Асабліва цяпер, калі мужы-палачане на вечы ўздымаюць галаву, калі як даносяць верныя яму людзі, усё часцей і гучней гавораць у Полацку пра трыццаць старых, што павінны ўзяць неўзабаве ўладу. О, ён ведае гэтых "старых"! Некаторыя з іх маладзейшыя за яго — баярскія сынкі, багацеі, гарлапаны, усе гэтыя Вітановічы, Шчапановічы, Макрынічы...

Ён цяжка ўзяў уладу — даводзілася хітраваць, чакаць, трываць удары, каб потым нанесці ўдар хутчэй, чым праціўнік. Ён скінуў князя Барыса Давыдавіча, ягоных сыноў Васілька і Вячку зняволіў, потым Васілька прымусіў прыняць пастрыг[1]. Вячку, малодшага, не ўдалося заперці ў манастырскай келлі. Сядзіць Вячка ўдзельным князем у Кукейносе, шле адтуль даніну, якую бярэ з ліваў і латгалаў, прыкідваецца галубком, але бачыць Уладзімір, што не рахманы галубок, а баявы сокал распасцёр крылы над Дзвіной. Зараз Вячка ў Полацку, два разы прыязджаў у Бельчыцы, ліслівымі словамі падбухторваў ісці вайной на рыжскіх тэўтонаў. Калі ж ліслівасць не дапамагала, крычаў, забыўшыся, што ён толькі ўдзельны, малодшы князь, пра славу полацкую, пра веру праваслаўную, якую трэба зберагчы ад чужакоў. Хоча лбамі сутыкнуць яго, вялікага князя Уладзіміра, з епіскапам рыжскім Альбертам, а праз епіскапа — з Папам рымскім. Пракляты род князёў друцкіх! Ніяк не ўціхнуць, захапіць прагнуць сталец полацкі, спіхнуць з яго менскіх Глебавічаў[2].

Так думаў Уладзімір, а ўладыка Дыянісій і тысяцкі Жыраслаў усё глядзелі на Дзвіну, усё слухалі гул крыгаходу, нібы забыўшыся пра хворага князя.

Вось ён — лёс князёў полацкіх! На дзядзінцы, каля самай Сафіі, ёсць палаты каменныя, багата

---

[1] П а с т р ы г — абрад абразання валасоў на галаве тых, хто прымае манаства.

[2] Г л е б а в і ч ы — князі, нашчадкі князя Глеба Усяслававіча Менскага.

прыбраныя. Золата і серабро там, дарагія ўборы і віно заморскае. А ён, князь Уладзімір, павінен сядзець у Бельчыцах і глядзець на горад — свой горад! — праз раку, як глядзіць мокрая курыца на багаты агарод праз частакол. І бачыш, і не ўклюнеш. Дзівосы на смецці, дый толькі!
Пасля Усяслава пачалося гэта. Паміраў ён і падзяліў Полацкую зямлю паміж сваімі шасцю сынамі на шэсць удзелаў: Полацкі, Менскі, Друцкі, Віцебскі, Ізяслаўска-Лагожскі і Лукомскі. Сыны і ўнукі ягоныя з вялікай напругаю змаглі яшчэ болей пашырыць межы, стварылі ўдзелы Себежскі, Слуцкі і Барысаўскі. Вось на сёння і ўся зямля Полацкая, ды яшчэ Кукейнос і Герцыке на Дзвіне.
Цяжка быць князем, а хочацца. Прывык ён ужо да княжання. Калі баяры тлустыя выі схіляюць у паклоне, калі народ крычыць, славіць, калі ідзеш Дзвіною па даніну, быццам нешта спявае ў душы, быццам вогненная рука з неба на цябе паказвае і незямны захмарны голас абвяшчае зямлі, вадзе і ўсяму люду:
"Ён — князь! Ён — князь!" Хлапчуком-княжычам ён ужо адчуў салодкі хмель улады і аднойчы нават парэзаў наўмысна палец, захацеў паглядзець, якога колеру ў яго кроў,— блакітная ці чырвоная.
Пясочны гадзіннік, які стаяў на стале, сыпаў і сыпаў у пузаты сіняга шкла сасуд танюсенькі струменьчык пяску. Цячэ пясок... Цячэ жыццё...
Уладзімір глядзеў на вузкую спіну епіскапа, прытушыўшы ў сэрцы злосць, але ведаў адно: як толькі зноў акрэпне, возьме ў рукі Полацк, адразу ж выгурыць гэтага пса з епіскапаў. Не такія духоўнікі патрэбны яму, вялікаму князю.
— Хай ставяць лаціняне царкву, хай будуюць,— зычна сказаў Уладзімір.
Епіскап Дыянісій і тысяцкі Жыраслаў адразу ж перасталі глядзець у акно, павярнуліся да князя, і ён з радасцю бачыў у іхніх вачах здзіўленне і разгубленасць.
— Хай будуюць,— паўтарыў Уладзімір.— Крыж наш ад суседства з крыжам лацінскім плесенню не пакрыецца. А вышэй Сафіі тэўтонам храм усё роўна не ўзвесці.

— Вышэй Сафіі? — аж задыхнуўся Дыянісій і адразу надзеў на галаву свой клабук.— Ды як ты можаш так гаварыць, князь?
— Полацкія князі гавораць тое, што думаюць,— спакойна глянуў на яго Уладзімір.— Хай збудуюць свой храм за попрышча ад нашай царквы. А ты чаго крычыш, ойча? Забыўся, як пад Гольмам нас тэўтоны камянямі пачаставалі? Хочаш зноў пад камяні лоб падставіць?
Епіскап слухаў князя і бляднеў, задыхаўся ад гневу, але Уладзімір, помсцячы за ўсё, не даваў яму рот раскрыць, гаварыў далей:
— Дзвіну ўсё роўна не перагародзіш. Будзе цячы, як цякла. А да мяне ўчора ганец прыехаў з Суздаля, ад вялікага князя. І просіць князь суздальскі, наш з табою брат па веры, каб далі мы вольную дарогу ягонаму ячменю, воску і салу, якія людзі суздальскія ў Рыгу вязуць і далей, за мора Варажскае, у Любек і Брэмен.
Кажучы ўсё гэта, Уладзімір адчуў такую сілу бадзёрую ва ўсіх членах, што ўстаў без староннявй дапамогі, дайшоў да акна, каля якога міг назад стаялі епіскап з тысяцкім. “Хай цяпер яны на маю спіну паглядзяць”,— помсліва думаў князь.
На Дзвіне гуў крыгалом. Рака, быццам спяшаючыся забыць пра доўгія месяцы зімовага маўчання, трашчала льдзінамі, злавесна шумела зеленавата-белай вадой.
Праз акно Уладзімір бачыў высокія чырвоныя сцены Барысаглебскага манастыра, які быў пабудаваны ў Бельчыцах дойлідам Іаанам. Там жа ўзвышалася царква Параскевы-Пятніцы, і там былі магілы князёў полацкіх.
— Ваша прэасвяшчэнства,— за спінаю ў князя звярнуўся да епіскапа тысяцкі Жыраслаў,— мужы-палачане заўтра веча склікаюць. Там і пра лацінскую царкву рашаць будуць.
— Я прыеду на веча,— адказаў Дыянісій. Як і многія свяшчэннаслужкі таго часу, ён не любіў хадзіць пешшу, а ездзіў верхам на кані.
“Не за мяне тысяцкі,— зразумеў Уладзімір.— Не мой чалавек. Баярскі пёс. Трэба асцерагацца яго”.
Веча! Зноў — веча. Як бяльмо яно на княжым воку.

Рукі князю вяжа, волі ягонай крылы падсякае. Цярпі, князь. Усміхайся баярам, але не забывай пра купцоў і рамеснікаў. Яны — твая апора. Ім трэба гандляваць, у моры цёплыя і ледзяныя плаваць. Ім трэба свой тавар прадаваць, і яны з табою супроць баярства пойдуць, якое сядзіць у сваіх вотчынах, адгарадзіўшыся ад белага свету, гноіць хлеб у свірнах.
З тэўтонамі трэба змірыцца. Епіскап Альберт абяцаў плаціць Полацку даніну за ліваў. Хай плаціць. Тэўтоны ўмеюць даніну выкалочваць галоўнае — мір з імі. Будзе мір з Рыгай — будзеш ты, князь, на залатасёдлым кані сядзець. Пойдзеш ваяваць, паслухаўшыся гарлапана Вячкі з Кукейноса — уладу страціш і галаву.
— Пра лацінскую царкву трэба падумаць, князь,— прымірэнча, міралюбна сказаў Дыянісій.
Ага, і гэты абскубены певень зразумеў, што баяры і з яго могуць клабук садраць, у манастыры свечкі ляпіць прымусяць. Ну што ж, епіскап з тых храбрацоў, што толькі на ўласным ложку могуць кулакамі махаць, а ледзь прыпячэ, адразу ў іх заечыя ногі вырастаюць.
— Мыта[1] плацяць тэўтоны? — спытаўся ў епіскапа Уладзімір.
— Спраўна плацяць,— адказаў за епіскапа тысяцкі Жыраслаў.
— Храмы святыя пустуюць,— са скрухаю ўздыхнуў Дыянісій.— На ігрышчах бывае болей народу, чым у храмах. Пойдзеш іншы раз туды і бачыш: адны на дудках іграюць, другія скачуць, трэція барукаюцца між сабою. А ў іншых яшчэ большы д'ябал пасяліўся — сядзяць, падаюць адно аднаму знакі, пераміргваюцца, шчыкаюцца...
— Дык і ты, святы ойча, на ігрышчы ходзіш?— зрабіў выгляд, што здзівіўся, Уладзімір. Епіскап злёгку пачырванеў, засоп маленькім носам.
Як толькі Дыянісій і Жыраслаў паехалі з Бельчыцаў, у святліцу да князя Уладзіміра ўвайшоў ягоны верны халоп-саглядатай Станімір. У Станіміра не

[1] М ы т а — падатак, які браўся з купцоў пры перавозе тавараў.

было носа — князь адрэзаў у хвіліну гневу. Станімір нізка пакланіўся, застыў на парозе святліцы.
— Што чутно пра князя Вячку, бязносы? — пранізліва глянуўшы на халопа, спытаўся Уладзімір.
— Вячка з малой дружынай і з маладой жонкай Дабранегай спыніўся на падвор'і баярына Цвердахлеба, родзіча Рагвалода Свіслацкага, бацькі Дабранегі.
— І што робіць Вячка?
— Не п'е. З мужамі-вечнікамі перамовы вядзе.
— Аб чым перамовы?
Тут Станімір задрыжаў усім целам:
— Пакуль невядома, вялікі князь.
— Глядзі ў мяне! — злосна тупнуў нагою князь.— Ты можаш стаць і бязвухім. Каб усё высачыў, вынюхаў. Пайшоў прэч, пёс!
Станімір бясшумна знік, а князь Уладзімір загадаў паклікаць да сябе вучонага рамея, што ўжо даўно жыў у Полацку і, састаўляючы гараскоп, адгадваў князева будучае. Рамей быў смуглатвары, чарнавалосы, з шырокімі чорнымі бровамі, якія зрасліся на пераноссі. На галаве ён насіў круглую чырвоную шапачку, на нагах — пазалочаныя сандалі з вострымі загнутымі насамі.
Князь, вядома, нічога не разумеў у гараскопах. Рамей, як толькі з'явіўся ў Полацку, доўга тлумачыў яму сваю дужа мудрую навуку. Гараскопы, іх складанне, патрабуюць хоць невялікага знаёмства з небам, з астраноміяй. Трэба ведаць, што ёсць экліптыка — вялікі круг нябеснай сферы, па якому адбываецца бачны воку гадавы рух Сонца. Чалавек нараджаецца ў канкрэтны месяц, у канкрэтны дзень, і астролаг, састаўляючы гараскоп, устанаўлівае кропку экліптыкі гэтага чалавека на небасхіле. Пачынаючы ад гэтай кропкі, усё неба дзеліцца на дванаццаць "дамоў" — дом шчасця, багацця, братоў, радні і г. д. Заўсёды трэба мець на ўвазе становішча галоўных планет у адносіне да ўсіх "дамоў". Кожная з планет лічыцца "гаспадаром" таго ці іншага "дома". І блізкасць або, наадварот, аддаленасць планеты ад свайго "дома" ўплывае на чалавечы лёс. Адным словам, можна не толькі нагу — выю зламаць ва ўсім гэтым, але

Уладзіміру падабалася таямнічасць смуглатварага астролага, падабалася трымаць у руках і гартаць пацямнелыя ад часу тоўстыя кнігі, дзе былі намаляваны сонца і зоркі, нейкія кругі, вялікія і зусім маленькія. Князь, размаўляючы з астролагам, адпачываў душой. Далёка былі баяры і іхняе крыклівае веча, тэўтоны, літоўцы, Вячка з Кукейноса. Уладзімір на нейкі міг зноў рабіўся хлапчуком, цікаўным, гарэзлівым, і здавалася, з драўляных сцен менскага замка глядзеў на залітую месячным святлом Свіслач, слухаў шум вакольных лясоў.
Ён не верыў астролагу, але і сёння, як заўсёды, запытаўся:
— Ці доўга я буду князем?
Рамей хітравата ўсміхнуўся, слінячы ўказальны палец, пачаў гартаць кнігу. Яны з князем ужо не першы год, не прызнаючыся адзін аднаму, гулялі ў зразумелую, прыемную толькі ім дваім гульню. Нешта дзіцячае было ў гэтым.
— Планеты на сферы размясціліся спрыяльна для цябе, князь,— сказаў рамей і дадаў: — Твой епіскап ненавідзіць мяне.
— Што епіскапу да цябе? — лёгка прыўзняў бровы Уладзімір.
— Епіскап не любіць разумных людзей, бо...
— Бо дурны, як неабпалены гаршчок,— хуценька давёў ягоную думку да канца князь.
Абодва яны засмяяліся, а потым рамей, пасур'ёзнеўшы, сказаў:
— У нас, у Канстанцінопалі, імператара шануюць, як Бога. Імператар — сонца на зямлі.
Ён ведаў, на які мазоль наступіць князю. Уладзімір адразу ж пазмрачнеў, вочы зрабіліся сталёвымі, заблішчалі. Князь парывіста схапіў астролага за плячо:
— У маіх жылах таксама цячэ кроў рамейскіх парфіраносцаў. Я — князь! У мяне дружына! Веча разганю, асабліва шкодных баяр жыўцом спалю. Полацк будзе мой. Чуеш, рамей? Мой!
— Чую,— ціха адказаў астролаг.— Планеты за цябе, князь.
Уладзімір вачамі, што востра заблішчалі, як рапёк рамея.

Астролаг пайшоў са сваімі кнігамі, а князь, усхапіўшыся з ложа, забыўшыся пра хваробу, падбег да акна, прагна пачаў глядзець на золатагаловую Сафію, на дзядзінец, на каменныя палаты за ракой. Там ён павінен быць, гаспадаром павінен сядзець, вялікім князем. Уладзімір аж застагнаў.
Нячутна расчыніліся дзверы, і ў святліцу ўвайшла княгіня Улляна з тоненькай свечкаю ў руках. Уладзімір глянуў на яе, і на сэрцы зрабілася цёпла і светла.
— Чаму не ляжыш, князь мой? — з вялікай спагадаю ў голасе сказала Улляна.— Ты ж хворы. Ляж, князь.
Уладзімір прыпаў галавой да яе пляча, запытаўся:
— Чаго са свечкай ходзіш, Уллянaчка? Яшчэ ж не вечар.
— Злы дух ад цябе адганяю, хваробу,— слаба ўсміхнулася княгіня.— Цяжка табе, балесна. Я ўсё бачу. Ночы не спіш, усё аб нечым думаеш. Я ведаю аб чым.
Уладзімір прыўзняў галаву з жончынага пляча, запытальна паглядзеў на яе. Твар у жонкі быццам свяціўся, вочы былі натхнёныя і ў той жа час жаласныя.
— Не думай, князь, пра вялікую ўладу. Бог — адзіны ўладар усяго. Ёсць мы з табою. Ёсць дзеці нашы. І дзеці нас любяць. Што яшчэ трэба табе?
— Ты што? — зашаптаў Уладзімір, адхінаючыся ад жонкі, нібы пякельным жарам яго абдало з галавы да пят.— Ты што?
— Пашкадуй сябе, мой князь,— умольна глядзела проста ў вочы Уладзіміру Улляна.— Усё часова на зямлі. Улада, сіла, багацце — усё пройдзе. Пра душу думай. Пра мяне думай і сваіх дзяцей. Мы — твая душа, князь.
— Ты звар'яцела,— амаль адпіхнуў яе ад сябе Уладзімір.— Хіба я не думаю пра вас? Хіба не дзеля вас пакуты мае, бяссонніца мая?
Ён глядзеў на жонку з нянавісцю, але яна ведала, што ён кахае яе, і спакойна, як на шкадлівага хлапчука, пазірала на вялікага князя. Яна пагладзіла яму галаву і адчула, як зноў хіліцца гэта галава да яе

пляча. Яна асцярожна пагладзіла яму шыю, і моцная, налітая сілай мужчынская шыя рабілася мяккай, пакорнай.
— Чаго ж ты хочаш, Улляначка? — прашаптаў Уладзімір, і голас ягоны ўздрыгнуў.
— Не трэба табе вялікая ўлада, князь,— ціха сказала Улляна.— Зломіць яна цябе, скрышыць. Жалезнае сэрца, жалезныя рукі і ногі для ўлады трэба. А ты ж — слабенькі. Ты, як журавель у небе. Усе стрэлы ў цябе цаляюць.
Гэтыя словы яна казала пра высачэзнага шыракаплечага мужчыну, пра здаравяка, які на выцягнутых руках адрываў ад зямлі кадзь[1], напоўненую жытам. Але яна добра ведала яго, калі казала гэтыя словы. Ён быў каменем і быў воскам.
— Чаго ж ты хочаш? — зноў паўтарыў сваё пытанне Уладзімір, паўтарыў дрыготкім няўстойлівым голасам.
— Наш сын Якаў — княжыч. Дачка наша Красава за добрым мужам, баярыня. А мы з табой, князь, давай пойдзем у манастыр, за дзяцей нашых маліцца пойдзем.
Яна не паспела скончыць, як Уладзімір вырваў у яе з рукі свечку, паламаў, змяў, растаптаў нагамі. Ён, здавалася, і яе растаптаў бы.
— У манастыр захацела? — наліваючыся гарачай чырванню, закрычаў князь.— А Полацк? Каму я Полацк аддам? Ім? — Рукою, сціснутай у кулак, ён цяжка махнуў у бок Сафіі, у бок дзядзінца.— Ці, можа, рыжскаму Альберту? Ці сысунку Вячку?
Княгіня спакойна сустрэла вывяржэнне гэтага вулкана.
— Мужчыны клапоцяцца, каб была крэпасць, жанчыны — каб была лепасць,— сказала яна і, нагнуўшыся, пачала збіраць з дубовай падлогі камякі воску ад растаптанай князем свечкі.— Навошта святую свечку знішчыў? — дакорліва гаварыла яна князю, ушчувала яго.— Бог не даруе.
— Бог? — аж задыхнуўся Уладзімір.— Дзе быў Бог, як полацкае веча выгнала мяне з дзядзінца, з

---

[1] К а д з ь — бочка, старадаўняя мера сыпучых цел, якая раўнялася 14 пудам.

княжых палат? Дзе ён быў, калі ў мяне на полацкіх вуліцах кідалі гразёю?
Прыгожы хударлявы твар княгіні паблядпеў, яна перахрысцілася, паклала мужу рукі на плечы, страсна зашаптала:
— Прасі ў Бога літасці за неразумныя словы свае. На калені стань. Чалом Богу бі, каб даравау табе дзёрзкасць тваю!
Уладзімір палахліва, як хлапчук, глянуў на княгіню, уздрыгнуў, грузна апусціўся на калені. Княгіня падышла да сцяны, зняла з яе вялікі крыж-складзень, з крыжам у руках стала на калені побач з мужам.
— Святы Божа,— ціха загаварыла яна,— у цішыні нябеснага Іерусаліма пачуй мяне, рабу сваю. Дай шчасце роду майму. Дай сілу мужу майму. Дай, каб не ўбачыла я смерць дарагіх дзяцей маіх, папялішча на месцы дома свайго.
Яны стаялі на каленях, князь і княгіня, а за шырокім акном грукатала разняволеная Дзвіна, мокрыя крыгі трашчалі, звінелі, налазілі адна на адну, і не было лёду ніякага паратунку — пад вогненным позіркам сонца ён крышыўся на маленькія кавалачкі, скакаў, як жывы, на бераг і там плавіўся, знікаў, ператвараўся ў срэбныя зіхоткія лужынкі.
Князь Уладзімір кепска спаў усю ноч. Слёзы душылі яго, халодны страх прыліпаў да сэрца. Бачылася яму, як святая Сафія на велізарнай чырвонай крызе — ці не ад крыві чырвань? — адплывае ад яго па Дзвіне. Бег князь берегам ракі за Сафіяю, рукі ў неба працягваў, спатыкаўся, а Сафія раставаралася ў тумане, аддалялася, і князь не вытрымаў, упаў, а калі ўзняў ад зямлі галаву, позірк ягоны накалоўся на рыжскага епіскапа Альберта. Стаяў Альберт па калена ў вадзе, рукі распасціраў, смяяўся, чакаў, пакуль Сафія падплыве да яго.
А раніцай ударыў на дзядзінцы вечавы звон. Выходзілі са сваіх палат баяры, спяшаліся з торжышча купцы, рамеснікі тушылі горны, клалі ўбок малаткі, абцугі, стамескі. Усе кіраваліся на дзядзінец, на плошчу перад Сафійскім саборам. Вулічныя хлапчукі таксама джгалі туды, але варта з гарадскога апалчэння адганяла іх ад Сафіі доўгімі

арэхавымі кійкамі. Дзіцячыя вушы, як і жаночыя, як і вушы халопаў, не павінны чуць, аб чым гавораць і спрачаюцца мужы-вечнікі. Дзецям, жанчынам і халопам не дадзена мудрасць, іхнія слабыя душы блукаюць у прыцемках.

Князь Уладзімір з бірычом[1] Аляксеем, з невялікай аховай на двух чаўнах пераплыў цераз Дзвіну з Бельчыцаў у Полацк. Воі адпіхвалі срэбна-шэрыя льдзіны доўгімі шастамі. Сафія глядзела на князя са сваёй недасяжнай вышыні.

Князь ішоў да памоста ў цэнтры плошчы, і народ расступаўся перад ім. Некаторыя крычалі здравіцу, некаторыя, іх было шмат, насміхаліся над князем і бірычом, ледзь пальцамі на іх не паказвалі. Гула плошча. Вароны каркалі, кружыліся над ёй, нібы ў іх, варон, таксама збіралася сваё птушынае веча.

Князь узышоў на невысокі драўляны памост, засланы дарагімі апонамі, зняў шлем, пакланіўся спачатку Сафіі, потым у чатыры бакі, вечу. На памосце ўжо стаялі епіскап Дыянісій, пасаднік[2] Ратша, тысяцкі Жыраслаў, найбольш уплывовыя і багатыя баяры.

Справа ад памоста, у некалькіх кроках ад сябе, Уладзімір убачыў непарушную сцяну баяр — густыя бароды, высокія сабаліныя шапкі, доўгія шытыя золатам і срэбрам кажухі. Злева стаялі рамеснікі, рукадзельныя людзі. Апратка ў іх была бяднейшая, але гонару не менш, чым у баяр.

— Мужы-палачане, — зычна сказаў пасаднік Ратша.— Вялікае Біла сабрала нас усіх перад святой Сафіяй. Няхай мудрымі будуць нашы словы, цвёрдымі — душы. Па закону нашых бацькоў будзем рабіць мы ўсё, што запатрабуе ад нас Бог і стольні горад Полацк.

Уладзімір глядзеў на пасадніка і думаў, што той, як і Жыраслаў, як і епіскап Дыянісій, мяккай травіцай сцелецца перад баярамі. А нядаўна ж баяўся ў вочы глянуць яму, князю.

---

[1] Б і р ы ч — вяшчальнік, які аб'яўляў на плошчах волю князя, памочнік князя ў судовых і дыпламатычных справах.

[2] П а с а д н і к — намеснік князя, вышэйшая дзяржаўная асоба ў горадзе.

Між тым пасаднік гаварыў, уздымаючы голас, каб пачулі ўсе, далей:
— Тэўтонскія купцы, купцы з Гоцкага берага, Любека і Брэмена просяць мужоў-палачан дазволіць ім пабудаваць на нашай зямлі, у горадзе Полацку, сваю лацінскую царкву. Хочуць яны сваму богу маліцца ў гэтай царкве. Казна ў іх ёсць, дойліды і каменячосы — таксама. Што скажаце, мужы-палачане?
Пасаднік замоўк. Уладзімір наструніўся ўсім целам, адчуў, як пачынае мацней біцца сэрца. Епіскап Дыянісій, вядома ж, ужо расказаў усім, каму лічыў патрэбным, што ён, князь Уладзімір, не супраць лацінскай царквы ў горадзе. Зараз будзе відно, што думае на гэты конт веча. Зараз усе ўбачаць, колькі ворагаў у яго, князя.
— Прэч тэўтонаў! Прэч! — закрычала адразу некалькі соцень галасоў.
— Няхай будуюць! — насуперак гэтым галасам дружна крыкнула левае крыло веча — рукадзельныя людзі і купцы.
Адразу ўзняўся шум, вэрхал. Мужы-вечнікі махалі рукамі, кіямі, кідалі ўгору шапкі.
— Прэч тэўтонаў! — грымела на плошчы.
— Няхай будуюць! — з не меншай сілаю грымела ў адказ.
Здавалася, два віры, дзве бурныя вясновыя плыні сутыкнуліся на вечавай плошчы, і кожная хацела перамагчы, адолець праціўніцу. Баяры справа маўчалі, ды князь ведаў, што зараз не яны крычаць, а крычаць іхнія грыўні, іхняе срэбра крычыць, якое яны шчодра, не скупячыся, раздаюць тым, хто дзярэ за іх глотку на вечы.
— Прэч тэўтонаў і іх заступніка Уладзіміра! Хочам для Полацка трыццаць старых! — загукалі раптам на плошчы.
Спачатку такое крычалі нямногія, але падобна таму, як вецер, уляцеўшы з поля ў лес, кранае і варушыць усё болей і болей дрэў, так і гэты крык паступова авалодваў амаль усёй плошчай.
— Хочам трыццаць старых! Прэч князя! — бушавала веча.
Уладзімір пабляднеў, глянуў на бірыча, маладога

рослага хлопца. Той, відно па ўсім, таксама разгубіўся, то расшпільваў, то зашпільваў сваё чырвонае карзно. Тады князь узняў угару дзясніцу ў баявой пальчатцы. Князь прасіў, патрабаваў слова. Веча глядзела на гэтую руку і пакрысе супакойвалася.
— Мужы-палачане,— сказаў Уладзімір,— калі апошні раз гарэў Полацк?
Гэтым, здавалася б, простым пытаннем ён ашаламіў мужоў-вечнікаў. Веча яшчэ не разумела, куды гне князь. Самыя заўзятыя крыкуны прыціхлі на імгненне.
— Калі вораг паліў і руйнаваў вашы сядзібы? Калі плакала Сафія?
Князь паглядзеў на сабор, перахрысціўся. І ўсё веча глянула на Сафію. Залатыя воблачкі плылі над сямю яе вярхамі.
— Не было попелу і крыві? — дапытваўся князь.— Не цягнулі вашых жонак і дачок на ганьбу? А чаму? Чаму? Таму што я і мая дружына стаім на варце Полацка і Полацкай зямлі. Ведаеце, колькі ў мяне на целе ран? Я біўся з яцвягамі і уграмі, тэўтонамі і свеямі[1]. Я тапіў каня ў жэмайцкіх балотах. Клянуся магутнасцю нашай маці-царквы, што ніхто не пераломіць кап'ё аб святую Сафію!
— Слава князю! Слава Уладзіміру! — дружна выгукнула плошча.
— Прэч баяр-мнагаімцаў! — закрычалі злева, дзе стаялі рукадзельныя людзі і купцы.
Веча захвалявалася, забурліла. Замільгалі кійкі, кулакі. Ужо дралі адзін аднаму бароды, ужо баярская чэлядзь бегла біцца за сваіх гаспадароў. Уладзімір адчуваў, што перамагае, што яшчэ хвіліна-другая, і ён зноў будзе на белым кані, зноў будзе князем-ваяром. Сафія са сваёй вышыні ўжо ўсміхалася яму, і ён, у глыбіні душы, вырастаў пад аблокі, станавіўся ўпоравень з ёю. За такі міг можна аддаць палову жыцця.
Раптам плошча заціхла, і гэта цішыня была такой нечаканай, што князь уздрыгнуў. Рассякаючы натоўп, да памоста ў цэнтры плошчы ішлі тры ці чатыры чалавекі. Веча расступалася перад імі.

[1] Свеі — шведы.

Яны падышлі да памоста, і ўсе ўбачылі парванае адзенне, твары ў крыві. Галоўны паміж імі, сівабароды стары, узняўся на памост, адвесіў вечу паясны паклон.
— Я Дабраслаў з Крывіцкага ста[1],— сказаў стары і пахіснуўся.— Мы плылі на Гоцкі бераг. У земгальскай гавані на нас напалі тэўтоны. Стырнавога і карабельшчыкаў забілі. Тавар забралі. Глядзі, Полацк, на раны сыноў сваіх! Глядзі, Сафія!
Стары купец хрысціўся на Сафійскі сабор і плакаў. Ягоныя сыны, параненыя, знявечаныя, стаялі каля памоста, глядзелі на бацьку.
Уладзімір зразумеў, што нечаканае іхняе з'яўленне вельмі пашкодзіць яму. Зноў белы конь уцякаў ад князя, насмешліва ржаў здалёку.
Але гэта быў не самы балючы ўдар. Галоўнае выпрабаванне чакала князя наперадзе. Ледзь толькі пачало супакойвацца веча, убачыўшы і паслухаўшы абрабаваных купцоў, як на плошчы з'явіўся князь Вячка з дзесяткам сваіх вояў. Светла-русыя валасы развяваў вецер. Цёмныя бровы былі строга зведзены на пераноссі.
"Што тут хоча рабіць гэты сысунок? — з шаленствам падумаў Уладзімір.— Яго даўно трэба было замураваць ў манастыры, як брата ягонага Васілька. Божа, клянуся табе, як толькі сплывуць чорныя хмары, як толькі зноў цвёрда стану на полацкім дзядзінцы, адразу ж выганю яго з Кукейноса, выкіну ў Ноўгарад, у Пскоў, да эстаў, куды змагу, толькі б не было яго побач".
Вячка падышоў да памоста, але ўзбірацца на яго не стаў. Пакланіўся князю Уладзіміру, пасадніку, тысяцкаму і епіскапу, потым пакланіўся ўсім вечнікам. З-за высокага росту Вячку бачылі ўсе.
— Мужы-палачане,—хвалюючыся, пачаў гаварыць кукейноскі князь,— як вы можаце глядзець на крыўду вялікую вашых купцоў? Чаму вы не аслепнеце ад сораму? Дзе ваш гнеў? Дзе сіла ваша? Вы мокрыя вараб'і ці вольныя сокалы?
Вячка раптам павярнуўся тварам да сабора, стаў на

---

[1] С т о — купецкія арганізацыі, якія існавалі ў старадаўніх Ноўгарадзе, Полацку і, магчыма, іншых гарадах.

калені, загаварыў гучней, і ягоны голас чула ўся плошча, хоць не ўсе ўжо бачылі яго.
— Святая Сафія! Дзе меч Усяслава? Дай мне яго, і я пайду на тэўтонаў, вызвалю Дзвіну, наш спрадвечны Рубон, пракладу дарогу да мора.
"Скамарох,— думаў пра Вячку князь Уладзімір.— Ён там здзічэў у сваім Кукейносе. Зрабіўся паганцам, рагатай сасне моліцца, а тут бач як заспяваў. Скамарох!"
Князь аж плюнуў, праўда, асцярожна, каб крый Бог, веча не ўбачыла.
А Вячка раптам, не ўстаючы з каленяў, прасцёр да яго рукі, загаварыў, звяртаючыся толькі да яго, Уладзіміра:
— Вялікі князь! Чаму не сядлаеш каня? Вядзі дружыну на Рыгу, удар кап'ём у вогненную пашчу дракону. Ты — мудры і харобры. Ты ўжо вадзіў нас на Альберта. Пойдзем яшчэ, князь!
Усё веча глядзела на Уладзіміра, сотні вачэй, як нябачныя стрэлы, праціналі яго наскрозь. Глядзелі баяры і купцы, рамеснікі і воі. І ўсе чакалі.
"Што рабіць?" — з тугой падумаў Уладзімір. Упершыню за апошні час варухнулася ў душы шкадаванне, сверб, не зразумелы сабе самому. Каго ён шкадаваў? Сябе? Сваю недасяжную мару? Княгіню Улляну? Шкадаванне такое прыходзіла і раней, але калі ён быў у святліцы, у сваёй сям'і, з княгіняю. На плошчы ж, перад вечам, перад народам, сэрца ў яго заўсёды было нібы з жалеза. А сёння ўпершыню тоненькую трэшчыну дало жалеза.
"Што рабіць?" — думаў князь. Ён сышоў з памоста, узняў Вячку з зямлі, тройчы прылюдна пацалаваў, сказаў так, каб ва ўсе вушы заляцела:
— Устань, брат. Адна ў нас айчына — Полацк. І будзем біцца за яго, свой жывот[1] класці.
Вячка лёгка ўзняўся на ногі, таксама пацалаваў Уладзіміра.
— Слава! — грымела на плошчы.— Слава князям Вячаславу і Уладзіміру!
Уладзімір з Вячкам, узяўшыся за рукі, узышлі на

[1] Жывот — жыццё.

памост, і зноў вялікі радасны крык быў паўсюдна. Уладзімір стаяў побач з Вячкам, усміхаўся яму, усміхаўся вечу, а сам успамінаў пра недарэчную жахлівую смерць свайго швагра[1] Арцёмія. Быў багатым хлебасольным баярынам Арцёмій, мёду і добрага слова гасцям не шкадаваў. Шмат было ў яго сяброў, але і ворагі, як вядзецца, былі. Дужа любіў Арцёмій розных звяркоў, розную пушыстую хвастатую жыўнасць. У яго па сядзібе прыручаныя вавёркі бегалі, на плечы гасцям заскоквалі. У яго выдра ў сажалцы плавала, мядзведзь хадзіў на падвор'і без ланцуга. І вось аднойчы з Кіева прывезлі Арцёмію хамячка — цёплы светла-руды камячок, вочкі, як кроплі стэпавай вады. Такі быў ласкавы, такі мяккі, на руках у баярына драмаў. Не мог нацешыцца з яго Арцёмій. І аднойчы асабліва пяшчотна гладзіў звярка, да грудзей прытульваў. Ды ў той самы міг, як хацеў нешта загадаць чалядзінам, раскрыў рот, хамячок слізгануў яму ў самае горла. Ці то рот баярскі яму нарою здаўся, ці то навучылі гэтаму тыя, хто падараваў яго баярыну. Перагрыз хамяк усе кішкі Арцёмію, у кароткі момант са свету звёў.

Сціскаў Уладзімір Вячкаву руку, усміхаўся, а сам думаў: "І гэты прыкідваецца прыручаным. А толькі разяў рот — у рот ускочыць, загрызе".

Усімі званамі грымела Сафія. Бушавала веча.

— Слава! — крычалі мужы-палачане.

"Крычыце-крычыце,— думаў Уладзімір, усміхаючыся вечнікам.— Дружыну пад Рыгу я не павяду, а калі і павяду, то не скора. Мне не з Альбертам насмерць біцца трэба, а з вамі. Княжую ўладу я вам не аддам".

Князю да горкай сліны ў роце захацелася як найхутчэй вярнуцца ў Бельчыцы, у сваю святліцу, убачыць княгіню Ульяну, пачытаць пергамены. Больш за ўсё ён любіў чытаць павучанні святога Яфрэма, вялікага Іаана Златавуста і Феадосія Пячэрскага, што карміліся словам божым, як рупныя пчолы.

А веча ўжо крычала здравіцу толькі аднаму Вячку, быццам яго, Уладзіміра, і на памосце не было.

---

[1] Швагер — брат жонкі.

— Слава князю кукейноскаму! — кідалі шапкі ўгору вечнікі.
— Слава Вячку! Вядзі на тэўтонаў, князь!
І раптам бедны купец Васіль з Запалоцкага ста пранізліва закрычаў:
— Меч Усяславаў — Вячку!
Плошча нібы чакала гэтага, адразу падхапіла:
— Меч Усяславаў — Вячку!
І пайшло, пайшло-пакацілася:
— Меч Усяславаў — Вячку!
Уладзімір стаяў побач з Вячкам, вымучана, змушана ўсміхаўся, а ў самога пот каціўся па скронях. Цяжка было яму слухаць такое. Толькі самаму лепшаму ваяводзе ўручае полацкае веча Усяславаў меч, прычым кожны раз выкоўваецца новы меч і асвячаецца ў Сафійскім саборы.
Пакрычаўшы, пагалёкаўшы, мужы-палачане парашылі: за сядміцу выкаваць меч, асвяціць яго і ўручыць прылюдна князю Вячаславу Барысавічу Кукейноскаму. Меч падахвоціўся выкаваць на сваім падвор'і баярын Іван, бо ў яго былі зданыя кавалі. На тым веча і разышлося, расцяклося з дзядзінца, і толькі вароны ўсё не маглі супакоіцца, усё леталі над Сафіяй.

## II

Якава разам з усім палонам гналі на поўнач ад Княжага сяльца, ад Гарэлай Весі ў Друцкую зямлю. Палон спачатку ішоў па лёдзе Бярэзіны, і было не надта цяжка валачы сані з нарабаваным дабром, у якія ўпрэглі Якава разам з маладзейшымі нявольнікамі. Але праз дзесятак попрышчаў ваявода Зярнько, што кіраваў друцкімі воямі, загадаў павярнуць з Бярэзіны на ўсход, у напрамку Друцка. Тут ужо трэба было ісці па цаліку, па заснежаных лясах і балотах, і сані адразу прыбавілі ў вазе, быццам былі нагружаны жалезнымі крыцамі[1]. Палону, як падлічыў Якаў, было сотні паўтары людзей. У большасці — маладыя мужчыны і юнакі.

[1] К р ы ц а — кавалак сырадутнага жалеза.

Побач з Якавам абліваўся потам, цягнучы сані, каваль Чухома. Ён усё вучыў Якава, шаптаў яму:
— Ты спакойна цягні, не тузай, а то жылы парвеш. Нам яшчэ жыць з табой трэба.
Ён быў старэйшы за Якава на сем або восем сонцаваротаў, быў у самай мужчынскай сіле і славіўся сваёй кавальскай работай па абодва берагі Свіслачы. Яго нават трошкі пабойваліся, бо заўсёды смерды баяліся тых людзей, што маюць справу з агнём і жалезам. Звычайны чалавек, лічылі ў весях, не можа размякчыць метал так, што той ажно льецца, быццам вада. Толькі ведзьмаку пад сілу такое цудадзейства! Але ніякім ведзьмаком Чухома не быў. Добрыя сінія вочы былі ў яго, мяккія пшанічныя вусы.
— Чаму ж князь Рагвалод нас не абараніў? —сказаў аднойчы Якаў. Чухома глянуў на яго, горка ўсміхнуўся:
— Князь Рагвалод сябе бярог, свой церам... А мы? Што мы яму? Ён трохі пасядзіць у Княжым сяльцы, акрэпне і сам у набег пойдзе. На Тураў ці на Слуцак. Адтуль сабе смердаў прыгоніць. Ганяюць нас, брат, як жывёлу, ад князя да князя. І нікуды не схаваешся. Чуў я, праўда, што ў паўдзённых стэпах, далёка за Кіевам, ёсць броднікі[1] і ваяводаю ў іх нейкі Пласкіня. Але гэта далёка ад нас, як да неба.
Прывалы былі нячастыя. Калі ж спыняліся, друцкія воі загадвалі нявольнікам збіраць у лесе ламачча, раскладваць вогнішчы. Есці давалі толькі хлеб і ваду.
На адным з прывалаў Якаў убачыў варажбу самага пажылога з нявольнікаў Тварыміра. Калі прынеслі хлеб, Тварымір узяў кавалак, панюхаў яго, нешта прашаптаў, пакруціў у руках, разламаў і выцягнуў з хлеба, пад здзіўленыя, спалоханыя ўздыхі суседзяў, доўгі жмут чалавечых валасоў.
Ваявода Зярнько спяшаўся — магла быць пагоня. Стараючыся пакінуць меней слядоў, затоптвалі вогнішчы, зноў ішлі праз лясы і снягі.
Якаў усё ніяк не мог паверыць у тое, што ён раб.

---

[1] Б р о д н і к і — вольнае насельніцтва ўзбярэжжа Азоўскага мора.

Усё, што адбывалася з ім, з Чухомам, здавалася цяжкім жахлівым сном. Вось-вось прыйдзе нехта ці прыедзе, разбудзіць усіх, расштурхае, і прачнецца Якаў у Гарэлай Весі, і Настасся будзе паліць у печы, і, паснедаўшы, пойдуць яны разблытваць вузлы звярыных слядоў у пушчы. Возьме Якаў сваю сякеру, каб насекчы ядлоўцу вэндзіць ласінае мяса. Смачна хрусне пад сякерай дрэва... Падбяжыць Мірошка, засмяецца, шыбне ў яго, Якава, снежкай... Сырыца апаліла ногі. Друцкі вой, маладзенькі, сінявокі, махнуў бізуном, ударыў па нагах, загадаў:

— Хутчэй шавяліся, вол пад'ярэмны.

Якаў прыкусіў губу ад болю, але і здзівіцца паспеў: "Чаму ён называе мяне валом?"

— Ты што ж, праваслаўны, сваіх людзей хвошчаш? Мы ж не чудзь, не печанегі,— сказаў Чухома.

Вой глянуў на каваля, хацеў і яго ўдарыць, ды замест гэтага смаркануўся, прыклаўшы да наздрыны вялікі ссінелы на марозе палец. Толькі тут канчаткова зразумеў Якаў, што не сон гэта, не гарачка-расуха, і ад вялікай жалобы, ад крыўды заплакаў.

— Цярпі, Якаў,— падбадзёрыў яго Чухома.— Быць не можа, каб загналі нас у аглоблі. Неяк жа выкруцімся.

Якаў засаромеўся слёз, усміхнуўся свайму паплечніку па няшчасцю.

Праз дзень ці два далі палёгку Чухому — даведаліся, што ён каваль, і не захацелі, каб парваў жылы, цягнучы сані. Чухома паклікаў ваяводу Зярнько, смела гледзячы таму ў вочы, назваў Якава сваім унотам[1], ваданосам і малатабойцам, запатрабаваў, каб хлопцу таксама дазволілі вальней дыхнуць.

Якаў ішоў побач з Чухомам, радаваўся, што Бог звёў з такім добрым чалавекам. А над лесам сыпала шчодрыя промні сонца. Дрэвы, выцягнуўшы да сонца абмарожныя галіны, рыхтаваліся сустракаць вясну. На невялікай палянцы, на сонечным прыпёку, убачылі вялікі мурашнік. Мурашкі, выбегшы са сваіх цёмных сховаў, збіліся-сашчапіліся ў бліскучыя жоўта-карычневыя камякі. Здавалася,

[1] У н о т — юнак, тут вучань, чаляднік рамесніка.

яны аб нечым ціхенька дамаўляюцца, азіраючыся, каб не пачулі іх людзі.
Вясна з'ядала снег. Цёмныя лысіны мокрай лясной зямлі вылузваліся з-пад снегу. Санныя палазы прылівалі да зямлі.
Ваявода Зярнько не разлічыў. Ён думаў дабегчы да Друцка па цвёрдым гладкім снезе, але вясна дагнала яго. Ваявода быў сярдзіты, як мядзведзь-бадзяга, якога нечакана ўспаролі з бярлогі. Ён лаяў сваіх вояў, біў нявольнікаў.
Сані ваявода загадаў пасекчы і спаліць. Успыхнулі вялікія кастры. Увесь палон глядзеў на іх з радасцю, бо добра такі паабрывалі людзі плечы ў няблізкай дарозе.
Ваявода змрочна ехаў наперадзе сваіх вояў і сваіх нявольнікаў. Ён ужо зразумеў, што набег на Свіслач мала дасць яму багацця. Раставаў снег... Раставаў палон... Некаторыя паміралі, некаторыя ўцякалі, дачакаўшыся начной цемры. Тыя ж, якія яшчэ ішлі, былі дужа змучаныя, худыя, абдзёртыя.
Ноччу зашумеў цёплы паўднёвы вецер, навалок хмар на ўсё неба. Ваяводу, які спаў у паходным шатры, разбудзілі нейкія ўсхліпы. Ваявода схапіўся за меч, высунуў з шатра галаву. З неба ліўся дождж. Увесь лес быў напоўнены няяснымі шолахамі, шэптамі — гэта ажывалі, выпростваліся пад мяккім цёплым дажджом скамянелыя ад сцюжы дрэвы.
Не дайшоўшы некалькі попрышчаў да Друцка, ваявода Зярнько прадаў большую частку палону полацкім купцам, з караванам якіх сутыкнуўся ў лесе. Палачане былі ўжо на вазах, весела перацірали коламі снег і гразь. Якаў з Чухомам трапілі да палачан і, трэба сказаць, з палёгкаю ўздыхнулі, бо на прывалах бачылі, як шмат піў віна і мядухі ваявода і, ап'янеўшы, крычаў, што загадае сваім воям пасекчы ўвесь свіслацкі палон мячамі.
Палачане пасадзілі іх на вазы, на прывале накармілі паранай рэпай і зайцавым мясам.
— Адкуль жа вас гоняць? — пацікавіўся ў Якава малады белатвары купец з рыжай барадой.
— Мы са Свіслацкай зямлі. Вольныя смерды князя Рагвалода Свіслацкага,— адказаў Якаў. За ўсю папярэднюю дарогу ён толькі перакідваўся

слоўцам-другім з кавалём Чухомам, і яму карцела пагутарыць з новым чалавекам.
— Цяпер будзеце нявольныя,— уздыхнуў купец.— Прададуць вас на які-небудзь баярскі двор. Чэляддзю баярскай станеце,— здавалася, ён спачувае Якаву з Чухомам.
— Вось каб вас у Полацк завезлі,— працягваў купец,— там ужо лягчэй. Горад вялізны, людзей поўнае мора... А цэрквы якія! А палаты баярскія і княжацкія! Там было б вам лягчэй. Адно толькі полацкае паветра чалавека вольным робіць.
Ён хацеў яшчэ нешта сказаць Якаву, але пажылы купец, можа, нават ягоны бацька, крыкнуў з суседняга воза:
— Прыкусі язык, Міхалка! — і сярдзіта зірнуў на Якава.
Купцы везлі з Кіева жалезны тавар, жаночыя бранзалеты, амфары з рамейскім вінам. На адным з прывалаў яны нават пачаставалі вінам Якава і Чухому.
“І ўсё роўна нас прададуць,— спустошана думаў Якаў.— Як прадаюць бранзалеты і конскія падковы... Гэтыя купцы, гэты во Міхалка будуць ездзіць у Кіеў, у далёкія краіны, нават за мора, а я ссохну, згарбею на пад'ярэмнай нямілай працы. Навошта мне жыццё? Навошта мне такое жыццё? Лепей было б птушкай на свет нарадзіцца. Але і птушку ловяць у сілкі і цянёты... Да канца дзён сваіх буду працаваць да чорных мазалёў і Свіслач з Бярэзінай не пабачу”.
Ён апусціў галаву на грудзі, і слёзы пабеглі з вачэй. Малады рыжабароды Міхалка са спачуваннем глядзеў на яго.
— Ты што, Якаў? — ляпнуў яго па плячы рукою Чухома.— Нягожа табе слёзы ліць. Ты ж хлопец-адарвірог. З-пад сучкі яйка можаш украсці. Я цябе ведаю. Ад слёз толькі балотны туман гусцей узнімаецца. Не плач. Усё, дасць Бог, добра павернецца.
І Міхалка сказаў Якаву:
— Не плач.
Якаў рукавом світкі выцер слёзы, пачаў глядзець на лес, на дарогу, на неба, што ўсё болей яснела, усё



6 Зак. 2990

болей налівалася вясновым блакітам, і пакрысе супакойвалася расхваляванае сэрца. Ён ужо думаў пра Мірошку з Настассяй. Дзе яны зараз? Можа, таксама гоніць іх хто-небудзь у чужую старану? А можа, параседзелі ў лесе навалу, схаваліся і грэюцца зараз ля цяпельца, сухое ламачча ў агонь падкідваюць?
Якаў з Чухомам і яшчэ дзесятак нявольнікаў трапілі ў рэшце рэшт на падвор'е баярына Івана, абгароджанае высокім дубовым плотам, бруднае, у глыбокіх ямінах, у кароўскіх ляпёхах.
Баярын Іван вёў сваю гаспадарку з вялікім размахам. Тапіў і кляйміў камякі воску, паліў лес на попел для прыгатавання мыла, залення скур і афарбоўкі сукнаў, гнаў дзёгаць. Усё гэта багацце на стругах і лайбах вёз па Дзвіне на Гоцкі бераг і далей. Але прыйшлі тэўтоны, захапілі вусце Дзвіны, і цяжка, а потым і зусім немагчыма стала ягоным карабельшчыкам прасочвацца, прарывацца ў Варажскае мора. Вось чаму на вечы баярын Іван падтрымаў князя Вячку і нават падахвоціўся са сваёй руды і сваімі (гэта значыць сваіх чалядзінаў) рукамі выкаваць князю Усяславаў меч. "Бяда нас прымусіла перасесці з чоўна на баявога каня",— сказаў ён радавітым баярам, якія далёка не ўсе хацелі ісці вайной на тэўтонаў.
Баярын сам сустрэў сваіх новых чалядзінаў, сам захацеў глянуць на кожнага з іх. Ён ведаў усіх кароў у сваім вялікім статку, тым болей хацеў ведаць чалядзінаў. Чалядзіны стаялі, збіўшыся ў купку, пасярод шырокага двара. Яны былі схуднелыя, змардаваныя, і гэта адразу заўважыў сваім гаспадарчым пільным вокам баярын Іван. "Нялёгка мне будзе іх адкарміць,— падумаў баярын. Скура й косці... Але з божай помаччу за сядміцу пастаўлю чалядзінаў на ногі, дам хлеба і рэпы, а тым, хто ў асабліва цяжкую работу пойдзе, то й мяса".
З гэтай хвіліны баярын стаў для чалядзінцаў бацькам: карміў і паіў іх, апранаў, прытулак даваў, на працу руплівую і дбайную настаўляў, за гультайства караў. Як за сцяной былі чалядзіны за сваім баярынам. Чалядзін мог ударыць вольнага чалавека і схавацца ў харомах баярскіх. Баярын,

калі хацеў, мог не выдаваць свайго чалядзіна, а заплаціць таму, каго ўдарылі, за крыўду, за сорам. Баярын быў пчалінай маткаю, а чалядзін маленькай пчалою. Баярын быў пушчанскім дубам-волатам, а чалядзін — былінкаю.

Баярын быў бацькам клапатлівым — ледзь што не так зрабіў чалядзін, адразу вуха рэзаў чалядзіну па самы корань.

Так пачалі жыць Якаў з Чухомам на баярскім падвор'і. Ужо вясна снег вынішчыла. Ужо ручаі адгаласілі. Ужо лотаць жоўтая, кветка сарамлівая, па лугах пабегла.

Баярын Іван добра помніў абяцанне, якое даў усяму полацкаму вечу — за сядміцу выкаваць меч для князя Вячкі. Лепш бы ён не даваў такога абяцання, бо кавалі зрабілі меч, але калі баярын пачаў выпрабоўваць яго і ўдарыў па варажскаму мячу, толькі рукаяць з крыжавінаю ў баярскай руцэ засталася. Клінок жа са свістам адляцеў, хлапчука, што гусей гнаў на луг, параніў.

Тады Іван, патаемна ад мужоў-вечнікаў, з Полацка тэўтона Фердынанда запрасіў. Гэты Фердынанд ужо другі сонцаварот жыў на торжышчы, полацкую пяньку купляў для рыжскіх карабельшчыкаў. Хадзілі пра яго чуткі, што мудрэц ён у жалезе — што хочаш зробіць.

Фердынанд прыехаў на вазку з палатняным верхам. Плеценая са стальнога дроту кальчуга была на ім, бо вельмі баяўся тэўтон, што нападуць на яго ў дарозе. У баярскім цераме ён з вялікай радасцю, з палёгкай сцягнуў з сябе цесную кальчугу, застаўся ў мяккай атласнай кашулі. Пот, як боб, вісеў у яго на скронях і на бровах.

Баярын Іван адразу ж пачаў шчодра частаваць госця. Пасля трэцяга кубка мёду Фердынанд заўсміхаўся, павесялеў, шапнуў баярыну ў зарослае сівым воласам вуха, што ён, Фердынанд, вельмі харошы чалавек, што дома, за Варажскім морам, яго шанавалі і што ён (ха-ха) не супраць ушчыкнуць салодкае жаночае сцягно.

Баярын Іван вельмі ўважліва яго слухаў, згодна ківаў галавою, не забываючы наліваць мёд. Абодва былі вясёлыя, шчаслівыя, чырванашчокія.

Нарэшце баярын загаварыў пра меч. Фердынанд сказаў, што ў іх, у Саксоніі, кожнаму мячу, як нядаўна народжанаму сыну, даюць імя. Ёсць меч "Леў", меч "Рудольф", меч "Карл".
— Мне трэба меч "Усяслаў",— перапыніў Фердынанда баярын Іван.
— Усяслаў? — зморшчыў загарэлы нізкі лоб Фердынанд.— А хто гэта быў такі? Чым праславіўся гэты чалавек, каб яго імем называлі рыцарскі меч?
— Усяслаў быў вялікім князем полацкім і кіеўскім,— цярпліва, спакойна пачаў тлумачыць лаціняніну баярын.— Харобрым князем быў. Ён нарадзіўся ў кашулі...
— У кашулі? — здзівіўся Фердынанд.— Ага-ага, разумею. Бываюць дзеці, якіх Бог выпраўляе на белы свет з мацярынскага лона апранутымі.— Ён засмяяўся сваёй дасціпнасці і дасведчанасці.
— І вось гэтую "кашулю" Усяслаў усё сваё жыццё насіў з сабою. Яна засцерагала яго ад ворагаў. Ён зрабіў магутным Полацк.
— Так-так, Полацк магутны,— згадзіўся саксонец.— Іначай я не жыў бы ў ім.—Ён гучна засмяяўся. За ім дробным залівістым гарошкам рассыпаўся баярын Іван.
— Ты павінен выкаваць меч. Самы лепшы ў Полацку,— цверазеючы, сказаў баярын Іван.— Я добра заплачу табе.
Тут і Фердынанд пачаў цверазець. Рабіць мячы ён рабіў, але даўно. Рука і вока маглі адвыкнуць. Яму трэба памочнікі, шмат памочнікаў. Яму трэба добры метал. Яму трэба мёд, піва, мяса, мяккі хлеб...
— Будзе-будзе... Усё будзе,— хацеў перапыніць яго баярын.
Але Фердынанд нібы не чуў і не бачыў баярына. Яму, Фердынанду, акрамя ўсяго трэба маладая дзяўчына, якая б калі ён прагаладаецца, падавала яму на стол мёд, піва, мяккі хлеб...
Пры гэтых словах баярын Іван зморшчыўся, буркнуў, нібы сам сабе:
— Жаба заморская.
— Якая баба? — навастрыў вушы, недачуў Фердынанд.

— Будзе, кажу, табе баба,— змрочна паабяцаў баярын.
— А зараз, баярын,— сказаў Фердынанд, напаследак яшчэ раз адпіваючы з кубка,— адпусці мяне ў Полацк на тры дні. Струмант свой кавальскі прывязу, кнігу вучоную аб гарачых і халодных металах. Чакай мяне праз тры дні.
У гэты ж самы час Чухому з Якавам як будучым памочнікам Фердынанда быў дадзены строгі загад шукаць балотную руду, варыць і каваць з яе жалеза. У полацкім наваколлі такой руды не было, і яны вымушаны былі на вялікім плыце пайсці ўверх па Дзвіне, потым з Дзвіны спусціцца да вытокаў ракі Улы. Іх пільнавалі, сачылі за кожным іхнім крокам і рухам баярскія цівуны, так што збегчы ў дарозе не было ніякай магчымасці.
Суровая велічная прырода адкрывала ім свой твар. Безліч азёраў было рассыпана ў гэтай глухой лясной старане. Яны зіхцелі пад сонцам, як асколкі блакітнага шкла. Налятаў вецер, шумеў у маладой зялёнай асацэ, накочваў на нізкія пясчаныя берагі сіне-чорныя хвалі. Валуны грэлі на палянах свае замшэлыя бакі. Магутныя елкі, як вастраверхія шатры720 вояў, віднеліся там-сям. Сініцы жвава бегалі і звонка цінькалі ў густым змроку калючых яловых галін. Халодныя пеністыя ручаі пранізвалі роўнядзь тарфянішчаў і лугоў. Жаўцеў мох, а пад ім спала мёртвым сном гнілая балотная вада.
На беразе Улы Чухома знайшоў радовішча дзірвановай руды. Яна мела цёмна-чырвоны колер, падатна ляпілася ў пальцах.
Зрэзалі дзірван жалезнякамі, пачалі капаць руду. З гліны, якую прывезлі з сабою на плыце, змайстравалі дзве невялікія печы-домніцы. Гліну, каб не трэскалася ад вялікага агню, змешвалі з пяском і дрэсвай[1]. Ля самага споду печаў Якаў пад наглядам Чухомы зрабіў адтуліны і ў іх уставіў гліняныя трубкі-соплы, праз якія ўдзімаецца ўсярэдзіну печаў паветра. Засыпалі ў домніцы дрўляны вугаль уперамешку з кавалкамі руды, падпалілі...

[1] Д р э с в а — тоўчаны граніт.

Якаў працаваў з ахвотаю, з вялікай цікавасцю да справы, з якой сутыкнуўся ўпершыню. Пот залівай вочы, але ён не зважаў на гэта, рабіў усё, што загадваў Чухома. Толькі праца, цяжкая, да змогі, праца магла хоць на міг даць спачынак параненай палонам душы.

— Малайчына, Якаў,— хваліў яго Чухома.— Быць табе кавалём. Запомні: без каваля нярадасная зямля. Радасць мы даем рудою сваёй, жалезам сваім.

— З руды мячы выкаваны, якімі нас запаланілі,— ціха сказаў Якаў.

— Тут не наша віна, не кавальская,— усміхнуўся Чухома.— Птушкі нябесныя невінаваты, што з неба Пярун страляе ў людзей. Так і мы. Чуў я, што вось гэты меч, які нам загадана скаваць, на добрую святую справу пойдзе.

— Для князя Вячкі, які супроць тэўтонаў ваюе,— падказаў адзін з баярскіх цівуноў.

— Вось бачыш, Якаў? Не толькі зло ад жалеза. Зло ад злых людзей, не ад жалеза.

Агонь і сырое паветра рабілі ўсярэдзіне домніц сваю таемную, незразумелую шмат якім людзям, у тым ліку цівунам і Якаву, справу. Чухома загадкава і ўрачыста ўсміхаўся. Адзін ён ведаў, што ў гэты самы час душа агню і душа руды спляталіся ў адзін неразрыўны клубок, у адно цэлае, каб нарадзіць звонкагалосае жаданае дзіця — жалеза. Праўда, гэта яшчэ не чыстае жалеза, гэта крыца, у якой вельмі шмат шлаку. Крыцу яшчэ трэба будзе да чырвані нагрэць у горне, кінуць на кавадла і біць, біць, плюшчыць магутнымі малаткамі, каб выгнаць з яе балотны хваробны дух.

Пачакалі, пакуль астынуць домніцы, разбілі, разламалі іх, цёплыя крыцы пагрузілі на плыт. Цёмна-вішнёвая зара палала над зямлёй. Усхліпвала вада ў асацэ. Зоркі трымцелі ў змроку, як залатыя нябесныя слёзы.

Якаў стаяў на плыце, адпіхваўся ад багністага дна цяжкім бярозавым калом. Балела спіна, але надзіва яснай і спакойнай была душа. "Я малады,— думалася яму.— Мне яшчэ жыць і жыць. Я моцны. Я ніколі не буду рабом. Ніколі". Ён успомніў словы

маладога купца Міхалкі аб тым, што адно толькі полацкае паветра чалавека вольным робіць, і радасць, даўно забытая птушка, заспявала ў душы. Ён ужо ведаў, як ратавацца,— трэба бегчы ў Полацк, у горад, і згубіцца між людзей. Трэба ўцячы, а там — бог-бацька. Што будзе, то будзе.
Як толькі прыбылі яны на баярскае падвор'е, адразу ж, са згоды баярына Івана, іх узяў пад сваю поўную ўладу саксонец Фердынанд. Ён выпытаў у баярына, хто з ягоных людзей да кавальскай працы здатны, і разам з Чухомам у кавалі трапіў Якаў.
Фердынанд, у новенькім скураным фартуху, у новенькіх, толькі пашытых ботах, сабраў усю сваю абслугу — і малатабойцаў, і гарнавых, і ваданосаў — у кузні, сказаў, як і ўсе тэўтоны павольна і смешна вымаўляючы полацкія словы:
— Разам працаваць будзем. Я не вашай зямлі чалавек, але я добры. Я люблю есці і піць віно, я люблю шмат спаць і кахаць жанчын. Вы, пэўна, таксама ўсё гэта любіце? Але яшчэ я люблю і ўмею працаваць.
Ён на хвіліну змоўк, зірнуў на сваіх памочнікаў — ці разумеюць яго? Разумелі. Слухалі ўважліва. Гэта яшчэ болей натхніла Фердынанда. Узбуджана махаючы рукамі, ён павёў далей сваю гаворку:
— Нам трэба зрабіць меч "Усяслаў". Правільна я называю імя? Дык вось. З той руды, з таго жалеза, якое вы прывезлі аднекуль з балотаў, нельга зрабіць меч "Усяслаў". Можна серп жанчыне скаваць... А меч... Ваша балотнае жалеза мяккае, слабае. Меч з такога жалеза сагнецца, як саломінка, у першым жа паядынку. За баярскія грыўні на торжышчы ў Полацку я купіў свейскага жалеза. З такога жалеза куюцца мячы для пераможцаў, для герояў. А з вашага мы наробім баярыну ключоў і замкоў.
Фердынанд з-пад свайго скуранога фартуха раптам выцягнуў пажоўклы, згорнуты ў трубку пергамен.
— Ведаеце, як гартуецца свейскае жалеза? Вось што піша Тэафілус Прэсбрайтэр у сваім трактаце "Схема разнастайных мастацтваў". Тут напісана не вашымі літарамі, я вам буду пераказваць, тлумачыць.
Ён пачаў чытаць, зрэдку адрываючы позірк ад пергамена, каб глянуць на сваіх слухачоў:

— Загартоўка жалеза вядзецца такім жа чынам, як рэжацца шкло і размякчаюцца камені. Вазьмі трохгадовага чорнага казла і трымай яго пад замком на прывязі трое сутак без корму. На чацвёрты дзень накармі яго папараццю. Пасля таго як ён два дні паесць папараць, змясці яго ў наступную ноч у дзежку з рашэцістым дном. Пад дзежку пастаў сасуд для збору казлінай мачы. Набраўшы за двое альбо трое сутак дастаткювую колькасць вадкасці, выпусці казла на волю, а ў гэтай вадкасці гартуй сваё жалеза.
Фердынанд схаваў пергамен, строга глянуў на сваіх памочнікаў.
— Нясіце.
— Каго? Чорнага казла? — здзівіўся Чухома.
— Нясіце сюды амфару з віном, якую я схаваў у кучу вугалю.
Пачалі каваць меч "Усяслаў". Свейскае жалеза і сапраўды было добрае, падатна кавалася, адчувалася ў ім сіла і пруткасць, колер мела шэры з сіняватым адценнем. Чухома аж языком прыцмокваў:
— Мне б у Гарэлую Весь такое.
Фердынанд адразу ж распазнаў у Чухоме самага здольнага і самага ўмелага свайго памочніка. Даваў яму каваць меч, спачатку рэдка, потым часцей. Меч рабілі доўгі, двухручны, каб дзвюма рукамі мог вой браць яго ў час бою за рукаяць. Лёзы ў клінка з двух бакоў былі вострыя, наточаныя. Крыжавіну і рукаяць абклалі чэрненым срэбрам, і срэбра тое гузавата, няроўна лягло. Не будзе слізгаць рука. Навершша рукаяці ў выглядзе чырвонага яблыка зрабілі дарагі заморскі камень, што ў паўзмроку вакол сябе праменні рассыпае, усадзілі, утапілі ў гэты яблык. Трохі ніжэй рукаяці на адным баку клінка выяву святога Юрыя выбілі, а з другога боку "Усяслаў" полацкімі літарамі на жалезе напісалі.
Апошні час усё болей Чухома завіхаўся над мячом, і Якаў яму памагаў. Фердынанд жа віно піў, хаваючыся ад баярына. Знікла ў яго ахвота да кавальства, і часцяком казаў ён Чухому:
— Паеду ў Саксонію, вінаробам стану. Праз дзве вясны паеду ў Саксонію. Абрыдла мячы каваць.

Баярын Іван, поўнасцю даверыўшыся Фердынанду, нячаста заходзіў у кузню, дый смурод, гарачыню і дым цяжка трываў. Прыбягалі іншы раз ад баярына хлапчукі надворныя, пыталіся:
— Баярын Іван ведаць жадае: ці хутка меч будзе гатовы?
Фердынанд, якога загадзя папярэджвалі, што чакаецца ганец ад баярына, завіхаўся над кавадлам, злавесна прыжмурваў вочы, адказваў:
— А ці хутка дзіця нараджаецца?
Хлапчукі гэтага не ведалі, беглі назад, у бярскія палаты. Але аднойчы сам баярын завітаў у кузню. Быў ён у доўгім, па калена, чырвоным каптане, у руцэ трымаў белую вышываную хустачку — нос ад смуроду затыкаць. Ён асцярожна прыпыніўся на парозе кузні, акідваючы падазроным позіркам Фердынанда, Чухому і Якава. Яны пакланіліся баярыну.
— Прыязджалі мужы-вечнікі з Полацка,— сказаў баярын,— пыталіся наконт мяча.
— Меч гатоў, баярын,— усміхнуўся Фердынанд.— Ляжыць, на халадку астывае, на ранішняй расе. Якаў, прынясі баярыну Івану меч.
Якаў борздзенька выйшаў з кузні, прынёс меч, які перад гэтым паклалі на пясок, на сырую зямлю, каб усю сілу зямную ў сябе ўвабраў. На клінку ззяла раса.
Баярын узяў у рукі цяжкі светлы меч, круціў яго так і гэтак, махнуў ім над галавою, уважліва разглядаў рукаяць і крыжавіну, выяву святога Юрыя, навершша з дарагім заморскім камянём. Здавалася, каб не Фердынанд з памочнікамі, ён паспрабаваў бы, пакаштаваў меч на зуб.
— Добра,— сказаў нарэшце баярын.— Важнецкі меч. Ты, майстар,— звярнуўся ён да Фердынанда,— атрымаеш плату, як мы і дамаўляліся, і акрамя таго — зверх платы. А вы,— пранізаў ён уважлівым позіркам Чухому з Якавам,— вып'еце ў святы дзень вядро мёду. Мне патрэбны людзі па жалезнаму рамяству.
— Дзякуй табе ў ногі, баярын Іван,— пакланіўся Чухома.
— Похвы для мяча ўжо зрабілі ў Полацку,— працягваў баярын.— І яшчэ казалі мужы-вечнікі,

каб абавязкова ў рукаяць мяча былі ўкладзены мошчы святой Ефрасінні Полацкай, што ў святой зямлі, у Іерусаліме, памерла.
— Дзе ж мы возьмем гэтыя мошчы? — разгубіўся Фердынанд і паглядзеў на Чухому з Якавам.— Ды каб пакласці іх у рукаяць, трэба выняць адтуль камень.
— Камень трэба выняць,— адразу згадзіўся баярын. Не заморскімі каменнямі ваююць, а святымі мошчамі. Вынь камень, майстар, і аддай мне яго.
Ён растапырыў пальцы ледзь не перад самым носам у Фердынанда.
— Не адразу, баярын,— адвёў убок ягоную руку Фердынанд.— Цяжка клаўся камень у рукаяць, а даставаць яго будзе яшчэ цяжэй. Два дні нам на гэта.
— Два дні? — зморшчыўся баярын.— Хай будзе патвойму. Да таго часу і мошчы святой Ефрасінні прывязуць з Кіева, з Пячэрскай лаўры.
Калі баярын пайшоў, Чухома ўсміхнуўся:
— Пашкадаваў камень, стары грыб.
— Сваё дабро трэба шкадаваць,— суха сказаў Фердынанд.
Чухома з Якавам нічога не адказалі яму, толькі пераглянуліся між сабою.
"Як жа ўцячы адсюль? — пакутліва думаў Якаў.— Няўжо ўсё жыццё пройдзе вось у гэтай кузні, паміж гэтых чорных закураных сцен?"
За частаколам баярскай сядзібы заўважыў ён аднойчы парослую ніцым хмызняком пустку. Нейкія самотныя грудкі віднеліся там, нейкія пагорачкі.
— Што гэта? — пацікавіўся Якаў у старога чалядзіна, які, цяжка хаўкаючы ротам, цягнуў на гарбе шэры камень-жарнавік.
— Гэта магілы,— не прыпыніўся, нават не глянуў на Якава стары.— І ты там будзеш ляжаць.
Штосьці абарвалася ў душы Якава, калі пачуў гэткія словы. Нейкая тоненькая струна ў сэрцы лопнула. Звінела дагэтуль струна, спявала, чорныя думкі выганяла прэч, а ў той міг лопнула. Назаўсёды замоўкла.
Не ў палетнікі[1] ўзялі іх на работу, не да Пакроваў, а

[1] П а л е т н і к — чалавек, які наймаўся на работу на адно лета.

на ўсё жыццё. Каб жа ведаў чалавек, колькі жыць давядзецца, колькі летаў над галавой прашуміць. Праз два дні прыехалі мужы-вечнікі, прывезлі ў залатой карчазе мошчы Ефрасінні Полацкай. Фердынанд у прысутнасці полацкіх баяр і баярына Івана выняў заморскі камень з рукаяці, паклаў у рукаяць святыя мошчы. Чухому і Якава на гэты час выгналі з кузні. Чалядзіну забаронена бачыць такое таінства.

Пад пераклікі царкоўных званоў урачыстая працэсія рушыла да Полацка. Наперадзе на багата прыбраных конях ехалі баяры. За імі ішло дванаццаць хлопчыкаў, апранутых у белыя кужэльныя кашулі і чырвоныя з фарбаванай ласінай скуры штаны. Хлопчыкі дзьмулі ў пазалочаныя дудкі. За хлопчыкамі павольна ехала абвітая свежымі лугавымі кветкамі, абцягнутая бліскучымі рамейскімі апонамі калясніца. Яе цягнулі тры белыя кані з пафарбаванымі залатой фарбай капытамі, з расчасанымі грывамі, у якія былі ўплецены медныя бомы і рознакаляровыя стужкі. На калясніцы ў высечаным з цёмна-карычневага моранага дубу футарале зіхацеў пад промнямі сонца меч. Праваруч і леваруч мяча сядзелі на мяккіх зэдлах баярын Іван і саксонец Фердынанд. Баярын дзеля такой урачыстасці апрануў свой самы багаты гарнастаевы кажух і абліваўся салёным потам. За калясніцаю крочылі Якаў і Чухома. Якаў трымаў у руках вялікія кавальскія абцугі, Чухома — цяжкі малаток. Баярын спачатку і слухаць не хацеў, каб ягоныя чалядзіны разам з ім у горад кіраваліся, разам з ім славу і вітанні люду полацкага дзялілі. Але Фердынанд настояў, угаварыў яго. “Хай бача стольны Полацк, якія ў цябе майстры, баярын,— лісліва сказаў Фердынанд.— Хай пазайздросціць табе”. Гэтыя словы і вырашылі справу — баярын Іван любіў, каб яму зайздросцілі.

Якаў ішоў з абцугамі ў руках. Ззаду гучна тупалі коні — ехалі баярскія вої, абвіўшы зялёнай мяккай дзеразой коп’і.

З кожным імгненнем Якаў набліжаўся да горада, пра які столькі чуў, пра які штоночна марыў, лежачы на цесных брудных палатках разам з чалядзінамі. Паветра гэтага горада робіць людзей свабоднымі.

Зямля гэтага горада, толькі на яе ступіш, дае сілу і радасць. Вось ён ужо выплывае купаламі Сафіі, якія, быццам сем чырвона-залатых пялёсткаў, ірвуцца ў неба. Вось паказаліся ўжо цэрквы ў золаце, срэбры і медзі, шэрыя непарушныя муры манастыроў. Дзвіна асляпіла вочы блакітам, а на ёй безліч ветразяў — чырвоных, сініх, зялёных. Кіпіць, як мурашнік, торжышча. Усё, што расце ў полі, што шуміць у лесе, што плавае ў рацэ, што ляжыць у зямлі,— усё прадаецца тут. Пільна сочаць за сваім таварам купцы. Рыхтуюць да няблізкай дарогі свае лайбы, стругі і шкуты карабельшчыкі — забіваюць пазы між дубовымі дошкамі белай кудзеляю, заліваюць днішчы і баржы цягучай смалой, меднымі цвікамі прыбіваюць да палубы цюленевыя шкуры. Ганчары круцяць свае колы, гліна спявае пад пальцамі, а на сподзе свежых збаноў і гаршкоў, карчаг і макатроў кожны ганчар трэсачкай або саломінкай выводзіць свой знак, сваю пячатку. Цесляры спорна грукаюць сякерамі. Ярка-белымі трэскамі засыпаны іхнія ногі. Каменячосы абсякаюць, абгладжваюць валуны. Іскры вылятаюць з дзікіх камянёў. Кажамякі і чабатары размінаюць, чысцяць, рэжуць шкуры. Збройнікі наточваюць рогвіцы і коп'і. Стэпнякі танцуюць з бубнамі ў смуглых руках. Яўрэі прадаюць варанае мяса і абаранкі з макам. Крышыцца камень. Звініць метал. Зіхаціць, льецца вада. Шумяць вуліцы. Плошча ля Сафіі напоўнена сонцам і ветрам. І ўсюды — народ, густы харобры народ. О Полацк магутны! Светлае вока на твары зямным.
Палачане дружна віталі Усяславаў меч, які тройка белых коней везла па Прабойнай вуліцы, потым па Вялікім пасадзе. З Вялікага пасада праз вароты Крывіцкай вежы меч уехаў на дзядзінец.
Епіскап Дыянісій разам з усім клірам выйшаў насустрач з Сафійскага сабора. Божыя служкі, спяваючы псалмы, неслі крыжы, абразы, харугвы. Епіскап асвяціў меч. Потым пасаднік Ратша ўзяў меч з футарала, прыціснуў яго лязом да правага пляча і зрабіў круг вакол Сафіі. Усе маўчалі, стаялі кожны на сваім месцы, глядзелі, як ззяе пад вясновым сонцам меч.
— Слава мячу Усяслававу! — крычаў натоўп.

Ды між мужоў-вечнікаў не было князя Уладзіміра, не прыехаў з Бельчыцаў князь. Ці то справы неадкладныя затрымалі, ці то хвароба — ніхто не ведаў. Некаторыя ж казалі, праўда, з асцярогаю, што паехаў князь са сваімі лоўчымі[1] на бабровыя ловы.
І баярства было няшмат на плошчы. Сядзелі ў сваіх палатах, мёд пілі, чакалі. Той крыж на вечы, калі патрабавалі баяры ў князя Уладзіміра весці Полацк на Рыгу, быў ужо забыты. Епіскап Альберт не драмаў — слаў да баяр тайных ганцоў з падарункамі, з клятвамі ў хрысціянскай любові і згодзе.
Толькі купцы з Крывіцкага ста, рамеснікі і чорны люд віталі меч Усяславаў. Разумелі: будзе моцная Полацкая зямля, будуць моцныя і яны. Ім патрэбен быў гандаль, тавары свае, грузы трэба было па Дзвіне і Варажскаму мору везці без страху, мыта не плацячы нязваным тэўтонам.
Князь Вячка чакаўся з Кукейноса толькі заўтра. Заўтра ж павінна было сысціся веча, каб уручыць князю меч. Са згоды епіскапа Дыянісія і пасадніка Ратшы баярын Іван забраў на ноч меч у свае гарадскія палаты, што былі збудаваны тут жа на дзядзінцы, непадалёку ад Крывіцкай вежы.
Якаў увесь гэты час месца сабе не знаходзіў. У адным кроку ад яго была воля, яе, здаецца, можна было пакратаць рукою. Вось гэтыя купцы, барадатыя, загарэлыя,— воля. Прыбіцца б да іх, як да жураўлінай чарады, і можна паплыць у далёкія моры, у дзівосныя краіны, дзе ад гарачага сонца растаюць камяні, дзе бруяцца рэкі з птушынага малака, дзе жывуць людзі з сабачымі галовамі. Вось гэтыя рамеснікі, жылістыя, вясёлыя, гаваркія,— воля. Яны ведаюць таямніцы жалеза і каменю. За вогненную бараду трымаюць яны агонь, што бушуе ў горнах і ў печах-домніцах. Быць бы ў іх унотам, ваданосам, прыбіральшчыкам смецця, абы вольным.
Ды Якава і Чухому неадступна пільнавалі баярскія грыдні. Як сабачыя хвасты, валачыліся следам. Дзе тут уцячэш? Усадзяць кап'ё між лапатак і кінуць на памыйную яму. Або яшчэ горш — зловяць, жывога



[1] Лоўчыя — паляўнічыя.

месца на скуры не пакінуць, а потым на жалезным ашыйніку і ланцугу ў падзямелле пад баярскімі палатамі кінуць, у поруб, дзе вока чалавечае слепне ад вечнага змроку, дзе пацукі па руках чалавечых ходзяць.
Баярын Іван спыніўся на начлег у сваіх гарадскіх палатах. Багаты стол чакаў яго, лазня, мяккі пуховы ложак, маладыя прыгожыя чалядніцы, якія, каб баярын соладка спаў, гусінымі пёрамі пяткі яму казычуць. Смачна спаў баярын у тую ноч.
Якаў з Чухомам паклаліся спаць у малой грыдніцы, дзе звычайна жыве і сталуецца чорная баярская чэлядзь — дрывасекі, начныя вартаўнікі, фурманы. Тут жа, як гэта ўжо спрадвеку павялося, жывуць клапы і прусакі.
Неўзабаве сон, як цяжкі надмагільны камень, наваліўся на грыдніцу. Чэлядзь, змучаная за дзень, спала, храпучы і раз-пораз нешта мармычучы. Спаў Чухома. Толькі Якаў, лежачы на спіне, падклаўшы пад галаву рукі, ніяк не мог заснуць. Душа ягоная, усе думкі былі на плошчы перад Сафіяй, там, дзе зусім нядаўна шчодра свяціла сонца, дзе шумеў полацкі люд. Няўжо ён, Якаў, малады, моцны, так і памрэ нявольнікам?
Начныя зоркі ззялі над Полацкам. Ззяў месяц. Срэбныя воблачкі лёгка плылі ў цішыні празрыстага неба.
Раптам сусед Якава па палатках, малады, высокі і хударлявы чалядзін, узняўся, быццам яго нешта падкінула, са свайго месца. Колькі імгненняў ён сядзеў з заплюшчанымі вачамі, з нейкім ціхім смуткам на твары. Прамень месяца праз шчыліну ў акне, зацягнутым бычыным пухіром, упаў на высокі бледны лоб.
Здавалася, чалядзін толькі і чакаў гэтага. Здавалася, тонкі месячны прамень быў той рукой, што падняла яго і аддала толькі аднаму яму зразумелы загад.
Ён сядзеў зусім побач з Якавам. Ён спаў і не спаў, бо трапяталі бровы, у кутках вуснаў цеплілася слабая ўсмешка. Ён быў падобны на кветку, бледную і кволую. Кветкі раніцой паварочваюць свае галоўкі насустрач сонцу. У яго ж быў гаспадаром начны месяц.

Вось ён уздрыгнуў. Сутарга прабегла па твары. Чалядзін лёгка, бясшумна злез, не адкрываючы вачэй, з палаткаў, пайшоў да дзвярэй, адцягнуў дубовую завалу, нячутна расчыніў дзверы і знік, растварыўся ў цемені ночы. Ніхто ў грыдніцы нават не варухнуўся. Усе спалі як забітыя.
Якаў, страшэнна ўражаны нечаканым відовішчам, ляжаў на палатках і не дыхаў. Няўжо гэты хлопец кожную ноч так ходзіць? А што, калі ён надумае перадушыць усіх? Сам сонны падавіць сонных, і ніхто нічога ведаць не будзе. Але ж куды і дзеля чаго ён пайшоў?
Якаў услед за хлопцам нячутна саскочыў з палаткаў, асцярожна выйшаў на двор. Як белы птах, плыў над горадам месяц. Туманілася наваколле. Ні агеньчыку... Ні голасу чалавечага... Быццам горад заснуў і ніколі больш не прачнецца. Дзе ж малады чалядзін?
Як ні напружваў Якаў зрок і слых, нідзе нікога не было. Але не праваліўся ж чалядзін скрозь зямлю. І праз вастраверхі дубовы частакол не мог ён перабрацца — там варта баярская стаіць з калатушкамі, дый частакол дужа высокі.
І раптам, узняўшы ўгору вочы, Якаў убачыў чалядзіна і аслупянеў ад нечаканасці і жаху. Чалядзін з заплюшчанымі вачамі ішоў па крытым асінавай гонтай даху грыдніцы. Вось узабраўся на самы верх і накіраваўся да вільчыка. Ён быў у шэрай споднім кашулі і здаваўся вылепленым з пацямнелага сакавіцкага снегу. Ён ішоў лёгка, роўна, быццам трымаўся за месячныя промні, быццам быў прывязаны да іх. Якая сіла вяла яго? Што прымушала яго ўставаць уначы і, павярнуўшы да месяца сонны твар, блукаць па стрэхах? Няўжо гэта патрэбна Богу, Богу, які ахоўвае ўсё жывое? Калі ж Бог ні пры чым, то хлопца вадзіў пад месяцам д'ябал.
Якаў, схаваўшыся ў цень пад маладзенькай бярозай, што расла на двары, не адрываў ад чалядзіна вачэй. Вось той дайшоў да самага вільчыка. Яшчэ крок — і абарвецца, паляціць уніз цяжкае соннае цела. Але над самай прорвай малады чалядзін спыніўся, нібы нехта прытрымаў яго за локаць. Ён стаяў, заліты месячным святлом, і быў падобны на ідала-балвана,

якога разам з Мірошкам знайшоў калісьці Якаў у лясным гушчары каля Гарэлай Весі.

Раптам на супрацьлеглым баку двара пачуўся ўсхваляваны чалавечы голас, а потым шэпт:

— Цішэй...Цішэй...Ты яго разбудзіш, баярын, і ён разаб'ецца.

Значыць, не адзін толькі Якаў сачыў за чалядзінам. Якаў яшчэ больш стаіўся, нават прысеў, пачаў узірацца туды, дзе павінны былі быць незнаёмцы. Нехта звяртаўся толькі што да баярына. Няўжо баярын Іван не спіць? Быць гэтага не можа — маючы такіх прыгожых, такіх пяшчотных чалядзінак, спіць баярын зараз як у Бога за пазухай і не швэндаецца па начным двары.

Чалядзін між тым пастаяў на вільчыку, павярнуўся, пайшоў назад па даху, спрытна, як кот, спусціўся па вуглу грыдніцы на зямлю, адчыніў дзверы і зайшоў у грыдніцу. Ён прайшоў крокаў за пяць ад Якава, як здань. Вочы былі заплюшчаны. Бровы і вусны ўздрыгвалі. Якаў, каб захацеў, мог бы схапіць яго за каршэнь.

Незнаёмцы, што сачылі за чалядзінам, наблізіліся да Якава. Іх было двое.

— Пайшоў,— сказаў адзін глухаватым голасам.— Зараз будзе спаць да раніцы, а назаўтра і не ўспомніць, што па стрэхах бегаў, як марцовы кот.

— Няўжо не ўспомніць? — здзівіўся другі, і Якаў пазнаў яго па голасе — Фердынанд! Тэўтон Фердынанд чамусьці не спаў, а, захінаючыся ў чорны плашч, стараючыся быць незаўважаным, шэптам размаўляў на начным двары з нейкім чалавекам, якога Якаў бачыў упершыню. Якаў прытаіўся, як не прыліп да дрэва.

— Не ўспомніць,— сказаў той, каго Фердынанд называў баярынам.— У мяне быў таксама такі. Халоп Аксюта. Ледзь месяц засвеціць, на стрэхі лез. Чэлядзь палохаў. Ну й я загадаў цівуну, як пойдзе Аксюта з заплюшчанымі вачамі, крыкнуць у яго над самым вухам. Крыкнуў цівун.

— Крыкнуў? — перапытаў Фердынанд.

— Але. Зваліўся Аксюта з церама, і касцей не давялося збіраць.

Яны змоўклі. Пэўна, прыслухоўваліся да начной цемені. Схаваўся за хмару месяц, і адразу ўсё

зрабілася змрочным, трывожным. Хоць бы сабака які азваўся. Але сабакі, як і большасць людзей, спалі.

— Дык што ты хацеў сказаць мне, баярын Доўбня? — ціха спытаўся пасля працяглага маўчання Фердынанд.

— Няўтрымныя вы, лаціняне, людзі,— кашлянуў Доўбня.— Усё хочаце ведаць наперад усіх. Ты чуў, што Вячка з Кукейноса на мяне нагаворвае?

— Не чуў.

— Гаварыў вялікаму князю Уладзіміру, што я, баярын Доўбня, тэўтонам служу, што папярэдзіў іх, калі палачане на Рыгу ішлі.

— А ты, баярын, і сапраўды служыш Альберту?

— Маўчы, тэўтон. Не тваёй галавы гэта справа. Я не пытаюся ў цябе, каму ты служыш.

— Я служу сам сабе і Богу,— адказаў Фердынанд.— На старасць, на хваробы старэчыя срэбра зарабляю.

— Дык слухай,— рэзка перапыніў яго Доўбня.— Ты з памочнікамі выкаваў меч для Вячкі. Праўда гэта?

— Святая праўда. І болей палачане меч кавалі, чым я. Я толькі  наглядаў.

— Ты выкаваў меч, якім будуць ссякаць галовы тваіх аднаверцаў. Кроў рымскай царквы будзе на тваіх руках.

— Кроў рымскай царквы? — уздрыгнуў, аслабеў голас у Фердынанда.

— Кроў. Анафема папы Інакенція III чакае цябе, адступнік.

Яны змоўклі. Якаў стаяў і не варушыўся, бо кожным рухам, самым маленькім гукам мог выдаць сябе, а гэта было б канцом. Як толькі гэтыя двое даведаюцца, што чужыя вушы слухалі іхнюю гаворку, адразу можна заказваць свечку — пры першай магчымасці яны заб'юць яго.

— Дзе меч? — запытаўся Доўбня.

— У баярына Івана ў святліцы.

— Ты можаш сёння раніцой узяць меч, як толькі баярын прачнецца?

— Навошта? — спалохаўся Фердынанд.— Усё роўна ж меч ужо зроблены — яго не пераплавіш, не перакуеш. Слухай, баярын, не будзем болей успамінаць пра гэты пракляты меч. Срэбралюбства

звядзе мяне са свету, срэбралюбства,— завохкаў лацінянін.— Шмат грыўняў паабяцалі мне, я й згадзіўся.
— Меч не трэба знішчаць,— рашуча сказаў Доўбня.— Яго ўжо не знішчыш. Яго бачылі мужы-палачане, епіскап асвяціў. Але трэба пазбавіць меч сілы. Мошчы святой Ефрасінні ты закладваў у рукаяць?
— Закладваў,— паныла выдыхнуў Фердынанд.
— Дастанеш іх адтуль і аддасі мне. Хай майму дому святая Ефрасіння дапамагае. А замест мошчаў... На, трымай.
— Што гэта? — здзівіўся Фердынанд.
— Барсуковая костачка. Сам упаляваў барсука,— засмяяўся Доўбня.— Пакладзі гэтую костачку ў рукаяць. Падрэж, падтачы яе, каб ніхто нічога не заўважыў. Ты ж умееш,— ён зноў засмяяўся.— І будзе гэты меч цягнуць князя Вячку ў нару барсуковую, у зямлю. Там яму і месца. Зразумеў?
— Зразумеў. Зраблю.
— Добра старайся, бо сам Альберт у Рызе ведае пра цябе. Ці вянцы нябесныя ад Хрыста атрымаеш, ці з перарэзаным горлам па Дзвіне паплывеш.
Яны моўчкі разышліся, кожны ў свой бок. Якаў яшчэ доўга стаяў пад дрэвам, доўга прыслухоўваўся да начной цемры і, толькі пераканаўшыся, што ўсё навокал спакойна і ніхто не сочыць за ім, хуценька юркнуў у грыдніцу, лёг на палаткі. Чалядзіны спалі. Той, што хадзіў па даху, таксама спаў, толькі зрэдку жалобна ўсхліпваў ува сне, нібы плакаў.
Выкацілася на блакітную нябесную лугавіну сонца, усміхнулася Полацку і палачанам, і з падвор'я баярына Івана зноў рушыла ўрачыстае шэсце да Сафійскага сабора, на плошчу, дзе ўжо шумелі мужы-вечнікі і князь Вячка, усхваляваны і радасны, стаяў на памосце, чакаў, калі веча ўручыць яму меч.
Якаў, трымаючы ў руках абруці, ішоў побач з Чухомам за калясніцаю, на якой везлі меч. "Ці замяніў Фердынанд мошчы?" — не давала яму спакою думка.— Калі замяніў, калі барсуковую костку падсунуў, меч сілу страціць. І паб'юць палачан тэўтоны у Кукейносе".
Радасным гулам сустрэлі мужы-вечнікі меч. Шапкі птушкамі ўзляцелі ўгору. Вочы гарэлі натхнёна.

— Рубон! — пракаціўся па ўсёй плошчы баявы кліч палачан. І не было ніводнай душы, якая не падтрымала б гэты кліч.
— Рубон! — крычалі сівагаловыя дзяды, што ў многіх сечах кап'ём Полацку славу здабывалі.
— Рубон! — дружна падтрымлівала іх моладзь, яшчэ не бітая варожым жалезам, без адзінага шрама, але гарачая, харобрая.
— Рубон! — выгукнулі воіны баярына Івана, што конным строем ехалі за калясніцаю, ашчаціні ўшыся дзідамі. Але баярын, які на мяккім зэдлі сядзеў каля футарала з мячом, грозна азірнуўся, наліўся цяжкой чырванню. Вoi адразу ж укусіліся ў языкі, замоўклі. Вялікія баяры сустракалі меч, епіскап з пасаднікам, увесь клір Сафіі. Толькі князя Уладзіміра, як і ўчора, не было. "Захварэў князь",— паведаміў вечу бірыч Аляксей.
Епіскап Дыянісій узяў меч у абедзве рукі, на выцягнутых руках панёс яго да памоста, дзе стаяў князь Вячка. Людзі на дыбачкі ўставалі, шыі зварочвалі, адзін аднаму на плечы лезлі, каб убачыць гэты міг. Цішыня абрынулася на плошчу, толькі чутны былі крокі епіскапа.
Епіскап, кусаючы ад хвалявання вусны, падышоў да памоста. Князь Вячка зняў з галавы шлем, аддаў яго свайму дружынніку, апусціўся на калені. Твар быў бледна-ружовы.
— Князь Вячаслаў,— на ўсю моц голасу сказаў епіскап,— святая Сафія, стольны Полацк, усе мужы-палачане ўручаюць табе меч Усяславаў. Вазьмі меч, князь.
Вячка, не ўздымаючыся з каленяў, узяў меч, тройчы пацалаваў светлае лязо.
— За што меч з похваў вымеш, князь? — гучна запытаўся епіскап.
— За святую Сафію і Полацк,— адказаў Вячка.
— Устань, князь. Сафія і Полацк пачулі цябе.
Вячка ўзняўся з каленяў, надзеў на галаву шлем, пакланіўся вечу:
— Дзякуй вам, мужы-палачане. Памру за зямлю нашу, але не пакрыю ганьбаю святы меч. Бяда ідзе з Варажскага мора. Тэўтоны ідуць. Устанем сцяной! Перакуем сярпы на коп'і! Абаронім дзедаўскую і бацькоўскую зямлю!

— Рубон! — загрымела на плошчы.— Рубон! Рубон!
Тройчы крыкнула веча, і гэта азначала, што ўсім даспадобы князевы словы.
— А зараз, князь, глянь на майстроў, што выкавалі табе гэты меч,— сказаў епіскап і лёгенька падпіхнуў да памоста разгубленых Якава і Чухому. Фердынанд схаваўся ў натоўпе, пабаяўся паказвацца вечу, бо на плошчы не магло не быць лазутчыкаў з Рыгі, не лічачы Доўбню.
— Вы зрабілі меч? — абняў Чухому і Якава за плечы, шырока ўсміхнуўся Вячка.
— Мы,— адказаў Чухома.— Для цябе стараліся, князь. Гані тэўтонаў у мора.
— Добра кажаш, каваль.
Вячка пацалаваў Чухому, потым Якава, запытаўся:
— Як жа вас клічуць, майстры?
— Мяне — Чухома, яго Якавам клічуць.
— Запомню,— вострымі сінімі вачамі глянуў на іх Вячка.
У Якава галава кругам ішла. Столькі хваляванняў выпала на яго долю, што ён зняможана стаяў побач з Чухомам і думаў толькі пра адно: як бы не ўпасці. Хіба мог ён некалі ў Гарэлай Весі нават марыць, нават сніць пра такое — што апынецца ў Полацку, што будзе стаяць на плошчы каля самой Сафіі і князь Вячка, адважны прыгожы князь, прылюдна пацалуе яго. У Полацк прывялі яго няволя, палон, але пацалаваў яго Вячка як майстра, аднамысніка, сына Полацкай зямлі. Гэта ўскрыляла душу. Ён адчуваў, як слёзы, цёплыя і мяккія, накочваюцца на вочы.
Адшумела веча, разышлося хто куды, і толькі Сафія засталася на сваім спрадвечным месцы. Стаяць ёй над рачной плынню, глядзець за небасхіл, сачыць, як вартавому, хто на Полацкую зямлю дзясніцу жалезную ўздыме.
Вялікія баяры ў сваіх палатах пазапіраліся. У іх веча ніколі не канчаецца. Перад народам яны адны словы кажуць, а ў сваіх палатах — зусім іншыя. Будуць сядзець да позняй ночы, мёд піць, раду трымаць, спрачацца, насы адзін аднаму гатовы паскусваць. Якаву ж заставалася быць у Полацку толькі адзін дзень. Заўтра па баярскаму загаду павінны яны з

Чухомам ужо ў кузні быць, жалезныя нарогі для сохаў каваць. Паспытаў, пакаштаваў Якаў салодкага полацкага паветра і зноў у няволю, у турму нямілую трэба вяртацца. Пра ўсё гэта ён сказаў Чухому, запытаўся:

— Што рабіць, дзядзька?

Чухома задумліва пашкроб скронь, вымавіў:

— А што ты зробіш, хлопча? Баяраў шмат. Ад аднаго збяжыш, другі на карак сядзе. Як варання іх усюды. Такая наша доля — цярпець, рабіць чужое.

Ён гаварыў гэтыя словы, і ў вачах ягоных не было ні агеньчыку, ні іскрынкі. Халодны попел вачэй бачыў Якаў. "Памёр Чухома,— з горыччу падумалася Якаву.— Плоць яшчэ жывая, а душы ўжо няма. Памерла душа".

Тады ён кінуўся да Фердынанда. Саксонец усё-ткі чалавек па-свойму нядрэнны, разам Усяславаў меч кавалі, зразумее, падкажа, што рабіць.

— Фердынанд, памажы мне адсюль уцячы,— без доўгіх тлумачэнняў папрасіў ён лаціняніна.

Фердынанд уважліва паглядзеў на яго маленькімі карычневымі вачамі, зморшчыўся.

— Памажы,— не адступаўся Якаў.— Ты ж тут усё ведаеш, усе хады-выхады табе знаёмы. Я адраблю. Унотам у цябе буду тры сонцавароты ці болей — колькі скажаш...

— Усе роўныя перад Хрыстом,— нарэшце, адводзячы ўбок вочы, сказаў Фердынанд.— Нават у Аляксандра Македонскага ўсяго толькі адна галава была і дзве рукі. Але неаднолькавую юдоль[1] Бог дзецям сваім зямным рыхтуе. І не можам мы зламаць тую клетку, у якую з самага нараджэння жыццё наша заняволена.

— Памажы,— перапыніў Якаў.

— Не магу. Я ў баярына Івана госць. Ён мне хлеб-соль дае...

— Ну й сабака ж ты, Фердынанд,— аж сплюнуў Якаў.

— Сабака? — здзівіўся Фердынанд.— Хай сабе сабака. Але добры, некуслівы.

Усе адвярнуліся ад Якава. Ва ўсіх былі свае клопаты, свае балячкі, і ён, захацеўшы вярнуць сабе

[1] Юдоль — жыццё з яго клопатамі і смуткам.

волю, толькі перашкаджаў людзям жыць хай сабе цяжкім, але размераным жыццём, з якім яны звыкліся. Людзі гэтыя згодны былі цярпець, пакутаваць, робячы выгляд, што нечым займаюцца, таўчыся як Марка ў пекле. Іх палохала, ім была незразумелая рашучасць Якава вырвацца з наканаванага лёсам рэчышча, у якім чалавек павінен плыць да самай сваёй смерці.
Баярын Іван, дачуўшыся пра непакорства Якава, загадаў пакараць чалядзіна лазою. Моцна білі, са свістам. Усё сцярпеў Якаў, толькі рукаў кашулі з'еў, зубамі перацёр.
Баярын стаяў побач, прыгаворваў:
— Так яму! Так псу смярдзючаму! Будзеш слухаць свайго ўладара. Скажа ўладар: "Цалуй біч, якім раздзіралі плоць тваю" — і пацалуеш біч.
У той жа дзень Якава і Чухому павезлі з Полацка ў загародную баярскую вотчыну.
Пасля пакарання Якаў не мог рабіць малатабойцам у кузні, і яго, даўшы ў рукі вялізную мятлу на доўгім арэхавым кійку, прымусілі падмятаць баярскі двор. Ледзь на нагах трымаўся Якаў. Сонца смаліла з неба. Неўзабаве ручайкамі пабег па змардаванай крывавай спіне салёны пот, і ад вострага болю цямнела ўваччу.
"Хай бы я памёр,— думаў Якаў.— Чаму Бог не забярэ мяне?"
Праз высокі частакол баярскай сядзібы ўляцеў раптам на двор чырвона-чорны матылёк, плаўна пачаў кружыцца над Якавам. Як зачараваны глядзеў на яго Якаў. Вось для каго няма ні запораў, ні баярскіх цівуноў. Ляціць — куды хоча, кожная кветка — дом ягоны.
Матылёк, пакружыўшыся, палётаўшы ў сонечных промнях, сеў на арэхавы кіёк мятлы, проста перад вачамі ў Якава. Якаў аж знямеў, стаяў, не дыхаў. Пукатыя цёмныя вочкі матылька спакойна пазіралі на яго і на ўвесь навакольны свет. Доўгія мяккія вусікі былі нібы пасыпаны шэра-залатым пылком, варушыліся.
Матылёк узмахнуў крылцамі, узвіўся ў паветра, шпарка паляцеў за частакол баярскай сядзібы, нібы Якаву дарогу паказваў. "Душа продка! — здагадаўся

Якаў, і аж горача яму зрабілася.— Душа продка кліча мяне за сабой!"
І быццам паменшыўся боль. І ўпэўненасць вярнулася ў душу. "Я ўцяку ў горад,— у думках пакляўся сам сабе Якаў.— Я стану вольным чалавекам, стану Якавам Палачанінам".
Каб уцячы, патрэбна было здароўе, сіла. І Якаў у грыдніцы папрасіў дзяўчат-чаляднiц палячыць яму спаласаваную спіну. Чаляднiцы мазалі спіну зялёным халодным зеллем. Было балюча, але Якаў цярпеў.
Падмятаючы, прыбіраючы баярскі двор, Якаў стараўся трымацца бліжэй да частаколу — можа, дзірка якая-небудзь знойдзецца, можа, воі баярскія заснулі. Але воі не спалі, і адзін з іх пагрозліва сказаў Якаву:
— Калі яшчэ раз падыдзеш да частаколу, праткну кап'ём, як аблезлую варону.
Воі дружна засмяяліся. Якаў адышоўся, праклінаючы лёс і злых людзей, якіх так шмат на белым свеце.
Ноччу ён не спаў, не звёў вока. Горкая соль жыцця раз'ядала душу. Некалькі разоў малады чалядзін, што спаў побач, узнімаўся з палаткаў, бясшумна выходзіў на двор, блукаў па даху грыдніцы. Але гэта болей не дзівіла Якава. Ён шкадаваў хворага чалядзіна, ды нічым не мог таму памагчы. Ён сам з вялікай радасцю, з удзячнасцю прыняў бы людскую дапамогу. Але Чухома апошнім часам не загаворваў з ім, а Фердынанд наогул знік — пэўна, паехаў у Полацк.
Адчай захліставаў душу. Якаву здавалася, што яшчэ трошкі, і ён звар'яцее. У баярына Івана ўжо сядзеў адзін чалядзін-вар'ят на ланцугу ў падзямеллі. Чалядзіну ўяўлялася, што яго нарадзіла ваўчыца, што ён сам воўк, і ў цёмныя ночы з падзямелля глуха далятала жудаснае выццё. Баярын Іван смяяўся, казаў гасцям: "Датрымаю да піліпаўкі, а там — выпушчу ў лес. Няхай да сваіх родзічаў бяжыць".
У такіх згрызотах, невясёлых думках прайшла не адна ноч. Якаў з жахам адчуваў, што, чым далей жыве ён у няволі, тым халаднейшым і спакайнешым робіцца сэрца. Яшчэ сядміца-другая, і

ператворыцца ён, як усе суседзі па палатках, у нямую цярплівую жывёліну, што цяжка працуе, мала есць, спалохана ўздрыгвае пад ударамі бізуна або кія.
Але аднойчы нібы нябесны агонь успыхнуў у душы, нібы нехта, нябачны і грозны, крыкнуў у самае вуха: "Уцякай адсюль! Уцякай сёння, бо заўтра ўжо не захочаш уцякаць!" Якаў скалануўся ўсім целам, сеў на палатках. Моцна тахкала ў грудзях сэрца.
Каменны сон панаваў у грыдніцы. Якаў няўцямна пазіраў у змрок перад сабою. Бег час, а ён усё незварушна сядзеў, стараючыся як мага цішэй дыхаць. Ужо ноч збіралася перавярнуцца на другі бок, ужо заяснілася, пачало святлець на двары. Густая, як смала, начная цемра стаяла ў грыдніцы, але й яна пачала адсоўвацца ў куткі. Першая іскрынка світання слаба і нясмела запалілася ў апраметнай цемры. Працяжна ўздыхнуў, пачаў павольна прыўзнімацца малады чалядзін.
Невядомая сіла зноў зрывала яго з месца, клікала пад месячнае неба. І тут Якаў кінуўся да чалядзіна, бічоўкаю, якой падпярэзваў сваю світку, звязаў яму ногі. Ён зрабіў усё гэта хутка, бясшумна, асцярожна і ўсё прыгаворваў, як у ліхаманцы:
— Даруй, браток... Паляжы... Паляжы... Паспі... А я за цябе пайду... Хай воі-дазорцы падумаюць, што я — гэта ты...
Рукі ў яго калаціліся, сэрца аж выломвалася з грудзей. Здавалася, не ён, а староннi чалавек робіць усё, а ён, Якаў, назірае збоку за гэтым чалавекам. Толькі б не прачнуўся чалядзін — залямантуе, закрычыць з пярэпалаху, увесь баярскі двор падкіне на ногі. Але чалядзін спаў, часта дыхаў, глуха стагнаў у сне.
Якаў асцярожна выйшаў з грыдніцы, крыху пастаяў ля халоднай дубовай сцяны, прыпаўшы да яе шчакою. Потым, стараючыся ўсімі сваімі рухамі быць падобным на маладога чалядзіна, пашыбаваў напрасткі праз двор да частаколу. Ён не сумняваўся, што варта ўжо заўважыла яго. "Спыняць мяне воі ці не?" — думаў ён.
Ля частаколу расла тоўстая, старая, дуплаватая, як гнілы зуб, ліпа. Якаў пагладзіў далонёю цёмную вільготную кару. "Ратуй мяне, ліпа",— падумаў ён.

Жывучы ў пушчы, з малалецтва навучыўся ён залазіць на самыя высокія дрэвы лёгка і хутка, як вавёрыца.
— Нешта наш начны хадок сёння не туды палез,— пачулася раптам зусім непадалёку ад Якава, і вой-дазорца, бліскаючы кальчугаю, нетаропка пакіраваўся да ліпы. Аказваецца, увесь гэты час ён стаяў ля частаколу за некалькі дзесяткаў сажняў ад Якава і ўважліва сачыў за ім.
— Абрыдла па страсе бегаць, дык ён на дрэва папёрся,— пачуўся голас другога воя, сонны і мляяы.— Вот жа не спіцца чалавеку. На яго месцы я б такога храпака даваў. Але пачакай, Андрэй, не падыходзь да ліпы, а то ён загрыміць зверху і раніцой баярын загадае нам з табой ягоныя костачкі збіраць. І чаго ён амаль кожную ноч ходзіць?
— Шалёная муха ўкусіла за вуха,— сказаў першы, і воі ціхенька засмяяліся.
Якаў тым часам усё вышэй залазіў на дрэва, хапаючыся рукамі за пругкія, слізкія ад расы галіны, натыкаючыся тварам на мокрае халаднаватае лісце. Спускацца на зямлю было ўжо нельга — там чакалі воі,— і ён лез уверх, нібы ліпа была чароўнымі драбінамі, што вядуць на самае неба. Нарэшце ён дабраўся да вялізнай доўгай галіны, якую старая ліпа, быццам руку, выкідвала над частаколам з баярскага двара. Па гэтай галіне папоўз, лёгшы на жывот, чакаючы, што яна вось-вось затрашчыць, абломіцца. “Ратуй мяне, ліпа”,— думаў ён. Воі неадрыўна сачылі за ім знізу.
— Чаго гэты дурань хоча? — спалохана, як у самога сябе, спытаўся адзін з вояў.
Галіна ад цяжару чалавечага цела затрапятала, захадзіла хадыром. Яшчэ міг — і не вытрымае, затрашчыць... А ўнізе чакаюць вострыя, цвёрдыя, як жалеза, частаколіны.
Якаў прыкусіў губу, саслізнуў з галіны і, моцна ўчапіўшыся ў яе рукамі, павіс на страшнай вышыні над зямлёй. Перабіраючы рукамі, звіваючыся ўсім целам, ён паволі аддаляўся ад частаколу. Упадзеш на частакол — адразу Богу душу аддасі.
— А ці не хоча гэты цямрук ад баярына Івана ўцячы? — раптам гучна сказаў, як прачнуўся, вой у

зіхоткай кальчузе. Ягоны напарнік аж рот разявіў ад нечаканасці, пачаў выцягваць з-за спіны лук.
— Зараз я яго стралой саб'ю, як курапатку... Зараз...— мармытаў ён, і ў голасе была няўпэўненасць.
Галіна трэснула, зламалася, і разам з ёю, не выпускаючы яе з рук, Якаў паляцеў уніз. Ударыўся аб зямлю, на нейкі міг падалося, адбіў ад цела душу, але адразу ж пругка ўскочыў на ногі, іргануўся ад баярскага двара ў шэры світальны туман...
Воля! Якая ты салодкая, якая ты светлая і агністая! Ёсць людзі, якім падабаецца быць рабамі. Навошта, зямля, ты нараджаеш такіх людзей?
Ён бег і бег. Забіваў горла вецер... На вочы ляпіўся туман... Ад страшэннай знямогі калола ў грудзях. Ён упаў на зямлю, у нейкае мокрае кустоўе, у нейкую мяккую траву, і заснуў...
Прачнуўся Якаў ад рыпу і тарахцення колаў. Аказваецца, ён заснуў непадалёку ад дарогі, што вяла ў Полацк, і на гэтай дарозе, за некалькі крокаў ад балацінкі, у якой ён ляжаў, прыпыніўся купецкі абоз. Маўклівыя, заклапочаныя купцы пайшлі да нешырокай рачулкі — апаласнуцца. Яны абівалі на траве гразь і пясок з ботаў, а Якаў, адчуўшы, як трывожна затахкала сэрца, падкраўся да вазоў. У вазах ляжалі звярыныя шкуры, мноства шкур, яшчэ неапрацаваныя, вільготныя і чырванаватыя. Востра, п'янліва пахла дзікім лясным зверам. "Толькі з купцамі змагу я прабрацца ў Полацк,— падумаў ён.— Аднаго мяне схопіць гарадская варта, і будзе мая галава вісець на частаколе ў баярына Івана, як пусты гладыш".
Якаў пачаў ліхаманкава разграбаць на возе шкуры, рабіць нару-сховішча. Абліваючыся потам, ломячы пазногці, ён выдзіраў у цесна спакаваных шкурах месца для сябе, невялікае гняздо, у якім можна было б легчы, згарнуўшыся клубком. "Зараз або ніколі",— адна думка была ў галаве.
Ён уціснуўся, ушчаміўся ў мокрыя шкуры, ён тварам адчуваў іхнюю непрыемную агідную слізь. Потым, павярнуўшыся на правы бок, сагнуўшы ногі ў каленях, левай рукою пачаў закрываць, зацягваць сябе зверху шкурамі, стараючыся зрабіць гэта як

мага лепей, каб нічым не насцярожыць купцоў. "Табе, Бог, аддаю душу сваю",— думаў ён і заплюшчваў вочы і затыкаў вушы, каб раптоўна не ўбачыць неба над галавой, каб не пачуць разгневана-лютае: "Ану, вылазь, пёс!" Калі яго знойдуць, яго адразу ж прыб'юць. Ён ведаў гэта і рыхтаваўся да самага горшага.
Затупацелі цяжкія рашучыя крокі, набліжаючыся да вазоў. Ішло некалькі чалавек. Якаў перастаў дыхаць.
— Тут круціўся нейкі чалядзін,— сказаў нізкі злы голас.— Дзе ён?
— Шмат жа ты ўчора выпіў мёду, Дабраслаў,— пачулася ў адказ.
Павісла цішыня. Дабраслаў незадаволена прабурчаў:
— А можа, ён у якім-небудзь возе схаваўся?
—Шукай,— лагодна адказалі яму.— Плаці мне дзесяць грыўняў — я не палезу ў гэтыя смярдзючыя шкуры. Дабраслаўчык, ці не дасі мне трут? Я свой згубіў.
— Што, я табе з калена выламлю? — вылаяўся Дабраслаў, і воі адышліся ад вазоў.
Спаласнуўшы свежай рачной вадою твары, вярнуліся купцы. На воз, у якім схаваўся Якаў, села тры ці чатыры чалавекі. З цяжкім рыпеннем воз крануўся з месца, калываючыся, трасучыся на калдобінах, якіх шмат было на дарозе.
Якаў задыхаўся ў сваім сховішчы. Адабрала амаль усе сілы хваляванне, а тут яшчэ лез у ноздры гнілы, пратухлы пах звярыных шкур. Але ён трываў, помнячы, што дарогі назад няма, што, вярнуўшыся назад, ён памрэ пад бязлітаснымі кіямі баярскіх вояў.
Ён стараўся думаць пра сваю будучыню. Калі пашанцуе яму, калі зробіцца ён Якавам Палачанінам, пойдзе да якога-небудзь багатага рамесніка, стане ягоным унотам. Ён моцны, кемлівы і справіцца з любой работай. А лепей бы лоўчым стаць, асочнікам, што звера выпільноўвае на ловах. Якая гэта радасць, якое шчасце ісці і бегчы па толькі табе вядомых таемных лясных сцяжынках, дзе ўсё заслана снегам або залатым восеньскім лісцем, уздымаць з логавішчаў звера,

крычаць яму ўслед, чуць, як спуджана ўцякае ён, прадзіраючыся праз ельнік і хмызнякі. Як добра сядзець потым каля асвежаванага звера. Адпачываюць надломленыя беганінай ногі... Вечаровая зара апускае шырокае пунсовае крыло на лес... Сабакі з сярдзітым віскам ліжуць гарачую звярыную кроў... Лясны вольны вецер трубіць у касцяны паляўнічы рог...

Аддаўшыся марам, закалыханы дарогаю, знясілены невыносным смуродам, сціснуты з усіх бакоў, Якаў чым далей ехаў, тым усё болей дранцвеў, пагружаўся ў глыбокую пякучую цемру, дзе ярка ўспыхвалі маленькія мільготкія зорачкі і густа звінела ў скронях кроў. У апошняе імгненне ён нібы ўбачыў разгублены спалоханы твар Мірошкі. Мірошка нахіліўся над ім, падаваў яму руку. Хацеў ухапіцца Якаў за гэтую руку, ды сіл не засталося, млявасць і слабасць агарнула ўсё цела, і ён праваліўся ў нешта змрочнае, страшнае, пайшоў на самае дно...

— Глядзі, каго мы прывезлі,— прагучала над самым вухам, і Якаў з вялікай напругаю адкрыў вочы. Пажылы купец з пакамечанай шэрай барадой уважліва глядзеў на яго. Купец толькі што развярнуў шкуры, у якіх закруціўся, затаіўся Якаў.

Падышлі яшчэ купцы. З вялікай цікавасцю пазіралі яны на свайго нечаканага госця. Якаў адчуў, як халадзее сэрца.

— Хто ты? — запытаўся купец з шэрай барадой.

Якаў маўчаў.

— Хіба не бачыш? Баярскі халоп.

Гэтыя словы сказаў маленькі вёрткі купчык з вялікім залатым пярсцёнкам-пячаткаю на пальцы. Ён круціў пярсцёнак, хукаў на яго, націраў аб крысо свайго чырвонага каптана і ўвесь час не зводзіў вачэй з Якава.

— Трэба завезці яго да гаспадара,— раздумліва прапанаваў шэрабароды.— Баярын добра заплаціць.

— А адкуль мы ведаем, што ён халоп баярскі? — умяшаўся ў гаворку яшчэ адзін купец, высокі, сухі, з глыбокім ірваным шрамам на правай шчацэ. Пэўна, некалі кап'ё шчаку разадрала.— Людзей усялякіх многа. Не адзін Гаўрыла ў Полацку.

Шэрабароды не згадзіўся з ім.

— Ярун,— павярнуўся ён да купчыка з залатым пярсцёнкам-пячаткай на пальцы,— схадзі да пярэдняга воза, прынясі вяроўку. Звяжам гэтага вераб'я. Баярын добра заплаціць.
Ярун, хіхікнуўшы, пабег па вяроўку. Якаў выбраўся нарэшце з воза, стаяў у акружэнні купцоў. Зноў няволя ашчэрыла перад ім сваю пашчу, рабіўся чорным белы свет.
— Купцы,— папрасіўся ён,— адпусціце мяне. Што я вам благога зрабіў?
— Няможна бегаць ад гаспадара,— строга сказаў шэрабароды.— Што, калі ўсе пачнуць бегаць?
Ярун весела нёс вяроўку. Якаў раптам, прыкусіўшы губу, ірвануўся з месца, збіў з ног шэрабародага, памчаўся што ёсць моцы з двара, да расчыненых варотаў.
Ён вылецеў за вароты, пабег па вузкай, цесна забудаванай нізкімі драўлянымі хацінамі вуліцы. Зямля Полацка была пад нагамі. Вецер Полацка біўся ў грудзі. Сафія высока ззяла над горадам. Ён бег, кіруючыся на яе. Хто чакаў яго? Каго ён ведаў у гэтым агромністым горадзе?
У першага сустрэчнага, ганчара з чырвонымі ад гліны рукамі, ён запытаўся:
— Дзе князя Вячку знайсці з дружынаю?
— Вячку? — здзіўлена глянуў на задыханага Якава ганчар.— На падвор'і ў баярына Цвердахлеба прыпыніўся князь.
Пасля доўгіх блуканняў па шумным горадзе Якаў знайшоў нарэшце падвор'е Цвердахлеба і адразу ж убачыў Вячку, які злазіў з каня, каб ісці ў святліцу.
— Князь! — адчайна паклікаў Якаў.
Вячка запаволіў крок, запытальна паглядзеў на Якава:
— Каваль?
Якаў кінуўся на калені:
— Ратуй, князь. Дай прытулак.

# III

Княгіня Дабранега плакала ў сваёй спачывальні. Гэта былі першыя яе слёзы з таго часу, як пакінула яна роднае Княжае сяльцо, развіталася з бацькам і  маці, паехала ў Полацк, адтуль у Кукейнос і ў

кукейноскай царкве поп Сцяпан пры ўсім народзе павянчаў яе з Вячкам. Чалядніца Куліна, якая з самага Княжага сяльца не расставалася з Дабранегай, расчэсвала ёй прыгожым самшытавым грэбенем валасы, угаворвала:
— Не плач, княгінечка, не плач, зязюлечка. З-за чаго басу[1] губіш, маладосць сушыш? Яна, Соф'я, малое дзіця яшчэ. У лялькі гуляе. Адкуль ёй ведаць, хто ёй шчасця жадае? Родную маці, вядома, замяніць нельга. Адну маці на ўвесь век Бог дае. Але з тваім залатым сэрцам, княгінечка, ты каго хочаш палюбіць сябе змусіш. Нельга цябе не любіць.
Дабранега падняла заплаканыя вочы на Куліну, ціха запыталася:
— А можа, дарэмна я выйшла за князя Вячаслава?
Куліна аж рукамі пляснула.
— І не кажы, княгінечка, і не думай. Як дзве зоркі вы ў небе. Дзе лепшую за вас з князем пару знойдзеш? Палюбіць Соф'я цябе, за родную лічыць будзе. Вось папомніш мае словы.
Дабранега пакрысе супакойвалася. Увогуле яна была неплаксівай пароды, у бацьку ўдалася. Той, як яшчэ малым быў, калі крыўдзілі яго, толькі разгневана соп носам, густа чырванеў, спадылба глядзеў на таго, хто зрабіў ці жадаў зрабіць яму зло. І столькі было ў тым дзіцячым паглядзе гнятлівага недзіцячага дакору, столькі суровай сілы, якая ўсё разумее, усё ведае, свяцілася ў глыбіні вачэй, што дарослыя людзі адводзілі ўбок позіркі.
Такі пагляд быў у маленькай Соф'і, падчарыцы Дабранегі. Калі пасля вянчання Дабранега разам з князем Вячкам вярнулася з царквы ў церам, Соф'я, прыгожа апранутая, гладка прычасаная карміцелькай Тадорай, сустракала іх на ганку церама. Баяры навучылі яе ўзяць у рукі крыж-складзень і благаславіць свайго бацьку і сваю новую маці ў такі радасны для іх дзень.
Вакол ганка стаялі баяры, крыху зводдаль тоўпілася чэлядзь, просталюдзіны з горада, латгалы і селы. Дружыннікі пры з'яўленні Вячкі і Дабранегі высока ўскінулі шчыты, ударылі ў іх мячамі. Баяры, а потым чэлядзь крыкнулі здравіцу.

---

[1] Б а с а — прыгажосць.

Дабранега, хвалюючыся да мурашак на спіне, чакала, як сустрэне яе Соф'я. Маленькая прыгожая князёўна, з чыстым, надзіва сур'ёзным тварыкам, з маленькай дарагой каронкай на светлых валасах, моцна сціскаючы ў тонкіх пальцах крыж, глянула на бацьку, потым на сваю новую маці і асяніла іх крыжам. Вусны ў яе задрыжалі, здавалася, яна вось-вось заплача, але Соф'я, як і чакалі ад яе, нашчадніцы полацкіх князёў, толькі пабляднела з твару, толькі праглынула горкі камяк і сказала звонкім галаскам:

— Хай будзе над вамі Бог. Амінь.

Старшы дружыннік Халадок разбіў аб ганак вялікі, для гэтага дня зроблены ганчаром Валодшам гліняны гаршчок. На гаршку былі напісаны імёны ўсіх ворагаў Вячкі і Кукейноса. Рассыпаўся, разляцеўся на дробныя кавалачкі гаршчок, і ўсе беды-напасці разам з ім рассыпаліся.

Потым князь з княгіняю наступілі на самым парозе церама на карчагу, прыкрытую льняным абрусам. Гучна трэснула карчага, і гэта таксама было добрым знакам.

І вось тады заўважыла, перахапіла Дабранега пагляд сваёй падчарыцы Соф'і. Столькі пакуты, столькі болю было ў гэтым паглядзе! Як бы развітвалася з нечым падчарыца, як бы нешта губляла назаўсёды. І самае страшнае, што слёз не было ў яе вачах. Сухія былі вочы, як халодны калядны снег.

— Ідзі, Куліна. Я хачу пабыць адна,— сказала чалядніцы Дабранега. Чалядніца, пакланіўшыся, выйшла са святліцы.

У Вячку Дабранега знайшла таго, аб кім неаднойчы марыла ў бяссонныя вясновыя ночы, калі цёмна-блакітнае неба стаіць над зямлёю, як нерухомая рачная плынь, калі ясныя вугольчыкі зорак, здаецца, прапякаюць душу. Яна зберагла сябе, захавала да гэтага дня, да гэтага імгнення. Яна сама здзіўлялася тым светлым высокім хвалям, што біліся ў сэрца, калі заставаліся яны з Вячкам, калі толькі для іх дваіх быў створаны бязмежны свет ад самай далёкай зоркі-крупінкі ў небе да кавалачка цёплага бурштыну ў халоднай марской чорна-сіняй бездані. Маладая княгіня адчувала, што яе адразу ж прызналі ў Кукейносе, і гэта ёй, вядома ж,

падабалася. Яна разумела, што любяць яе кукейносцы як жонку свайго князя, але ў думках яна залятала ў той дзень, калі будуць паважаць не жонку Вячкі, а княгіню Дабранегу.
Толькі Соф'я не любіла яе. Яна адразу ўбачыла ў Дабранезе мачаху. А мачаха для чуйнай дзіцячай душы заўсёды нешта халоднае, хітрае, жорсткае, адным словам, чужое. Бываюць мачахі добрыя, ласкавыя, ды ўсё роўна дзіця заўсёды помніць сваю родную маці, помніць глыбокай памяццю сэрца, усёй сваёй душой. У прыродзе чалавечай з часоў Адама і Евы такое закладзена, і нічога не зменіш.
Разам з Вячкам і Дабранегай хадзіла Соф'я на малебен у царкву, станавілася на калені побач са сваёй новай маці, страсна малілася Богу. Дабранега ў такія імгненні крадком пазірала на Соф'ю. Няўжо слёзы не пальюцца з халоднага мармуру?
Айцец Сцяпан, паклаўшы на аналой Евангелле, чытаў пра буры жыццёвыя, якія чакаюць сыноў чалавечых. У кожнай руцэ вогненнай кветкай трапяталася свечка. Пачынаў песнаспеў хор, і быццам узлятала царква над зямлёй, плыла над ёй — у такім суладдзі, у такім сугуччы жылі душы веруючых.
"Дай Божа, каб яна зразумела мяне,— малілася Дабранега, пазіраючы на маленькую светлавалосую галоўку падчарыцы.— Я буду ёй добрай маці. Вячка вельмі любіць яе, і калі заўважыць, што дачка перамянілася да мяне, зразумела мяне, будзе шчаслівы. А шчасце Вячкі — маё шчасце".
— Чаму ты не мая маці? — сказала аднойчы Соф'я Дабранезе, калі яны гулялі па двары церама.
— Я твая маці, Соф'ечка. Я люблю цябе,— ціха прамовіла Дабранега і адчула, як горача запалалі шчокі.
— Не. Ты мая новая маці. Чаму ты не княгіня Звеніслава?
— Я княгіня Дабранега,— адказала мачаха.— Хіба я вінавата, што твая маці памерла?
— Невінавата,— трохі падумаўшы, глянула на Дабранегу шчыра-сінімі вачамі Соф'я.— Мая маці была прыгажэйшая за цябе.
Жыццё тым часам кацілася сваёй дарогаю. Што было жыццю да таго — любіць або не любіць Соф'я

Дабранегу? Уставалі над церамам, над усім горадам велізарныя хмары. Вогненны меч маланкі сек іх на шматкі. Усё заціхала, трывожна затойвалася, потым з Дзвіны, з рачной прасторы, падкрадваўся вецер, ён быў спачатку лагодна-мяккім зверам, усё выглядаў, усё абнюхваў. Потым пачынаў дурэць, сваволіць — там чалядніцу за хустку таргане, там парожні збан, што стаіць на расчыненым акне святліцы, перакуліць... Адлятаў вецер, і на ганку церама дробненька тупацеў дождж.

Дабранега любіла дажджы, а ў гэтае лета яны ішлі вельмі часта. Пад густы шум дажджу адчыняла Дабранега акно церама, глядзела, як танцуюць светлыя струмені, як пластом кладзецца трава пад іхнімі ўдарамі, як рознакаляровыя пырскі рассыпаюцца ва ўсе бакі ад гладкіх дошак ганка.

Вячка амаль увесь час быў у раз'ездах — імчаўся з дружынаю да эстаў у Сакалу, ездзіў да літоўцаў, да кураў і земгалаў, гасцяваў у Пскове і Ноўгарадзе. І ўсюды падбухторваў мясцовых князёў і старэйшын супроць тэўтонаў. Адна была ў яго запаветная мэта — скінуць тэўтонаў у Варажскае мора.

Дабранега сумавала без Вячкі. Але што зробіш? Вочы бачылі, што выбіралі. Яшчэ да свайго замужжа чула яна ад людзей і ад бацькі, Рагвалода Свіслацкага, аб гордым няўступлівым характары Вячкі, аб яго адвазе і ваяўнічасці. Шаптуха, якая гадала ёй перад вяселлем на топленым воску і на багемскім люстры, сказала: "Як пушчанскі тур, муж твой будзе. Смелы і вастрарогі будзе. Часта спаць табе адной на халодным одры, князёўна".

"Адзін у мяне муж. Як адно ў мяне цела і адно жыццё",— часта думала Дабранега, асабліва тады, калі князь Вячка з дружынаю знікаў на некалькі сядміц і даводзілася заставацца ў цераме адной. Слухаючы суровае гудзенне лясоў, якія з усіх бакоў абступалі Кукейнос і гатовы былі, здаецца, праглынуць яго, навекі пахаваць у сваіх нетрах, маладая княгіня адчувала, як сціскае сэрца трывога. Тады яна запальвала свечкі перад абразамі, доўга малілася. На звязку дня і ночы, калі святлее неба і душы продкаў вяртаюцца ў свае магілы, яна нарэшце засынала. Ды сон быў нездаровы, чорны



7 Зак. 2990

ад смутку. Сніліся балоты, што засмоктваюць Вячку, злавесныя груганы, што выдзёўбваюць вочы ягонаму каню Печанегу.
Вячка кахаў яе, і яна добра ведала гэта. Жанчыну не падманеш. Ёсць у жанчын таемны ўнутраны голас, які можа да часу спаць, закалыханы мужчынскай пяшчотаю і ўвагай, быць бясклапотным, як вясновы матылёк ці ручаёк, але варта мужчыну ў слове, у руху, у жэсце хоць на драбніцу стаць халаднейшым, сушэйшым, даць адчуць, што ён расчараваўся ў абранніцы або стаміўся ад яе, як голас гэты пачынае біць ва ўсе званы жаночай душы — трывога! трывога! трывога! І тады ціхая жанчына робіцца львіцай, робіцца арліцай.
Аднойчы ўвосень Дабранега з сумам сказала, пазіраючы ў акно церама:
— Лісце аблятае з дрэў... Дождж... Халадэча... Вунь той клянок такі прыгожы быў учора. Лісце свяцілася на сонцы, як залатое. А сёння...
Яна грэбліва зморшчылася. Вячка, які назаўтра збіраўся рушыць з дружынай да князя Уладзіміра Полацкага, прытуліў жонку да грудзей, спытаўся:
— А ты б хацела, каб на дрэвах заўсёды лісце было?
— Хацела і хачу,— усміхнулася Дабранега.— З лісцем дрэва жывое, цёплае...
Ён моцна пацалаваў яе, і ўначы, калі яна спала, павёў дружыну да Полацка. Сумная прачнулася Дабранега, невясёлая. Зноў — адзінота, маўклівыя слугі, вялізны няўтульны церам, шэрыя восеньскія хмары над церамам. Ледзь не плачучы, падышла яна да акна і ўскрыкнула ад здзіўлення — на клянку, пра які ўчора яны гаварылі з Вячкам, было лісце! Дабранега стрымгалоў вылецела з церама, падбегла да клянка і вачам не паверыла — срэбнымі тоненькімі дроцікамі да кляновых галінак былі прыкручаны, прывязаны прыгожыя лісцікі, выкаваныя з жалеза, медзі, а на самым версе — з чыстага золата і срэбра. Наляцеў вятрыска, ускалыхнуў лісцікі, і яны затрымцелі, тоненька-тоненька заспявалі. “Вячка! — аж захлынулася ад пяшчоты і ўдзячнасці Дабранега.— Муж мой каханы!”
А дні цяклі, як цячэ вада ў Дзвіне. Вячкава лісце

(так пра сябе назвала незвычайнае лісце Дабранега) звінела на дрэве. Абмываў лісце дождж, гуляў з ім начны вецер... Птушкі зляталіся на клянок, і аднойчы Дабранега бачыла, як невялічкая цікаўная лясная сініца ўспырхнула на галінку і асцярожна, пудліва дзеўбанула залаты лісток.

Ды неяк Вячка, які толькі што вярнуўся з далёкай дарогі, недаўменна спытаўся ў Дабранегі:

— Дзе гэта лісце з нашага клянка?

— Якое лісце? — як бы не зразумела напачатку Дабранега.— Ты пра тое, што вісела на дрэве? Я загадала яго зняць. Яно ляжыць у куфэрку, што падараваў мне князь Усевалад з Герцыке. Зараз я табе, калі хочаш, пакажу.

— Не трэба,— спыніў жонку, якая ўжо хацела ісці да куфэрка, Вячка.— Навошта ж ты загадала зняць лісце?

— Яго маглі ўкрасці з дрэва церамныя чалядзіны або смерды з вакольных весяў.

— Але я загадаў Халадку вартаваць дрэва. Удзень і ўначы вартаваць. Навошта ж ты загадала зняць лісце, Дабранега?

У голасе ў Вячкі была суровасць. Так ён яшчэ ніколі не размаўляў з Дабранегай. Але маладая княгіня ні кропелькі не збаялася гэтай суровасці, з выклікам глянула на мужа:

— Мне патрэбен ты, а не лісце. Ты!

— Дабранегачка,— узяў яе за рукі Вячка,— што з табою, гаспадынька мая залатая?

— Ты ўвесь час на кані, у сядле. Я ўжо не веру, што ў мяне ёсць муж. Я зраблюся стогадовай бабулькай у тваім Кукейносе, а ты ўсё будзеш ездзіць да эстаў. Да семігалаў, да жэмайтаў... Божа мой, куды ты толькі не ездзіш?! Навошта, навошта табе ўсё гэта?

Яна глянула на мужа з пакутай, з адчаем.

— Я хачу не пусціць тэўтонаў на Дзвіну, у наш край,— ціха, але цвёрда адказаў Вячка.

— Хіба ты адзін жывеш на Дзвіне? Навошта ж табе, князь мой, усё браць на свае плечы? Ты зусім занядбаў свае борці, ловы, нівы, свой церам. Шчасце зямное ў тым, каб мужу жыць з жонкай, каб зерне ў раллю кідаць.



— Правільна кажаш,— згадзіўся Вячка.— Але ў

грозны час прывёў нас Бог на гэты свет, на гэту зямлю. Трэба ахвяраваць, ахвяраваць шмат чым, каб заўтрашнія людзі на нашай зямлі мірна жылі.
— Заўтрашнія людзі,— горка ўсміхнулася Дабранега,— што ім будзе да нас? Яны цябе, князь, нават і не ўспомняць.
— Няпраўда. Некалі ўспомняць. Павінны ўспомніць, бо добрае не забываецца. У тых, хто забывае дабро, хто забывае бацькоў, продкаў, Бог высушвае сэрцы, і гэта ўжо не людзі, а балотны трыснёг. Нельга забываць свой род, сваю зямлю, сваю мову. Прабач мне, мая залатая княгінечка, але інакшым я быць не магу.
Ён паспрабаваў прытуліць Дабранегу, ды яна ўперлася яму ў грудзі рукамі, сказала:
— Я не з тых, што прывязваюць мужчын да сваёй спадніцы, робяць мужчын прыручанымі сокаламі. Ты, як арол, князь мой. А вольны арол мух не ловіць. Арол павінен пад высокім воблакам лётаць, але глянь, глянь адтуль, са сваёй вышыні, на жонку, зразумей, як ёй цяжка.
Яна заплакала і пайшла ў сваю спачывальню. Яна ішла пад няроўным трывожным святлом паходняў, якія заўсёды гарэлі ў цераме, і Вячка пазіраў ёй услед, і яму было шкада, вельмі шкада яе, і жонка здавалася яму чайкай з перабітым крылом.
З напорыстасцю ўзялася маладая княгіня за гаспадарку, за церам, што пасля смерці Звеніславы былі ўшчэнт запушчаны. Некаторых цівуноў, чалядзінаў і чаляднiц выгнала з Кукейноса ў загарадную княжую сядзібу, іншых загадала строга пакараць лазою, каб не ленаваліся, больш увішнымі і больш дбайнымі былі, для князя свайго стараліся. Свечкі для пакояў і мяса для кухні, віно для дружыннікаў і дамотканае палатно для халопаў — усё праходзіла цяпер праз рукі Дабранегі.
Асабліва крута пачала выхоўваць княгіня маладых чаляднiц, якіх шмат было ў цераме і якія, як і ўсе дзяўчаты ў іхнім узросце, любілі паскакаць на ігрышчы, з хлопцамі пагуляць. Нямала слёз дзявочых пралілося ў гэтае лета. Некаторым княгіня ўласнаручна адрэзала косы, некаторых на ўсю ноч голымі каленьмі на цвёрды гарох ставіла. Убачыла

адну цяжарную чалядніцу з кухні, адразу вельмі суровы допыт ёй учыніла, пыталася:
— Хто бацька твайго дзіцяці? Скажы!
Чалядніца чырванела, хавала вочы, упала на калені перад княгіняй, загаласіла:
— Княгінюхна-матухна наша залатая, не ведаю, Святы крыж — не ведаю. Хай дзіцятка родзіцца. Верным рабом табе будзе.
— Не трэба мне рабоў-бязбацькавічаў! — гнеўна тупнула нагой Дабранега. І адразу строгі загад быў дадзены: распуснай дзеўцы, на страх і навуку іншым, цэлую сядміцу жабіну ікру, жабурынне есці, каб дух балотны забіў, заглушыў жыццё, якое гатова з'явіцца на гэты свет і ад якога нікому радасці не будзе.
Кожны дзень Дабранега разам з вернай Кулінай рабіла абход церама і ўсяго княжацкага двара. Чэлядзь загадзя падмятала, чысціла, мыла ўсе куточкі вялікага церама. Страх і трапятанне былі ўсюды.
Аднойчы княгіня заглянула ў каморку перапісчыка пергаменаў Клімяты. Чэлядзь называла яго Клімята Аднарук. Клімята, як заўсёды, сядзеў на нізкім услончыку, скруткі пергаменаў жаўцелі перад ім. Але перапісчык быў не адзін. Побач з ім стаяў танклявы русавалосы хлапчук у белай ільняной кашулі, з вялікай цікавасцю глядзеў на Клімяту і на тое, што ён робіць.
Клімята, не заўважыўшы княгіню, звярнуўся да хлапчука:
— Хочаш, Мірошка, загадаю табе загадку?
— Загадвай,— ажывіўся хлапчук і нават губу прыкусіў ад нецярплівасці.
— Слухай. Ходзіць па двары, на нагах кіпцюры, белае каменне нясе. Хто гэта?
Мірошка зморшчыў лоб, пачаў думаць, аж, здавалася, вушы ад напружання круцяцца. Клімята Аднарук з хітрай усмешкаю пазіраў на свайго юнага субяседніка.
— Якое каменне? — перапытаў Мірошка.
— Белае.
Мірошка падумаў-падумаў, сумна ўздыхнуў, прызнаўся:
— Не ведаю.

— Эх ты, Нестар-летапісец,— Клімята весела ўстаў з услончыка.— А яшчэ хочаш разам са мною гісторыю Полацкай зямлі пісаць. Хочаш жа? Прызнайся.
— Хачу, калі навучыш і дазволіш,— кіўнуў галавою Мірошка.
— Дык вось — белае каменне курыца нясе. Зразумеў? Курыца. А на Вялікдзень гэтае белае каменне людзі чырвоным робяць.
— Як Ісусава кроў,— хуценька ўставіў Мірошка, бо не хацелася яму, каб Клімята круглым невукам яго палічыў.
Тут толькі Дабранега, зашумеўшы нябесна-блакітным карзном, кашлянула ў кулак. Перапісчык пергаменаў адразу пакланіўся ёй, сказаў Мірошку:
— Кланяйся княгіні кукейноскай.
Мірошка няўмела, палахліва пакланіўся. Вусны ў яго задрыжалі. Ад надворнай чэлядзі ён чуў пра круты нораў княгіні, пра яе гнеў і баяўся, што, калі нешта не так скажа, не так ступіць, давядзецца пакаштаваць яму лазы. "Абыходзь уладык зямных за попрышча",— успомніў ён бацькавы словы.
— Хто гэта? — уважліва глянуўшы на Мірошку, спыталася Дабранега ў перапісчыка пергаменаў.
— Гэта Мірошка, сын смерда з Гарэлай Весі. Халадок, як ездзілі цябе сватаць, княгіня, знайшоў яго ў спаленай хаце, ад ваўкоў выратаваў і прывёз у Кукейнос. Жыве ў мяне.
— Што ўмееш рабіць? — падышла Дабранега да Мірошкі, ва ўпор глянула на хлопчыка. Той, быццам спуджаны верабей, увабраў галаву ў плечы.
— У работу смердаву трэба цябе аддаць,— халодна сказала княгіня.— Каб княжацкі хлеб дарэмна не еў. Спачатку будзеш кароў пасвіць, потым касіць навучышся, араць...
— Дазволь слова мовіць, княгіня,— пабялеў Клімята Аднарук.
— Гавары,— дазволіла Дабранега.
Клімята падышоў да Мірошкі, пагладзіў яго рукою па галаве.
— Нельга хлопчыка гэтага ў пастухі аддаваць. Не адны пастухі і ратаі патрэбны Полацкай зямлі. Ёй воі патрэбны. І не меней — людзі кніжныя, мудрыя, каб слова грэкаў і рымлян ведалі, каб сваё роднае

слова да нашчадкаў, наступнікаў сваіх неслі.
— Хіба смерды здольны на такое? — перапыніла Клімяту княгіня.
Шчокі ў перапісчыка пергаменаў успыхнулі. Ён, цвёрда гледзячы ў вочы Дабранезе, сказаў:
— Бог не абдзяліў розумам наш народ. У тым ліку і просты народ, смердаў. Ганьба будзе нам ад наступных пакаленняў, калі мы тыя кветкі, што да сонца, да святла цягнуцца, растопчам, вынішчым. Калі мы хочам, каб наша гісторыя не скончылася разам з намі, не пайшла ў зямлю з нашай смерцю, мы павінны штодзённа, не шкадуючы сіл, напаўняць мудрасцю кніжнай дзіцячыя галовы, як амфары зернем і віном напаўняюць.— Ён прыпыніўся на імгненне, перавёў дыханне і казаў далей:— Са згоды князя Вячкі, думаю я, княгіня, у Кукейносе школу адкрыць. Каб у школу тую дзеці баярскія, дзеці купцоў і рукадзельных людзей хадзілі, вучыліся чытаць і пісаць, пра славутых філосафаў і пракокаў ведалі. І самых вартых, самых здольных з малалетніх смердаў можна ў той школе вучыць. Патрэбны ж табе, княгіня, разумныя цівуны і старасты ратайныя. Думаю, што й князёўне Соф’і не шкодзіць у такую школу хадзіць.
Дабранега задумалася. Дзіўныя словы гаворыць перапісчык пергаменаў. Можна падумаць нават, што ён звар’яцеў, седзячы дні і ночы ў сваёй каморцы. Дзяды-прадзеды не ўдаваліся асабліва ні ў якую навуку. Жанчына павінна кудзелю прасці, дзяцей раджаць-гадаваць, мужчына звера дзікага біць, жанчыну ад злыдняў абараняць. Але ж князь Вячка за гэтага перапісчыка...
— Я пагавару з князем,— паабяцала Дабранега і разам з маўклівай Кулінаю выйшла з каморкі.
Яна на забылася пра свае словы. Калі Вячка на некалькі дзён вярнуўся ў Кукейнос з Ледзянца[1], расказала мужу аб гаворцы з Клімятам Аднарукам. Вячка адразу даў згоду.
— Хай вучыць перапісчык дзяцей. Не горшыя дзеці нашы, чым у тэўтонаў і свеяў, трэба ведаць ім пісанне і лік. І Соф’ю завядзі да Клімяты.

---

[1] Ледзянец — так у тыя часы палачане і наўгародцы называлі эстонскі горад Ліндaнісе — будучы Талін.

Вучыў дзяцей Клімята спачатку ў сваёй каморцы, а потым, з дазволу айца Сцяпана, на хорах[1] у царкве. Было пяць хлопчыкаў, і паміж іх Мірошка, і дзве дзяўчынкі. Разам з княжнаю Соф'яю пайшла ў навучанне баярская дачка Агрыпіна.

Дзеці сядзелі за вялікім шырокім сталом на ўслонах. Кожнаму Клімята даў ліпавую дошчачку, на адным баку якой была выразана азбука, на другім — мелася выемка. Гэту выемку дзеці запаўнялі воскам, разгладжвалі воск і пісалі на ім. Акрамя дошчачкі кожны вучань атрымаў пісала. Гэта быў жалезны стрыжань. Адзін канец у стрыжня быў востры — ім выдрапвалі словы і літары на бяросце, пісалі на воску. Другі канец пісала быў пляскаты, формай падобны на маленькае вясло. Гэтым канцом сціралі з воску напісанае, раўнялі, рыхтавалі воск для новых слоў.

Дзеці з насцярогаю глядзелі на Клімяту. Усе яны ведалі, што ў яго няма адной рукі, і перапісчык пергаменаў лавіў спалоханыя позіркі, накіраваныя на пусты рукаў яго кашулі, які быў заткнуты за чырвоны паясны шнур.

— Адгадайце, дзеці, загадку,— пачаў Клімята, усміхаючыся.— Ёсць горад між небам і зямлёю, а да яго едзе пасол без дарогі, сам нямы, вязе грамату няпісаную.

Уражаныя дзеці скамянелі на сваіх услонах. Іхнія сябрукі, якія не пайшлі ў школу і гулялі зараз на вуліцы ў пікара, палохалі іх вучобай, казалі, што ад навукі можна звар'яцець, могуць мазгі пацячы з галавы праз вушы. Калі меркаваць па першай загадцы, думалася дзецям, то сапраўды, з гэтай школы з добрым розумам не выйдзеш.

— Ну, што ж вы? — усміхаючыся, падганяў дзяцей Клімята Аднарук.— Не здагадаліся яшчэ? Гэта ж так проста. Горад між небам і зямлёй — гэта каўчэг, на якім Ной ратаваўся ў час патопу. Нямы пасол — голуб, якога выпусцілі даведацца, ці не паказалася зямля. А грамата няпісаная — гэта галінка маслічнага дрэва, якую голуб нясе ў дзюбе, каб даць знак, што зямля ўжо блізка.

Дзеці з палёгкаю і з радасцю ўздыхнулі. Быццам

---

[1] Х о р ы — верхняя адкрытая галерэя, балкон унутры царквы.

адначасна ўсе яны ўбачылі голуба, моцнакрылага, белага, які ляціць над раз'юшанымі чорнымі хвалямі, моцна сціскаючы ў дзюбе зялёную галінку. Вось-вось аслабне голуб, і ўпадзе галінка ў марскую бездань.

— Пачнем з азбукі, дзеці,— адразу стаў сур'ёзным Клімята.— Голуб у загадцы нясе няпісаную грамату, галінку. Чаму?

— Таму што ён пісаць не ўмее,— сказала баярская дачка Агрыпіна.

— Правільна, Агрыпіна,— узрадаваўся Клімята.— А вы будзеце вучыцца, каб пісаныя граматы складаць, каб вашу думку людзі за сотні попрышчаў ад вас маглі зразумець у той жа міг, як прачытаюць вашу грамату.

Дзеці з ахвотаю ўзяліся за вучобу. Дзяк Анфім прынёс тонкія скруткі бяросты, якую па загаду Клімяты нарыхтоўвалі ў гаі, што рос непадалёку ад Кукейноса. Неўзабаве жалезныя пісалы зарыпелі па мяккай бяросце, першыя літары, як няўклюдныя смешныя звераняты, пабеглі па белым полі.

Дабранега, жывучы ў штодзённых клопатах сваёй вялікай гаспадаркі, не забывалася пра вучобу Соф'і. Правярала спісаныя ёю бярoсты, сачыла, каб жалезнае пісала заўсёды было ў маленькім скураным мяшэчку, які быў спецыяльна пашыты для гэтага.

Падчарыца ўвагу мачыхі да сваёй вучобы разумела па-свойму. Ёй здавалася, што Дабранега так строга сочыць за ёю, бо не любіць яе, няродную дачку. Чалядніцы (Дабранега так і не дапыталася хто) нашапталі Соф'і, што ў княгіні хутка будзе маленькае дзіця, хлопчык, а яе, нелюбімую Соф'ю, завязуць у Полацк, у Спаскі манастыр.

"Чым жа прывабіць яе?" — думала Дабранега. Неяк, прывёўшы Соф'ю на хоры да Клімяты, заўважыла княгіня, што маленькая князёўна і маленькі смерд Мірошка сябруюць між сабой. Калі ў Соф'і ўпала на падлогу дошчачка для пісання, Мірошка падняў дошчачку, здзьмуў з яе пыл, аддаў Соф'і. Потым дапамог ёй разгарнуць і разгладзіць скрутак бяросты. Соф'я засмяялася, і ён засмяяўся разам з ёю.


"Крапіўнае семя,— аж задыхнулася Дабранега.—

Як смее гэты брудны смерд набліжацца да княжацкай дачкі? Вось да чаго даводзіць школа — дзеці бегаюць адной кучаю, як кацяняты, і адразу не разбярэш, дзе баярын, дзе халоп". Першым жаданнем княгіні было схапіць Мірошку за вуха і пастукаць ілбом аб сцяну, каб ведаў сваё месца. Але, трохі астыўшы, Дабранега падумала, што, калі такое сяброўства падабаецца Соф'і, няхай яно працягваецца. Магчыма, пацяплее падчарыца душою і хоць каліва з гэтай цеплыні перадасць ёй, Дабранезе. Будзе вясёлая Соф'я — будзе вясёлы Вячка. А гэта галоўнае для Дабранегі. Смерду ж заўсёды можна напомніць, хто ён такі, з якога гною вырас. Абчэшацца, абтрасе салому з вушэй і з цягам часу нядрэнны слуга будзе для той жа Соф'і.
— Ты можаш прывесці яго ў церам,— дазволіла Дабранега Соф'і. Радасцю ўспыхнулі, засвяціліся вочы падчарыцы. Можа, упершыню за ўвесь час паглядзела яна на княгіню без хмурай падазронасці. Мірошка некалькі разоў прыходзіў у святліцу маленькай князёўны. Напачатку ён вельмі палохаўся, стаяў як укопаны, крок баяўся ступіць па гладкай бліскучай падлозе. Соф'я весела смяялася.
— Чаго ты баішся? Бяжы за мною!
Пад прыглядам карміцелькі Тадоры дзеці пачыналі бегаць, гуляць у хованкі або разглядваць старыя жоўтыя пергамены і нават спрабаваць чытаць іх. Потым Соф'ю вялі абедаць, а Мірошка ішоў да Клімяты Аднарука, разам з якім жыў у каморцы. Клімята ў гліняным гаршку варыў гарох з мясам. Яны бралі драўляныя лыжкі, і пачынаўся абед.
— Еш, Мірошка,— падахвочваў Клімята.— Трэба табе сіл набірацца, расці. Калі я памру, Полацкі летапіс дапісваць будзеш.
У ціхія летнія ночы, калі неба на ўсю сваю агромністую шыр было засеяна залатымі зярнятамі зор, Клімята з Мірошкам узбіраліся на званіцу кукейноскай царквы. Заціхаў горад, змаўкалі галасы людзей, зрэдку перагукваліся на забаролах воі, і паступова глыбокі сон, як цёплы мяккі воск, залепліваў людзям вочы. Толькі адно неба заставалася бяссонным, жывым.
— Глядзі, Мірошка,— пераходзячы на шэпт, гаварыў Клімята,— глядзі, колькі зорак гарыць над

намі. Ведаць бы, што там, наверсе, дзеецца. Памру, а не даведаюся. Шкада... Страх мяне бярэ. Здаецца часам, што нечае вока глядзіць з нябёсаў проста ў душу і не схавацца ад яго ні за якой сцяною.
Ён замаўкаў, потым шаптаў далей:
— Хто запаліў гэты вечны агонь? У пергамене эфесца Геракліта Цёмнага напісана: "Гэты космас, адзін і той жа для ўсяго існага, не стварыў ніхто ні з багоў, ні з людзей, але ён заўсёды быў, ёсць і будзе вечна жывым агнём, які то ўзгараецца, то затухае".
Клімята хрысціўся, і Мірошка бачыў ягоны спакутаваны твар і дзівіўся — такі непадобны быў начны перапісчык пергаменаў на таго, вясёлага, усмешлівага, ўпэўненага, які раніцою вучыў дзяцей у школе.
— Страшна мне ад думак такіх,— прызнаваўся Клімята Мірошку.— Не ў божай царкве, не на святой званіцы думкі такія грахоўныя, д'ябальскія павінны прыходзіць, а ў пекле, у вогненнай смале. Геракліт Цёмны, напэўна, ужо даўно ў пекле...
Усплываў над Кукейносам, над ракой і туманнымі лясамі лёгкі месяц — нябесны човен. Ён спачатку быў ярка-чырвоны, потым жаўцеў і ў рэшце рэшт рабіўся срабрыста-белым як снег.
— Чаму месяц такі белы? — пытаўся Мірошка ў Клімяты і, не дачакаўшыся адказу, сам тлумачыў перапісчыку пергаменаў: — Туды дзікія гусі ў вырай адлятаюць. Ад іхняга пер'я месяц белы. Так мне бацька казаў.
— Не веру Гераклітү Цёмнаму,— страсна маліўся, шаптаў Клімята.— У Тройцу веру — у Бога-Айца, у Бога-Сына і ў Святога Духа. Веру табе — чуеш, Божа!
Ён знясілена, з мокрым ад поту лбом глядзеў у начны змрок, вочы блішчалі, пад вачамі трапяталі суровыя цені. Адказу чакаў ён, таемнага знаку, нейкага слова, але маўчала неба, маўчала ноч.
Мірошку падабалася гуляць з маленькай князёўнай. Жоўты пясок, з якога будуеш непрыступную крэпасць, матылёк, які ўяўляецца вогненнаротым страшным драконам, робяць роўнымі ўсіх дзяцей, дзе б яны ні нарадзіліся — у багатым цераме або ў крытай галлём і саломай зямлянцы. Соф'і, адчуваў ён, таксама было цікава гуляць з ім. Яна не ведала

шмат чаго, што ведаў ён. Яна была пакаёвай кветкай, якая баіцца холаду і ветру, спёкі і дажджу. Мірошка вучыў князёўну разумець мову прыроды, якую добра вывучыў у Гарэлай Весі, амаль кожны дзень ходзячы з Якавам у пушчу. Калі земляныя чарвякі выпаўзаюць наверх — на непагоду. У які бок кладзецца спінаю жывёла, з таго боку вецер будзе. Конь кладзецца на зямлю летам перад мокрым надвор'ем, зімою — перад снегам.
Ён не задумваўся — трэба гэта ведаць князёўне або не. Яму падабалася вучыць. Сам таго не падазраючы, ён хацеў быць падобным на Клімяту, на свайго настаўніка.
Дабранега ўважліва сачыла за гульнямі дзяцей. Аб кожным іхнім кроку даносілі ёй чалядніцы. Княгіня з радасцю заўважыла, што падчарыца робіцца весялейшаю і ласкавейшаю.
Вячка бываў у Кукейносе наездамі. Абпаліў бровы каля паходных вогнішчаў. Скура на твары пасмуглела, стала цвёрдаю, як бубен. Даведаўшыся, што дачка пасябравала з хлопчыкам-смердам, князь загадаў прывесці Мірошку да сябе ў святліцу.
— Ты хто? — спытаўся ён.
Мірошка ад разгубленасці як язык праглынуў. Да гэтага часу Вячку даводзілася яму бачыць толькі зводдаль.
Вячка сядзеў, не зняўшы з плячэй паходнае чырвонае карзно. Скураныя боты былі запыленыя, стаптаныя.
— Ты вучышся ў перапісчыка пергаменаў Клімяты? — устаў, падышоў да Мірошкі Вячка.
Мірошка нясмела кіўнуў галавою, адказаў:
— Вучуся.
— Які ж ты, брат, палачанін, калі слова сказаць баішся? — усміхнуўся Вячка.
— А я не палачанін,— глянуў на князя Мірошка.— Я з Гарэлай Весі.
— Адкуль? З Гарэлай Весі?  Пачакай-пачакай... Гэта над Свіслаччу, у вотчыне князя Рагвалода Свіслацкага? Дык гэта цябе мой дружыннік ад ваўкоў выратаваў?
— Мяне,— з палёгкай і радасцю выдыхнуў Мірошка.
— Вунь яно што,— засмяяўся Вячка.— А ў мяне

твой зямляк ёсць. Сам таксама з Гарэлай Весі, а ўсім кажа, каб называлі яго Якавам Палачанінам. У лоўчыя напрасіўся.
— Якаў у Кукейносе? — аж прысеў ад здзіўлення і шчасця Мірошка.— Яго ж забілі друцкія воі.
— Жывы твой Якаў Палачанін. Такіх, як ён, вёрткіх і хутканогіх, няпроста забіць. Бяжы на стайню да старшага канюшага Амялляна. Там яны з Якавам на заўтрашнія ловы коней рыхтуюць.
Адвесіўшы князю паклон, Мірошка стрымгалоў кінуўся з церама на стайню. Спяваць яму хацелася, куляцца цераз галаву. Якаў знайшоўся! Якаў побач з ім, у Кукейносе! Па дарозе Мірошка ледзь не збіў з ног сядзельнічага Міхала і атрымаў ад яго добрую аплявуху.
Якаў з канюшым Амяллянам залівае трэшчыну на конскім капыце воскам. Конь быў падвязаны, падцягнуты вяроўкаю да высокага слупа з пераkладзінаю, і пярэднія ногі ў яго не краналіся зямлі. У вялікіх конскіх вачах трымцеў страх.
— Якаў! — крыкнуў Мірошка.
Якаў азірнуўся і ў адзін скок апынуўся побач з ім, абняў за плечы, моцна прытуліў да сябе.
— Братка мой,— аж задыхаўся ад хвалявання Якаў.— Вось мы і сустрэліся. А я думаў, што адзін застаўся, што ўсіх вас пабілі ці ў палон пагналі. А дзе твая маці?
— Мамку ваўкі загрызлі,— сумна адказаў Мірошка. Слёзы пакаціліся па загарэлых шчоках.
— Ну, не плач, не плач,— пачаў супакойваць яго Якаў, хоць і сам гатоў быў заплакаць.— Будзем разам жыць. Не кінем адзін аднаго. Праўда?
— Праўда, стрый,— кіўнуў галавою Мірошка. Яму ўсё ніяк не верылася ў тое, што ён адшукаў Якава, што стаіць побач з ім. Узмужнеў, падрос Якаў за гэты час. Плечы шырока разгарнуліся, рукі і ногі наліліся няўтрымнай сілай, над верхняй губою цвёрда праклюнуўся чорны пушок.
— Амяллян, адпусці мяне,— папрасіўся Якаў у канюшага.— З браценнікам хачу пагаварыць. Браценніка сустрэў.
Вялізны доўгавалосы Амяллян ласкавым сінім вокам зірнуў на Мірошку, хітра падміргнуў яму, сказаў Якаву:

— Ідзі. Я ўжо тут адзін спраўлюся. Але помні, што заўтра едзем на ловы.
— Помню, Амяллян,— радасна ўсміхнуўся, бліснуў белымі зубамі Якаў.
Яны падышлі да гарадскога вала, селі каля яго, прыхіліўшыся да цвёрдай як камень гліны.
Трэшчынкі беглі па гліне. Сонца добра напякло яе.
— Дасталося нам з табою,— грызучы травінку, сказаў Якаў.— Ты на якой рабоце ў Кукейносе? Кухаркам дровы падносіш?
— Не, Якаў. Я за ўнота ў перапісчыка пергаменаў Клімяты Аднарука. Памагаю яму.
Чытанню і ліку ён мяне вучыць.
— Чытанню? — здзівіўся Якаў.— Трэба ж... Пашанцавала табе, Мірошка. Ану пачытай, што ў мяне на спіне напісана.
Ён узняў на спіне палатняную кашулю. Спіна была ў цёмна-сініх пісягах.
— Што гэта? — уздрыгнуў Мірошка.
— Лаза,— хмура сказаў Якаў, апускаючы кашулю.— Баярын Іван, вош ненажэрная, пачаставаў. У рабстве быў я, Мірошка, валом пад’ярэмным быў. Цяжка нават успамінаць...
Твар у Якава быў бледны. Якаў сядзеў згорбіўшыся, кусаў губы.
— Помніш нашу пушчу, Мірошка? — ціха спытаўся ён, і вочы пасвятлелі.— Як вецер у ёй шумеў... Як дождж ліўся... Як снег падаў... Помніш?
— Помню,— таксама прыцішваючы голас, пагладзіў стрыеву руку Мірошка. Скура на руцэ была шурпатая, цвёрдая.
— Не вярнуцца нам туды... Не пабачыць болей пушчу,— сумна глядзеў на высокі гарадскі вал Якаў.— Часта я яе ўспамінаў, асабліва ноччу, калі ўся чэлядзь баярская спала. Дзядам і бацькам нашым лягчэй было. Яны ведалі, што, калі памруць, іх закапаюць у роднай зямлі — у Гарэлай Весі. А мы не ведаем, хто і дзе нашы косці ў зямлю кіне... Ды што гэта я расплакаўся? — Якаў матнуў галавою, ускочыў з бервяна, падхапіў, закружыў Мірошку:
— Разам мы, браценнічак. Разам!
Вочы ў Якава зноў былі вясёлыя, іскрыстыя. Ён падкінуў Мірошку, злавіў, потым яшчэ раз падкінуў.

Сонца плыло над Кукейносам. Белыя хмаркі беглі па сінім небе адна за адною. Высокі русавалосы вой глядзеў з забаролаў на Якава і Мірошку, усміхаўся ім. Ён быў малады, і яму, пэўна, таксама хацелася пабегаць, пабарукацца з кім-небудзь на мяккай зялёнай траве. Але ён толькі глыбей надзеў, насунуў на самыя бровы шлем, крыкнуў, трасянуўшы кап'ём:

— Полацк!

І пакацілася па забаролах Кукейноса:

— Менск! Друцеск! Рша!

Мірошка з Якавам яшчэ б доўга ўспаміналі Гарэлую Весь, але прыбегла дзяўчына-чалядніца, задыхана сказала:

— Ты Мірошка, што ў Клімяты Аднарука жыве? Княгіня загадала цябе знайсці і прывесці да яе ў святліцу. Пайшлі хутчэй.

Са страхам шыбаваў Мірошка ўслед за чалядніцай. Што хоча ад яго суровая княгіня?

Дабранега сядзела на мяккай зялёнай канапцы, трымаючы ў руках белую пушыстую кошку.

— Вось ты які, маленькі смерд,— сказала княгіня.— Падыдзі бліжэй.

Мірошка нясмела ступіў некалькі крокаў. Пры яго набліжэнні белая кошка выгнула дугой спіну, пагрозліва звузіла вочы.

— Ты не брудны? Не хворы? — строга дапытвала княгіня.— З табою чамусьці любіць гуляць князёўна Соф'я. Я не забараняю ёй, але ты павінен помніць, хто ты і хто яна. Ты павінен заўсёды гэта помніць.

Яна выпусціла з рук кошку, устала з канапы.

— Сёння князёўна Соф'я хоча схадзіць за гарадскі вал у грыбы. З ёю пойдуць воі, і ты пойдзеш таксама. Ідзі збірайся і помні тое, што я табе сказала.

Не хацеў Мірошка ісці ў лес, да Якава хацеў на стайню збегаць, але паспрабуй не выканаць княгінін загад. У Клімяты Аднарука ўзяў ён лубяны кошык і нож у жоўтых касцяных тронках. Соф'я і тры ўзброеныя воі ўжо чакалі яго каля гарадскіх варот.

Разважна шумеў яловы лес, гаманіў з ветрам. Грыбоў было няшмат. Князёўна знайшла-такі адзін баравік, горда паказвала яго воям і Мірошку. Воі для прыліку дзівіліся спрыту князёўны, але па іхніх

тварах было відно, што патрэбны ім гэтыя грыбы як сабаку пятая нага. Каб не капрыз князёўны, сядзелі б яны зараз у малой грыдніцы, гулялі ў косці.
Мірошка ж, апынуўшыся ў лесе, успомніў сваю пушчу, і так радасна зрабілася, хоць спявай. Ён ішоў побач з князёўнай, павучаў яе, як трэба шукаць грыбы.
— Кожнаму грыбу трэба пакланіцца, князёўна,— казаў ён словы, якія калісьці чуў ад свайго бацькі.— Грыб хавацца любіць. Пад куст, пад мох, падігліцу залазіць. Сядзіць там і цікуе на людзей — знойдуць або не? Паспеху не любіць грыб.
На вузкай сцежачцы ўбачыў Мірошка бітву рыжых лясных мурашак з сінімі жукамі. Жукоў было тры, а мурашак незлічонае мноства. Яны абляпілі ў жукоў ногі, крылцы, не даючы ўзляцець. Аднаго перавярнулі на спіну і цягнулі ў свой мурашнік. Знясілены жук толькі слаба варушыў вусікамі і ўжо не супраціўляўся.
Мірошка стаў на каленцы, ціха паклікаў князёўну Соф'ю, каб і яна паглядзела.
— Выратуй жука,— адразу папрасіла Соф'я.— Мурашкі з'ядуць яго. Выратуй хутчэй.
Мірошка ўзяў яловую лапку, пачаў асцярожна змахваць, змятаць мурашак з сіняга жука. Але не так проста было гэта зрабіць, бо рыжыя разбойнікі мёртвай хваткай учапіліся ў яго.
— Як у людзей вайна,— сказаў сівавусы вой, што таксама назіраў за гэтым няроўным паядынкам.
Князёўна Соф'я неўзабаве стамілася, і воі на лясной паляне зрабілі прывал. Сівавусы расклаў цяпельца, выразаў ражно, накалоў на яго грыб, спёк у агні і з'еў, пасаліўшы соллю, якую насіў з сабой, загарнуўшы ў мяккую белую анучачку. Ён сядзеў, выціраў рукою вусы, і раптам свіснула страла і ўпілася яму ў грудзі. Вой паваліўся тварам у цяпельца.
— Засада! — крыкнуў ягоны напарнік, схапіўшыся за меч. Ды і ў яго між лапатак ужо тырчала страла. Князёўна закрычала ад жаху. Мірошка ўскочыў на ногі, спужана азірнуўся. З дзесятак чалавек у доўгіх белых плашчах, на якіх былі нашыты чырвоныя

крыжы і мячы, акружалі паляну. Адзін з іх зноў цэліўся з арбалета. "Мечаносцы",— здагадаўся Мірошка і крыкнуў Соф'і:
— Уцякайма, князёўна!
Соф'я пабегла за Мірошкам, ды мечаносцы кінулі вяровачную пятлю, падсеклі князёўне ногі, паваліл\u0456 яе. Вой, што яшчэ быў жывы, мужна абараняў князёўну, адбіваючы ўдары шматлікіх ворагаў баявой сякерай, якая рэменем мацавалася да рукі. Трох ці чатырох мечаносцаў ён зваліў на лясную траву, рассекшы ім чарапы, але неўзабаве і сам упаў, абліваючыся крывёю. Мечаносец нагой, абутай у жалезны чаравік, наступіў вою на грудзі, шырока махнуў мячом.
Знямелая ад страху князёўна бачыла, як набліжаюцца да яе чужынцы, сцялася ў камячок. Жоўтабароды мечаносец схапіў князёўну на рукі, панёс да каня, які пад сядлом стаяў у глыбіні лесу.
— Бог паслаў нам дачку ўладальніка Кукейноса,— сказаў ён сваім сябрам.—Хутчэй у Рыгу. Епіскап Альберт чакае нас.
Аднаму Мірошку ўдалося ўцячы. Ён і прынёс у горад жахлівую вестку.
Праз дзень вярнуўся з Пскова князь Вячка, вясёлы, шумны, прывёз князёўне падарунак — маленькага бурага мядзведзіка, які ўмеў біць у бубен.
Дабранега, уся ў чорным, з паніклай галавою, выйшла князю насустрач, прыпала галавой да запыленага паходнага стрэмені, заплакала.
Вячка, не злазячы з каня, здзіўлена і разгублена глянуў на княгіню, запытаўся:
— Чаго ты плачаш, Дабранега?
Княгіня стала на калені ў гарачы ад сонца сыпучы пясок.
— Далёка ты лётаў, князь, як чайка за мора. Прабач, калі зможаш... Бяда прыйшла ў твой дом, бяда вялікая. Няма тваёй перапёлачкі яснавокай.
— Дзе Соф'я?! — паблюднеў, крыкнуў Вячка. Ён у імгненне вока саскочыў з каня, абедзвюма рукамі ўзяў княгіню за плечы, павярнуў яе заплаканы твар да сябе.
— У мечаносцаў... у Рызе,— прашаптала княгіня.
— Эх ты! — Вячка адпіхнуў ад сябе жонку, і яна ўпала на спіну.— Не зберагла... Эх ты!

Ён выхапіў меч, глыбока, па самую крыжавіну рукаяці, усадзіў у пясок.
На некалькі дзён быццам знямеў Кукейнос. Нават царкоўны звон са званіцы гучаў квола і няўпэўнена. Чаляднікі ў цераме перагаворваліся шэптам. Аднойчы надвячоркам бясшумна апусцілі пад'ёмны мост, і двое верхавых у чорных дарожных плашчах, бяззбройныя, калі не лічыць кордаў, засунутых за халявы ботаў, пакіраваліся ў бок Рыгі. Лясная цемра навалілася на іх адразу ж за Кукейносам. Хмары велізарным шэрым шчытом закрывалі ўсё неба. Пачаўся дождж, спачатку дробненькі, як макавае зерне, потым усё больш спорны, густы, і неўзабаве мора вады абрынулася на лес, на балоты, на верхавых, што калючымі шпорамі няшчадна падганялі сваіх коней, злёгку прыгінаючыся ў сёдлах.
— Хутчэй,— адно толькі слова паўтараў пярэдні коннік, уразаючыся ў змрок, у дождж. Ягоны спадарожнік маўчаў, толькі засяроджана грыз мокры чэрмны вус. Гэта былі Вячка і Халадок, і ехалі яны да епіскапа Альберта.

# I




Рызе, на плошчы перад царквой святога Пятра, адбывалася містэрыя[1]. Епіскап Альберт з усім сваім капітулам сядзеў у прасторнай крытай галерэі каля сцен царквы. Побач з ім сядзелі граф Генрых са Штумпенгаўзена, граф Кона з Ізенбурга, шмат рыцараў-пілігрымаў з Вестфаліі і Саксоніі, а таксама родны брат епіскапа Ротмар, які да прыплыцця ў Лівонію быў манахам Зегебергскага манастыра пад Брэменам.

Ужо трох сваіх братоў — Германа, Энгельберта і Ротмара — прывёз Альберт у Рыгу. Род Буксвагенаў цвёрдай нагою ступаў на зямлю Лівоніі, зямлю Прасвятой Дзевы. Удача пакуль што спадарожнічала братам. Усё гэта, вядома, ішло ад вялікіх шчадрот божых, ад няспынных малітваў, з якімі Алейдзіс фон Буксваген, шаноўная іхняя маці, звярталася да Бога, выпрошваючы ў яго шчасце для сваіх непаседлівых сыноў.

На містэрыю Альберт запрасіў і самых першых хрысціян з тубыльцаў. Гэта былі амаль стогадовыя Іла і Віэца з Ікескалы. Іх хрысціў яшчэ сам Мейнард, апостал Лівоніі. Сівагаловыя, сухенькія, зморшчаныя, яны сядзелі побач, як два яблыкі, прыхопленыя нечаканым маразам.

Не забыўся епіскап і пра верных рыжскай царкве старэйшын ліваў і земгалаў. Самым прыкметным і самым багатым быў паміж іх Каўпа з турайдскіх ліваў. Рослы, густавалосы, з цвёрдым позіркам

---

[1] М і с т э р ы я — жанр сярэдневяковага рэлігійнага тэатра. Прадстаўленні даваліся на гарадскіх вуліцах і плошчах.

шэрых стомленых вачэй, Каўпа першы з мясцовай знаці стаў на бок рымскай царквы, добраахвотна аддаў сына заложнікам у Тэўтонію. Разам з манахам Тэадэрыхам Каўпа ездзіў да папы Інакенція III у Рым і атрымаў ад божага намесніка сто залатых за верную службу царкве, а епіскапу Альберту прывёз падарунак Папы — Біблію, пісаную рукой святога Грыгорыя.
Былі паміж запрошанай ліўскай і земгальскай знаці хрысціяне і язычнікі. У першую чаргу для нехрышчоных язычнікаў ставіў Альберт містэрыю — хацеў пасеяць у сляпых душах семя евангельскае.
Містэрыю ігралі рыцары з епіскапскай дружыны, манахі з Дзінамюндскага манастыра і манастыра Святой Дзевы Марыі, рыжскія купцы і рамеснікі. Былі паказаны сцэны з войнаў Давіда, Гедэона і крывадушнага цара іудзейскага Ірада.
— Услаўце Бога,— сказаў акцёрам епіскап.
— Уславім, святы айцец,— дружна адказалі акцёры.
Перад самым пачаткам містэрыі ліў Каўпа спытаўся ў Альберта:
— Святы айцец, гэта праўда, што ў хрысціянскім раі няма цемры?
— Няма,— усміхнуўся куточкамі вуснаў епіскап.
— Толькі святло? Толькі дзень? — дапытваўся Каўпа. А ці добра гэта — жыць без цемры?
Зараз Каўпа ва ўсе вочы глядзеў на бой войска Гедэона з філісцімлянамі. Воіны Гедэона былі ў цяжкіх металічных латах, у высокіх бліскучых шлемах, упрыгожаных яркімі пёрамі паўлінаў. Яны калолі ворагаў трохзубцамі і мячамі, накінуўшы на свае ахвяры сплеценыя з меднага дроту сеткі. Адзінаю зброяй філісцімлян былі вяровачныя прашчы, у якія яны закладвалі каменне-галышы. Воіны Гедэона, а яны сімвалізавалі моц рымскай царквы, білі філісцімлян, як зграю дзікіх звяроў. Альберт быў задаволены містэрыяй.
— Генрых,— паклікаў ён маладога светлавалосага клірыка, які перакладаў лівам словы Гедэона і ягоных воінаў з латыні на тутэйшую мову. Клірык падбег да крэсла, у якім сядзеў епіскап, схіліў у лёгкім паклоне галаву:
— Слухаю, мансіньёр!

Белы прыгожы твар пакрыўся яркай, як у дзяўчыны, ружовасцю. "Маладосць — шчаслівы час",— падумаў епіскап, якому ўжо было пад пяцьдзесят.
— Генрых, сын мой,— сказаў ён клірыку,— містэрыя ідзе цудоўна. Я рады за нашых акцёраў і вельмі рады за цябе.
— Дзякую, мансіньёр,— успыхнуў Генрых.
— Калі скончыцца містэрыя і нашы госці, лівы і земгалы, пакінуць Рыгу, зайдзі да мяне.
— Абавязкова зайду, мансіньёр,— яшчэ раз пакланіўся Генрых.
Генрыху было дваццаць гадоў. У шаснаццацігадовым узросце епіскап Альберт прывёз яго з Брэмена ў Рыгу, каб пасвяціць у сан пастыра і даць яму царкоўны прыход. Але свяшчэннікам можна стаць толькі дасягнуўшы дваццаці аднаго года. Яшчэ год, і Генрых, ягоны любімы Генрых, надзене сутану і панясе ў гэтых дзікіх краях непагаснае святло пропаведзі дзеля Ісуса Хрыста і яго ўлюбёнай мацеры, Прасвятой Дзевы Марыі.
"Добрым будзе пастырам,— думаў Альберт, любуючыся стромкай постаццю Генрыха, слухаючы, як размаўляе ён з лівамі і земгаламі.— Я не памыліўся, я не мог памыліцца. Гэты юнак стане з цягам часу каштоўным брыльянтам у кароне рыжскай царквы".
Усё, што рабіў у сваім жыцці епіскап Альберт, ён рабіў не спяшаючыся, добра абдумаўшы і ўзважыўшы магчымыя вынікі таго, што мусіць адбыцца. Калі яго, брэменскага каноніка, рашылі пасвяціць у рыжскія епіскапы, ён выпрасіў сабе на роздум тры дні, доўга раіўся з маці, з братамі. Ён ведаў, што да яго на Дзвіне неслі крыж царквы рымскай Мейнард і Бертольд, епіскапы-няўдачнікі, як у думках ён іх называў. Абодва ляжаць у мармуровых трунах у Ікескальскай царкве. Адною нагою ступілі яны на дзвінскі бераг, другая нага — пакуль што ў Варажскім моры. Ён, епіскап Альберт, ступіць на гэтую зямлю дзвюма нагамі, цвёрда ступіць, урасце ў яе.
Пасвячэнне ягонае ў епіскапы супала са смерцю Папы рымскага Цэлесціна III. Пакутліва аддаваў Богу душу Папа, не хацеў паміраць. Чатыры дні ляжаў без руху, без мовы, толькі вочы гарэлі, як

жар. І ўсё-ткі патухлі вочы, і ў акружэнні ўсёй рымскай курыі адзін з кардыналаў Свяшчэннай калегіі стаў перад нябожчыкам, тройчы лёгенька стукнуў яго ў лоб срэбраным малаточкам, тройчы спытаўся: "Ты спіш?" Адказу не было, і папу Цэлесціна аб'явілі нябожчыкам, а на яго месца кардыналы абралі папам Інакенція III і ўручылі яму сімвал папскай улады, якім здаўна лічыцца трайная карона, або ціяра. І адразу невядомы да таго свету Інакенцій стаў адзінаначальнікам каталіцкай царквы, а яшчэ епіскапам Рыма, вікарыем Ісуса Хрыста, пераемнікам князя апосталаў, вярхоўным свяшчэннікам каталіцкай царквы, патрыярхам заходнім, прымасам італьянскім, мітрапалітам-архіепіскапам рымскім, рабом рабоў божых. З яго згоды, з яго благаславення і паехаў Альберт у Лівонію, узяў у рукі меч духоўны.
Першае, што ён зрабіў,— заклаў горад Рыгу і перанёс у яе з Ікескалы епіскапскую кафедру. Яму трэба было адчуваць за спіною мора, заўсёды быць побач з морам, бо па моры кожную вясну плылі да яго пілігрымы, на якіх ён ускладаў знак Крыжа Гасподняга.
У Вісбю, галоўным горадзе вострава Готланд, ён за вялікія грошы наняў каменячосаў і муляроў, і там, дзе рэчка Рыдзіня ўпадзе ў Дзвіну, яны збудавалі гандлёвыя рады.
Ён, епіскап Альберт, зразумеў, што трэба быць не толькі добрым воінам, але й добрым купцом, і выпрасіў у папы Інакенція III інтэрдыкт[1] на земгальскую гавань, якая магла стаць саперніцай рыжскай гавані. Земгальскай гавані заткнулі рот, абсеклі рукі, і яна неўзабаве зачахла, загінула, як дрэва, пазбаўленае зямлі.
Шумела, вясновай ракой бушавала містэрыя. Столькі страсці, столькі яркіх фарбаў было ў ёй, столькі божага агню, што не толькі дзікія язычнікі, але і хрысціяне, і сам епіскап зачаравана глядзелі на незвычайную дзею, якая разгортвалася пад хмурнаватым рыжскім небам. На вачах у некаторых гледачоў блішчалі слёзы. Ліў Каўпа часта,

[1] Інтэрдыкт — забарона праводзіць на тэрыторыі, якая падвяргалася пакаранню, богаслужэнне і рэлігійныя абрады.

усхвалявана дыхаў, потым правай рукой схапіў свой нашыйны крыж і, не адрываючы позірку ад містэрыі, пацалаваў яго.
“Што можа параўнацца з нашай царквою? — расчулена думаў епіскап.— Яна як непагасная зорка ў сляпой цемры, як скала паміж акіяна. Хіба здольна царква праваслаўная, якая нясе вучэнне візантыйскіх ілжэпрарокаў, устаць на дарозе рымскай царквы? Не. Мы растопчам іхнія ерэтычныя абразы, а іхняя царква-рабыня будзе мыць ногі сваёй вялікай пані — каталіцкай апостальскай царкве”.
Воіны Гедэона ўзнялі трохзубцы і з баявым клічам рынуліся на філісцімлян. І тут лівы і земгалы ў незвычайным жаху ўсхапіліся са сваіх месцаў, урассыпную пабеглі ва ўсе бакі. Ім падалося, што зараз і іх, язычнікаў, будуць калоць і секчы бязлітасныя воіны.
— Спыніцеся! — крычаў Генрых.— Спыніцеся! Вам не зробяць нічога дрэннага! Куды ж вы?!
Але толькі жменька язычнікаў, і паміж іх Каўпа, засталася на галерэі. Астатнія як звар’яцелі — беглі да гарадскіх варотаў, спрабавалі пералезці цераз сцяну, зашываліся хто куды. Містэрыя нечакана і бясслаўна скончылася. Епіскап быў вельмі разгневаны.
— Генрых, распускай акцёраў,— сухім голасам загадаў ён маладому клірыку.
Як жыве яшчэ сляпое паганства ў гэтых людзях! У іх, пэўна, не адна, а дзве душы. Адна душа знешняя, бачная старонняму воку. З ёй, гэтай душой-маскай, яны прыходзяць у Рыгу, прыходзяць да яго, епіскапа, прымаюць хрышчэнне, моляцца Хрысту. І вочы тады ў іх, як у маленькіх даверлівых дзяцей. Тады іхнія вочы, як вясновыя ручайкі, чыстыя, светлыя, мяккія.
Але жыве у іх яшчэ адна душа, глыбока схаваная, патаемная, недаступная чужому воку. Яна нібы абрасла дзікім лясным мохам, звярыным воласам. Яна пахне халодным дажджом, снегам, балотам... Што на дне той душы!
Епіскап ад сваіх людзей, ад Каўпа ведае, што калі яны вяртаюцца з Рыгі дадому, то па старадаўняму звычаю дзядоў збіраюцца разам, вараць мёд, п’юць,

а потым у Дзвіне змываюць з сябе тэўтонскае хрышчэнне. Калі памірае нехта з блізкіх, яны плачуць, хаваюць яго і кажуць: "Ідзі, бедалага, з гэтага тужлівага свету ў лепшы, дзе не хітрыя тэўтоны будуць уладарыць над табою, ■ ты над імі". Яны шлюць ганцоў у Кукейнос, у Полацк,у Пскоў, да літоўцаў.
Епіскап падышоў да Каўпа. Старэйшына ліваў пацалаваў яму руку. Епіскап накрэсліў над ім святы крыж.
— Як жыве твой сын у Тэўтоніі? — спытаўся Альберт.
— Добра жыве,— радасна адказаў Каўпа.— Богу кожны дзень моліцца, латынь вучыць, на лютні іграе...
Шэрыя вочы ліва раптам пазмрачнелі, ён ціха спытаўся:
— Скажы, святы ойча, ці хутка вернецца дадому мой сын і сыны нашых старэйшын?
Такі паварот размовы не спадабаўся епіскапу. Ён падумаў, што не варта было цікавіцца сынам Каўпа. У язычнікаў, як у дзяцей, чуллівыя душы.
— Вашых дзяцей забралі за мора, каб вы навучыліся быць вернымі,— з расстаноўкаю, гледзячы проста ў вочы засмучанаму ліву, сказаў Альберт.— Не ўсе навучыліся вернасці святому апостальскаму прастолу, а ты, Каўпа, навучыўся. І ты ўбачыш свайго сына.
— Хутка? — з надзеяй, з болем выгукнуў Каўпа.
— Я паплыву набіраць новых пілігрымаў і прывязу твайго сына,— супакоіў ліва епіскап і адразу ж перавёў гутарку на іншае.— Гэта праўда, што дзвінскіх ліваў называюць вейналамі?
— Праўда. Але я з турайдскіх ліваў,— нявесела адказаў Каўпа і пайшоў да сваіх суайчыннікаў.
Епіскап у глыбокім розуме глядзеў услед ліву. Ён думаў, што памылка ягоных папярэднікаў, епіскапаў Мейнарда і Бертольда, была ў фанабэрыстай тэўтонскай слепаце, якая не дазволіла ім убачыць у грознай, на першы погляд, ліўскай сцяне мноства трэшчын і трэшчынак. Ліваў шмат, гэта так. Але ёсць розныя лівы. Ёсць вейналы і турайдскія лівы. Ёсць Каўпа, які верна служыць Рыму. І быў Ако, фанатычны вораг усяго тэўтонскага племені. Пры

адным успаміне аб ім епіскап заўсёды задыхаецца ад гневу.
Гэты Ако быў гольмскім старэйшынам і тайна склікаў усіх ліваў на раку Вогу, каб адтуль, дачакаўшыся полацкага войска, ударыць па Рызе. Тысячы ўзброеных ліваў ішлі да яго. Двое з нядаўна хрышчаных тубыльцаў, Кірыян і Лаян, захацелі дапамагчы тэўтонам і адпрасіліся ў рыцара Конрада, які, запёршыся, сядзеў у Ікескале, каб ён адпусціў іх на Вогу. Яны пакляліся падслухаць усё, аб чым будуць гаварыць змоўшчыкі. Конрад адпусціў іх і бачыў сваіх неафітаў апошні раз. Ако, як трохгаловы змей, пранюхаў, выведаў аб здрадзе, загадаў жорстка пакараць адступнікаў. Родзічы Кірыяна і Лаяна плявалі на іх, адвярнуліся ад іх, і бедным лазутчыкам смалянымі вяроўкамі адарвалі рукі і ногі.
Захісталася Рыга, але зноў устаяла. Капейшчыкаў і балістарыяў[1] кінуў Альберт насустрач няверным лівам. На невялікім караблі яны падышлі да таго месца, дзе натоўпы раз'юшаных бунтаўшчыкоў ужо чакалі іх. Пад градам камянёў і коп'яў, па горла ў дзвінскай вадзе яны пачалі высадку на бераг. Рачная вада зачырванелася ад тэўтонскай крыві. Але Бог, як і заўсёды, абараніў сваіх. Балістары няспынна білі са смертаносных арбалетаў, а ў ліваў не было ні шчытоў, ні панцыраў, і яны не вытрымалі, пабеглі. І пакаштавалі тэўтоны нектар перамогі, зведалі вясновую радасць мячоў.
Адслужыўшы з клірыкам месу, епіскап у вялікай трывозе чакаў ганцоў. Ужо распраўляў ветразі карабель у вусці Дзвіны. Няўжо будзе вырваны з коранем тэўтонскі дуб і вераломныя лівы пашчапаюць яго для сваіх вогнішчаў? Удалечыні, на шэрай Дзвіне, паказаўся човен. Епіскап і клірыкі перасталі дыхаць. Нешта набліжалася да іх — жыццё або смерць. Маладзенькі клірык войкнуў, пабляднеў, асунуўся ля ног епіскапа — страх разарваў сэрца. І тут паранены балістарый высока ўзняўся ў чоўне, і човен хіснуўся пад ім. Балістарый, трымаючы за доўгія скрываўленыя валасы, паказаў галаву Ако. Клірыкі заспявалі.

---

[1] Б а л і с т а р ы і — стралкі з арбалета.

— Давід забіў Галіяфа,— радасна сказаў тады епіскап.
І сёння пры ўспаміне аб тым дні ў яго ўсхвалявана забілася сэрца. Ён нетаропка пайшоў па залітай сонечнымі промнямі плошчы да свайго дома. Ззаду пачціва крочылі маўклівыя клірыкі. Ён ішоў па горадзе, які сам стварыў, збудаваў. Ён страсна верыў, што з божай дапамогаю гэты горад тысячу гадоў будзе стаяць над Дзвіной, падстаўляючы грудзі марскому трывожнаму ветру, і пакаленні тэўтонаў з вялікай удзячнасцю будуць успамінаць яго, епіскапа Альберта.
— Бог выпрабоўвае сваіх абраннікаў, як золата ў агні,— весела сказаў ён клірыкам. Яны зразумелі, што ў мансіньёра добры настрой, бо заўсёды пры такім настроі епіскап пачынаў гаварыць цытатамі з Бібліі.
Альберт жыў непадалёку ад царквы Іаана, на другім паверсе прасторнага каменнага дома, які готландскія дойліды збудавалі па ягоных уласных чарцяжах. Прыслужваў яму нямы бязвухі манах з Дзінамюндскага манастыра Імануіл. Гэты Імануіл удзельнічаў у чацвёртым крыжовым паходзе, калі пад ударамі еўрапейскіх рыцараў рухнуў золатагаловы багаты Канстанцінопаль. Тыя незабыўныя дні былі напоўнены дымам, агнём і золатам. Золата ляжала ўсюды: на плошчах, на вуліцах, на невялікіх цяністых дворыках, на гарадскім іпадроме. Ім набівалі сядзельныя сумкі. Рыцары, перамогшы Канстанцінопаль, адчувалі сябе ўладарамі ўсяго свету і стварылі, абраўшы імператарам Балдуіна Фландрскага, Лацінскую імперыю. Потым, калі пайшлі на поўдзень да Іерусаліма вызваляць труну гасподнюю, Імануілу і яго сябрам не пашанцавала. Сарацыны, як злыя духі пустыні, наляцелі з усіх бакоў, секлі бледнаскурых лацінян крывымі шаблямі. Імануіл трапіў у палон. Многіх ягоных сяброў, насільна абрэзаўшы ім крайнюю плоць, зрабілі мусульманамі. Ад страху ён на ўсё жыццё стаў нямым. Потым уцёк, ішоў і поўз па пустыні, бачыў напаўзасыпаныя рыжым пяском шкілеты рыцараў, у якіх хаваліся ад спёкі яшчаркі, чуў гнеўны голас пустыні, калі яна пачынае спяваць

пад парывамі распаленага ветру. Ад голаду ледзь не звар'яцеў, адрэзаў свае вушы і з'еў іх...
Альберт узняўся па вінтавой лесвіцы на другі паверх, зайшоў у сваю чытальню, якая была адначасова і хатняй малельняй. Імануіл зняў з епіскапа плашч, мітру, прынёс медны сасуд з вадой. Палошчучы ў вадзе пальцы, асцярожна праціраючы халоднай вадой лоб і шчокі, Альберт з лёгкай усмешкаю спытаўся ў нямога:
— Імануіл, табе сёння не сніліся сарацыны? Паглядзі ўважлівей — можа, у цябе яшчэ што-небудзь акрамя вушэй абрэзана?
Так епіскап жартаваў. Бываючы на працягу амаль усяго дня на людзях, пад пільнымі позіркамі, ён стамляўся, камянеў душою, і гэтыя грубыя жарты над маўклівым слугой зрабіліся неабходнымі — яны хоць трохі здымалі цяжар няспынных жыццёвых клопатаў.
Імануіл прывык да такіх пытанняў, і яны яго не бянтэжылі, як напачатку. Ён спакойна трымаў у загарэлых руках медны сасуд, чакаў, пакуль епіскап змые з сябе тленны пыл мітуслівых жыццёвых дарог. Ён адчуваў асалоду ад такога цярплівага чакання. "Гэты нямы манах сваім высакамерным спакоем нагадвае аравійскага вярблюда,— думаў, выціраючы мяккім ільняным ручніком твар і рукі, Альберт.— Не кожны ўмее сябе так трымаць, нават я".
Імануіл з ручніком, сасудам і плашчом выйшаў. Зараз у сваім пакойчыку ён пачне чысціць епіскапскі плашч.
Альберт сеў на мяккі, фландрскай работы пуф, заплюшчыў вочы, расслабіў рукі і ногі. Цяжка быць багата прыбранай лялькай, якая павінна кожны дзень паказвацца народу. Хто скажа, што ў епіскапа лёгкі хлеб?
Ён сядзеў у абсалютнай цішыні. Злятала стомленасць з душы. Душа напаўнялася мяккім святлом, нябесная музыка, срэбная, цнатлівая, пачынала гучаць у ёй. Гэта былі, бадай, самыя прыемныя імгненні ў ягоным штодзённым клапатлівым, нервовым жыцці. Ціха звінела нябесная музыка, быццам жаўранак спяваў. Бог уваходзіў у душу.

Епіскап расплюшчыў вочы. Праз вузка прарэзаныя вокны, якія былі зашклёны каляровым венецыянскім шклом, мякка прабівалася вечаровае сонца. У пакоі быў алтар, дзе ляжала Біблія з пергамену, перапісаная рукой святога папы Грыгорыя. Было мноства срэбных падсвечнікаў з цяжкімі і доўгімі васковымі свечкамі. На глухой сцяне вісела чорнае распяцце Хрыста ў цярновым вянку. На сцяне насупроць зіхцелі кап'ё, меч і шчыт з каталіцкім крыжам — зброя епіскапа.
Альберт падышоў да алтара, асцярожна, пачціва ўзяў Біблію, стоячы пачаў чытаць, нібы маленькімі глыткамі піў мёд. Жыццё рабілася ясным і зразумелым. Кроў, пот, слабасць, някер'е — усё заставалася ззаду. Ён быццам бачыў агромністы залаты прастол Хрыста, які лунаў у нябесным блакіце, сляпіў вочы іскрыстымі праменнямі, як сонца. "Хто я? — млеючы ад асалоды, думаў епіскап.— Нікчэмны раб веры. Пясчынка. Але мне добра, мне прыемна быць рабом і пясчынкай".
Ён падышоў да акна, глянуў на вуліцу. Толькі маленечкі акрайчык зямлі ўбачыў ён, лужок, які не вытапталі, не скасілі, бо ён, епіскап, забараніў. Дзіцячыя галоўкі дзьмухаўцоў бялеліся пад сонцам. Мір, ціша і лагода былі там, дзе раслі дзьмухаўцы. Ён зноў заглыбіўся ў Біблію, зноў паплыў па шырокай бяздоннай рацэ, якая цячэ праз вечнасць. Добра было нетаропка чытаць, смакуючы словы і сказы, прымерваючы ўсё напісанае ў святой кнізе да сябе, да сваёй асобы.
"Ты — скала, на якой я пабудую сваю царкву",— сказаў Ісус Хрыстос апосталу Пятру. Калі Хрыстос пакліча яго, епіскапа Альберта фон Буксвагена, да сябе, то скажа, абавязкова скажа, што ён, епіскап, скала, на якой пабудавана рыжская царква.
Не, ён, епіскап Альберт, не пясчынка. Ён толькі перад Богам пясчынка, а для ўсіх астатніх, для тых, хто глядзіць на яго знізу ўверх, хто гатоў пацалаваць ягоную сандалю, ён — скала, само сонца. Як добра быць пясчынкай і адчуваць кожны міг, што ты — сонца.
Увайшоў Імануіл, знакамі, якія разумеў толькі епіскап, далажыў, што аўдыенцыі чакае клірык Генрых.

— Пусці яго,— загадаў Альберт. Вось з кім яму абавязкова трэба было пагутарыць сёння.
Генрых, схіліўшы прыгожую светлавалосую галаву, пацалаваў епіскапа ў плячо, ціхмяна, пакорліва спыніўся на парозе.
— Праходзь, сын мой, сядай,— падсунуў Генрыху пуф з гнутымі ножкамі епіскап.— Я заўсёды рады цябе бачыць.
— Дзякую, мансіньёр,— сцісла сказаў Генрых і сеў.
— У мяне сёння цудоўны настрой,— даверліва ўсміхаючыся, паклаў яму руку на плячо Альберт.— Містэрыя прайшла добра. Сэрцы тубыльцаў размякчыліся, і семя нашай хрысціянскай пропаведзі ўпадзе не на сухую зямлю, не на д'ябальскі камень. Я люлю цябе, Генрых. Так-так, я люблю цябе, як вернага сына нашай царквы, як сумленнага, чыстага душой хрысціяніна. Я не сляпы, я бачу, і ты бачыш, Генрых, што не толькі воіны веры прыплылі ў Лівонію, а прыплыло шмат бруду чалавечага, гною, ад якога задыхалася Еўропа. Гной смярдзіць усюды. Асабліва агідна смярдзіць ён у нас, у Лівоніі, бо тут, на берагах Дзвіны, яшчэ захавалася непапсаванае чыстае паветра. Ты разумееш мяне?
— Разумею, мансіньёр,— кіўнуў галавою Генрых.
— Я прывёз цябе сюды з Брэмена, каб ты напісаў гісторыю рыжскай царквы, хроніку нашай вялікай працы і нашых перамог,— епіскап устаў з пуфа, і твар ягоны загарэўся светла і ўсхвалявана.— Я даўно шукаў такога чалавека. Я глядзеў ва ўсе куткі Еўропы. І я ўбачыў цябе, Генрых. Ты, адзін ты здолееш зрабіць гэта. Ты малады, адукаваны, разумны, адданы рымскай царкве, у цябе цудоўная латынь — мова мудрасці. І ты добра ведаеш тутэйшы край, яго звычаі, мову. Ты ж з латгалаў, ці, як іх яшчэ называюць, лэтаў. Праўда, Генрых?
— Праўда, мансіньёр,— успыхнуў і ўстаў Генрых.— Я з лэтаў, з тых, што жывуць на рацэ Імера. Калі мне было шэсць гадоў, мае бацькі аддалі мяне заложнікам у Тэўтонію, а самі неўзабаве памерлі. Я — тэўтон.
Ён цвёрда, нават з нейкім выклікам глядзеў на Альберта.
— Сядай,— мякка паляпаў яго па плячы епіскап.—

Што ты ўжо напісаў, сын мой?
— Я не спяшаюся адразу пісаць сваю хроніку, мансіньёр. Я размаўляю з людзьмі, з тэўтонамі і тубыльцамі, я шмат езджу па Лівоніі. Мне трэба на свае вочы ўсё бачыць. Так рабіў славуты Герадот. І заўсёды пры мне пергамен, усё цікавае я заношу на яго. Я яшчэ не шыю кажух, я толькі выкройваю рукавы і хлясцік.
— А калі ж ты пачнеш, сын мой, шыць кажух? — засмяяўшыся, спытаўся Альберт, якому вельмі спадабалася красамоўства Генрыха.
— Я пачну пісаць хроніку тады, калі мы, людзі, што сцяной стаяць за Бога, возьмем пад божую ўладу, далучым да рымскай царквы ліваў і лэтаў, земгалаў і кураў, селаў і эстаў.
— Ты сапраўдны сын царквы, Генрых,— усклікнуў епіскап.— Абяцаю табе: калі ты атрымаеш сан святара, я зраблю цябе канонікам, членам капітула. Мне патрэбны разумныя адданыя людзі. Бачыш мой алтар? — ён паказаў у глыбіню пакоя.— Тут я кожны дзень спраўляю месы, вячэрні і чытаю на ноч малітвы. Клянуся гэтым святым алтаром, што я не забудуся пра тваю вернасць рыжскай царкве і мне.
— Мансіньёр,— усхвалявана ўзняўся са свайго месца Генрых,— я аддам жыццё за божую справу.
— Добра, сын мой,— па-бацькоўску ўсміхнуўся епіскап.— Я веру табе. А зараз адкажы мне, Генрых, адкажы, як на святой споведзі: каго ты лічыш галоўным ворагам рымскай царквы?
Ён вельмі ўважліва глядзеў на Генрыха, як бы пранізваў таго шэра-стальнымі вачамі.
— Мясцовыя плямёны, вядома, не дужа горнуцца да нас,— пасля некаторага роздуму загаварыў Генрых,— яны лічаць, што мы прыплылі да іх з-за нашай беднасці, каб тут, на берагах Дзвіны, узбагаціцца, набіць кішэні золатам. Але святая царква зможа справіцца з імі, бо яны разрозненыя, пастаянна ваююць, грызуцца між сабою. Яны нас не любяць, гэта праўда, але вымушаны будуць з цягам часу скарыцца. Іхнія старэйшыны, такія, як, напрыклад, Каўпа, ужо сёння нашы саюзнікі. Галоўныя нашы ворагі, мансіньёр, гэта — Полацк, Ноўгарад і...

Ён на хвіліну змоўк.
— І хто яшчэ? — моцна сціснуў яму плячо епіскап.
— І Ордэн братоў Святой Марыі, ці як яны сябе называюць, мечаносцы, на чале з магістрам Венна.
— Мечаносцы! Мечаносцы! — у гневе закрычаў Альберт і аж трасянуў кулакамі.— Асінае гняздо, якое я калісьці сагрэў сваім дыханнем. Клубок гадзюк. Начныя драпежныя птушкі, якія кожны момант стараюцца клюнуць мне проста ў вока. А я ж, Генрых, сам, сам упрошваў у Рыме папу Інакенція, каб ён дазволіў стварыць гэты праклятьі ордэн. Я думаў займець моцнага саюзніка, аднадумца ў вайне супраць язычнікаў, а што маю? Магістр Венна са сваёй бандыцкай шайкай амаль кожны тыдзень шле на мяне даносы ў Рым. Ён патрабаваў адну трэць усіх заваяваных зямель. Я даў яму адну трэць, я дазволіў яму браць усе магчымыя даходы з гэтых земляў. Ён пабудаваў замак Вендэн, у якім адчувае сябе, як імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі. І што ж? Дзе ўдзячнасць? Мечаносцы сёння крычаць, каб рыжская царква выдзеліла ім трэць яшчэ не заваяваных земляў. Разумееш? Яшчэ не заваяваных! Так можна падзяліць усё: сонечныя промні, паветра, гром нябесны, месяц, які плыве над галавой...
Ён, цяжка дыхаючы, змоўк, знясілена прашаптаў:
— На адной зямлі жыць побач з гэтымі пачварамі... Якая пакута, сын мой...
І столькі стальной злосці, столькі гнеўнага болю было ў вачах, што Генрых міжволі ўздрыгнуў. Двух зусім розных людзей, двух Альбертаў фон Буксвагенаў, толькі што бачыў ён перад сабой. Адзін — ціхі, з ласкавай усмешкай, з цеплынёй у галубіным позірку. Глядзіш — і здаецца, залаты німб іскрыцца над тонзурай[1]. Другі — страсны ў нянавісці, суровы, як пякельнае полымя, з пухірамі пены ў куточках вуснаў.
"Які ж ён, сапраўдны епіскап Альберт?" — падумалася Генрыху, але ён са страхам адагнаў ад сябе гэту грэшную думку.
— Купцы і ўсе гараджане за нас, мансіньёр,—

---

[1] Т а н з у р а — выбрытае месца цемені ў каталіцкага духавенства.

асцярожна сказаў Генрых.— Ім абрыдлі ваўчыныя апетыты мечаносцаў, яны хочуць вольна гандляваць, яны хочуць спакою і міру ў Лівоніі. Я асмелюся параіць: на землях, якія належаць рыжскай царкве, крыху аслабіць царкоўную дзесяціну, замяніць яе больш лёгкім аброкам. Мясцовыя плямёны, іхнія старэйшыны будуць нам удзячныя, зразумеюць нас, і калі раптам надыдзе час выбару, калі неабходна будзе рашаць, на чый бок стаць, яны стануць на наш бок, бо магістр мечаносцаў Венна на сваіх землях дзярэ з тубыльцаў па тры шкуры.

— Я падумаю, сын мой,— паабяцаў епіскап.

У гэты час увайшоў Імануіл, знакамі, незразумелымі для Генрыха, пачаў нешта тлумачыць епіскапу. Радасць успыхнула на твары ў Альберта, і ён не хаваў яе.

— Кароль кукейноскі Вячка просіць у мяне аўдыенцыі,— весела сказаў ён Генрыху.— Я быў упэўнены, што ён прыбяжыць на мой двор.

— Вячка у Рызе? — здзіўлена ўскінуў бровы Генрых.— Люты вораг царквы просіць аўдыенцыі? Я нічога не разумею, мансіньёр.

— Ты хочаш яго ўбачыць? — замест адказу спытаўся Альберт.

— Вельмі хачу. Я ніколі не бачыў д'яблаў.

— Пакліч Вячку,— загадаў Імануілу епіскап.— І няхай разам з ім зойдзе тлумач[1].

Праз нейкі час увайшоў тлумач Фрэдэрык, які часта плаваў у Полацк і ведаў мову полацкіх крывічоў, а за ім і Вячка. Князь Кукейноса быў апрануты ў чорны дарожны плашч, пад якім зіхцела кальчуга. Галава была непакрытая, і густая хваля светлых валасоў падала на высокі смуглы лоб.

— Чаго хоча ад мяне кароль Кукейноса? — патушыўшы ў позірку радасць, строгім халодным голасам спытаў Альберт. Усе тэўтоны, у тым ліку і рыжскі епіскап, называлі полацкіх князёў каралямі. "Вось ён які,— думаў тым часам Генрых.— Ён, бадай, мой равеснік. Такія ж, як у мяне, светлыя валасы, такога ж колеру вочы. Ён вораг нашай царквы і, значыць, мой вораг. Нічога д'ябальскага ў

[1] Т л у м а ч — перакладчык.

ягоным вобліку няма. Звычайны чалавек. Прыгожы чалавек. Палачане — прыгожы народ. Было б лепш, каб гэты Вячка меў агідныя д'ябальскія рогі або хвост. Непрыгожых лягчэй ненавідзець".
— Епіскап, твае людзі схапілі маю дачку князёўну Соф'ю і прывезлі яе ў Рыгу,— хвалюючыся, сказаў Вячка.— Вярні мне дачку.
Ён схіліў калена перад Альбертам.
— Я чуў пра князёўну,— пасля некаторага маўчання прамовіў епіскап.— Зараз яна ў манастырскай келлі пад прыглядам абацісы Марты.
— Вярні мне дачку, святы ойча,— зноў ціхім голасам папрасіў Вячка.
— Князёўна хварэе,— быццам не чуў князя епіскап.— І за ўсё, кароль Кукейноса, трэба плаціць. Ты ведаеш гэта.
— Якую ты хочаш плату? — пабляднеўшы, запытаўся Вячка.
Альберт пранізліва глянуў на яго. Сталь была ў позірку.
— Ты вораг царквы, якой я аддаю ўсе мае сілы,— сказаў епіскап.— Ты ў маіх руках. Я магу цябе знішчыць.
— Я прыйшоў добраахвотна, і ў мяне няма зброі. Бог, што бачыць нас усіх, не даруе табе крыві,— сурова ўсміхнуўся Вячка.
— Мне не патрэбна твая кроў і твая плоць,— узяў з алтара Біблію епіскап.— Пра царкву я клапачуся, толькі пра яе. Калі хочаш вярнуць дачку, аддай рыжскай царкве палову сваёй зямлі, сваёй вады і свайго горада, упусці ў свой горад нашых купцоў і нашых воінаў. Вось табе маё епіскапскае слова, кароль Кукейноса.
Тлумач пераклаў Вячку ўсё, што сказаў Альберт. Увесь гэты час Генрых, не адрываючыся, сачыў за Вячкам і ўбачыў, як уздрыгнуў, як пацямнеў з твару кукейноскі князь. Вялікая пакута раздзірала ягоную душу. Загарэлай рукой ён пагладзіў скронь, быццам хацеў гэтым рухам адагнаць ад сябе нейкі жахлівы, толькі аднаму яму бачны прывід.
— Што ж ты маўчыш, кароль? — холадна ўсміхаючыся, запытаўся Альберт.— Я чуў ад сваіх людзей, што ты вельмі любіш дачку.
— Вы, тэўтоны, умееце біць у самае сэрца,— глуха

сказаў Вячка.— Так, я люблю сваю дачку. Як павінен любіць адзінакроўнае дзіця кожны бацька. Ды па нашым старым славянскім звычаі, перш чым нешта зрабіць, я павінен параіцца з народам. З гарадскім вечам. Дай мне часу, епіскап.
— Князёўна Соф'я вернецца ў Кукейнос, як толькі ты ўпусціш туды маіх воінаў.
— Зразумеў твае словы, епіскап. А сёння дазволь мне сустрэцца з князёўнай,— апусціў галаву Вячка.
— Яна хворая, і ёй патрэбен спакой. Ты глянеш на яе здалёку.
"Ён трымаецца вельмі мужна, з годнасцю, хоць у яго зараз, няма сумнення, кіпіць кроў,— падумаў пра Вячку Генрых.— Як хацеў бы епіскап, каб гэты тубылец стаў перад ім на калені. Дый я хачу таго ж самага. Але такія гордыя галовы згінае толькі меч".
Альберт, Генрых, Вячка і некалькі латнікаў з епіскапскай дружыны прыйшлі да манастырскага саду, спыніліся каля дубовай, акаванай цёмным жалезам брамы. Адзін з латнікаў тузануў за шнур званка. Адчынілася акенца, прарэзанае ў браме, адтуль высунулася галава ў чорным капюшоне, быццам начная сава асцярожна выглянула з дупла. Манастырскі брамнік павёў усіх у глыбіню саду вузенькай, слаба пратаптанай сцежкай. Відно было па ўсім, што тут нячаста ходзяць людзі. Глуха шумелі дрэвы. Трава пад дрэвамі расла сакавіта-зялёная, дужа густая.
Брамнік спыніўся, узняў угору руку — падаў знак. І адразу па сцежцы, крокаў за трыццаць ад Вячкі, абацiса Марта нетаропка правяла князёўну Соф'ю. На Соф'і быў чорны грубы плашч з адкінутым капюшонам. Абацiса трымала князёўну за руку і нешта ёй казала. Генрых убачыў, як пабялеў твар кукейноскага князя, як рэзка выступілі жаўлакі ад вялікага хвалявання.
— Твая дачка, кароль, як ісцінная хрысціянка, знаходзіцца пад апекай рыжскай царквы,— сказаў Альберт.— Ні адзін волас не ўпадзе ў яе з галавы.
— Волас? — як бы ачнуўшыся ад цяжкага сну, перапытаў Вячка.— Ты кажаш, волас не ўпадзе... Дазволь мне, епіскап, узяць на памяць пасму валасоў маёй дачкі.
 Тэўтоны пераглянуліся між сабою. Нечаканая

просьба кукейноскага князя усіх збянтэжыла.
— Дазволь, мансіньёр,— папрасіў за Вячку Генрых. Альберт здзіўлена зірнуў на свайго любімага клірыка. "Мяккае сэрца ў Генрыха,— падумаў епіскап.— Сэрца неабходна загартоўваць відовішчам слёз і крыві. Не мяккае, як сыр, а цвёрдае, як камень, патрэбна сэрца ў Лівоніі". Епіскап даў знак латніку, і той, падышоўшы да князёўны, выцягнуў з похваў меч, адрэзаў у спалоханай дзяўчынкі пасму валасоў. Абацiса Марта адразу павяла Соф'ю за сабою, і яны ў адно імгненне зніклі ў гушчыні саду.
Вячка трымаў на далоні пасмачку шаўкавістых светлых, як лён, доччыных валасоў. Бледнасць залівала смуглыя шчокі. Ён панюхаў валасы, пацалаваў і, дастаўшы з-за пазухі малюсенькі, тканы са срэбных нітак мяшэчак, схаваў іх туды. "Бог выпрабоўвае сваіх рабоў горам,— думаў Генрых, ідучы побач з Вячкам.— Толькі наплакаўшыся, наглытаўшыся едкага дыму кастроў, на якіх згараюць самыя светлыя надзеі, чалавек можа ацаніць, можа зразумець, што такое шчасце. У сваім зямным жыцці мы ўвесь час нібы ідзем па тарфянішчы, якое гарыць, тлее пад нагамі. Няма ў нас выбару. Або правалішся, не так ступіўшы, у агонь, або засмокча агіднае гнілое балота".
Над Рыгаю ў бляклым небе плылі срэбныя льдзіны хмар. Вось адна хмара на нейкі момант засланіла сонца, і цень ад хмары, змрочны, імклівы, пабег па зямлі. "Смерць бяжыць, некага шукае",— заміраючы сэрцам, падумаў Герных. Яны якраз выйшлі на пустынную гарадскую плошчу. Цень ад хмары, як драпежны звер, бег насустрач, перарэзваў ім дарогу.
— Стойце,— пабялеўшы, папрасіў Генрых і прыпыніўся. Але ўсе астатнія, не звярнуўшы ўвагі на ягоны вокліч ці не пачуўшы яго, пакрочылі далей. Цень ад хмары накрыў іх з галавы да ног, як чорны саван. Толькі Генрыха ён не закрануў сваім халодным крылом, праслізнуў за нейкі крок ад яго. Генрых стаяў, асветлены яркім сонцам. "Усе яны памруць раней, чым я,— думаў ён.— Яны сатлеюць у магілах, а я яшчэ буду жыць, дыхаць, бачыць сонца, маліцца Хрысту". Востры сум пракалоў

сэрца. З маленства Генрых любіў усё жывое — людзей, звяроў, птушак. Усё, што дыхае, надзелена часцінкай святой божай сілы, і балюча разумець, што ўсё яно ў рэшце рэшт стане тленам.
Епіскап Альберт ішоў усміхаючыся. Ён быў задаволены тым, як хітра прыручыў кукейноскага князя. Паўнаваты твар епіскапа расплываўся ва ўсмешцы, а Генрых, крадком пазіраючы на яго, бачыў аскалены бязносы чэрап, бачыў бледны агідны позірк смерці.
"Божа, гарачым жалезам выпалі з мяне такія грахоўныя думкі,— страсна маліў ён Хрыста.— Вогненным жазлом пасвіш ты народы, не дай жа мне збіцца са святой дарогі".
Праз тлумача ён звярнуўся да Вячкі, сказаў, каб не хваляваўся кукейноскі кароль за дачку, бо ў манастыры пад прыглядам духоўных настаўнікаў акрэпне яна душою, пакаштуе слодыч ісціннай веры.
— Я сам навучу як латыні,— паабяцаў ён.
Вячка глянуў на Генрыха, суха запытаўся:
— А хіба наша вера не ісцінная? А хіба мова крывічоў не ісцінная?
Генрых адказаў упэўнена і бадзёра:
— На зямлі павінен быць адзін Бог-уладар, адзін божы намеснік, адзін гнеў і адна ласка, адна мова. Усё іншае — ад д'ябла.
Кукейноскі князь нічога не адказаў яму, адвярнуўся. Гэта пакрыўдзіла Генрыха. Ён лічыў, што ўмее знаходзіць у кожнай чалавечай душы, нават самай цёмнай, акенца, шчылінку, праз якія можна зазірнуць у чужую душу. Ён і ў святары пайшоў з упэўненасцю, што мае права навучаць людзей, што ёсць у ім нейкі праменьчык божага святла, які заўсёды неадольна прываблівае людзей. Ды вось ідзе побач з ім чалавек, яго равеснік, і не разумее, не жадае разумець яго. Невыносна крыўдна для самалюбства. "Ён прыгнечаны бядой, і бяда асляпіла яго,— суцяшаў сам сябе Генрых.— О, каб можна было мне адзін дзень і адну ноч пагаварыць з ім, толькі адзін дзень ці адну ноч, і я скрышыў бы сцяну ягонага нявер'я. Ён стаў бы маім братам ва Хрысце".

Вера, як быў цвёрда перакананы Генрых,

прыходзіць у чалавечую душу адразу і назаўсёды. Гэта падобна на ўдар грому. Рымскі военачальнік Еўстафій Плакіда, упарты, цвёрды, як крэмень, паганец, які са смехам кідаў першых хрысціян у клеткі з ільвамі, убачыў на паляванні аленя з іскрыстым залатым крыжам паміж рагоў і ў той жа міг зрабіўся хрысціянінам.
"Звядзі мяне, Божа, з гэтым кукейноскім каралём, і я зраблю так, што ягоны меч будзе служыць табе, толькі табе,— у думках звяртаўся да Хрыста Генрых.— І я апішу гэта ў сваёй хроніцы, каб уславіць тваю ўсемагутнасць і сілу".
Яны ішлі побач, маўчалі. Князь Вячка дастаў з-за пазухі малюсенькі, тканы са срэбных нітак мяшэчак, выцягнуў з яго светлую пасму даччыных валасоў, сплёў з тых валасоў пярсцёнак, надзеў пярсцёнак на палец, ускочыў у сядло і разам са сваім старшым дружыннікам Халадком, ні разу не азірнуўшыся на Рыгу, памчаўся ў Кукейнос.

# II

Нарэшце Генрыху споўніўся дваццаць адзін год. З вялікім поспехам закончыў ён курс багаслоўскіх навук, бліскуча вытрымаў публічны дыспут, і епіскап Альберт, радуючыся за свайго любімага вучня, рукапаклаў яго ў сан святара і ў бенефіцый[1] яму прызначыў парафію ў землях імерскіх латгалаў. Прыход быў далёка ад Рыгі, але Генрыха гэта ніколькі не турбавала — ён даўно рваўся туды, дзе толькі ўзыходзіла святло хрысціянскай веры, дзе ў самай гушчы язычнікаў можна было ўласнымі рукамі пасадзіць пладаносны сад Хрыста.
Са старым клірыкам Алебрандам, які яшчэ помніў епіскапа Мейнарда, у павозцы з палатняным верхам ехаў малады пастыр Генрых на раку Імеру, на радзіму сваіх продкаў. Везлі з сабой дараносіцу, святую ваду і святыя кнігі, пастырскую рызу, распяцце.
Генрых, шчыра верачы ў неадольную сілу Хрыста,

[1] Бенефіцый — царкоўная пасада і звязаныя з ёю прыбыткі.

хацеў ехаць без аховы, ды стары Алебранд, якому язычнікі добра палічылі рэбры яшчэ пры Мейнардзе, нават і слухаць пра гэта не захацеў.
— Нас утопяць у першым жа балоце або падсмажаць, як рыбу, на вогнішчы,— сказаў ён Генрыху.
Епіскап Альберт, ведаючы, як неспакойна на дарогах, выдзеліў для эскорта дваццаць сваіх конных латнікаў, сказаўшы на развітанне Генрыху:
— Не адпускай, сын мой, ахову. Заўсёды няхай яна будзе з табою, інакш не пазбегнуць табе магільнага чарвяка,— і ўжо звяртаючыся адначасова да Генрыха і старога Алебранда, даў такі наказ: — Любіце ворагаў сваіх, благаслаўляйце тых, што праклінаюць вас.
Спачатку ехалі ўздоўж мора, бо баяліся турайдскіх ліваў, якія жылі над ракой Гаўяй. Марскі бераг быў нізкі, пясчаны, чэзлы сасоннік рос невялікімі астраўкамі, чайкі сумна крычалі аб нечым. На душы ў Генрыха, чым далей ад'язджалі ад Рыгі, рабілася ўсё больш неспакойна, часам — ён нават сам дзівіўся, з якой прычыны,— хацелася плакаць. Супакойвалі святыя кнігі і тоўсты пергамен, які ён узяў у дарогу для сваёй будучай хронікі.
На трэці дзень пераправіліся на правы бераг ракі Гаўі, прычым Генрых нечакана для сябе зваліўся з павозкі ў ваду і ледзь не ўтапіў Біблію, якую трымаў у руках. "Дрэнны знак",— падумаў Генрых.
Заехаўшы ў лес, расклалі вогнішча. Генрых з дапамогаю старога Алебранда сцягнуў з сябе мокрае адзенне, павесіў сушыцца на рагульках над агнём. Сам сядзеў, захінуўшыся ў цёмную сутану, падкурчыўшы босыя ногі.
Алебранд, як высветлілася, ужо некалькі разоў ездзіў гэтай дарогаю, што вяла правым берагам ракі Гаўі на раку Імеру, якая ўпадае ў возера Асцігервэ.
— Там жывуць імерскія латгалы. І там мы заўсёды сустракаліся пасля паходаў на язычнікаў эстаў, каб памаліцца і падзяліць здабычу,— сказаў Алебранд, нахмурваючы ад гарачыні, ад вёрткіх іскраў сівыя бровы.
"Там мая радзіма,— думаў Генрых, слухаючы роўны глухаваты шум лесу, узіраючыся ў чырвоныя грабяні вогнішча.— Падумаць толькі — я там

нарадзіўся. Не ў Тэўтоніі, не ў Рыме і не ў Брэмене, а там, на беразе возера, якога не помню, паміж людзей, якіх таксама не помню. Які я быў, калі мне было чатыры-пяць гадоў? Напэўна, бегаў басанож, як і ўсе дзеці ліваў і лэтаў, якіх мы сустракалі дагэтуль... На носе ў мяне былі вяснушкі... Я маліўся багам, якім маліліся мае бацькі... А якія былі мае бацькі? Я іх таксама не помню... Я нарадзіўся між язычнікаў, у цемры, у брудзе... Што ж, Хрыстос таксама нарадзіўся не ў залатых палатах, а ў стойле, на сене".

— Ты што замоўк, Генрых? — спытаўся Алебранд.— У доўгай дарозе трэба часцей гаварыць між сабой, бо можна звар'яцець ад маўчання. Я паездзіў на сваім вяку,— ён шырока пазяхнуў і адразу ж перахрысціўся, каб не ўляцела ў рот д'ябальская сіла.— Першы раз, помню, паехаў да эстаў у іхнюю зямлю Унгаўнію, каб узяць назад дабро, якое яны захапілі ў нашых купцоў. Ішлі купцы санным абозам з Рыгі да Пскова, а эсты разам з лівамі напалі на іх, узялі тавараў аж на дзевяцьсот марак. Не аддалі язычнікі дабро, ледзь мяне самога не забілі. Дзікуны што эсты, што лэты,— ён злосна плюнуў у агонь.

"Я нарадзіўся ад дзікуноў,— думаў Генрых,— на зямлі, якая забыта Богам, якая спіць мёртвым сном, не чуючы святых псалмоў, не ведаючы ўсемагутнай чароўнай латыні. Няўжо я мог не ведаць латынь, гэту мову багоў, музыку нябёсаў? Яна — сама гармонія, сама дасканаласць. Няўжо я мог размаўляць на нейкай іншай мове і ў мяне не прысох да гартані язык? Як ёсць адно сонца ў небе, так павінна быць адна мова.

Адна! Святая латынь! Усе іншыя мовы — смецце, пыл пад нагамі. Хіба гэта мовы?"

Ён узняўся на ногі, стаяў ля вогнішча, захутаўшыся ў сутану, якая зрабілася гарачай. Але ён не адчуваў гарачыні скураю, целам, бо пякуча гарэла душа.

— А назад ад эстаў вяртаўся,— працягваў між тым свае бясконцыя ўспаміны Алебранд,— і патрапіў на раку Імеру да лэтаў. Слова божае яны сустрэлі з радасцю, але кінулі жэрабя — прыняць хрышчэнне ад Пскова, ад рускай царквы, як зрабілі гэта талаўскія лэты, або хрысціцца ад лацінян.

Пашанцавала нам, лацінянам.
"Мае бацькі, мае родзічы па жэрабю выбіралі сабе веру,— ледзь не плачучы ад крыўды і злосці, думаў Генрых.— Быццам вера — новая кашуля або новая карова. Быццам ёсць на свеце што-небудзь мудрэйшае і святлейшае, чым рымская вера. І я нарадзіўся ад такіх людзей".
— Ды сядай ты, Генрых,— лагодна прапанаваў стары Алебранд.— Сядай вось сюды, каля мяне... Дарога яшчэ доўгая, і трэба берагчы ногі. Давай налью табе віна. Я віно заўсёды ў дарогу бяру. Не п'еш? Зусім не п'еш? Святы. Я без віна не магу.
Алебранд, задраўшы бела-жоўтую пярэстую бараду, піў віно з меднага кубка. Піў доўга, са смакам, потым выцер кулаком губы, сказаў:
— Ты на мяне, старога, не зважай. Я сваё ад'ездзіў і адслужыў. Чалавек я бяскрыўдны. Шукаю, дзе цёпла, сытна і кацёл не пусты. Вось завязу цябе на Імеру, дапамагу царкву абжыць і вярнуся ў Рыгу. Там і паміраць буду.
"Без Алебранда мне будзе цяжка,— седзячы каля вогнішча, думаў Генрых.— Але са мною Бог і Святая Дзева Марыя. Яны мне дапамогуць, умацуюць душу. Я так хацеў стаць пастырам!"
Яму ўспаміналіся доўгія гады навучання ў Брэмене, у Рыме, потым і ў Рызе. Ён заўсёды быў адным з лепшых студыёзусаў[1]. Ягоныя сябры па багаслоўскай семінарыі тайна заляцаліся да дзяўчат, пілі віно і піва, лайдачылі і апраўдвалі ўсё гэта тым, што сам Хрыстос, калі быў малы і вучыўся ў школе, у час урокаў ляпіў з мокрай зямлі птушак, ажыўляў іх, і тыя птушкі лёталі па класе.
Ён заўсёды лічыў сябе тэўтонам, сынам таго магутнага народа, які некалі скрышыў, паставіў на калені Рымскую імперыю, які на баявых замыленых конях уварваўся ў мармуровыя палацы, у велізарныя шыкоўныя лазні, дзе ў дзікіх фантастычных оргіях, у непасільных для слабай чалавечай душы мроях дажывала апошнія дні змарнелае худасочнае племя пігмеяў, якія калісьці былі гігантамі. Але яго бацькі былі лэтамі, значыць, і ён быў лэт.

[1] Студыёзус — студэнт, семінарыст.

Аднойчы семінарыст, які спаў з ім побач, здзіўлена сказаў раніцой:
— Генрых, я не ведаў што ты такі Цыцэрон — размаўляеш нават ува сне.
— Я размаўляю ўва сне? — здзівіўся Генрых.
— Так. Але гэта яшчэ не ўсё. Ты размаўляеш не на латыні, не па-тэўтонску і не па-свейску, а на нейкай дзіўнай незразумелай мове.
Кроў ударыла ў скроні. Генрых пачырванеў як вараны рак, з якімі студыёзусы любілі піць піва. Аказваецца, ува сне ён размаўляе па-лэцку! Не высакародныя ружы святой латыні расцвітаюць у ягонай душы, а востра колецца балотная асака мовы, якую ніхто ніколі не чуў і, пэўна ж, не пачуе на берагах Рэйна. Ён вырываў, карчаваў яе з сябе, але карэньчыкі, аказваецца, засталіся.
У наступны вечар, перад сном, ён доўга і шчыра маліўся, прасіў:
— Божа, зрабі, каб ніколі болей не вярталіся да мяне гэтыя непатрэбныя, гэтыя мёртвыя словы.
Я — сын тваёй латыні. Божа, я верны раб тваёй святой латыні.
А каб быць абсалютна ўпэўненым у тым, што лэцкая мова не вернецца да яго ўначы, завязаў сабе рот шаўковай хусцінкай і так заснуў — дыхаць дыхалася, але замест слоў з грудзей вырывалася нейкае мармытанне.
Ён выганяў з сябе мову продкаў, як са святога, убранага золатам храма выганяюць шумлівых, вечна галодных вераб'ёў. Мова памірала. Яна болей не вярталася ў сны. Ува сне ён гаварыў зараз на латыні.
Яна б зусім памерла, але ў Рызе, на споведзі, Генрых расказаў епіскапу Альберту, свайму любімаму настаўніку, аб усім, што трывожыла яго.
— Што ты робіш, сын мой? — усклікнуў Альберт.— Латынь — божая мова, мова моў. Але пакуль што яна не можа быць адзіным ключом, які адмыкае ўсе сэрцы. Нам, рыжскай царкве, патрэбны людзі, якія б ведалі мову ліваў і эстаў, палачан і лэтаў.
Так зноў ажыла ў душы Генрыха мова продкаў.
Абсушыліся, адпачылі, і невялічкі абоз рушыў далей. Пасля вымушанага купання ў халоднай вадзе

настрой у Генрыха ўзняўся, не так змрочна глядзеў ён зараз на ўсё, што адбывалася вакол. Лівы і лэты цэлымі сем'ямі ўцякаюць з хат, зашываюцца ў лясы пры іхнім з'яўленні? Бо неразумныя язычнікі. Не азарыла іх яшчэ святло Гасподняе. У іх дужа бедныя хаты, сядзібы? Бо лянуюцца працаваць.
Шмат рэчак і рэчачак цякло па гэтай зямлі. І ўсе цяклі з усходу на захад сонца. Мора іх вабіла, прыцягвала да сябе.
Пры пераправе праз адну з такіх рэчачак з лесу, што рос на самым беразе, выскачыла каля трыццаці коннікаў, у белых доўгіх плашчах з нашытымі на іх чырвонымі крыжамі і мячамі, у гаршкападобных шлемах. Наставіўшы коп'і, яны рынуліся на абоз.
— Вендэнскія рыцары,— сказаў стары Алебранд,— мечаносцы.— І закрычаў коннікам, што гатовы былі змяць, растаптаць іх абоз.
— Імем Хрыста — спыніцеся! Мы з Рыгі! Людзі епіскапа Альберта!
Але стальная конная лава неслася, не зважаючы на адчайны крык старога клірыка, і тады Генрых схапіў Святое Распяцце, высока ўзняў над галавой, на ўсю моц сваіх грудзей сказаў:
— Спыніцеся, вы, што пахавалі твары за жалеза!
Рыцары ўзвілі на дыбкі коней каля самай павозкі, у якой сядзелі Генрых і Алебранд. На конях былі металічныя папоны і нагруднікі. Галовы пакрывала кальчужная сетка. Генрых убачыў проста перад сабой бліскучыя ад вады цяжкія конскія капыты.
— Стой! — шырока махнуў рукой у металічнай пальчатцы комтур[1], у якога на доўгім кап'і трапятаўся белы сцяжок з чырвоным крыжам. Каманду гэтую ён аддаў і сваім разгарачаным рыцарам і спалоханаму царкоўнаму абозу.
Комтур, шыракаплечы, смуглатвары, пад'ехаў да Генрыха і Алебранда. На комтуру былі перавязь, рыцарскі пояс, залатыя шпоры — усё, што належыць мецъ высакароднаму адважнаму воіну.
— Мы думалі, што вы эсты,— сказаў комтур, глянуўшы на Генрыха суровымі вачамі.
— А калі б мы аказаліся лэтамі? — запытаўся Генрых, у якога ўсё яшчэ бухала ў грудзях сэрца.

[1] К о м т у р — выбраная пасада ў рыцарскім ордэне.

— Лэты — падданыя нашага ордэна,— скупа ўсміхнуўся закаваны ў жалеза комтур.— Які сэнс забіваць рабоў, што пояць і кормяць нас? Праўда, здараецца, што мы сячом, топчам коньмі і лэтаў, палічыўшы іх за эстаў. Гэтыя тубыльцы — усе на адзін твар.
— Я са сваімі людзьмі еду на раку Імеру, каб збудаваць там царкву і пачаць справу святога хрышчэння,— сказаў комтуру Генрых. Ягоны абоз усё яшчэ стаяў у рацэ, там, дзе напалі на яго мечаносцы. Коні, пакуль ішла гаворка, пілі рачную ваду. Авадні адразу ж абляпілі потныя конскія спіны. Генрых убачыў гэтых крылатых шэрых крывасмокаў, і злосць успыхнула ў душы. Ён гнеўна загадаў вазнічаму:
— Паганяй! Пакуль мы стаім, авадні вып'юць з нашых коней усю кроў.
— Вы паедзеце ў замак Вендэн да брацціяў-рыцараў і магістра Венна,— спакойна, нібы гэта само сабой разумелася, сказаў комтур.
— Я спяшаюся на Імеру,— запярэчыў Генрых.
— Язычнікі пачакаюць. А вы паедзеце ў Вендэн,— ужо рашуча паварочваў свайго цяжкага каня комтур.
— Паедзем, Генрых, да рыцараў,— адразу згадзіўся стары Алебранд.— Чуў я, што ў іхніх падвалах ёсць цудоўнае віно.
Замак мечаносцаў стаяў на абрывістым беразе ракі Гаўі. Камень, з якога зусім нядаўна ўзвялі сцены і вежы, яшчэ не пацямнеў ад дажджу і дыму.
Пад'ехалі да запоўненага бруднай вадой рова. Комтур патрубіў некалькі разоў у баявы рог, падаў тым, што сядзелі ў замку, умоўны сігнал, і праз шырокі роў лёг з цяжкім грукатам пад'ёмны мост. Замак быў цесна забудаваны, з вельмі вузкімі вулкамі, з невялікім, прыплясканым конскімі капытамі ўнутраным дваром, дзе мясцілася казарма брацціяў-рыцараў і стаяла ордэнская капэла[1].
Юнак-збраяносец прытрымаў стрэмя, калі комтур саскочыў з каня, узяў у яго кап'ё і шчыт. Генрых і Алебранд, пакінуўшы абоз і ўсю сваю ахову, пайшлі следам за комтурам. "Цесна жывуць рыцары,— думаў па дарозе Генрых.— Не замак, а сакалінае ці каршуновае гняздо".

---

[1] К а п э л а — малітоўня невялікіх памераў.

Яны бачылі, як вучацца мечаносцы рукапашнаму бою — падзяліўшыся на дзесяткі, рыцары, узброеныя мячамі і коп'ямі, атакавалі адзін аднаго. Стук мячоў, крыкі зліваліся з іржаннем коней і адрывістымі загадамі сівога рыцара ў чорным плашчы, які стаяў на спецыяльна збудаваным памосце і ўважліва сачыў за дзеяннямі сваіх падначаленых. Праўда, на наканечнікі коп'яў, як заўважыў Генрых, былі надзеты невялікія драўляныя шары.
Па лабірынце вулачак, а потым па звілістым зацемненым калідоры, галоўнай цытадэлі замка, комтур прывёў іх нарэшце ў вялікі, з высокай столлю пакой, дзе ярка гарэла мноства свечак. На сцяне, насупраць уваходу, віселі вялікі меч і вялікі крыж — сімвалы вярхоўнай улады вялікага магістра, ці, як яго называлі, гросмайстра, Ордэна мечаносцаў.
Высокі белатвары мужчына з разадранай кап'ём шчакой маленькімі шчыпцамі асцярожна сашчыкваў нагар з кнота свечкі. Здавалася, ён хоча сарваць чырвоную трапяткую кветку. Пачуўшы крокі за сваёй спінай, ён рэзка азірнуўся, моцна сціснуў шчыпцы, аж костачкі пальцаў пабялелі. Гэта быў гросмайстар Венна, якога на гэту пасаду пажыццёва абралі рыцары Ордэна, а папа Інакенцій III зацвердзіў іхні выбар.
— Людзі епіскапа Альберта,— сказаў гросмайстру, глянуўшы на Генрыха і Алебранда, комтур. Паміж сабой мечаносцы прывыклі размаўляць лаканічна.
— Ваш епіскап — дурны тлусты каплун! Сабака! — адразу ж закрычаў гросмайстар Венна. Ён шпурнуў шчыпцы, і яны, ударыўшыся аб сцяну, зазвінелі. Комтур нагнуўся, падняў шчыпцы, здзьмуў з іх сажу.
— Ён завёў гандаль Ордэнам з-за трэці Лівоніі,— крычаў Венна.— З нашай крыві ён хоча пячы пірагі! Рыцарская кроў — не вада! Не вада! Я заключу саюз з дацкім каралём Вальдэмарам і вазьму ўсё, што заваюе мой меч!
Гросмайстар у адзін скок апынуўся ля сцяны, сарваў з яе меч. Вочы ў яго блішчалі, і Генрыху на імгненне здалося, што наступіў канец, што зараз Венна пасячэ яго і Алебранда на шматкі, як капусту.

Але прыступ гневу вельмі хутка прайшоў.
Гросмайстар акуратна павесіў меч на сцяну, лагодна глянуў на гасцей, сказаў:
— Мы — карані аднаго дрэва. Запрашаю гасцей павячэраць з брацціямі-рыцарамі.
Трапезная мечаносцаў размяшчалася якраз пад пакоем, у якім жыў гросмайстар Венна з комтурам, Генрых і Алебранд спусціліся па вінтавой лесвіцы ў паўзмрок трапезнай. Як вогненная пашча дракона, чырванеўся, трашчаў у куце трапезнай камін, у якім згаралі вялізныя смалістыя бярвенні. Часам адтуль выскоквалі яркія вугольчыкі, з піскам круціліся па каменнай падлозе.
Мечаносцаў было чалавек пяцьдзесят. Капелан прачытаў малітву, усе стоячы выслухалі яе, потым селі, кожны на сваё навечна замацаванае за ім месца. Па правую руку ад гросмайстра сеў рыцар, які асабліва адважна біўся ў самым апошнім баі. Кожны мечаносец узяў свой залачоны кубак, на якім было напісана: “Уславім Бога”. Паж-віначэрпій срэбным апалонікам наліў усім з дубовай бочачкі віна.
Толькі адзін чалавек у трапезнай не піў, не меў сёння права піць. У чорным плашчы — усе мечаносцы былі ў белых плашчах — ён сядзеў на ахапку саломы на падлозе і з драўлянай міскі драўлянай лыжкай чэрпаў гарохавую кашу. Ды гарох, было бачна, не лез яму ў горла, і ён сядзеў сумны, растаптаны ўсеагульнай знявагай, з набітым ежай ротам.
— Хто гэта? — ціха спытаўся ў комтура Генрых.
— Рыцар Вікберт. У час бою з эстамі ён спалохаўся, пакінуў баявы строй,— растлумачыў комтур.— Вельмі строга караецца ў нашым Ордэне палахлівасць.
Той, хто ў час бою адчуваў сябе зайцам, павінен пасля бою, у трапезнай, адчуць сябе чарвяком.
Генрых уважліва паглядзеў на Вікберта. Нізашто ў жыцці не хацеў бы ён быць на ягоным месцы, бо сорам, які спальвае душу, асабліва страшны, проста невыносны, калі ты пакутуеш ад яго на вачах у сваіх сяброў. Плечы ў Вікберта былі апушчаны, рукі, у якіх ён трымаў лыжку і міску, дрыжалі. Ды не толькі пакору лёсу ўбачыў у позірку і паставе

зняважанага рыцара Генрых. У нейкі момант Вікберт узняў галаву і вачамі, поўнымі нянавісці, здаецца, прасвідраваў наскрозь гросмайстра Венна. Такі пагляд можа раскрышыць крапасную сцяну, але Венна, ап'янелы ад віна і гарачага мяса, узняўся з кубкам над рыцарскім сталом, сказаў зычным голасам:

— Спрадвеку павялося ў нас, лацінян,— народ павінен працаваць, рыцары ваяваць, а духавенства маліцца. Вып'ем, брацці-рыцары, за нашых гасцей, божых служак Генрыха і Алебранда. Мы сваім мячом ссякаем, карчуем дзікі лес язычніцтва, паганства, а яны ідуць за намі і са святой малітвай на вуснах засяваюць адваяваныя ў цемры абшары хрыстовым зернем.

Рыцары, як адзін, выпілі, толькі Вікберт, седзячы на падлозе, ля ног сваіх таварышаў, яшчэ глыбей увабраў галаву ў плечы.

Пасля вячэры комтур вырашыў паказаць гасцям цытадэль. Стары Алебранд, да адвалу набіўшы жывот смажаным мясам, адмовіўся і неўзабаве заснуў у рыцарскай казарме. Пайшоў адзін Генрых. Цытадэль, нібы каменны меч, урэзвалася ў вечаровы блакіт. Усярэдзіне яе адно над адным былі размешчаны, як пчаліныя соты, невялікія памяшканні, у якіх рыцары могуць вытрымаць доўгую, шматмесячную асаду. У падвале быў выкапаны калодзеж і захоўваліся запасы ежы. Вінтавая лесвіца была хітра схавана ў сцяне. Па гэтай лесвіцы можна хуценька прайсці ў падземны ход, які вядзе на бераг ракі Гаўі.

Потым спусціліся на самае дно цытадэлі, у вечны змрок і холад. Кроплі вады з ціхім шалясценнем падалі за спінай у Генрыха. Гэта былі апошнія гукі белага свету, жыцця, бо тое, што ён убачыў, было пеклам.

Комтур запаліў паходню, і на Генрыха, вырваныя з цемры, глянулі жоўтыя чалавечыя чарапы, шкілеты. Даўно сканалі ў страшных пакутах людзі, што навекі былі замураваны ў гэтай магільнай імгле, даўно разбурылася, знікла іхняя плоць, а касцякі і зараз былі прыкаваны да каменнай сцяны ланцугамі. Адзін шкілет быў прыкаваны за нагу, другі — за шыю...

Ды, аказваецца, у гэтым жахлівым пекле яшчэ тлела жыццё. У цёмным куце падземнай каморы нешта дыхала, слаба варушылася.
Комтур зрабіў крок туды, высока ўзняў паходню, і Генрых убачыў двух мужчын, дакладней, дзядоў, бо доўгія сівыя бароды выраслі ў іх ледзь не па пояс. Кароткімі ланцугамі яны за шыі былі прыкаваны да цёмнай ад падземнай вільгаці сцяны.
Комтур зняў з крука, убітага ў сцяну, бізун, які, пэўна, заўсёды вісеў тут, пагрозліва махнуў ім, запытаўся ў аднаго з нявольнікаў:
— Як тваё імя, пёс?
— У мяне няма імя. Я — раб Ордэна,— закалаціўшыся ўсім целам, адказаў нявольнік.
— Паразумнеў,— засмяяўся комтур.— Цалуй біч.
Нявольнік, зазвінеўшы ланцугом, хуценька пацалаваў бізун, чырвоны ад ягонай крыві і крыві суседа па няшчасцю.
— Глядзі ў мяне,— пагразіў комтур.— Ледзь што — ты сам з сябе скуру сваю здымеш і вось на гэты крук павесіш. А як тваё імя? — падступіўся ён з бізуном да другой сваёй ахвяры.
— Я — Варыдот, старэйшына імерскіх лэтаў,— слабым голасам адказаў знясілены нявольнік.
— Ты раб Ордэна! Ты раб Ордэна! — раз'юшана закрычаў комтур і пачаў з усяго пляча бізуном хвастаць лэцкага старэйшыну.
— Я — Варыдот,— прашаптаў нявольнік і страціў прытомнасць.
У Генрыха падкошваліся ногі, млявасць падкочвалася пад грудзі. Ён не вытрымаў і стралой вылецеў з каморы, у цемру, толькі б далей быць ад стогнаў і крыві.
— Шкадуеш язычнікаў? — здзівіўся комтур, калі яны ўжо ішлі з-пад зямлі на паверхню.— Іх шмат, а Бог адзін. Запомні: наносячы раны язычнікам, мы ахоўваем святыя божыя раны.
Пабыўшы ў Вендэне яшчэ дзень, Генрых і Алебранд з абозам рушылі далей, на раку Імеру. Генрыху ўсё ўспаміначаўся нязломны лэцкі старэйшына, які, як сабака, сядзіць на ланцугу, але не забывае сваё чалавечае імя. Разам з гордым лэтам успамінаўся яму кукейноскі князь Вячка, няўступчывы, з жалезнай душой, якая, можа, і дае

трэшчыны, але якую нельга зламаць. "Адналюбы,— думаў пра лэта і пра Вячку Генрых.— Свой род не забываюць, свой корань. У таго ж Вячкі ўкралі дачку, і ён з мальбой на вуснах прыбег у Рыгу, ён паабяцаў аддаць епіскапу палову свайго горада, ён не пашкадуе яе, гэту палову, і ўсё роўна мы не перамаглі яго, ён наш вечны вораг да апошняга свайго дыхання. У чым сіла такіх людзей? Няўжо ў сляпой вернасці маленькаму кавалачку зямлі, на якім яны нарадзіліся? Дык у гэтым яны падобны на кратоў, што ўсё сваё жыццё капаюцца-калупаюцца на лясной паляне, дзе пусцілі іх у свет божы, і нічога не вабіць іх, нічога ім не трэба, абы была свая паляна. А я чайкай хачу быць! Сёння тут, заўтра пераляцеў мора, і зусім іншы вецер гладзіць пёры, зусім іншае сонца грэе, і над усім гэтым вялізным, розным светам — адзіны Бог, адзіны, не лэцкі, не полацкі, а рымскі".

У тую ж ноч пад шум ветру, пад аднастайнае рыпенне колаў прысніўся Генрыху сон. Убачыў ён нятленны божы прастол у яркіх святочных васільковых нябёсах. Мяккае залатое святло, на якое б глядзеў вечна, струменілася ад прастола. Музыкай звінела бязмежная прастора, запоўненая льнянавалосымі анёламі, якія сядзелі на маленькіх іскрыста-брыльянтавых зорачках (па анёлу на зорачку!) і калыхаліся, лёталі туды-сюды, быццам на арэлях. Бога ўбачыў Генрых і пакорліва апусціў ашчасліўлены позірк. І пачуў ён, як сустрэліся, сутыкнуліся ля божага прастола дзве малітвы — адна прыляцела з Рыгі, другая — з Полацка. "Божа,— слёзна папрасіла рыжская малітва,— умацуй, навучы, дай перамогу над язычнікамі". — "Божа,— загаласіла малітва полацкая,— ты наш бацька. Злітуйся, дапамажы, дай перамогу над тэўтонамі". Малітвы былі дзве, а Бог быў адзін, і Бог пакутліва задумаўся. Зоркі патухлі ў цёмных нябёсах, анёлы заплакалі і ляглі спаць, накрыўшыся халоднымі воблакамі, гром хацеў загрымець, але сарваў голас, захрыпеў, закашляў, а Бог усё думаў. І тады не вытрымаў, закрычаў Генрых: "Што ж ты думаеш, Госпадзі? Адны мы дзеці твае — пілігрымы з Рыгі. Гані прэч іншых!" Але журботным позіркам глянуў Бог на Генрыха, ціха

сказаў: “Я чуў дзве малітвы, дзве... Я не ведаю, што мне рабіць”. І заткнуў пальцамі вушы, каб не чуць болей нікога.
У вялікай трывозе і ў смутку прачнуўся Генрых і адразу ж пачаў маліцца. Яшчэ сонца не ўзыходзіла, яшчэ там, дзе яно павінна было ўзысці, ледзь-ледзь крываівіўся краёчак неба. Начны сонны вецер пах мокрай травой і, здавалася, ладанам. Алебранд, сыта адваліўшы ніжнюю губу, спаў, свістаў носам побач.
Нарэшце дабраліся да прызначанага месца і там, дзе рака Імера ўліваецца ў возера Асцігервэ, пачалі будаваць божы храм. Працавалі ўсе, у тым ліку Генрых і Алебранд. Царкву рабілі драўляную, каб потым, як пусціць у гэтым краі моцныя карэнні лацінская царква, замяніць яе каменнай. Генрых натхнёна грукаў сякерай і з нецярпеннем чакаў, калі падыдуць да рыжскіх пілігрымаў мясцовыя жыхары. Але яны пакуль што не падыходзілі — пэўна, хаваліся ў лясах.
Нарэшце з’явіўся аднекуль сівагаловы сінявокі дзядок, сеў на бервяне, перакінуўшы нагу цераз нагу.
— Мір табе, божы чалавек,— сказаў Генрых дзеду на лэцкай мове.
Дзядок устаў з бервяна, падышоў да Генрыха, пазіраючы на царкву, дзе завіхаўся з пілігрымамі Алебранд, параіў:
— Забі чырвонага пеўня і змаж сцены і дзверы свежай пеўневай крывёй.
— Навошта? — пачціва ўсміхнуўся першаму са сваіх будучых парафіян Генрых.
— Полымя не возьме базніцу.
Старога лэта звалі Вардэке. На нагах у яго былі белыя анучы, абвітыя крыж-накрыж скуранымі раменьчыкамі, на сухой шыі матляўся клятчасты шалік. Ён спытаўся ў Генрыха:
— Адкуль нашу мову ведаеш, лацінянін?
— Я з лэтаў. Я нарадзіўся тут,— адказаў Генрых.
Вардэке ледзь з бервяна не кульнуўся. Ускочыў, схапіў Генрыха за руку, узбуджана загаварыў:
— А я, дурань, гляджу на цябе і думаю... Дык я ж ведаю цябе! Ты — Пайке.
— Я — Генрых,— з годнасцю адказаў малады пастыр. Тэўтонская кроў захвалявалася ў ім.

— Можа, для каго ты і Генрых, але ты — Пайке, наш Пайке,— радасна казаў Вардэке, і нават слёзы блішчалі на вачах.
Так Генрых зрабіўся прыходскім пастырам — вёў службы, прымаў споведзі, хрысціў і пакрысе пісаў сваю хроніку. Жыў ён у невялікім пакойчыку побач з царкоўнай рызніцай, жыў вельмі сціпла, як і належыць таму, хто ўручыў сваю душу Хрысту. Хлеб, малако, рыба — вось і ўся ягоная ежа, якую на чоўне прывозіў яму стары Вардэке.
"Хроніка Лівоніі" — адзінае дзіця ўсяго майго жыцця,— натхнёна думаў Генрых, доўгімі начамі карпеючы над пергаменам.— Я стрымаю слова, якое даў епіскапу Альберту. Пакаленні людзей, што прыйдуць на зямлю пасля нас, прачытаюць пра несмяротныя подзвігі рыжскіх пілігрымаў".
Налятаў на возера начны вецер, сцяной уздымаў свінцовыя хвалі, з адрывістым сухім трэскам бег па чаратах, вялізнымі жменямі сыпаў і сыпаў пясок у акенца пакойчыка, дзе працаваў Генрых. Шкло было мутнае ад пылу.
"Як мне назваць сябе? — разважаў малады храніст.— Генрыхам Імерскім? Ці Генрыхам з Лэці? Ды гэта, бадай, не самае галоўнае. Галоўнае, што я праслаўлю абраных Богам тэўтонаў, якія запалілі на гэтай зямлі святло ісціннай веры. Жорсткую вайну вядуць яны з язычнікамі, і я буду пісаць пра вайну, пра бясконцую вайну".
Ён добра ведаў стыль вайны тэўтонаў, бо і сам неаднойчы ўдзельнічаў у паходах. Усё пачыналася звычайна так: успомніўшы пра крыўды, што прычыніла ці думала прычыніць рыжскай царкве якое-небудзь мясцовае племя, епіскап Альберт або хто-небудзь з ягоных людзей, збіраў напярэдадні Калядаў, калі снег пакрые зямлю, ■ лёд скуе раку, моцнае войска. Ядром войска былі тэўтоны, але ішоў таксама Каўпа са сваімі лівамі, ішлі некаторыя лэцкія старэйшыны. Рухаліся вельмі хутка, без прывалаў, без адпачынку, бо толькі раптоўнасць нападу магла прынесці поспех. Перад зямлёю племені, якое трэба было пакараць, разбіваліся на больш дробныя атрады, і пачынаў спяваць сваю грозную песню тэўтонскі меч. Мужчын забівалі, жанчын, дзяцей і жывёлу гналі з сабою, хаты і вёскі

спальвалі датла. Потым у загадзя ўмоўленым месцы зноў збіраліся ў адно войска, змывалі кроў і бруд з рук, шчыра маліліся Хрысту, што паслаў перамогу над язычнікамі, дзялілі здабычу. Пасля аднаго-двух такіх набегаў непакорнае племя пасылала сваіх старэйшын у Рыгу прасіць міру і, зразумеўшы богаву моц і веліч, згаджалася хрысціцца.

Усё гэта не адзін раз на свае вочы бачыў Генрых, пра гэта пісаў у хроніцы. Цвёрда кладліся літары на пергамен, цвёрдая была рука ў храніста і цвёрдае сэрца. "Час не дае дарогі назад. Сонца не мяняе свой вечны шлях у небе,— думаў Генрых.— Так і наша царква не можа пакінуць гэтыя плямёны ў цемры язычніцтва. Нас, тэўтонаў, абраў Бог, каб збудаваць сваё тысячагадовае царства".

Так думаў, так пісаў ён, а зусім побач з царквою на высокім пясчаным узгорку продкаў, у свяшчэнным бярозавым гаі, абгароджаным дубовым парканам, былі магілы ягонага бацькі і маці, лэта і лэткі. Бацька і маці жылі і памерлі язычнікамі, а сын, хрысціянін, нават не ведаў, дзе іхнія магілы.

Так думаў, так пісаў ён, а за дзесяткі попрышчаў ад ракі Імеры ў начным Кукейносе Клімята Аднарук пісаў летапіс Полацкай зямлі. Цьмяна гарэла свечка... Цені продкаў стаялі за спінай у Клімяты...

Аднойчы замест Вардэке прывезла ў царкву свежае малако і рыбу прыгожая светлавалосая дзяўчына. Яна, спрытна падграбаючы шырокім кляновым вяслом, прыгнала човен да берага, смела скокнула ў ваду, прывязала човен вяроўкаю да каранёў старога ясеня (лэты называлі гэты стары ясень святым дрэвам) і, асцярожна ступаючы маленькімі босымі нагамі па калючым прыбярэжным пяску, падышла да Генрыха. Малады свяшчэннік якраз выбіваў пыл са сваёй цёмна-сіняй сутаны, павесіўшы святое адзенне на ніжні сук ясеня.

Прыгожая лэтка пакланілася Генрыху, паставіла каля ягоных ног сплецены з пругкіх сасновых карэньчыкаў кораб, у якім былі малако і рыба, сказала:

— Стары Вардэке прыслаў. Сам ён захварэў і не мог прыплыць.

На галаве ў яе быў скураны, вышыты бліскучымі меднымі пацеркамі вяночак, белую льняную

сукенку прыгожа аздабляла вялікая срэбная брошка-сакта. Дзяўчына, стаміўшыся ад цяжкага вясла, глыбока, часта дыхала, і сакта на яе грудзях уздымалася ў такт няроўнаму дыханню.
— Як цябе завуць, дачка мая? — спытаўся Генрых.
Юная лэтка весела засмяялася.
— Хіба ты можаш быць мне бацькам? Ты ж зусім маладзенькі.
Генрых разгубіўся ад такой прастадушнасці, даўно ўжо не бачанай ім наіўнасці.
— Я твой духоўны бацька,— пачаў тлумачыць ён.— Усе людзі вашай акругі, якія ходзяць маліцца ў гэты святы храм,— ён паказаў на царкву,— мае духоўныя дзеці. Нават стары Вардэке — мой сын. Так вызначыў Хрыстос,— ён з вялікім хваляваннем і вялікай шчырасцю перахрысціўся.
— Стары Вардэке — мой дзед. Мяне завуць Убеле. Я жыву за возерам,— сказала прыгожая лэтка і адразу ж запыталася: — Гэта праўда, што тэўтонскія святарэннікі не могуць жаніцца?
Блакітныя вочы, як дзве вясновыя зорачкі, глядзелі на Генрыха. Тут ужо малады святар разгубіўся ўшчэнт.
— Так, мы не можам узяць шлюб,— ціхім голасам адказаў ён нарэшце.— Мы даём зарок і ўсё сваё жыццё служым Хрысту, аднаму яму прыносім сваю любоў.
Убеле ўважліва паглядзела на Генрыха. Непрыхаваную цікавасць убачыў ён у вялікіх чыстых вачах язычніцы і яшчэ нешта, незразумелае, пакуль што недаступнае яму. "Яна язычніца. Я ні разу не сустракаў яе ў святым храме",— з ціхай скрухаю падумаў Генрых.
— Шкада мне тэўтонскіх святароў,— сказала між тым Убеле, прыгожай босай нагой падкінуўшы з зямлі пясок. Паварушыла загарэлымі маленькімі пальцамі нагі, прапускаючы між пальцаў цёплы пясок, дадала: — У тэўтонскіх святароў ніколі не будзе дзяцей. Будуць духоўныя, старыя, лысыя, маршчыністыя, а сваіх, кроўных, маленькіх, не будзе. Хіба гэта добра? Хіба гэта правільна? А што, каб усе людзі былі вашымі святарамі? Чалавечы род перавёўся б на зямлі.
 Ніколі яшчэ Генрых не чуў такіх слоў. Ён прывык,

што яго і ягоны духоўны сан глыбока паважаюць, шануюць. Ён прывык, што яму зайздросцяць, а тут...

— Тваімі вуснамі, дачка мая, гаворыць д'ябал,— суха і строга сказаў Генрых.— І гэта ўсё ад таго, што ты не ходзіш у святы храм, што ты — язычніца. Не пра грахоўную плоць думай, а пра бессмяротны дух, пра выратаванне сваёй душы, і тады міласэрны Бог направіць цябе на ісцінны шлях, шлях святой веры.

Убеле паплыла на чаўне, яе вяночак зіхцеў на сонцы. А Генрых усё стаяў пад старым ясенем і, слухаючы лёгкі шум дрэва, са здзіўленнем і трывогай адчуваў, як нейкі сум агортвае сэрца, нейкі холад, быццам у летнюю спёку пакрывалася сэрца белым сцюдзёным інеем.

Усю ноч ён маліўся, а перад самай раніцай, калі бледна-ружовы неабдымны туман лёг над возерам, сеў пісаць сваю хроніку. У навакольных лясах прачыналіся птушкі, дзятлы нястомна грукалі дзюбамі, выбівалі на дрэвах знак святога крыжа. А Генрых працаваў натхнёна і нястомна, пісаў і пісаў, помнячы, ні на імгненне не забываючы, што "Спачатку было слова. І слова было Бог". На стале перад ім былі акуратна раскладзены стосы свежага пергамену, стаялі гаршчочкі з фарбай, ляжалі вострыя металічныя пісалы, пэндзлі з конскага воласу, шчыпцы, каб сашчыкваць нагар са свечак. Усё было звычнае, добрае, нязменнае, вечнае, як святая рымская царква...

Ён стаміўся, заснуў, седзячы за сталом, калі ўжо сонца, як залаты карабель, выплыла з халоднага блакіту возера. Светлыя промні ўпалі на пергамен. Згарэла ўшчэнт, патухла свечка, ад яе застаўся толькі маленькі цёплы камячок жоўтага воску і нітачка сіняга дыму. Ён спаў, і яму снілася Убеле, якая плыла ў чоўне, смяялася і зазыўна махала рукой. "Божа, чаму мне сніцца Убеле?" — жаліўся ён ува сне Хрысту, але маўчалі нябёсы, не было ніякага почуту, голасу, і зноў плыў прасмолены човен па бурым шэра-зялёным, а потым, праз нейкі міг, блакітным возеры, і ўсміхалася, клікала да сябе Генрыха маладая загарэлая язычніца.

Ён прачнуўся ў няяснай трывозе, як ад штуршка. Смяшлівы твар Убеле свяціўся ўваччу. Ён працёр

далонямі вочы, як бы сцёр з вачэй гэты твар, ды яна, Убеле, жарынкай прапякла душу, уладарнічала ў самай глыбіні сэрца. І з вялікім жахам, з дрогкасцю ў кожнай жылцы Генрых раптам зразумеў, што гэта **памяць лэтаў** кліча яго да сябе. Ён думаў, што яна пакінула яго навекі. Згарэла да апошняга каліва ў ім, як згарае ў тоўшчы балот сухі, прапечаны сонцам торф.

Генрых рыўком расчыніў дзверы малітоўні, выскачыў пад сіняе неба, пад шум старога ясеня. “Вецер, вазьмі ў халодныя далоні мой твар, астудзі мой мозг,— страсна маліў, прасіў ён, не вымаўляючы ніводнага слова.— Я хачу быць, хачу застацца хрысціянінам. Тэўтонам... Я не хачу звар’яцець...”

Кветкамі былі засыпаны азёрныя берагі, сінімі, зялёнымі, шэра-жоўтымі, як мёд... “Вочы лэтаў”,— быццам шапнуў яму нехта.

Пчала, нагружаная салодкім цягучым нектарам, перапэцканая мяккім аранжавым пылком, варушылася, поўзала, жыла ў самай зрэнцы кветкі. “Пчала памяці”,— зашалясцеў над самым вухам стары цемнакожы ясень, які лэты называлі святым дрэвам. Генрых у нейкай гарачцы, у кіпучым шаленстве хацеў наступіць на пчалу нагою, расплюшчыць яе, але паслізнуўся на мокрых ад ранішняга туману кветках, упаў і страціў прытомнасць.

— Ну й напалохаў ты мяне, Генрых,— пачуўся дужа знаёмы, цёплы, усхваляваны голас. Да гэтага голасу, да гэтых слоў праплыла над зямлёй, як здавалася Генрыху, цэлая вечнасць маўчання. Ён асцярожна расплюшчыў вочы і з найвялікшай радасцю ўбачыў старога Алебранда, які нізка нахіліўся над ім.

— Алебранд! — ускочыў на ногі, моцна сціснуў старому клірыку плечы Генрых.— Цябе сам Бог паслаў.

— Мяне паслаў епіскап Альберт,— задаволена, як заўсёды, лагодна адказаў Алебранд.— Паглядзі, Генрых, каго я прывёз.

З павозкі, той самай павозкі, у якой яны з Генрыхам калісьці прыехалі сюды, Алебранд вывеў за руку прыгожую, сумную дзяўчынку, спытаўся:

— Угадаеш, хто гэта?

Дзяўчынка шырокімі сінімі вачамі пазірала на Генрыха, на царкву, на возера.
— Калі не памыляюся, гэта дачка кукейноскага князя Вячкі,— пасля некаторага маўчання няўпэўнена сказаў Генрых.
— Правільна,— засмяяўся Алебранд, і тоўсты ягоны жывот закалыхаўся.— Гэта Соф'я, наследніца з Кукейноса. Вельмі цудоўная дзяўчынка, анёл... "Вязі яе на Імеру, да Генрыха,— загадаў мне епіскап,— і хай Генрых з гэтага духмянага мяккага воску, з гэтага пшанічнага, белага і цёплага хлеба вылепіць тэўтонскую душу. Зразумеў? Тэўтонскую душу. Ён умее",— сказаў пра цябе Альберт. З ёй я прывёз і манахіню Эльзу.
З павозкі цяжка вылазіла тоўстая чырванатварая жанчына, уся ў чорным.
— Мог бы епіскап, вядома, падабраць і больш гожую маладзіцу,— з хітрай усмешкай шапнуў Генрыху Алебранд.
Але не да ягоных жартаў было Генрыху. "Вось — мае выратаванне,— адразу зразумеў ён, убачыўшы кукейноскую князёўну.— Я буду ляпіць яе душу, як загадаў епіскап Альберт, і сам ачышчуся ад бруду язычніцтва, што ліпне з усіх бакоў, цягне назад, у балота і цемру. Я ведаю, з чаго пачынаць. Напачатку трэба забіць у душы князёўны мову крывічоў, якую яна чула з самага маленства".
Генрых з вялікім стараннем узяўся за справу. Манахіня Эльза, царкоўныя служкі і ён размаўлялі з Соф'яй толькі па-тэўтонску. Ад раніцы да вечара, ад месы да месы, у час богаслужэнняў, за сталом у трапезнай, на прагулцы перад сном юная князёўна чула толькі тэўтонскую мову і святую латынь.
Алебранд прывёз з Рыгі акрамя Соф'і пергамен ад епіскапа Альберта. "Сын мой,— пісаў епіскап Генрыху,— помню цябе, кожны дзень малюся за цябе. У суровым горніле барацьбы з язычніцтвам гартуй сваю душу, не шкадуй тых, якія ў сляпой нянавісці гатовы ўтапіць, спаліць залаты каўчэг нашай веры. Каб засеяць божую ніву, трэба выкарчаваць, бязлітасна знішчыць садомскі вінаграднік. Перадаю табе Соф'ю Кукейноскую, каб расла і выхоўвалася яна далей ад Рыгі, у пустынным краі, куды не здагадаюцца пранікнуць лазутчыкі князя Вячкі. Тут, у Рызе, ёсць звесткі, яны

спрабавалі выкрасці яе. Выхавай князёўну ў вернасці рымскай царкве, і гэта будзе адным з тых ключыкаў, якімі мы адамкнем шчыльна зачыненыя славянствам дзверы на Дзвіну.
Яшчэ адну навіну паведамлю табе. Да мяне з Вендэна прыязджаў рыцар Вікберт са сваімі збраяносцамі і конюхамі, прыязджаў пад вялікім сакрэтам. Гэты Вікберт, як я зразумеў, недурны чалавек, адважны рыцар і, самае галоўнае для нас, люта ненавідзіць гросмайстра мечаносцаў Венна. Яны, сын мой, падобны на павукоў, якім не месца ў адной і той жа шклянцы — абавязкова нехта некага павінен зжэрці. Ты ведаеш, колькі зла прычыніў рыжскай царкве гросмайстар Венна, гэты нікчэмны палахлівы чалавек, гэты падвальны пацук. Толькі сляпы выпадак даў яму ў рукі вялікі крыж і вялікі меч магістра.
Вучыць нас Бог: "Каб узысці да святой вяршыні, спіхнем нязграбных і няўклюдных у бяздонне". Вікберт прызнаўся мне, што хоча спіхнуць Венна і стаць гросмайстрам мечаносцаў. Што ж, гэта было б даспадобы нашай царкве, бо здраднік Венна дамаўляецца за нашай спінай з папам Інакенціем, з датчанамі, са шведамі, адным словам, з усімі тымі, хто нейкім чынам жадае нашкодзіць нам. Я сказаў Вікберту, што рыжская царква гатова благаславіць ягоны меч, меч, які знішчыць нягодніка Венна. Да цябе, сын мой, могуць у любы час  дня і ночы звярнуцца людзі Вікберта. Мая да цябе просьба і загад: ласкава сустрэнь іх, дапамажы божым словам і справай.
На гэтым канчаю сваё пасланне. Пергамен, прачытаўшы, адразу спалі. Благаслаўляю цябе, сын мой. З намі Бог!"
Генрых на язычку свечкі доўга паліў пергамен, глядзеў, як чарнее ён, скручваецца, рассыпаецца попелам. Потым шчыпцамі, якімі трымаў пергамен, растоўк, расцёр гэты попел, здзьмуў са стала. Алебранд, уволю папіўшы імерскага віна, неўзабаве паехаў у Рыгу, і Генрых зноў застаўся адзін, калі не лічыць манахіню Эльзу, князёўну Соф'ю і двух царкоўных служкаў. Восень запальвала над прыціхлым возерам журботныя чырвоныя кастры лясоў.
 Аднойчы прыплыў на чоўне стары лэт Вардэке,

хуценька пашыбаваў да царквы. Усхвалявана, спалохана закрычаў Генрыху:
— Марана ідзе!
Вардэке, часта, шумна дыхаючы, як мог, растлумачыў маладому святару, што ўчора непадалёку адсюль на балотах імерскія лэты ўбачылі Марану, або Мору, жанчыну велізарнага росту, якая трымала ў адной руцэ чалавечы чэрап, у другой — востры серп з чырвоным лязом і махала скрываўленай хусткай. Заўсёды перад вайной, перад вялікай бядой з'яўляецца аднекуль гэтая жахлівая Марана, ідзе па дарогах, па нівах, па лэцкіх селішчах, распырскваючы з сярпа кроў, разганяючы людзей, як нікчэмных, смяртэльна перапалоханых казюрак. Нічога з ёй не зробіш, нікуды не схаваешся ад яе гневу.
Генрыха не надта здзівіла такая вестка. Стары вопытны Аленбранд, які добра ведаў гэты край, папярэджваў яго, што час ад часу на лэтаў, на іхніх суседзяў ліваў находзіць нейкі незразумелы жах, і са сваімі сем'ямі, з усім скарбам яны ўцякаюць у глухія лясы, у балоты, зашываючыся там у земляныя ямы, пад вываратні, нават у дуплы дрэў. Генрых пры ягонай назіральнасці і сам заўважыў дзіўныя на першы погляд рыскі ў паводзінах тутэйшых жыхароў. Бурны вецер, які ўздымаючы клубы шэрага смярдзючага пылу, налятае знянацку з поля, яны заўсёды называюць "Тэўтонскім паслом". Ён, гэты вецер, выглядае, вынюхвае, які ўраджай у лэтаў, каб потым вярнуцца ў Рыгу і ўсё расказаць сваім гаспадарам. Хочучы абразіць, прынізіць чалавека, людзі, што жывуць на Імеры, кажуць: "Падманіў, як тэўтон з Рыгі".
Генрых разумеў, адкуль бярэцца страх у лэтаў. Раней на іх набягалі эсты і Літва, цяпер у гэты край праклалі шырокія сцежкі мечаносцы з Вендэна, латнікі Альберта з Рыгі.
Вельмі змяніўся малады пастыр за гэты час. У семінарыі, шчыра і назаўсёды паверыўшы Богу, ён думаў:
"Хіба можна веру Хрыстову агнём і мячом засяваць на зямлі? Як дыханне ветру, як сонечны прамень, яна сама сабою павінна ўлівацца ў чалавечую душу".

Сёння ён ужо не такі. Ён пераканаўся, на свае вочы ўбачыў, што язычніцтва не памірае, не хоча паміраць сваёй смерцю, чапляецца за чалавечыя душы, і заўсёды трэба трымаць напагатове добры меч.

“Біце ўсіх, Бог на тым свеце разбярэ сваіх...” Словы гэтыя прагучалі не ў Лівоніі, а далёка адсюль, у паўднёвай Францыі, калі там, як дзікіх звяроў, забівалі воіны Папы альбігойцаў[1]. Але гэта мог сказаць рыжскі епіскап Альберт і — ці трэба здзіўляцца? — ягоны верны любімы вучань, добрасумленны і ціхі пастыр, натхнёны, апантаны храніст Генрых.

Выслухаўшы старога Вардэке, Генрых не змяніўся з твару, не паказаў лэтам, што ён нечага баіцца, і ўсё ж патаемна ад іх паслаў верхавых у Вендэн і Рыгу па дапамогу. Ён забараніў манахіні Эльзе і князёўне Соф’і выходзіць са свайго пакоя, сам толькі раз у дзень прагульваўся па беразе возера, не аддаляючыся, аднак, болей чым на дзвесце крокаў ад царквы.

Адкуль жа магла прыйсці небяспека? З боку эстаў? Ад Літвы? Ад караля дацкага Вальдэмара? Ці, можа, з Полацка? Трывога навісла над возерам і драўлянай царквою, што прытулілася да гэтага возера. Генрых не спаў, чакаў бяды, пісаў хроніку...

Назаўтра зноў прыплыў Вардэке, яшчэ болей перапалоханы.

— Дзе ж твая Марана? — запытаўся Генрых.

— Яе бачылі ўжо на тым баку возера, — насцярожана, як бы выпрабоўваючы, глянуў на пастыра Вардэке. Ён раз-другі абышоў вакол царквы, моўчкі сеў у човен, паплыў.

Уначы зашумеў дождж. На супрацьлеглым баку возера ўспыхнулі, затанцавалі агні. Заплакала князёўна Соф’я. “Божа, дапамажы”,— думаў Генрых і пісаў хроніку.

Жыхнула маланка. Здавалася, божы меч рассек чорнае неба. Не да дабра — маланка ўвосень. Генрых патушыў свечку, затаіўся ў цемры. Дождж падаў з нябеснага змроку на царкву. Шыпела вада.

---

[1] А л ь б і г о й ц ы — удзельнікі ерэтычнага руху на поўдні Францыі ў XII— XIII стагоддзях.

Стагнаў усёй сваёй лістотай мокры стары ясень. "Што ж чакае мяне і ўсіх нас?" — думаў Генрых. Агідны страх, які ён доўга стараўся схаваць, затаіць у сэрцы, расплюшчыў яго, ператварыў у безабароннага чарвяка, аднаго з тых, што пасля дажджу выпаўзаюць са сваіх земляных норак-схованаў.

Генрых стаў на калені, горача пачаў маліцца Дзеве Марыі.

— Абарані... Умацуй мой слабы дух... Адвядзі бяду...

Але гэтых слоў, ён адчуваў, не хапала, і тады ён ускочыў на ногі, страсна працягнуў рукі да неба, закрычаў, зрываючы голас:

— Пакажы, што ты маці! Пакажы, што ты маці!

Убеглі ў малельню перапалоханыя служкі, манахіня Эльза з князёўнай Соф'яй.

— Надзявайце баявыя даспехі, бярыце ў рукі мячы і чакайце майго знаку,— загадаў служакам Генрых.

Сам ён паверх сутаны надзеў пласцінчаты панцыр — падарунак Альберта.

Пакрысе аціхаў дождж, але вецер загуў з яшчэ большай сілаю. Калацілася маленькая царква — здавалася, яшчэ адзін-другі напор ветру, і яна, як саломінка, як птушынае пяро, узаўецца ў начное неба.

Генрых асцярожна выйшаў з царквы, падкраўся да старога ясеня, замёр, затаіўся каля яго, сціскаючы ў руцэ меч. Возера было запоўнена велізарнымі хвалямі. Ды некалькі агнёў заўважыў на ім Генрых. Начныя агні раслі, набліжаліся, і ён зразумеў, што гэта ў напрамку царквы плывуць чоўны і ў тых чоўнах ярка гараць паходні. "Як яны не перакуляцца, не пойдуць на дно ў такую непагадзь!" — халадзеючы ад жаху, думаў Генрых.

Першы човен прыбіўся да берага. Лёгкая постаць, абвітая нечым белым, пачала набліжацца да ясеня, каля якога хаваўся Генрых.

— Пайке! — пачуўся ці крык, ці стогн.— Пайке, дзе ты?!

Столькі незразумелага болю і пакуты, столькі першабытнай язычніцкай страсці было ў гэтым начным прыглушаным галасе. Здавалася, крычала чайка. Здавалася, крычала сама зямля.

Генрых закалаціўся, затрымцеў усім целам, бо раптам зразумеў, што гэта яго кліча да сябе незнаёмая істота. "Ты — Пайке. Ты наш Пайке",— успомніў ён словы старога Вардэке.
— Пайке! — далятала з глухога змроку.— Дзе ты? Не хавайся ад мяне. Навошта ты хочаш праліць тэўтонскую ваду на магілы нашых продкаў?
"Гэты начны голас усё ведае,— абліваўся халодным потам Генрых.— Сапраўды, я хацеў заўтра асвяціць лэцкі могільнік, каб тыя язычнікі, што пахаваны там, адчулі божае благаславенне, каб іхнія пакуты ў пекле зменшыліся хоць на драбніцу. Там, калі верыць Вардэке, ляжаць мае бацькі..."
Злосць нечакана ўспыхнула ў ім, перахапіла, як вяровачная пятля, дыханне. "Мае бацькі... Мая маці — рымская царква! Толькі яна! Я не ведаю і не хачу ведаць іншай маці!"
Ён да хрусту ў пальцах сціснуў рукаяць мяча.
— Пайке! — зноў прагучала ў змроку. Белая постаць была зусім побач.
"Гэта хітрыкі лэтаў,— раптам здагадаўся Генрых.— Гэта яны хочуць аблытаць мяне сваёй д'ябальскай павуцінай".
Палёгку адчуў ён, ды такую, што ціхенька засмяяўся, а левай рукою змахнуў з ілба дажджавыя кроплі. Дзева Марыя ўбачыла яго ў гэтым змроку і кінула з нябёсаў залаты прамень, за які ён адразу ж ухапіўся.
— Пайке,— прашалясцела за некалькі крокаў ад яго.
— Я тут, дзеці д'ябла,— гучна сказаў Генрых.— Я тут, брудныя, ілжывыя лэты.
Ён адважна выйшаў са свайго схованішча, накіраваўся да царквы. Белая постаць кінулася да яго, і тады Генрых ударыў яе мячом. Гартаванае тэўтонскае жалеза наскрозь пранізала нечую слабую мяккую плоць. Адразу падалося, сціх вецер, замоўкла шумлівае возера. Дзесяткі людзей рынуліся на Генрыха з цемры, звалілі яго. Вуснамі, зубамі адчуў ён ледзяную вільгаць зямлі.
— Убеле! — пачуў Генрых роспачны крык.— Убеле, дзяўчына мая! Няўжо ён забіў цябе?

# III

Ён стаяў, прыкручаны смалянымі цвёрдымі вяроўкамі да ясеня, і чакаў свайго канца. З разбітага твару капала кроў. Сутана была разарвана, ператварылася ў ашмоцце.
Пачыналася раніца. Адшумела ноч, знік вецер, і возера Асцігервэ было надзіва спакойнае, ляжала нерухома і праменна, як венецыянскае люстэрка. Не верылася, што ўначы бушавала такая жорсткая бура, што хвалі на возеры былі вышынёй з царкву.
Генрых апошні раз глядзеў на сваю царкву, на сваё дзіця, якое выняньчыў, выпеставаў у гэтым дзікім краі і якое вось-вось павінна было памерці. Лэты з усіх бакоў цягнулі да царквы сухое ламачча, карчы, бярвенні, старанна абкладвалі ўсім гэтым лясным дабром царкву. Яны падобны былі на мурашак, яны ўсё валаклі да адной кучы, але мурашкі будуюць, ствараюць, а гэтыя рыхтаваліся знішчыць.
Чакалі агню. Агонь павінен быў прынесці з могільніка юнак. Там, на могільніку продкаў, на памінальным кастры спальвалі зараз юную Убеле. Потым яе астанкі закапаюць у зямлю, бо па звычаю лэтаў плоць таго, хто пайшоў з жыцця, неабходна вярнуць Гаспадыні Зямлі. Кім бы ні быў нябожчык, яго абавязкова трэба аддаць зямлі: мужчыну пакласці галавой на ўсход, жанчыну — галавой на захад. І абавязкова трэба выкапаць магілу або рыдлёўкай, або нажом, або дубовым суком, або, калі нічога няма, голымі рукамі.
Чакалі агню. Генрых чакаў смерці.
"Чаму яна ўзялася сыграць ролю крывавай Мараны! — думаў пра Убеле Генрых.— Прымусілі старэйшыны? Прымусіў Вардэке? А можа, яна згадзілася сама па сабе, добраахвотна? Каб я ведаў, што гэта яна, я не ўдарыў бы мячом".
Толькі аб адным гэтым ён думаў зараз, бо надзеі на выратаванне не было ніякай, смерць была непазбежная, а смерці ён не баяўся. Ён баяўся толькі пакут, баяўся кароткага імгнення пераходу з гэтага свету на той, а там, на нябёсах, ён быў цвёрда пераканаены, яго адразу ж сустрэне Дзева Марыя, ускладзе яму на галаву залаты вянец героя.
Паказаўся светлавалосы загарэлы юнак. Ён бег,

высока трымаючы ў руках гліняны гаршчок з агнём. Лэты ўсхвалявана, радасна загулі.
Стары Вардэке ўзяў гаршчок з агнём, падышоў да кучы сушняку, які быў папярэдне абліты смалой, разбіў гаршчок аб сцяну царквы. Полымя ўсхапілася адразу, як чырванакрылы галодны дракон.
— Добра гарыць дом тэўтонскіх псоў! — закрычаў Вардэке. Лэты, мужчыны, жанчыны і дзеці, узяліся за рукі і, спяваючы свае песні, пачалі танцаваць насупраць царквы. Полымя асвятляла ўзбуджаныя твары.
Потым шумлівай гурбою яны пабеглі ў возера, з галавою пагружаліся ў блакітную чыстую ваду.
— Змывайце тэўтонскае хрышчэнне! — крычаў стары Вардэке, браў ваду прыгаршчамі і ліў, ліў яе сабе на галаву.
"Божа, чаму ты не ўдарыш зараз з нябёсаў вогненнай стралой? — кусаючы губы, трацячы прытомнасць, думаў Генрых.— Чаму не пературорыш ваду ў возеры ў серу і кіпучую смалу?"
Гарачыня ад велізарнага вогнішча была такая нясцерпная, што ў Генрыха на шчоках ускочылі пухіры, затрашчалі валасы. Ён заплюшчыў вочы, бо вочы маглі лопнуць, выцекчы ад лютай спякоты, а ён не хацеў, адправіўшыся на той свет, сустрэць там Дзеву Марыю сляпым.
Лэты ж, адбегшыся ад вогнішча, раіліся, як пакараць заморскага свяшчэнніка.
— Ён — нячысцік,— паказваючы пальцам на Генрыха, што курчыўся ад гарачыні, казаў стары лысы лэт.— А нячысцікаў забіваюць рабінавым калом. Кол трэба высекчы ў лесе ў рост хлопчыка, які дачасна памёр, і біць нячысціка перад самым наступленнем часу прывідаў, калі куры садзяцца на седала.
— Я ведаю, як яго пакараць,— з нейкай журбою ў голасе вымавіў раптам Вардэке. Усе позіркі скіраваліся на яго. Усе ўбачылі, што пасля смерці любімай унучкі ён цяжка пастарэў — валасы зрабіліся зусім сівыя, шчокі праваліліся, рукі дробна дрыжалі, і толькі ў вачах заставалася ранейшая сіла. Вочы былі як цвёрдыя вострыя крамяні.
Вардэке падышоў да Генрыха, адвязаў ад дрэва, сказаў:

— Ён — лэт, бо яго бацькі былі лэтамі. Неразумным сысунком павезлі яго за мора, навучылі чужой мове і чужой веры. Потым ён вярнуўся назад, вярнуўся, каб і нас, землякоў сваіх, перавесці ў тэўтонскую веру, прымусіць кланяцца свайму богу, быццам у нас, лэтаў, няма Мацярок Жыцця і Смерці, Мацярок Зямлі і Вады.
Лэты адабральна зашумелі. Мячы і коп'і ўзвіліся над галовамі.
— Але ў кожнай рэчцы, што высыхае ад спякоты, застаецца на дне хоць кропелька вады. У душы кожнага вераадступніка, які здраджвае памяці сваіх продкаў, застаецца хоць адзіная пякучая сляза, якой ён патаемна ад усіх, нават ад самога сябе, аплаквае свой грэх.
Стары Вардэке глянуў на Генрыха, сказаў:
— Ты — Пайке. Голасам Мараны мы думалі разбудзіць струны тваёй душы. Але там, у Тэўтоніі, ты аглух. І ўсё-такі ты Пайке. Запомні гэта. Зараз я пакажу табе магілы тваіх бацькоў, і там, каля магіл, ты памрэш. І мы закапаем цябе побач з тваімі бацькамі — ты вернешся да іх. Вялікае шчасце — пасля пылу і поту зямных суровых дарог вярнуцца да сваіх.
— Не хачу! — закрычаў Генрых па-лацыні, але яго не разумелі, і ён закрычаў па-лэцку: — Не хачу! Я — тэўтон! Я — Генрых, а не Пайке!
Ён упаў на зямлю, упіўся ў сухую траву пальцамі. Яго схапіла мноства дужых мужчынскіх рук, і лэты панеслі яго на могільнік продкаў.
Неба плыло над Генрыхам. Хмары і хмаркі, птушкі і сонечныя промні, дым ад царквы — усё сплялося, звязалася ў адзін клубок, усё рухалася, цякло, ляцела. Не было паратунку ад гэтага неба. Ён заплюшчыў вочы, але вочы зноў раскрыліся, зноў ён бачыў бязлітасны бясконцы блакіт.
— Вось магілы тваіх бацькоў... Глядзі на іх,— сказаў стары Вардэке. Генрыха паставілі на ногі. У галаве шумела. Смылелі абпаленыя шчокі.
Два невялічкія травяністыя грудкі ўбачыў ён. Два грудкі... І ўсё...
— Твой бацька быў знакаміты воін,— сухім голасам гаварыў стары Вардэке.— Твая маці дужа добра спявала песні лэтаў.

"Божа,— думаў Генрых,— спапялі ўсіх гэтых людзей, ператвары іх у горкі пыл... Я — твой раб. Табе аддаю сваю душу".
Могільнік быў на высокім пясчаным узгорку. Побач маркотна шумеў свяшчэнны бярозавы гай. Усюды віднеліся чорныя пісягі ад памінальных кастроў.
Генрых з адчаем паглядзеў на неба, на недасяжны небасхіл, развітваючыся з жыццём, і раптам гарачая хваля ўдарыла ў сэрца, перахапіла дыханне, ногі зрабіліся мяккімі. З рэдзенькага сасонніку, што рос непадалёку, выкочваўся, зіхацеў на сонцы, няўмольна набліжаўся цяжкі кавалерыйскі гуф[1].
Рыцарскія коні ішлі рыссю: "Мечаносцы!"
Прага жыцця, якое, здавалася, ужо адляцела ад Генрыха, з незвычайнай сілай успыхнула ў крыві. "Жыць! Толькі жыць! Бог пачуў і паслаў выратаванне!"
Лэты пакуль што не бачылі мечаносцаў. Іхнія позіркі былі скіраваны на магілы, і Генрых зразумеў, што трэба яму рабіць, каб захаваць жыццё. Ён упаў на калені, схапіў з магілы жменю пяску, сыпануў сабе на галаву. Відно па ўсяму, гэта спадабалася лэтам — на іхніх вачах вераадступнік раскайваўся, караў сам сябе. Яны шчыльней згрудзіліся каля Генрыха. "Толькі глядзіце на мяне... На мяне",— як малітву, як замову, паўтараў ён адно і тое ж у гарачлівых сумятлівых думках.
Ён сыпаў пясок на галаву, а мечаносцы тым часам набліжаліся, гуф раскалоўся, разламаўся на дзве палавіны, якія, нібы жалезныя крылы, ахапілі могільнік.
— Мацеркі Жыцця і Памяці вярнуліся да адступніка,— лагодным голасам пачаў быў гаварыць стары Вардэке і раптам закрычаў: — Тэўтоны!
Быццам віхор наляцеў на могільнік. Лэты пабеглі хто куды. Некаторыя хаваліся між магіл. Жах туманіў галаву.
— У свяшчэнны гай бяжыце! У свяшчэнны гай! — закрычаў Вардэке.— Коні не пройдуць між дрэў, і мечаносцам трэба будзе спешвацца!
Але напад быў такі нечаканы, рыцары несліся такой

[1] Г у ф — самкнуты баявы строй у некалькі радоў.

лавай, так грозна храплі іхнія абвітыя кальчугамі коні, што лэты не змаглі аказаць ніякага супраціўлення. Большасць з тых, хто хацеў ратавацца ў свяшчэнным гаі, не дабеглі да яго. Усе яны ляглі на лугавіне перад гаем пад цяжкімі пікамі рыцараў, пад ударамі конскіх капытоў.

Мечаносцы seклі, калолі і таптаі лэтаў моўчкі. Толькі чуўся востры свіст мячоў, глуха звінела жалеза, нехта слаба войкаў і заціхаў навекі, ды час ад часу ўзлятаў над крывавым пабоішчам трубны покліч комтура:

— Брацці, з намі Бог!

І мечаносцы з яшчэ большай ярасцю пачыналі ўзмахваць мячамі, іхнія белыя плашчы былі апырсканы крывёю, а яны ўсё секлі і секлі...

Не шкадавалі ні таго, хто біўся супроць іх, як пушчанскі тур, ні таго, хто былінкаю падаў на калені, цалаваў конскія капыты, прасіў захаваць, не адбіраць жыццё. Гэта быў крывавы танец смерці, дзе, як арэх, расколваліся чарапы, дзе выскоквалі з вачніц вочы, дзе праз рассечаную кашулю і рассечаную грудную клетку можна было ўбачыць, як у забітага чалавека ўсё яшчэ б'ецца, усё яшчэ трапечацца чырвонаю птушкаю сэрца.

Стары Вардэке і некалькі маладых лэтаў усё-такі прарваліся ў свяшчэнны гай. Стаўшы ў кола там, дзе бярозы раслі найбольш цесна, яны сустрэлі спешаных мечаносцаў ударамі кароткіх коп'яў і нажоў, дубінамі і камянямі. Рыцарам цяжка было разгарнуцца ў гушчэчы дрэў. Яны прывыклі нападаць у чыстым полі, дзе можна манеўраваць на конях, а тут патрэбна было біцца паміж дрэў і ў пешым страі. З неахвотаю пайшлі мечаносцы ў атаку і адразу ж страцілі Ёгана і Піліпа Жоўтана, якім лэты распаролі жываты.

Комтур уважліва сачыў за паядынкам у свяшчэнным гаі. Як толькі пачаўся бой, комтур адабраў пяць рыцараў і загадаў ім акружыць уваткнуты ў зямлю рыцарскі сцяг і ахоўваць яго. Як бы ні складваўся бой, іхні абавязак — стаяць каля сцяга. Сам комтур трымаў у руках абгорнуты вакол кап'я запасны сцяг. Баявы сцяг — рыцарская святыня. Нават цяжка паранены рыцар не мае права пакідаць сцяг. Пакуль віецца сцяг, рыцар павінен знаходзіцца на полі бою,

а калі свой сцяг страчаны, абавязаны адразу ж прымкнуць да іншага хрысціянскага сцяга.
Упаў яшчэ адзін мечаносец. Вардэке праламаў яму пераносся каменем з вяровачнай прашчы.
— Дужа шмат рыцарскай крыві,— незадаволена сказаў комтур і закрычаў: — Трубачы, сыграйце рыцарам адыход!
Заспявалі срэбныя трубы, і рыцары адхлынулі са свяшчэннага гаю. Іх месца занялі кнехты-арбалетчыкі. Абкружыўшы лэтаў, яны пачалі расстрэльваць іх на ўпор доўгімі бранябойнымі стрэламі. Дарэмна стараліся схавацца лэты за свяшчэннымі бярозамі — стрэлы, што ляцелі з усіх бакоў смертаносным роем, знаходзілі іх усюды.
— Мы перамаглі, комтур! Язычнікі знішчаны! — весела крыкнуў рыцар Вікберт, выціраючы меч аб зялёную траву.
Увесь гэты час Генрых стаяў на каленях, страсна маліўся Богу, дзякаваў, дзякаваў за шчаслівае збавенне ад непазбежнай смерці. Яшчэ ён маліўся апекуну ўсіх рыцарскіх ордэнаў святому Георгію. Каб не мечаносцы, брацці Святой Марыі, ішоў бы ён зараз па нябёсах, але ён быў малады, з гарачай крывёю, яму хацелася яшчэ паблукаць, павандраваць па гэтай грэшнай зямлі, і ён дзякаваў у сваёй малітве мечаносцам, на імгненне забыўшыся, што яны ворагі рыжскай царквы і епіскапа Альберта.
Нарэшце Генрыха заўважыў рыцар Вікберт. Напачатку ён падумаў, што гэта нехта з лэтаў хаваецца ад божай кары, і выцягнуў з похваў меч, які перад гэтым старанна пачысціў аб траву і пясок, каб зноў даць яму работу. Вікберт на цяжкім кані пад'ехаў да Генрыха, у вялікай злосці нахмурваючы светлыя бровы, але пазнаў імерскага свяшчэнніка, радасна выгукнуў:
— Ты жывы, святы ойча? Язычнікі не падсмажылі цябе?
— Жывы,— адказаў Генрых і ўскочыў на ногі.
Комтур вельмі ласкава сустрэў Генрыха, загадаў яго пакарміць, даць віно. У гэты час рыцары насіліся на конях па ўсёй акрузе за жанчынамі і дзецьмі, зганялі іх да царкоўнага папялішча. Сюды ж гналі і жывёлу. Комтур задаволена ўсміхаўся — добрая здабыча трапіла ў рукі Ордэну.

З вялікай радасцю Генрых даведаўся, што манахіня Эльза, князёўна Соф'я і царкоўныя служкі жывыя. У той час, калі лэты палілі царкву, бясстрашная манахіня вывела ўсіх у лес, і яны перачакалі бяду пад вялізным вываратнем старой сасны.
Генрых адразу ж захацеў глянуць на кукейноскую князёўну. Яе прывялі. Бледная, напалоханая, глядзела яна знізу ўверх на Генрыха і раптам усхліпнула, прытулілася да яго. Манахіня Эльза акінула ўсіх шматзначным позіркам, усміхнулася куточкамі сухіх вуснаў.
— Дзіця маё,— усхвалявана сказаў Генрых.— Бог міласцівы злітаваўся над табою, вырваў цябе з крывавых лап язычнікаў. Маліся, дзіця маё, Богу. Маліся нашай усясільнай царкве.
Ён лёгенька націснуў на худзенькія плечы князёўны, і яна паслухмяна апусцілася на калені, ломкім ад хвалявання галаском пачала маліцца. "Адно маё дзіця, імерская царква, згарэла, ператварылася ў попел,— думаў Генрых, гледзячы на схіленую да зямлі светлавалосую галоўку,— але ў мяне засталося яшчэ адно дзіця, духоўнае, вось гэта кукейноская князёўна. Яна вырасце сапраўднай тэўтонкай, вернай дачкой рымскай царквы. Я вырву куколь з гэтай юнай даверлівай душы і пасаджу ў ёй квітнеючы божы сад".
Мечаносцы, падпаліўшы ўсе навакольныя лэцкія селішчы, сагнаўшы ў вялізны гурт палонных людзей і жывёлу, рушылі са сваёй багатай здабычай у Вендэн. Генрых у апошні раз глянуў на папялішчы царквы, на бераг возера, дзе тырчаў пень ад ссечанага свяшчэннага ясеня, і сэрца затрапятала ад смутку. Тут прайшла часцінка ягонага жыцця, якая ўжо ніколі не вернецца. Ён успамінаў навальнічную ноч, буру на возеры, агні ў цемры, лёгкую белую постаць і крык-плач: "Пайке! Пайке!" Няўжо гэта было з ім? Няўжо гэта ён, а не хтосьці іншы, стаяў у глухім змроку, прытуліўшыся да ясеня, сціскаючы меч, а белая постаць падплывала ўсё бліжэй?
Яшчэ ён успомніў невялічкія травяністыя грудкі на могільніку лэтаў, магілы сваіх бацькоў. Якой была з твару ягоная маці? Шэрыя ці сінія вочы былі ў яе? Няўжо яна любіла спяваць лэцкія песні?
Сутарга прабегла па ягоным твары, вочы

заблішчалі. Ён раптам глуха ўскрыкнуў і... укусіў сябе за руку, аж сляды зубоў засталіся на белай скуры. Манахіня Эльза, што сядзела побач у павозцы, спалохана запыталася:
— Што з табой, святы ойча?
— Прывідаў, злых духаў адганяю,— паспрабаваў усміхнуцца Генрых, але ўсмешка атрымалася разгубленая, журботная і няшчырая.
Між тым комтур загадаў зрабіць прывал і не дзеля рыцараў — яны ехалі на конях,— а дзеля палонных лэцкіх жанчын з дзецьмі, якія ішлі пешшу і некаторыя падалі ад страшэннай стомленасці. Комтур шкадаваў не іх, а шкадаваў тавар, якім яны былі.
Натрапілі на прыдатнае, зручнае месца для паходнага лагера — па шырокім зялёным лузе цёк чысты булькатлівы ручай, побач быў невялікі лясок, дзе можна было нарыхтаваць дроў для вогнішчаў. У першую чаргу абгарадзілі вяроўкамі месца для малельні, потым паставілі палатку для комтура і палатку для трапез. Калі гэта было зроблена, пачуўся кліч комтура:
— Размяшчайцеся, брацці, у імя гасподняе!
Рыцары з кнехтамі і збраяносцамі пачалі ставіць палаткі для сябе. Ніхто не меў права адыходзіць ад лагера на такую адлегласць, адкуль не чуваць ягоны голас. З двух збраяносцаў, якіх меў кожны рыцар, адзін павінен быў заўсёды знаходзіцца побач з рыцарам, у той час як другі абавязаны быў шукаць паліва і фураж для коней.
У час далёкіх паходаў рыцары прытрымліваліся строгай дысцыпліны. Ніхто не меў права мець пры сабе жанчын. У парушальніка адбіралі паходную амуніцыю. Жанчын жа наогул не шкадавалі — адразалі ім насы.
Збраяносцы і кнехты, здаралася, біліся між сабою за лепшыя месцы для палатак. Рыцары, убачыўшы такую бойку, абавязаны былі надзець латы і разагнаць задзіракаў, але не мячамі, а доўгімі кіямі.
Капелан адправіў вячэрнюю месу. Паходны звон, які вісеў на шасце побач з палаткай комтура, даў сігнал — тры кароткія ўдары,— каб брацці-рыцары разам з усім войскам клаліся спаць. Лагер заціхаў. Ціха было і там, дзе сядзелі або ляжалі на голай

зямлі палонныя жанчыны і дзеці. Але не-не дый чуўся адтуль плач, несуцешны, горкі. Палоска вечаровай зары, як чырвоны крывавы меч, блішчала над зямлёй.

Комтур выдзеліў для Генрыха і ягоных людзей дзве палаткі. У адной палатцы атабарыўся Генрых з трыма царкоўнымі служкамі, у другой ляглі манахіня Эльза з князёўнай Соф'яй.

Генрых ніяк не мог супакоіцца пасля ўсіх жахаў мінулай ночы, пасля лэцкага могільніку, на якім ён ледзь не развітаўся з жыццём. Ва ўсім целе ён адчуваў абрыдлівую нервовую дрыготку. Трапяталі пальцы рук і нават ног. "Не дай Бог — пачнуцца Вітавы скокі[1]",— палохаўся Генрых.

Служкі, заўважыўшы, што малады святчэннік счарнеў, як зямля, пабеглі ў лагер да рыцараў шукаць лекара. Знайсці лекара ім не ўдалося, але разам з імі прыйшоў рыцар Вікберт. Ён сеў на край мядзведжай шкуры, на якой ляжаў Генрых, загадаў служкам:

— Ідзіце на вуліцу, паглядзіце на зоркі.

Абражаныя служкі хацелі запярэчыць, але Вікберт сціснуў кулак, рыкнуў:

— Прэч адсюль, чарвякі!

Тых як ветрам выдзьмула з палаткі. Генрых закашляўся, хацеў абараніць служак, ды не было сіл на спрэчку, і ён ляжаў моўчкі, глядзеў на Вікберта, на ягоную магутную абсівераную шыю. Яшчэ зусім нядаўна ў трапезнай мечаносцаў бачыў Генрых зняважанага, нікчэмнага, слабога Вікберта, той Вікберт сядзеў у чорным плашчы на ахапку бруднай саломы і еў драўлянай лыжкай з драўлянай міскі гарохавую нішчымную кашу — ежу палахліўцаў. Сённяшні Вікберт адрозніваўся ад таго, што туліўся на саломе, як неба ад зямлі. На Вікберту быў цудоўны, з сіняга сукна камзол з фестонным каўнярам і манжэтамі. На галаве была заломленая набакір аксамітавая шапачка з шэрым жураўліным пяром. Чорыя вочы Вікберта глядзелі цвёрда і рашуча.

— Не хацеў гросмайстар Венна пасылаць рыцараў на Імеру,— не надта прыцішваючы голас, змрочна

---

[1] Вітавы скокі — псіхічнае расстройства, хвароба.

ўсміхнуўся, сказаў Вікберт.— Але браццi-рыцары запярэчылі. I я запярэчыў. I тады ён паслаў комтура Бертольда, а сам усё роўна не пайшоў у паход.
Вікберт памаўчаў, пэўна, чакаў, што адкажа Генрых. Ды той бяссільна ляжаў на старой мядзведжай шкуры, і тады Вікберт парывіста схапіў яго за руку, загаварыў, забубніў яму ў вуха:
— Падтрымае мяне рыжская царква, калі я заб’ю шалудзівага пса Венна? Скажы — падтрымае?
— Наша царква заўсёды падтрымлівае чалавечыя справы, якія ідуць на карысць Госпаду,— ухіляючыся ад прамога адказу, ціха прамовіў Генрых. Жыццё навучыла яго ніколі не спяшацца ў словах. “Апярэджвай ворага ў справах, а не ў словах”,— успомніў ён павучанне епіскапа Альберта.
— У мяне ёсць людзі,— рашуча працягваў Вікберт.— Шмат людзей.— Ён моцна сціснуў баявую сякеру, якую заўсёды насіў на поясе.
— Цярпенне, сын мой, і асцярожнасць — вось што заўсёды куе перамогу,— мяккім голасам сказаў Генрых.— А зараз ідзі спаць. I я лягу, бо кепска сябе адчуваю.
— Я пераможу! — сарваў з галавы аксамітную шапачку Вікберт.— Пераможу або загіну!
Вікберт, падхоплены п’янлівай і яраснай сілай, выбег з палаткі. Згусцелы змрок абступаў яго з усіх бакоў. Непадалёку ад палаткі, як скалелыя смірныя авечкі, стаялі, збіўшыся ў купку, Генрыхавы служкі.
— Ідзіце спаць,— весела сказаў ім Вікберт і закрочыў па лагеры. Жаданне дзейнічаць, нешта разбураць, нешта будаваць апякала душу. Здавалася, ён зараз мог падскочыць высока-высока над лагерам, дакрануцца да зоркі, цёплай і шурпатай, павесіць гэтую зорку сабе на пояс і адтуль, з абадзьмутай ветрам галавакружнай вышыні, вярнуцца назад, ударыцца аб зямлю і ўвайсці ў яе па самыя калені. Сіла бушавала ў ім, напаўняла цяплом і святлом кожную жылку, кожную костачку, патрабавала і шукала выйсця.
Вікберт прыпыніўся. З маленькага шаўковага мяшэчка, які на срэбным ланцужку заўсёды вісеў у яго на грудзях побач з нацельным крыжам, дастаў круглую цёплую гарошынку, паклаў яе сабе на

далонь. Гарошынка свяцілася, быццам была напоўнена сонечнымі іскрыстымі промнямі. Ён узяў яе ў рот, патрымаў на языку, адчуваючы прыемную гаркавасць, праглынуў.
Вось такія гарошынкі давалі сілу і радасць. Іх прадаваў яму за срэбныя дынарыі рыжскі купец Карл. Гэты Карл разам з шасцю сынамі плаваў у далёкія цёплыя моры, прывозіў адтуль перац і слановыя біўні, яшчэ шмат усялякага дзівоснага дабра і таямнічыя гарошыны, якія там, у спякотных краінах, робяць з белага соку невядомых траў. "Тыя травы растуць у раі,— тлумачыў Карл.— Сам Бог пасеяў іх там, каб ісцінныя хрысціяне, трапіўшы ў рай, маглі, пакаштаваўшы іхняга чароўнага соку, хоць на імгненне адчуць сябе Багамі".
Вікберт не пайшоў у сваю палатку, а, пракраўшыся між вартавых, апынуўся ў цёмным пустынным полі. Ён нават поўз па зямлі, каб варта не ўбачыла яго. Ды як яна магла яго ўбачыць, калі ў гэтыя імгненні ён адчуваў сябе мудрым спрытным вужом, які можа прабрацца, прасвідравацца ў самую маленькую шчылінку?
Белы вялізны валун свяціўся ў змроку. Вікберт сеў на яго, падставіў ветру твар, глянуў на шырокае бязмежнае неба, і аж дыханне перахапіла. Неба здавалася пяшчотным чорным аксамітам, на які былі нашыты незлічоныя брыльянты і брыльянцікі. Неба здавалася крылатым велізарным ветразем. Якая сіла рухае, гоніць уперад праз гады і стагоддзі гэты ветразь?
Пад плаўнае цячэнне ночы, пад срэбнае мігценне зорак добра думалася, добра ўспаміналася Вікберту. Ён успомніў маленькі гарадок Зёст у Вестфаліі — сваю радзіму. Ягоны бацька быў збяднелым рыцарам, у крыжовым паходзе страціў нагу. Да сямі гадоў маленькі Вікберт выхоўваўся дома, потым, як і ўсіх рыцарскіх сыноў, яго прывезлі ў замак сеньёра, дзе да чатырнаццаці гадоў ён быў пажам. Кожны дзень вучылі яго вернасці рэлігіі, свецкаму этыкету і сямі рыцарскім дабрадзействам: верхавой яздзе, фехтаванню, валоданню кап'ём, плаванню, паляванню, гульні ў шашкі, складанню і спяванню вершаў у гонар дамы сэрца.
Потым, калі яму споўнілася дваццаць гадоў,

адбылася цырымонія “рыцарскага ўдару” — дзень пасвячэння ў рыцары. Ён стаяў на каленях побач са сваімі сябрамі, а цудоўная каралева, жонка Піліпа Швабскага, узяла ў белыя рукі меч, плашмя лёгенька стукнула кожнаму па плячы гэтым мячом і сказала: “Выцерпі гэты ўдар дзеля Госпада Бога і Святой Марыі, але болей нікому не даруй ніводнага ўдару”. Ім падвязалі рыцарскія паясы, уручылі залатыя шпоры, і яны сталі рыцарамі, і адразу, надзеўшы латы, ускочыўшы на закаваных у сталь коней, рынуліся на рысталішча перад каралеўскім палацам, дзе шумеў і грымеў турнірны бой.

Ён думаў тады, што рыцары — вянец прыроды. Яны здаваліся яму соллю ўсяго жывога. Бог захацеў стварыць сапраўднага мужчыну, уладара свету, і стварыў рыцара. Нездарма юнакі, нават сыны сялян і рамеснікаў, так імкнуцца стаць рыцарамі. Але таго, хто, як дажджавы чарвяк, усё сваё жыццё калупаецца ў зямлі, жыве з яе, нельга пасвяціць у рыцары, так як нельга ў светлую нядзелю асвяціць замест барана казляціну, бо адразу жператворыцца ў яго шчыт у адвал плуга, меч — у лямеш, рыцарскі шаўковы кашалёк — у сявалку-лубянку, а галун на поясе — у льняны мяшок, з якога кормяць коней. Меч на перавязі можа насіць толькі рыцар. Купцы ж і гараджане павінны прывешваць яго да сядла. Галоўнае, што вяло Вікберта па жыццёвай дарозе,— гэта пошукі прыгод. Калі б ён не быў рыцарам, ён абавязкова стаў бы вагантам[1], якія ходзяць з горада ў горад, спяваюць на плошчах, у палатах баронаў і графаў, у вясковых карчомках. Колькі хмельнай радасці ў іхніх песнях, як славяць яны жанчыну, яе красу!

У рэшце рэшт лёс прывёў Вікберта ў Лівонію, у войска мечаносцаў, брацтва Святой Дзевы Марыі. Хапала работы ягонаму мячу, хапала і прыгод, але адразу ж не заладзіліся ў Вікберта адносіны з гросмайстрам Венна. Бываюць людзі, з якімі цяжка, немагчыма дыхаць адным паветрам. Бог для кожнага чалавека стварае не толькі сяброў, але і ворагаў. Такімі ворагамі зрабіліся Вікберт і Венна.

---

[1] В а г а н т ы — вандроўныя спевакі ў тагачаснай Заходняй Еўропе.

Усё пачалося з паходу на эстаў. Паход быў удалы, спалілі пяць селішчаў, "осекаў", як называюць іх самі эсты, узялі шмат палонных і жывёлы. Палонных звычайна прадавалі ў Рыгу, бо нельга божаму Ордэну мец рабоў, тым больш маладых рабынь. Але Венна пакінуў сабе трох самых прыгожых эстак, і Вікберт выпадкова ўбачыў, як перад сном адна нявольніца часала гросмайстру галаву, другая пяткі, трэцяя, стоячы перад сваім уладаром на каленях, карміла яго са срэбнай лыжачкі чмяліным мёдам.
Злосць затуманіла Вікберту галаву. Чым горшы ён, Вікберт, за гросмайстра? Гэтаму яловаму чурбану ўсё дазволена, а яны, брацці-рыцары, што праліваюць кроў за веру, павінны пасціць? Ён пачаў падбухторваць мечаносцаў супраць гросмайстра, але не разлічыў свае сілы. Венна данеслі верныя людзі, і гросмайстар, абвінаваціўшы Вікберта ў палахлівасці, адабраў у яго белы рыцарскі плашч, пасадзіў у ордэнскую турму. У турме, праўда, пратрымалі Вікберта нядоўга, ды з таго часу між ім і гросмайстрам пачалася сапраўдная вайна.
Ва ўсе паходы пачаў гнаць гросмайстар Вікберта з тайнай думкаю, што напорацца той на меч або кап'ё язычнікаў. Смерць абыходзіла пакуль што Вікберта, і тады Венна вырашыў выгнаць яго з Ордэна, пазбавіўшы рыцарскага звання. За вялікія грошы знайшліся людзі, якія паказалі, што Вікберт ніякі не рыцар, што ягоны бацька гандляваў у Саксоніі зернем. Абразлівая, страшная кара чакала Вікберта. Як толькі вернуцца мечаносцы ў Вендэн, пасадзяць яго на кучу смецця, і кат саб'е з яго залатыя шпоры — знак прыналежнасці да рыцарства. А хіба можна жыць на свеце і не быць рыцарам?
Вікберт сядзеў у глухім начным змроку на халодным валуне і сам быў падобны на валун. О, як хочацца помсціць! Уся надзея на Рыгу, на епіскапа Альберта. Ён, як і Вікберт, люты вораг Венна, і ён павінен памагчы. Імерскі свяшчэннік Генрых таксама можа спатрэбіцца, бо ён, як даведаўся Вікберт, любімы вучань епіскапа. Трэба чакаць. Трэба цярпліва набліжаць дзень помсты.
Вікберт узняўся з валуна, глуха засмяяўся. Смех ягоны быў падобны на крык начной савы. "Я заб'ю

Венна,— падумаў ён,— і сам зраблюся вялікім магістрам. Я павяду брацціяў-рыцараў да вялікіх перамог, якіх яшчэ не ведаў Ордэн".
З шаўковага мяшэчка Вікберт асцярожна дастаў яшчэ адну гарошынку, праглынуў яе, пачаў чакаць. Праз нейкі час у сэрца павінны былі вярнуцца радасць і бадзёрасць. Яны заўсёды прыходзяць раптоўна, быццам запальваецца ў душы непагасная божая свечка. Вось зараз... Вось зараз...
— Слухайце, нябёсы! — закрычаў ён, ускокваючы на валун, працягваючы ў змрок рукі.— Я гросмайстар Вікберт!
У гэтыя самыя імгненні Генрых, лежачы ў сваёй палатцы, думаў пра Вікберта. Бог ці д'ябал кіруе ім? У гэтым рыцару адчуваецца сіла, дзікая, неадшліфаваная, разбуральная. Добра, што Вікберт вораг Венна, дужа добра...
Праз тры дні паходу ўбачылі вежы Вендэна. Мечаносцы вельмі ўзрадаваліся, узвілі на дыбкі сваіх коней, натхнёна заспявалі святыя псалмы. Генрых толькі трошкі перадыхнуў з дарогі і адразу ж накіраваўся ў Рыгу. Як ён паспеў даведацца, вялікага магістра Венна не было ў Вердэне — прастудзіўся ў мінулым паходзе і ляжаў, лячыўся ў сваім рыжскім доме.
Надвячоркам разам са сваімі спадарожнікамі пад'ехаў Генрых да Рыгі. Перад самымі гарадскімі варотамі, узняўшы воблака шэрага пылу, яго абагнаў у суправаджэнні двух збраяносцаў Вікберт. Вочы ў рыцара былі сурова прыжмураныя, быццам апякаў, сляпіў іх бязлітасны агонь.
Альберт сустрэў Генрыха, як роднага сына. Абняў, пацалаваў.
— Не з добрай навіной вярнуўся я да цябе, мансіньёр,— пакорліва і журботна схіліў галаву Генрых.— На месцы маёй царквы бялеецца горкі попел. Язычнікі ў сляпым шаленстве спалілі яе.
— Мацуйся, сын мой,— роўным голасам адказаў епіскап.— Мы выб'ем атрутны зуб з д'ябла, выламім яго з вялікай крывёю. Пакуль — адпачывай. І не забывайся пра хроніку Лівоніі.
Зноў Генрых быў у Рызе, жыў у доме епіскапа, амаль цэлыя ночы аддаваў запаветнаму пергамену.
 Гэта было найвялікшаю асалодаю — сядзець у

густой начной цішыні, пісаць і пісаць, забыўшыся пра стому, адчуваючы сваю лучнасць з Богам і вечнасцю.
Пасля начной працы храніст спаў амаль да абеду, потым уставаў, маліўся Богу і ішоў да кукейноскай князёўны Соф'і, якая разам з манахіняй Эльзай жыла ў невялічкім пакойчыку на другім паверсе дома. Тут чакала яго мяккая дзіцячая душа, якую ён з вялікім цярпеннем і стараннем засяваў зярнятамі ісціннай веры. Душа кукейноскай князёўны была тым полем, на якім ён, не шкадуючы сябе, ваяваў з яе бацькам, упартым ворагам рыжскай царквы Вячкам, і спадзяваўся перамагчы ў гэтым паядынку.
Аднойчы, калі Генрых быў у чытальні Альберта і размаўляў з епіскапам, увайшоў нямы Імануіл і знакамі перадаў Альберту нейкую навіну. Яна, было бачна па ўсім, страшэнна ўразіла епіскапа. Не дачакаўшыся, пакуль з чытальні выйдзе слуга, Альберт усхвалявана сказаў Генрыху:
— Вікберт стрымаў слова — толькі што забіў вялікага магістра Венна і свяшчэнніка Іаана. Сякерай адсек ім галовы.
Альберт апусціўся на калені перад распяццем, пачаў маліцца.
— Мансіньёр, дзе зараз рыцар Вікберт? — адчуўшы, як трывожна затрапятала сэрца, спытаўся Генрых. Яму ўспомнілася начная палатка, бледны, перакошаны нянавісцю твар вендэнскага рыцара, калі той успамінаў імя гросмайстра Венна.
— Ён схаваўся ў рыцарскай капэле і праз сваіх людзей просіць у нас дапамогі. Але неўзабаве мечаносцы ўварвуцца ў капэлу, схопяць яго, будуць судзіць і чвартуюць,— адказаў Альберт.
Генрых запытальна паглядзеў на епіскапа.
— Так трэба, сын мой,— вытрымаў ягоны позірк епіскап.— Давай памолімся за душу раба божага Вікберта.

# I



ад Кукейносам загаралася вясновая раніца. Той, хто не спаў у гэты час (а не спалі воі-дазорцы на забаролах), бачыў, як паступова цёмнае неба на ўсходзе напаўняецца кропелькамі, камячкамі святла. Спачатку гэта можна было палічыць падманам зроку, мігценнем у вачах, якое з'яўляецца пасля бяссоннай ночы, калі доўга і напружана ўзіраешся ў цемру. Ды край неба ўсё болей ружавеў, наліваўся трапяткой залацістасцю колеру спелых ячменных каласоў. Выступалі са змроку лясы. Ноччу яны палохалі, здаваліся велізарным чорным войскам, якое з усіх бакоў маўкліва падкрадваецца, падпаўзае да гарадскога вала. Але першы прамень зары ўпаў на макаўку старой сасны, аж засвяціліся, запалалі дробныя галінкі, потым разбудзіў маленькую сіняпёрую птушку, якая спала, умасціўшыся ў глыбокай утульнай ямачцы ў ствале. Калісьці тут быў сук, але выпаў, выкрышыўся, і птушка, палюючы на жукоў-караедаў, знайшла гэту ямачку, звіла ў ёй гняздо. Птушка, разбуджаная промнем, здзіўлена і радасна ціўкнула.

Прачнуўся ў глыбіні лясоў вецер. Ён адразу ж ірвануўся ўвысь, у неба, уздыбіў над зямлёй карычнева-жоўтыя слаістыя хмары, змяшаў іх, збіў у адну кучу. Успыхнула маланка, крэсіва грому чэкнула ў хмарах. Здавалася, вось-вось пральецца адзін з першых вясновых дажджоў, ды ў хмар не хапіла сілы на такую вялікую работу. Толькі некалькі буйных і халодных кропляў сарвалася, зляцела з нябёсаў.

Кропля ўдарыла Халадку, які стаяў на забаролах, па брыве, потым мякка спаўзла на вейку, але ён нават не міргнуў, толькі хітнуў галавою, скінуў кроплю з вейкі. І з яшчэ большай увагаю пачаў углядацца ў тое, што некалькі імгненняў назад насцярожыла яго. Са сваім сцягам Халадок стаяў у трэцяй варце. Апошнім часам князь Вячка толькі яму давяраў такі самы адказны занятак.
Што ж насцярожыла старшага дружынніка? Яму падалося, што ў прагалах між дрэў, якія густа раслі на беразе Дзвіны там, дзе ў яе ўліваецца Кокна, мільганулі нейкія цені. Раніца была яшчэ такая нясмелая, такая цёмная, што ён, пры ягоных вострых вачах, не змог вызначыць, варухнуліся гэта галіны дрэў пад парывам ветру, прабег палахлівы звер ці, можа, прамчаліся ўзброеныя знузнікі ў чорных плашчах.
Халадок, не адрываючы позірку ад світальнага лесу, узняў дзясніцу ў баявой пальчатцы, гэтым рухам падклікаючы да сябе каго-небудзь з дружыннікаў. Падбег светлавалосы Грыкша.
— Што ты бачыш там, дзе над Дзвіною расце крывастволая сасна? — запытаўся ў Грыкшы Халадок.
Дзецкі ўважліва паглядзеў у той бок, аж кончык вільготнага чырвонага языка высунуў з рота, адказаў:
— Нічога. Бачу адзін туман.
— Запалі паходню,— загадаў Халадок.
Грыкша, грукаючы ботамі па высланай каменнямі сцежцы пабег на сваё дазорнае месца, узяў там паходню, выбіў з крэменя іскру, запаліў звітыя ў клубок, аблітыя смалой сухія сасновыя галіны, якія былі насаджаны на доўгі арэхавы кій. Успыхнула яркае полымя, водбліскі ад яго заскакалі на кальчузе ў Халадка, поплеч з якім стаяў, высока трымаючы ў руцэ паходню, Грыкша.
— Мечаносцы! — усклікнуў Грыкша і ад нечаканасці выпусціў з рукі паходню. Яна паляцела з вала, чутно было, як плёхнулася ў роў з вадою. Зноў зрабілася цёмна, яшчэ цямней, чым было. Але ўжо і Халадок заўважыў вялікі атрад конных

мечаносцаў, які няспешна выязджаў з лесу, выліваўся на лугавіну, што была якраз насупраць пад'ёмнага моста Кукейноса.

— Рубон! — крыкнуў Халадок і з ляскам выхапіў з похваў меч. І адразу ажыла, затупацела дзесяткамі ног, зазвінела мячамі і коп'ямі світальная імгла. Ярасна забрахалі вартавыя сабакі. Паходні ўспыхнулі наўкол. Грыкша ўдарыў у трывожнае біла.

— Усім — на забаролы! — загадаў Халадок, і тыя з вартавых, што спалі зараз у баявых адсеках, абсталяваных у тоўшчы гарадскога вала, прачыналіся, хапалі зброю і шчыты, па лесвіцах, па ствалах сукаватых дрэў, прыслоненых да вала, узбіраліся наверх, туды, дзе грымела, склікала ўсіх біла.

Кукейноскія лучнікі ўжо нацягвалі цецівы сваіх лукаў, зробленых з рогаў тура і цісавага дрэва. Гартаваныя стрэлы са свістам паляцелі насустрач мечаносцам. І тутірвануўся ўперад мечаносец-гарольд на белым кані, затрубіў у срэбны рог, закрычаў:

— Слухайце, людзі Кукейноса! Слухайце, адважныя рыцары Кукейноса! Дачка вашага князя князёўна Соф'я прыбыла ў свой горад!

Да гарольда пад'ехаў яшчэ адзін мечаносец у чорнай епанчы[1], рэзкім рухам расхінуў яе, і ўсе, хто быў на забаролах, убачылі светлавалосую перапалоханую дзяўчынку, якая сядзела наперадзе мечаносца, моцна ўхапіўшыся тонкімі рукамі за конскую грыву. Яна аж зажмурылася ад нечаканасці, бо была пад епанчой, як у цёмнай клетцы, а тут святло ўдарыла ў вочы, людзі гучна і бязладна закрычалі, сабакі, захліпваючыся, забрахалі на высокім гарадскім вале, мячы зазвінелі.

— Соф'я,— здзіўлена і адначасна разгублена сказаў Халадок і, нібы просячы дапамогі, глянуў на Грыкшу.— Наша князёўна. Што рабіць?

Кукейноскія лучнікі перасталі страляць, хоць ніхто не аддаваў такога загаду. Баяліся патрапіць у

[1] Е п а н ч а — доўгі шырокі плашч.

князёўну. Маленькая Соф'я была тым шчытом, за якім хаваўся ўвесь атрад мечаносцаў.

— Пабягу да князя,— строга сказаў Грыкшу Халадок,— заставайся за мяне. Пад'ёмны мост не апускаць. Вароты не адчыняць. Палезуць тэўтоны на вал — біць, як псоў.

Халадок, закінуўшы за спіну шчыт і засунуўшы меч у похвы, хуценька спусціўся з вала. Тут, у горадзе, было значна цямней, чым на забаролах, бо прамені сонца, што пачало выкочвацца, вывальвацца з-за лесу, яшчэ не далятала сюды. Халадок пабег па вузкай звілістай вуліцы да княжацкага церама. "Бяда падступіла,— думаў Халадок.— З-за дачкі князь Вячаслаў як перарадзіўся. Не ўсміхнецца, не пагаворыць толкам з дружынаю, меч Усяславаў на сцяну павесіў. Шкада, вядома, дачку. Родная кроў, родная душа.

Узялі тэўтоны князя за кадык".

Халадок спяшаўся да церама і не ведаў, што ўжо другую ноч Вячка не спіць, паліць у царкве свечкі, адзін, без людскога вока, моліцца, развітваецца назаўсёды з дачкой. Ці дачка, ці меч Усяславаў — трэцяй дарогі не было. Захоча князь вярнуць сабе дачку, трэба будзе пакласці меч у похвы, замірыцца з тэўтонамі, пусціць іх у Дзвіну, падставіць шыю пад чужы хамут, а не...

Другую ноч князь развітваўся з дачкой. Трапяталі агеньчыкі свечак, быццам пільныя жоўтыя вочы глядзелі, пранізвалі навылёт. Змрок, падаючы з-пад купала царквы, навальваўся на князя, прыгінаў да каменнай падлогі. Князь стаяў на каленях.

"Даруй мне, дочачка, даруй, ластавачка мая,— думаў князь.— Даруй свайму бацьку, што не можа вызваліць цябе са злыдневай клеткі. Ножкі і ручкі твае цалую. Даруй".

Калісьці ён чакаў сына, але нарадзілася дачка, і ён адразу ж забыўся пра сына, бо такой светленькай, такой сінявокай, такой усмешлівай была дачка. Ён браў на рукі маленькі цёплы камячок, і рукі, што прывыклі да мяча і кап'я, рабіліся мяккімі, лёгкімі.

— Даруй мне,—развітаўся з дачкою Вячка.— Я твой бацька, але я князь полацкага роду. Зямлю, што прадзеды перадалі ў спадчыну, трэба ад ворагаў

бараніць, веру нашу адстойваць. Даруй, што выбраў зямлю і веру, а не цябе".
— Князь! — паклікалі яго раптам.— Князь!
Вячка ўсхапіўся, як шалёны тур, цяжка тупнуў нагою, закрычаў:
— Хто пасмеў парушыць маю размову з Богам?
Ён шумна дыхаў, шукаў рукою на поясе меч.
— Гэта я — твой старшы дружыннік,— дрогкім голасам сказаў Халадок, набліжаючыся з цемры да князя.
— Пёс! Галаву адсяку! — махнуў кулаком раз'юшаны Вячка.
— Бяры маю галаву, але спачатку выслухай мяне,— Халадок спыніўся насупраць Вячкі, глянуў яму ў твар.— Ля варот горада чакаюць твайго слова мечаносцы. Яны прывезлі княжну Соф'ю.
— Прывезлі дачку? — Вячка нейкі час няўцямна стаяў на тым самым месцы, дзе заспела яго навіна. Твар ягоны то бляднеў, то чырванеў, быццам то заходзіла, то ўзыходзіла ў душы сонца.
— Кажаш, прывезлі дачку? — зноў перапытаў ён, потым левай рукою схапіў старшага дружынніка загрудкі, бліскаючы вачамі, прашаптаў: — Ну, Халадок, глядзі — калі не да дабра твая вестка, возьме цябе Карачун[1].
— Не баюся я Карачуна,— ціха сказаў Халадок і з нейкім шкадаваннем паглядзеў на Вячку, быццам развітваўся з ім назаўсёды. Яны выбеглі з царквы на вуліцу, дзе ўжо ярка ззяла ранішняе неба. Вячка бег наперадзе, прытрымліваючы рукой похвы з мячом.
— Я — князь Кукейноса Вячаслаў Барысавіч! Што трэба вам, людзі з Рыгі?! — зычным голасам закрычаў Вячка, ускочыўшы на самую высокую пляцоўку надваротнай вежы. Вецер адразу ўдарыў яму ў грудзі, раскрыліў чырвонае карзно, якое было накінута на плечы. Збоку здавалася, што князь ахоплены полымем.
Гарольд-мечаносец на белым кані зноў затрубіў у рог, рыцар у епанчы расхінуў вопратку, і ўсе, і ў тым ліку Вячка, убачылі Соф'ю.
— Я — рыцар Данііл з Леневардэна! — крыкнуў

---

[1] Карачун — бог смерці ў старадаўніх беларусаў.

мечаносец, паклаўшы руку на плячо Соф'і.— Прывітанне табе, князь Вячка з Кукейноса, ад епіскапа Альберта! Адчыні вароты, пусці нас у горад і вазьмі сваю дачку!
Позіркі ўсіх, і мечаносцаў, і ваяў-дазорцаў, скіраваліся на Вячку. Усе чакалі ягонага слова. Усе чакалі, што зробіць князь.
Ён зняў з галавы шлем, доўгімі смуглымі пальцамі пагладзіў лоб, заплюшчыў вочы. Ён пакутліва думаў. Дзве сілы, дзве страсці ярасна змагаліся ў ім.
Раптам на пляцоўку, дзе стаяў князь, узбег Халадок, упаў перад князем на калені, загаварыў:
— Загадай, князь, калёнымі стрэламі заткнуць раты чужынцам. Загадай ліць смалу на тэўтонскіх псоў. Чуеш — святая Сафія ў Полацку званамі грыміць! Гэта нашы прадзеды ў магілах варочаюцца, меч шукаюць, каб ударыць у грудзі заморскаму цуду-юду.
— Устань, Халадок,— ціха сказаў Вячка.
Старшы дружыннік устаў, з надзеяй глянуў на князя.
— Ці ёсць у цябе дзеці, Халадок? Няма? А ў мяне ёсць дачка. Вунь яна,— Вячка рукою, з якой зняў баявую пальчатку, паказаў уніз, туды, дзе рыцар Данііл насцярожана сядзеў на кані.— Ідзі, Халадок, да Клімяты. Ён піша полацкі летапіс. Хай напіша там, што я, кукейноскі князь, люблю сваю зямлю, дужа моцна люблю і пакладу за яе галаву. І напіша хай там, што я дужа люблю сваю дачку. Зямля, Халадок, будзе пустою, ледзяною, калі няма на ёй роднай душы. Хай напіша ў летапісе, што я бяру на сябе ўсю адказнасць перад Богам за тое, што адбудзецца. Адчыніце вароты!
Апусціце мост!
Адкінулі жалезныя брусы-завалы з варотаў. З цяжкім рыпеннем апусціўся пад'ёмны мост. Рыцар Данііл смела накіраваў на яго каня. Халадок з глухім стогнам выцягнуў з похваў і зноў загнаў у похвы меч.
Тэўтоны адзін за адным уязджалі ў горад. Воі князя Вячкі з нянавісцю глядзелі на белыя плашчы з чырвонымі мячамі і крыжамі, але маўчалі. Толькі чуўся глухі грукат конскіх капытоў.

Данііл пад'ехаў да Вячкі, злез з каня, сказаў, пакланіўшыся:
— Вітанне табе і твайму гораду, князь, ад рыжскай царквы.
— Вітаю цябе, высакародны рыцар,— спакойным роўным голасам прамовіў Вячка.— Дзе мая дачка?
— Князёўна Соф'я пад аховаю графа Пірмонта,— адказаў Данііл. Перад тым як уехаць у Кукейнос, ён перадаў дзяўчынку на рукі Пірмонту.
— Ці не той самы Пірмонт, якога я адпусціў жывым, хоць мог кінуць разам з Брацілам у Дзвіну? — спытаўся Вячка.
— Той самы, князь,— выгукнуў Пірмонт і здалёку пакланіўся Вячку.
— Не баішся ў скураным мяшку, як Брацілa, на рачное дно легчы?
— Не баюся.
Вячка ўважліва паглядзеў на Пірмонта, павярнуўся да рыцара Данііла.
— Аддай маю дачку.
— Дачку я табе аддам, князь,— зноў пакланіўся рыцар Данііл.— Але епіскап Альберт хоча, каб на тым месцы, дзе суседзяць нашы землі, мы з табой пацалавалі Святы Крыж на вернасць і на дружбу.
— Добра, тэўтон,— згадзіўся Вячка.— Паехалі на тое месца. Няхай Бог прымірыць нас.
— Не едзь, князь! — адразу ж закрычала некалькі вояў.— Не вер псам! Як сокала ў клетку цябе заманяць, і складзеш галаву ў тэўтонскай цямніцы!
— Не едзь, князь Вячаслаў,— са слязамі на вачах папрасіў Халадок і схіліў калені перад Вячкам. Яго шырокая, абвітая кальчугай спіна, ўздрыгвала.
Вячка маўчаў, глядзеў на свой горад, на сваіх вояў. Потым спытаўся ў рыцара Данііла:
— Скажы, тэўтон, ці добры ваш бог?
— Наш бог добры,— з годнасцю адказаў Данііл.— За нас, рабоў сваіх, ён прыняў святыя раны.
Вочы ў Данііла былі вялікія, светлыя, з калючай іскрынкай. Вячка паглядзеў у гэтыя вочы, загадаў Халадку:
— Няхай ойча Сцяпан вынесе з царквы Святы Крыж.
Прыйшоў заспаны поп Сцяпан з крыжам. Разгублена глядзеў на князя, на мечаносцаў.

— Ці можаш ты, рыцар, пацалаваць Святы Крыж і паклясціся святым імем, што мяне з маёй дачкой Соф'яй адразу ж адпусцяць назад пасля таго, як на мяжы ўладанняў Рыгі і Кукейноса мы змацуем нашу дружбу і наша перамір'е? — спытаўся Вячка ў Данііла.
— Цалую Крыж. Клянуся,— адказаў Данііл і пацалаваў крыж.
— Усе бачылі? Усе чулі? — гучна сказаў Вячка.— І неба таксама бачыла. І неба таксама чула. І Бог ведае пра ўсё. А вам, вoі,— ён нізка пакланіўся,— дзякуй за клопат пра мяне. Усюды я быў, з сямі печаў хлеб еў, шмат што бачыў і з Божай дапамогаю думаю вярнуцца назад. Едзем.
Зрабілася так ціха, што было чутно, як вадзяныя кроплі падаюць на пясок. Гэта з дрэў, з дахаў скочвалася ранішняя раса. Вячка лёгка сеў на Печанега і, ўзяўшы з сабой трох вояў (першых, што трапіліся пад руку), узяўшы папа Сцяпана з крыжам, паехаў паперадзе мечаносцаў насустрач свайму лёсу. Ніхто з людзей — ні тыя, што калісьці жылі, ні тыя, што сёння жывуць,— не ведае свой лёс...
На беразе пагранічнай рачулкі злезлі з коней. Рыцар Данііл і князь Вячка апусціліся на калені. Кляліся зямлёй, вадой і крывёю. У вогнішча, якое хуценька расклалі мечаносцы, кінулі злепленыя з зямлі невялікія шары. Перад гэтым поп Сцяпан кароценькім кордам зрабіў надрэз на вялікім пальцы левай рукі ў князя і ў рыцара, кроплямі іхняй крыві расчырвоніў земляныя шары.
— Мір зямлі, вадзе і чалавечым душам,— сказаў Вячка.
— Мір зямлі, вадзе і чалавечым душам,— паўтарыў Данііл.
І ў гэты час граф Пірмонт з перакошаным ад нянавісці тварам схапіў загадзя падрыхтаваную вялікую палатняную торбу, у якую насыпаюць коням авёс, падбег да Вячкі ззаду, ускінуў яму на галаву торбу, рэзкім рыўком паваліў князя на спіну.
— Здрада! — закрычалі кукейноскія вoі і адразу ж упалі пад мячамі тэўтонаў.
— Малайчына, граф,— сказаў Пірмонту Данііл,

узнімаючыся з зямлі.— Лёгка ж мы з табой упалявалі гэтага звера.

Поп Сцяпан стаяў побач. Крыж дрыжаў у ягоных руках. Вочы залівау халодны смяротны пот.

— Клятваадступнік! — тонкім голасам закрычаў поп.— Ты цалаваў Святы Крыж! Бог пакарае, страшна пакарае цябе.

Ён замахнуўся крыжам, хацеў ударыць Даніла, але рыцар спрытным рухам заламаў яму руку, сказаў:

— Дзе ты бачыш Святы Крыж? Гэтыя две жалезкі, якія ты звязаў конскім воласам?

Ён наступіў нагою на крыж, усміхнуўся:

— Вось і ўсё. І няма твайго крыжа, дзікун. Існінны і адзіны Крыж — у Рыме. Запомні гэта назаўсёды. А зараз я, рыцар Даніл, дарую табе жыццё. Ідзі, вяртайся ў свой Кукейнос.

І тут Даніл уздрыгнуў, міжволі зрабіў крок назад — на ягоных вачах доўгія, цёмныя валасы айца Сцяпана зрабіліся белымі-белымі, як студзеньскі снег.

Вячка ляжаў з торбаю на галаве. Рукі і ногі ягоныя ўжо закоўвалі ў кайданы. Потым Даніл наступіў правай нагою князю на грудзі, урачыста абвясціў:

— Кароль Кукейноса, я рыцар Даніл з Леневардэна, аб'яўляю цябе сваім палоннікам.

...Гэта ўжо калісьці было... Нага на грудзях... Лапа на грудзях... Гэта было так даўно, што цяжка паверыць... Яму было сем сонцаваротаў, ён быў яшчэ не Вячка, а Вячачка. "Вячачка — весела, замілавана крычала маці-княгіня.— Вячачка! Сонейка ты маё!" Яна выглядвала ў акно церама, прыгожая, сінявокая, а ён бег па вясновым лузе, і кожная кветка, кожны матылёк былі вострай незвычайнай радасцю, былі таямніцай. З шумлівых зялёных лясоў, якія абступалі церам і луг, нёсся сакавіты нястомны голас какошкі[1]. А потым была ноч, цішыня... І дзікі крык пачуўся ў цёмным яловым лесе.

— Хто гэта? — увесь скалануўся, прытуліўся да карміцелькі Маланкі Вячка.

— Спі, дзетка. Гэта — ваўкалак.

Ваўкалак! Зверачалавек. Сын цемры. Воўчае

[1] К а к о ш к а — зязюля.

калматае тулава і чалавечая галава з пранізлівымі журботнымі вачамі. У яго зялёная і сіняя поўсць. Іскры сыплюцца з гэтай поўсці, калі ў змроку ночы шалёна імчыцца ваўкалак. Мільгаюць чорныя лясы, туманныя балоты. Там, дзе моцна ўдарыць аб зямлю кіпцюрыстая лапа, за ноч вырастуць воўчыя ягады — чорныя, горка-кіслыя, з цягучай слізістай макрэчай, з маленькімі зярняткамі-каменьчыкамі ўсярэдзіне. Да трэціх пеўняў, да сонечнага святла і бляску можна бегаць ваўкалаку. І ён бяжыць, кідаючы ў цемень лясоў свой дзікі голас. Куды бяжыць? Навошта?

— Мне страшна, Маланка,— шаптаў хлопчык.

— Спі, дзетка,— цалавала яго карміцелька.— Хочаш, казку табе раскажу? Слухай:

За борам баранскім,
За лесам лясанскім,
У зялёнай ціне,
У жоўтай гліне
Сядзіць чорт-балацюк.

Колькі страхоццяў ведае старая карміцелька! Колькі іголак упіваецца ў сэрца, калі слухаеш яе!

А потым зноў была ноч, і дзікі крык у лесе. Вячка спаў у святліцы і раптам прачнуўся. Паставіўшы лапу яму на грудзі, на яго ва ўпор глядзеў ваўкалак. Іскры сыпаліся з поўсці, пранізліва і журботна глядзелі вялікія разумныя вочы.

— Мама! — закрычаў малы і страціў прытомнасць.

— Гэта ж твой сабачка быў, твой Уюн,— засмучана казала назаўтра Маланка.— Прылашчыцца хацеў да цябе... Камень на шыю, і ўтапілі пса ў Друці.

Нага на грудзях... Лапа на грудзях... Гэта ўжо калісьці было...

"Як я мог паверыць ім? — думаў Вячка, лежачы з торбаю на галаве на зямлі, у той час як мечаносцы, смеючыся, падсілкоўваліся.— Пэўна, стаміўся я. Рашыў трошкі перадыхнуць, сабрацца з сіламі, заключыўшы перамір'е. Дапамогі з Полацка няма, бо князь Уладзімір Валадаравіч ніяк не можа прымірыцца з вечам, якое то выганяе яго, то зноў запрашае на сталец. Ліваў епіскап Альберт паставіў на калені, плацяць ліві Рызе царкоўную дзесяціну. Старэйшыны лэтаў чакаюць, хто пераможа ў

барацьбе за Дзвіну. Ноўгарад і Пскоў таксама чакаюць. Іхняму купецтву нават выгадна, што тэўтоны закаркавалі вусце Дзвіны. Яны і без Дзвіны могуць абысціся — плывуць па рацэ Вялікай, па Чудскаму возеру, па рацэ Амоўжы, ці, як называюць яе эсты, Эмайыгі — Мацерцы Вод — і далей, да Варажскага мора.
А Рыга ўсё мацнее. Плывуць і плывуць у яе пілігрымы з усёй Еўропы. На вайну, у бой ідуць, як на свята, спяваючы святыя псалмы, апранаючы самае дарагое адзенне. За іхняй спінаю — Рым, папа Інакенцій, феадалы, бюргеры, купцы..."
У той самы час, як рыцар Данііл, парушыўшы хрэснае цалаванне, закоўваў князя Вячку ў кайданы, на адным з ліўскіх гарадзішчаў, якое цудам ацалела ў дрымучых лясах, сівы стогадовы старэйшына гадаў на агні і вадзе аб лёсе і будучыні свайго народа. "Бачу вялізную чорную курыцу,— шаптаў ён пустым бяззубым ротам.— Яна выходзіць з марскіх хваль. Яна вышэй за самую высокую сасну нашых лясоў. Вось прыпынілася, села ў пясок, закудахтала... І нясецца... Не яечкі выкочваюцца на пясок, а тэўтонскія рыцары. Іх не злічыць! Іх як пяску на марскім беразе! Гора лівам! Дзе нашы багі? Дзе нашы героі? Бачу бераг... Туман... Чайкі плачуць... Шэпчацца пясок у дзюнах... Бачу мужчыну і жанчыну... Дзяцей няма... Хто гэта? Гэта — лівы. Гэта ўсё, што засталося ад шматлікага магутнага народа. Гора лівам!" І сівы старэйшына патушыў святы агонь. Выліў святую ваду і заплакаў.
Князь Вячка не ведаў пра гаданне старога ліва. Князь Вячка не плакаў. На руках і на нагах у яго былі жалезныя кайданы. Ён сядзеў, глыбока задумаўшыся, у павозцы на цвёрдым клубку злямчанай мокрай травы. Яго везлі ў Рыгу.
Шэрае мокрае неба плыло над галавой. Блішчалі латы і мячы кнехтаў рыцара Данііла, якія ахоўвалі палоннага.
На мокрым кані пад'ехаў да Вячкі граф Пірмонт, запытаўся:
— Можа, князь, хоча паліць вады?
— Браціла, твой хаўруснік, усю ваду выпіў у Дзвіне,— адказаў Вячка і замоўк да самай Рыгі.
У ланцугах яго везлі па той самай зямлі, дзе ён

нядаўна з мячом у руцэ на хутканогім войскім кані імчаўся штурмаваць Гольм і Рыгу. "Чаму тут, на гэтых берагах, шмат бурштыну? — падумаў раптам зняволены князь.— Гэта слёзы людзей, якія запякліся пад ветрам і сонцам".
Зноў дзяцінства прыгадалася яму. Успамінамі пра дзяцінства ахоўваў, агароджваў ён сваю душу ад жорсткай скрухі і знявагі палону.
... Страшныя казкі расказвала карміцелька Маланка. Нахілялася над хлапчукоўскім ложкам і пачынала прыглушваючы голас:

Прыйдзе Кокаць —
Барада з локаць,
А вочы па яблыку.

— Хто такі Кокаць? — спалохана шаптаў Вячка, і сэрца аж разрывалася ад прадчування нечага незвычайнага, нечага жахлівага, пра што ён зараз даведаецца.
— Спі... Не ведаю,— ціха адказвала Маланка.— А заўтра з табою махалку зробім, каб ваўкалак да церама не падбягаў.
І раніцою, як толькі княжыч прачынаўся, яна знаходзіла стары біты гаршчок, насыпала ў яго гарачага вугалля, Вячка прывязваў гаршчок да вяроўкі. Яны, маленькі княжыч і старая карміцелька, чакалі, як змоўшчыкі, вечара, цемры, і потым Вячка, уздрыгваючы ад нецярплівасці, хвалявання, выходзіў на цёмны пустынны двор, моцна сціскаў у руцэ вяроўку і пачынаў шырока размахваць сваёй махалкай-жароўняй. Здавалася ў змроку, над зямлёй са свістам праносіцца вогненны іскрысты твар страшыдлы. Аднойчы гэтую іхнюю забаўку высачыў князь Барыс.
— Церам спаліць хочаце? — грозна закрычаў ён, моцнай бацькоўскай рукою схапіўшы Вячку за вуха.
— Мы ваўкалака адганяем,— зморшчыўся ад болю Вячка.
— Ваўкалака? Якога ваўкалака? Гэта ты, трухлявая калода, падвучваеш малога?!
І князь, не раздумваючы, адважыў старой карміцельцы звонкую аплявуху. Усю ноч Маланка

праплакала, потым з невялічкай карчагі выпіла

хмельнага мёду з макам, заружовілася, павесялела, даверліва сказала Вячку:
— Добры мёд. Выпіла, і быццам святы божачка басанож па душы прабег...
— Ніякага ваўкалака няма,— назаўтра, палагаднеўшы, навучаў князь Барыс маленькага сына. — Не княжая справа слухаць казкі смердаў. Яны, цёмныя смерды, выдумалі ваўкалака.
Але Вячка цвёрда ведаў — ваўкалак ёсць! Гэта князь Усяслаў Полацкі, Усяслаў Чарадзей, які некалі жыў і ваяваў на тутэйшай зямлі, прымае воблік ваўкалака, бегае ўсю ноч ад Полацка да Кіева, ад Дзвіны да Варажскага мора, ахоўвае ад чужынцаў сваю дзяржаву. Пакуль бегае, пакуль на спіць, пакуль крычыць пад небам ваўкалак — будуць стаяць і Полацк і Друцеск, і Менск.
Аднойчы старэйшы Вячкаў брат княжыч Васілька пачаў усім казаць, што яго, Васільку, укусіў у лесе ваўкалак. Выскачыў з-за куста, зваліў з ног і хапануў зубамі за левую пятку.
— Не верыце? — пытаўся Васілька ў баярскіх дачак Васіліны і Дабраславы.— Зараз я вам пакажу.
Ён паказаў дзяўчынкам пятку — на ёй і сапраўды была невялікая крывавая ранка.Васіліна з Дабраславаю збляднелі ад страху.
— На мяне цяпер іншы раз нешта находзіць,— таямніча шаптаў Васілька.— Іду ці ў цераме, ці ў лесе і раптам адчуваю, нібы іклы ў мяне ў роце вырастаюць, нібы даўжэзныя кіпцюры на пальцах праклёўваюцца, і так хочацца завыць, закрычаць, некага ўкусіць.
Яны ішлі лугавой сцяжынкаю непадалёку ад гарадскога вала. Звінелі чмялі... Пырхалі стракозы... Пасля нядаўняга дажджу былі рассыпаны па лузе невялікія лужынкі, быццам кавалачкі блакітнага шкла...
Раптам Васілька грозна ашчэрыў зубы, упаў на зямлю і, стаўшы на чацвярэнькі, загаўкаў, завыў. Васіліна з Дабраславаю абамлелі. Потым іх адлівалі вадою, а князь Барыс уласнаручна сек Васільку па голай скуры лазою і прыгаворваў:
— Будзеш хлусіць? Будзеш баярскіх дачак палохаць? Кажы — хто цябе ўкусіў?
— Ой, татачка, ніхто мяне не кусаў,— прасіўся-

вішчаў Васілька.— Гэта я пятою на драўляны калок наступіў.
Ішло лета за летам, падрастаў Вячка і больш не баяўся ваўкалака. Наадварот — шукаў з ім сустрэчы. Любіў ускочыць на каня і, без сядла, імчаўся ў лугі, на лясныя паляны. Змрок стукаўся ў грудзі. Кажаны віліся над галавою. Спалоханыя зайцы і казулі ратаваліся, хто як мог. Кіпеў над галавой нябесны блакіт. Уздрыгвала зямля. Чулася бушаванне ветру ў далёкіх лясах. А ён імчаўся, імчаўся...
Ён рос і пачынаў разумець сваю зямлю, свой край, людзей гэтага краю. Працавіты, мужны, цвёрды народ бачыў ён вакол сябе. Чалавек да чалавека падбіраўся тут, як каменьчык да каменьчыка. Нязломнай сцяною ўставаў полацкі люд на шляху прыблудаў-тэўтонаў, хцівых ненажэрцаў, якія чорнымі вужакамі хацелі прапаўзці на Усход па берагах Дзвіны. І калі споўнілася Вячку шаснаццаць сонцаваротаў, пакляўся ён у Полацку, у святой Сафіі, што да апошняга дыхання будзе бараніць сваю зямлю.
У Рызе Вячку павезлі на епіскапскае падвор'е. Выйшлі з капэлы Альберт з Генрыхам, і Альберт, наліваючыся жорсткай чырванню, закрычаў кнехтам:
— Раскаваць!
Падбег да князя, сам паспрабаваў зняць з яго ланцугі, але жалеза ёсць жалеза, і давялося чакаць каваля. Тоўсты нетаропкі каваль прыйшоў з усім сваім інструментам, выцер мяккім кулаком бліскучы ад поту лоб, ні разу не глянуўшы Вячку ў твар, раскаваў яго.
Кукейноскага князя павялі ў пакоі епіскапа. Вячка расціраў знямелыя ад халоднага жалеза рукі, у якіх, здавалася, спынілася кроў. Ён быў як у нейкім сне, ішоў, дыхаў, бачыў людзей і бачыў вінтавую лесвіцу перад сабою, бачыў высокія дзверы, на якіх былі выразаны крыжы і анёлы. Ён бачыў, як нямы служка епіскапа нялоўка спатыкнуўся на парозе, ледзьве не ўпаў, і епіскап так глянуў на служку, што той пабялеў, змізарнеў ростам.
Вячка сеў на мяккі пуф. Альберт, Генрых і тлумач Фрэдэрык стаялі насупраць. Свечак не палілі, бо яркае дзённае святло шырокімі струменямі

ўрывалася ў пакой праз вокны, зашклёныя каляровым венецыянскім шклом. Толькі там, дзе на глухой сцяне вісела распяцце Хрыста ў цярновым вянку, было змрачнавата, бо промні сонца не даляталі датуль, расквечвалі бліскуча нацёртую воскам дубовую падлогу.
— Рыцар Данііл горш за язычніка,— сказаў епіскап.— Парушыў клятву, дадзеную на Святым Крыжы.
Наш капітул пакарае яго. Мы адбяром яго лен[1], які ўручыла яму рыжская царква.
Генрых і Фрэдэрык згодна кіўнулі галовамі. Вячка маўчаў.
— Кароль Кукейноса, пэўна, стаміўся? — падышоў да Вячкі Альберт і паклікаў: — Імануіл!
На парозе з'явіўся нямы служка.
— Дзе мая дачка? — глянуў у шэра-сталёвыя вочы епіскапу Вячка. Гэта былі першыя ягоныя словы за доўгі час палону.
— Няхай манашка Эльза прывядзе князёўну,— загадаў Альберт Імануілу.
Цяпер ужо Генрых адчуў, як падступае да сэрца нясцерпнае хваляванне. Хутка павінны былі прывесці Соф'ю. Як сустрэне яна бацьку? Як гляне на яго? Што скажа?
Больш года выкарчоўваў ён, Генрых, з дзіцячай няспелай душы валуны язычніцтва, святым словам здзіраў, выпальваў з яе каросту крывіцкай мовы. Не толькі пра Соф'ю думаў, аддаючы ёй столькі сіл, часу, крыві. Пра сябе думаў. Думаў пра таго маленькага дурненькага лэта, якога калісьці завезлі ў Тэўтонію і кінулі, як у мора, у інакшае жыццё, у інакшую мову. Ён, дзякуй Богу, не ўтапіўся, выплыў на паверхню, хоць і наглытаўся напачатку горкай вады. Але ці трэба было ратавацца тады, у тым моры? Ці трэба было выплываць? Вось якія думкі праколвалі душу апошнім часам. Галасы мёртвых лэтаў крычалі ў ім па начах. Голас юнай Убеле, што загінула ад ягонага мяча, голас Вардэке. Ці трэба было тады выплываць? А ці не лепей было б пайсці на дно, назаўсёды застаўшыся маленькім лэтам?

[1] Л е н — зямельнае ўладанне, якое пажыццёва ўручалася васалу за ягоную службу.

"Ёсць адзін Бог, адна Дзева Марыя, адна мова — латынь,— горача маліўся ён, калі бяссонніца халоднымі пальцамі хапалася за горла.— Усё іншае — непатрэбнае. Усё іншае — ад нячысціка. Род людскі толькі аслабляе сябе, разбіваючыся на плямёны, народы, мовы. Толькі рымскі народ павінен жыць пад сонцам, вялікі, недзялімы рымскі народ".
Будзе Соф'я той, якую ён ляпіў у сваіх штодзённых справах і марах, забудзе мову крывічоў, павернецца ўсёй душой, усім сэрцам да рымскай царквы, як кветка да сонца, будзе шчаслівы ён, Генрых з Лэцii, і будзе гэта апраўданнем ягонага жыцця, няпростага і нялёгкага.
Увялі Соф'ю. Манашка Эльза і абацiса Марта стаялі побач з дзяўчынкай.
— Дочачка мая,— парывіста ўзняўся Вячка.
Соф'я паглядзела на яго, потым на абацiсу Марту, потым на Генрыха.
— Я твой бацька,— падышоў да яе, пагладзіў доччыны светлыя валасы Вячка.— Хіба ты не пазнала мяне? Хіба не помніш?
Ён з такой надзеяю, з такім болем пазіраў на дачку, што ў абацiсы Марты нечакана павільгатнелі вочы. Генрых нешта шапнуў Соф'і, і маленькая князёўна, гледзячы паўз бацьку ў вузкае, асветленае жоўтым сонцам акно, сказала некалькі незразумелых слоў. Голас быў роўны і сухі, быццам драўляны.
— Што яна гаворыць? — разгублена глянуў на тэўтона Вячка.
— Князёўна Соф'я сказала, што яна дачка апостальскай рымскай царквы,— растлумачыў Фрэдэрык.
— Рымскай царквы? — здзівіўся, пабляднеў Вячка і аж зрабіў крок назад.— Але ж яна мая дачка. Мая! І княгіні-нябожчыцы Звеніславы. Можа, яна хворая? Соф'я, Соф'ечка! Я прыйшоў па цябе. Успомніла мяне? Успомніла Кукейнос?
Ён схапіў бледную і тонкую доччыну руку, пагладзіў яе, потым пацалаваў. Князёўна раптам заплакала, срэбныя ручайкі слёз густа і нястрымна пакаціліся з вачэй. Яна затрымцела ўсёй сваёй істотаю, сказала:
— Татачка, вось гэтая Эльза прымушае мяне гаварыць па-іхняму... Б'е мяне...

— Я скручу табе шыю, чорная сава! — ірвануўся Вячка да Эльзы.
Манашка з абацісаю, быццам бура іх падхапіла, вылецелі з епіскапскіх пакояў.
— Выведзіце князёўну! — закрычаў служкам Альберт і нават нагамі затупаў. Тыя спалохана схапілі пад рукі Соф'ю, зніклі за дзвярамі. У пакоі наступіла цішыня, халодная, гняўлівая. Генрых раптам весела засмяяўся. Епіскап здзіўлена паглядзеў на яго, запытаўся.
— Што з табой, сын мой?
Але Генрых не мог стрымацца, смяяўся і смяяўся, падбег да акна, абапёрся на свінцовы падаконнік, і было відно, як ходзяць плечы, як закідваецца галава. Ужо хваравітасць, пакутлівасць адчувалася ва ўсім гэтым.
— Імануіл, прынясі вады! —ушчэнт разгубіўся епіскап.
Другую сядміцу быў Вячка ў Рызе... На Вялікдзень Альберт шчодра частаваў кукейноскага князя. Праз дзень да Вячкі прыводзілі дачку, але толькі на некалькі імгненняў і адразу ж зноў забіралі ў манастыр. Часцей сустракаўся з князем Генрых. Прыходзіў, шнураваў няспынна па пакоі, гаварыў пра любоў да бліжняга, пра вялікія міласці, якімі асыпае Бог сваіх верных сыноў. Вячка маўчаў.
“Як я мог паверыць ім? — думаў Вячка бяссоннымі начамі.— Трапіў, як пчала ў дзюбу да жаўны”.
Пра жаўну ўспомніў ён у палоне, пра лютага ворага працавітых бортных пчол. У хваёвых лясах, у дуплах высока над зямлёю, гнездзіцца жаўна. Пёры ў яе чорныя, і толькі верх галавы ярка-чырвоны. Яна рэзка, адрывіста крычыць у змроку хвойнікаў: “Кнай-кнай!” — і лётае, шукае дуплы даверлівых пчол. Колерам, драпежнай звычкаю і голасам жаўна заўсёды нагадвала Вячку мечаносцаў. Ён, як быў малы, блукаў у лесе з самаробным лукам, хацеў падпільнаваць жаўну, як яна будзе есці пчол, і забіць яе. “Не ўпаляваў я за сваё жыццё ніводнай жаўны”,— са скрухаю думаў князь.
Мінуў Вялікдзень, і Альберт, павёўшы свае войска на поўдзень ад Рыгі, прыгнаў у горад натоўп змардаваных палонных прусаў. Гэта былі высокія светлавалосыя людзі з прамымі буйнаватымі насамі.

Іх адразу ж прымусілі працаваць на будаўніцтве гарадской сцяны. Прусы пад наглядам латнікаў епіскапа капалі ямы, білі каменне, мясілі гліну, сплаўлялі па Дзвіне плыты.
Адзін з прусаў упаў са сцяны і зламаў нагу. Нагу яму вылечылі, і Альберт прыставіў пруса як служку да палоннага кукейноскага князя.
Напачатку яны не разумелі адзін аднаго — палонны палачанін і палонны прус. Маўчалі, думалі кожны сваё. Але няволя збліжае самых розных людзей, і паступова яны адкрыліся адзін аднаму, і аказалася, што ў іхніх мовах нямала падобных слоў.
— Я жыў на беразе мора,— павольна, каб Вячка яго разумеў, гаварыў прус.— Імя маё табе, князь, ведаць не трэба. Заві мяне Прусам. У мяне была жонка Данутэ і трое дзяцей. Прыйшлі псы з Рыгі, і мая сям'я, як і ўсе нашы суседзі, схавалася ў земляной пячэры, пад каранямі свяшчэннага дуба. Але рыжскія псы каля ўвахода ў пячору расклалі вялізарнае вогнішча, у якое кідалі яловыя лапкі, мухаморы, шышкі, мох... Дым забіў усіх. Я нават не ўбачыў трупы маіх дзяцей і маёй жонкі. Як я хачу адпомсціць тэўтонам!
— Я таксама хачу, Прус,— даверыўся Вячка.— Давай думаць разам, што нам рабіць.
— Добра, князь,— адразу ж згадзіўся Прус.— Мы не можам справіцца з тэўтонамі сілаю. Нас двое... Мы ў палоне... Толькі розум і хітрасць могуць нам памагчы. Хітрасці ж нам трэба вучыцца ў тэўтонаў.
Пасля гэтай размовы Вячка доўга не мог заснуць. Ён быў цалкам згодзен з Прусам. Так, хітрасцю бяруць тэўтоны. А яшчэ бяруць сваёй дысцыплінай, арганізаванасцю. Ужо, здаецца, так варагуюць мечаносцы з епіскапам Альбертам, гатовы зжэрці яго, як пажыраюць адзін аднаго павукі пад шклом, а ўбачылі, здагадаліся, што князь Кукейноса точыць на іх меч, і адкінулі свае крыўды, аб'ядналіся з Альбертам, і вось ён, князь Вячка, гіне ў тэўтонскай цямніцы. Як не хапае палачанам, наўгародцам, эстам, лівам, прусам такой згоды, згуртаванасці ў смяротны час. Кожны князь, кожны баярын і старэйшына далей свайго церама, сваёй сядзібы нічога не хоча бачыць, толькі пра ўладу, толькі пра скарбонку думае. "Я — князь. Ніводны лісцік у маіх

лясах не скалыхнецца без майго дазволу". Вось аб чым думаюць, мараць яны ўдзень і ўначы. А трэба гуртаваць сілы. Трэба, каб тэўтонаў сустрэў на Дзвіне жалезны магутны кулак, іначай наробяць тэўтоны дудак з нашых касцей.
Як служка палоннага кукейноскага князя Прус часам выходзіў з цямніцы ў горад, усё там выглядваў, высочваў, прыслухоўваўся, аб чым гавораць між сабой тэўтоны. Асабліва цікавілі яго гарадская сцяна, тыя месцы, дзе яна яшчэ будавалася, была не такой высокаю.
— Як жа ты за гарадскую сцяну вырвешся? — пытаўся Вячка.— У цябе ж крылаў няма, сцяну не пераляціш.
— Думаць трэба, князь... Думаць...— змрачнеў Прус.
Аднойчы ён запытаўся:
— Ты, князь, не збіраешся мяняць праваслаўную веру на рымскую?
— Не,— цвёрда адказаў Вячка.
— Тады ніколі не аддадуць табе тэўтоны дачку. Ніколі. Разумееш мяне? Не дачку тваю яны надумаліся ўкрасці, а душу тваю.
Князь Вячка маўчаў. Здавалася, усе пачуцці, усе страсці памерлі ў ягоным сэрцы. Тыя, хто глядзеў на князя зблізку і здалёку, так і думалі. Але калі б яны маглі сваімі позіркамі пранікнуць у самую патаемную глыбіню гэтага сэрца, яны б убачылі, што сэрца ў князя не мёртвае, не пустое. У ім засталася, у ім кіпела, яго поўніла да краёў нянавісць.
Вячка цішэў, як бы камянеў, а Прус ўсё болей узбуджаўся. Кулакамі грукаў аб сцены цямніцы. Ён быў з тых людзей, у каго вельмі часта, вельмі рэзка мяняецца настрой. Аднойчы за буянства, за крык латнікі Альберта доўга білі яго дрэўкамі коп'яў. Але, як толькі яны выйшлі, Прус весела засмяяўся.
— Ну й чалавек ты,— здзівіўся Вячка.— Як той крэмень, цярплівы. Няўжо не баліць?
— Адкрыю табе сваю тайну, князь,— прыцішыў голас Прус.— Я не ведаю, што такое боль, не адчуваю. З самага маленства не адчуваю. Здаралася, пальцам так аб камень ці аб корч які стукнуся —

іншы б клубком круціўся па зямлі ад болю. А я бягу далей, смяюся. Не даў Бог майму целу боль. Не ведаю я, што гэта такое. Вялікую міласць аказаў мне Усявышні.
Вячка нічога не сказаў, але падумаў: "Гэта цябе і пагубіць, Прус. І цела чалавечае, і душа павінны адчуваць боль. Без болю няма жыцця".
А праз два дні Прус пайшоў у горад, схапіў камень, якімі палонныя ўмацоўвалі падножжа сцяны, ударам у скронь забіў латніка, спрабаваў забіць рыцара Макса, каб авалодаць ягоным канём і вырвацца за гарадскую браму. Брама якраз была расчынена, бо ў Рыгу ўязджаў купецкі абоз. Але рыцар Макс не разгубіўся — жалезным чаравікам зламаў Прусу нос, саскочыў з каня, зваліў Пруса на зямлю, бічоўкаю моцна звязаў яму рукі і прыгнаў на епіскапскае падвор'е.
Без літасці білі Пруса бізунамі, аж кроў свістала ва ўсе бакі. Вячка думаў, што Альберт загадае павесіць або чвартаваць палоннага. Ды епіскап вырашыў захаваць Прусу жыццё і нават адпусціць на радзіму, папярэдне выкалаўшы яму вочы.
— Цябе вецер у Прусію прывядзе,— сказаў ён няшчаснаму палоннаму,— вочы ты пакінеш у Рызе. Ідзі да супляменнікаў. Хай дрыжаць ад страху ў сваіх лясах і балотах. Хай убачаць, якімі мы бываем бязлітаснымі да ворагаў. Апошні раз паглядзі на сонца, развітайся з ім навекі.
Прус уздрыгнуў, узвёў у неба вялікія сінія вочы, потым заўважыў Вячку, крыкнуў яму:
— Бывай, кукейноскі князь! Ніколі цябе болей не ўбачу!
— Ты пра мяне пачуеш, Прус,— ціха адказаў Вячка, але і да Пруса, і да тэўтонаў даляцелі гэтыя словы.
Ён не мог заснуць, ляжаў у цемры, успамінаў Пруса. Пагарачыўся Прус. Разам жа дамаўляліся бегчы з палону, але ўбачыў расчыненую гарадскую браму і не вытрымаў... Правільна кажуць: "На гарачых конях гліну месяць".
Трэба чакаць... Трэба цярпець... Трэба, каб тэўтоны паверылі, што ён, князь Вячка, змяніўся, зрабіўся мяккай лугавой травой, якую могуць таптаць іхнія коні. "Дай мне цярпення, святая Сафія",—прасіў Вячка, гледзячы ў начны суровы змрок.

Маленькім хлапчуком ён баяўся начнога змроку, але бацька і маці не дазвалялі запальваць у спачывальні свечку. І ён у полі, у лузе шукаў белыя празрыстыя камяні, клаў іх на сонцы. Яны ляжалі ўвесь дзень на сонцы, убіралі ў сябе сонечныя праменні. Ноччу яму здавалася, што камяні свецяцца, і ён засынаў, спакойны і шчаслівы.
Ноч плыла над Рыгай. Не спаў князь Вячка, думаў пра свой лёс, пра сваю дачку, пра сваю зямлю. Нарэшце перад самай раніцай заснуў і адразу ж прахапіўся — здалося яму, што далёка-далёка адсюль, ад гэтай ненавіснай цямніцы, у светлых полацкіх лясах радасна і прызыўна крычыць ваўкалак.

Епіскап Альберт быў задаволены — яшчэ адзін напор, і люты вораг рыжскай царквыператворыцца ў рахманую авечку, якая будзе скубці траву пад прыглядам святых пастыраў. А там можна будзе ўручыць яму ленныя сцягі[1], дзверы на Дзвіну расчыняцца, і вецер на ёй падзьме толькі з захаду на ўсход — у адным кірунку.
— Ты мудры, сын мой,— сказаў ён Генрыху.— Ты ўмееш падбіраць ключы да сэрцаў чалавечых.
— Дзеля нашай царквы стараюся, мансіньёр,— сціпла апусціў вочы Генрых.
Князь Вячка з кожным днём усё больш цішэў. Вочы памякчэлі, сцёрся з іх металічны халодны водсвет. Аднойчы князь нават папрасіўся паслухаць месу, і святыя песні, відно было па ўсім, уразілі яго, ашаламілі. Некалькі дзён ён хадзіў задумлівы, ціхі, толькі слабая ўсмешка набягала зрэдзь часу на твар. Яму дазволілі адлучацца на падвор'е, і ён блукаў каля шэрых каменных сцен, разглядваў шчыліны ў сценах, мох, што вырас у гэтых шчылінах. Напаткаў лужок з аксамітна-зялёнай травою, сеў на траву, апусціў у яе рукі, потым, азірнуўшыся наўкола — ці не цікуюць чужыя вочы, па самую шыю апусціў у траву галаву, нешта доўга нюхаў, да нечага прыслухоўваўся, і, калі зноў узняў твар, на вачах былі слёзы.
"Ісцінны Бог уваходзіць у скамянелую душу",— думаў Генрых, які ўвесь час крадком сачыў за

[1] Ленныя сцягі — сімвалы васальнай залежнасці.

князем праз вузкае акно епіскапскай чытальні. Яго радавалі змены, што адбываліся з князем Кукейноса. Князь увачавідкі рабіўся спакойным, памяркоўным, ручным.
Калі скончыліся дзве сядміцы, Вячка папрасіў паклікаць епіскапа і аб'явіў Альберту, што аддае рыжскай царкве палову сваіх уладанняў, прымае ленныя сцягі і гатоў пусціць у Кукейнос дойлідаў і рыцараў Альберта, каб узвялі яны каменны храм. Адразу сабралі капітул, на якім сам епіскап уручыў Вячку ленныя сцягі, абняў яго, пацалаваў, падарыў дзесяць баявых коней і дзесяць сталёвых рыцарскіх даспехаў. Вялікая радасць была ў Рызе, і адбылося гэта на пагосце святога Пятра, у час прабывання на апостальскім прастоле папы Інакенція III, у часаравання імператара Атона.
Адслужылі месу, і Вячка, развітаўшыся з дачкою, Альбертам і Генрыхам, у суправаджэнні дваццаці рыцараў епіскапа накіраваўся ў Кукейнос. Над Рыгай бязважка плавалі маленькія пушыстыя воблачкі.
Усю дарогу князь маўчаў, нечаму ўсміхаўся, на прывалах часта і доўга маліўся. "Няўжо гэта той самы Вячка, адважны страшны князь, пра якога нам расказвалі столькі жахаў? — дзівіліся рыцары.— Ды гэта бяскрыўдны манашак, верабей, якога выпусцілі з клеткі". Некаторыя з рыцараў пачалі пазіраць на князя з пагардаю, пачалі кпіць з яго. Калі на прывале Вячка хацеў сесці ля вогнішча, рыцар Готфрыд апярэдзіў яго, заняў ягонае месца і, хіхікаючы, глядзеў, як князь ірве траву і садзіцца на гэтую траву ў баку ад вогнішча.
— Травяны кароль! — паказаў на Вячку пальцам, здзекліва засмяяўся Готфрыд. Так і пакацілася між рыцарамі:
— Травяны кароль! Травяны кароль!
У замку Леневардэн іх сустрэў рыцар Данііл. Убачыўшы Вячку, ціхмянага, пакорнага, затурканага ўсеагульнай пагардаю, радасна сказаў:
— Падцяў хвост, каралёк?
Ён шчодра пачаставаў рыцараў віном і мясам, Вячку ж не запрасіў у трапезную. Доўга пілі і весяліліся тэўтоны.
Нарэшце паказаўся Кукейнос. Готфрыд уважліва

зірнуў на Вячку, але твар і вочы ў князя былі бясстрасныя, здавалася, нішто яго зараз ужо не хвалявала і не цікавіла. Князь паныла сядзеў на кані, жаваў травінку. "Травяны кароль, як ёсць",— задаволена падумаў Готфрыд.
Радаснымі крыкамі сустрэў Кукейнос Вячку. Амаль усе воі і гараджане высыпалі на вал. Поп Сцяпан загадаў ударыць у звон. Але твары ў кукейносцаў спахмурнелі і пацямнелі, калі яны зблізку ўбачылі свайго князя. Не, гэта быў не іхні князь! Стомлены соннавокі чалавек сядзеў на запырсканым гразёю кані, абыякава і лена глядзеў на забаролы, на пад'ёмны мост, які апускалі перад ім.
— Падмянілі нам князя,— разгублена сказаў старшы дружыннік Халадок, бачачы, як цяжка, па-старэчаму злазіць Вячка з каня.— Ён жа птушкаю вылятаў з сядла.
— А можа, тэўтоны мухаморамі атруцілі князя? — ціха і спалохана спытаўся ў стрыя Якава Мірошка. У Гарэлай Весі, чуў Мірошка, нявестка атруціла свайго свёкра — цэлы сонцаварот падлівала яму ў ежу адвар з мухамораў.
Якаў і Мірошка глядзелі праз шчыліны ў забаролах, як павольна, быццам з неахвотаю, уз'ехаў князь на мост, як не ўзняў галаву, калі яго віталі кукейносцы. Здавалася, на шыі ў князя вісіць нябачны камень-жарнавік. Якаў прыкусіў губу, задумліва пазіраў на князя, потым сказаў:
— Не мухаморамі атруцілі нашага князя, Мірошка. Навошта тэўтонам атручваць? Яны, каб захацелі, мячамі б яго засеклі. Горам-бядой князя атруцілі.
У гэты час перад гарадскімі варотамі паказалася княгіня Дабранега ў суправаджэнні чаляднiцы Куліны. Якаў спусціўся з вала, праціснуўся праз натоўп кукейносцаў бліжэй да Куліны, бо вельмі падабалася яму русакосая чаляднiца. Куліна ўбачыла яго, усміхнулася, радасцю ўспыхнулі смуглыя шчокі.
— Добры дзень, княжа, добры дзень, мой гаспадар,— схілілася ў паклоне, а потым пацалавала стрэмя Дабранега.— Добра, што прыляцеў, голуб ясны, на свой двор.
Усе змоўклі, чакалі, што адкажа князь. Усе прагнулі

пачуць першыя словы, якія ён прамовіць на роднай зямлі ў час вяртання. Але Вячка нічога не сказаў, марудна злез з каня, падышоў да княгіні, тройчы пацалаваў яе і разам з ёю моўчкі пайшоў у свой церам.
Кукейносцаў гэта страшэнна ўразіла і пакрыўдзіла. З усіх бакоў толькі і чулася:
— Язык праглынуў князь у Рызе!
— Хвастом тэўтонскім зрабіўся!
— Моцнай бічоўкай прывязаў Вячку Альберт да свайго сядла!
Самыя нецярплівыя і гарачыя прапаноўвалі паслаць ганцоў у Полацк і Літву, каб хутчэй прысылалі дапамогу супраць тэўтонаў, бо на князя Вячку ўжо нельга спадзявацца.
— Заснуў наш князь,— з сумам і горыччу сказаў Клімята Аднарук Мірошку, калі ўсе дзеці, якіх ён вучыў, сабраліся на хорах у царкве.— Хто б мог падумаць? Але пойдзем, дзеці, далей у навучанні. Запомніце: ад балгарцаў наш дух і слова...
А князь Вячка і сапраўды спаў. Спаў ужо другі дзень. Заціх, як вымер, церам, чалядніцы і халопы хадзілі на пальчыках, жука-бурчуна, які аднекуль з Дзвіны заляцеў раптоўна ў церам, лавілі вялікай гурбою і ў рэшце рэшт злавілі, хацелі раструшчыць, але дваровы хлопчык Анісім захныкаў і панёс яго з сабою, як жывую цацку.
Дзіўныя сны сніліся князю. То стаяў ён пасярод жытнёвага поля, якое дыбілася крутымі жоўтымі хвалямі, пакрываючы князя з галавой, і толькі васількі, як халодныя сінія зорачкі, зрэдку мільгалі ў гарачай жаўцізне. То ўзбіраўся на высокую старую ліпу, і чым вышэй залазіў, тым усё болей маладзейшай рабілася ліпа, а на самым версе, на самай макаўцы дрэва, ён убачыў цёмна-зялёны пяшчотны ліст, які павольна калыхаўся, уздрыгваў на тоненькай карычневай ножцы. Захацелася князю сарваць гэты ліст, каб адчуць пальцамі клейкую ліпкасць зеляніны, але загула, зашумела, чалавечым голасам закрычала старая ліпа: "Гэта мой сынок! Гэта мой сынок!", узмахнула ўсімі сваімі тоўстымі шурпатымі галінамі, напружылася ўсім маршчыністым ствалом і скінула князя-бедалагу на зямлю. Моцна стукнуўся ён аб карані і прачнуўся.

Ён ляжаў на мулкіх дошках свайго паходнага ложа і яшчэ адчуваў боль ад падзення, ад удару аб цвёрдыя карані. Ён узняў над сабою рукі, сціснуў іх у кулакі і чакаў са страхам, што не адчуе ранейшую сілу ў кулаках. Але сіла была, бурлівая, хмельная, ранейшая. Тады ён рыўком скінуў з сябе покрыва, пругка ўскочыў на ногі, падбег да акна глянуць, светла або цёмна на дварэ. Быў самы поўдзень. Сонца, як маленькая распаленая грыўня, стаяла высока-высока ў небе, і ягоныя праменні, як вострыя залатыя мячы, рассякалі згусцелы ад спёкі блакіт.
І Вячка засмяяўся. Ён смяяўся доўга, бязгучна. Было лёгка, было добра. "Я вярнуўся!" — крычаў у душы звонкі ярасны голас.
Маладой чалядніцы ён загадаў, каб паклікала княніню Дабранегу. Неўзабаве ў спачывальню ўвайшла Дабранега, разгубленая, спалоханая. Вочы заплаканыя, і на шыі завязана чорная, прашытая залатой ніткай хусцінка.
Вячка пацалаваў княгіню, зняў з яе шыі чорную хусцінку, шпурнуў прэч, сказаў:
— Дзе мая кальчуга? Дзе меч Усяславаў?
— Ой, князь,— прашаптала Дабранега і ўся засвяцілася ад радасці.
— А ты думала, што ў Рызе я зрабіўся манахам? — прытуліў яе да гарачых моцных грудзей Вячка.— Кліч сюды Халадка. Толькі кліч, каб чужыя вочы не ўбачылі, каб чужыя вушы не пачулі.
Прыбег старшы дружыннік Халадок, спыніўся на парозе спачывальні.
— Пасылай ганца кунігасу Даўгеруту, да аўкштайтаў,— сказаў Вячка.
Халадок, успыхнуўшы ад радасці вачамі, кінуўся выконваць загад, але Вячка спыніў яго.
— Што рабілі тэўтоны?
— Учора пілі віно і задзіраліся з полацкімі купцамі.
— Што робяць сёння?
— Сякуць камень-плітняк за гарадскім валам, хочуць будаваць побач з тваім церамам крэпасць. Рыцар Готфрыд у іх старшы.
— Зброю ўзялі з сабой?
— Яны заўсёды ходзяць са зброяй. І п'юць, і робяць з мячамі на поясе. Але зараз горача — яны могуць распранućца і быць без кальчуг і мячоў.

Выслухаўшы такія словы Халадка, Вячка павесялеў, сказаў:
— Прышлі да мяне двух спрытных вёрткіх хлопцаў. Трэба, каб яны ўпільнавалі, чым займаюцца тэўтоны, якая ў іх зброя. А сам рыхтуй меч і пасылай чалавека да аўкштайтаў. Хай скажа: чакаем іх.
— Усё зраблю, князь. Прышлю Якава Палачаніна і Мірошку, і да Даўгерута адразу ж чалавек памчыцца,— радасна пакланіўся Халадок і знік за дзвярамі.
Здавалася, майская бура ўляцела ў церам. Дружыннікі апраналі кальчугі, надзявалі шлемы, стараючыся рабіць як мага меней шуму, бралі шчыты, мячы, коп'і і лукі. Вячку прынеслі кальчугу, шлем і Усяславаў меч. Дабранега з паклонам падала цяжкі меч мужу, сказала:
— Будзь моцны душой і мячом, мой княжа. Святая Сафія глядзіць на цябе і чакае перамогі.
— Ты на мяне глядзіш, Дабранега,— сурова ўсміхнуўся Вячка.— Памру, але гонар палачан не аддам на знявагу. Добрая будзе валка[1]!
Ён рашуча трасянуў мячом.
У гэты час убеглі ў апачывальню Якаў Палачанін і Мірошка, абодва ўспатнелыя, чырванашчокія.
— Тэўтоны камень сякуць у вялікай яме,— выдыхнуў Якаў,— мячы і кальчугі звалілі на край ямы. Макрыя ад поту, як балотныя жабы.
— Рубон,— ціха сказаў Вячка і выцягнуў з похваў меч.
— Рубон,— як парыў ветру, пранеслася па дружыне, што ўжо гуртавалася ва ўсіх пераходах церама.
— Князь, дазволь слова мовіць,— раптам сказаў Якаў.
— Гавары, Якаў Палачанін,— дазволіў Вячка, прыпыніўшыся на парозе.
— У рукаяць твайго мяча ўкладзены мошчы?
— Майстры, што рабілі меч, паклалі ў рукаяць мошчы святой Ефрасінні,— Вячка здзіўлена глядзеў на Якава, не разумеючы, куды той хіліць размову.
— Няпраўда. У рукаяці ляжаць барсуковыя косці.

---



[1] Валка — бітва.

І Якаў, спяшаючыся, пераказаў князю ўсю размову, якую ён чуў месячнай ноччу на двары баярына Івана. Дабранега і Халадок, што стаялі з князем, разгублена пазіралі на Вячку. Князь пакруціў у руцэ меч, падумаў, рашуча сцяў вусны.

— Валка чакае. Шмат працы будзе мячу. Адкуль мне ведаць,чые мошчы ляжаць у рукаяці? Што ж, няхай будзе барсук. Вядзі мяне, Святы Барсук!

Гарадскія вароты былі загадзя адчынены, і дружына Вячкі, не сцішваючы хады, знянацку атакавала тэўтонаў. Вячка бачыў белыя спалоханыя твары ворагаў. Храбусцела жарства пад нагамі. Пахла свежаўскапанай зямлёй. Біцца ў яме было цесна, не хапала размаху руцэ, і князь толькі калоў мячом. Некалькі тэўтонаў паспелі схапіць зброю і стараліся аддаць жыццё як мага даражэй. Яны былі голыя, беласкурыя, слізкія ад поту, як рыбіны. Пахла потам, і гэты ненавісны пах раз’ярыў Вячку. Ён закрычаў:

— Нікога не выпускайце з ямы! Сячыце ўсіх! Дачку Альберт мне ўсё роўна на аддасць. Табой ахвярую, дачка!

Дружыннікі з новай сілаю, з вялікай ярасцю рынуліся на тэўтонаў. Жменька ворагаў, што засталіся яшчэ жывымі, была пасечана на шматкі. Толькі Готфрыд, вялізны, рыжавалосы, сціскаючы ў адной руцэ меч, у другой — кап’ё, прысланіўся спінаю да кучы вострых чырвона-бурых камянёў і, не зважаючы на раны і кроў, што ручаямі цякла па грудзях, мужна адбіваў усе ўдары дружыннікаў.

— Дайце — я яго з лука вазьму! — шалеючы, закрычаў Халадок, бо свае ж воі засланялі Готфрыда, перашкаджалі пусціць стралу. Ды ўсіх апярэдзіў Вячка. У адзін скок ён апынуўся перад Готфрыдам, засмяяўся:

— Пазнаў, тэўтон, травянога караля? Абараняйся!

Готфрыд аскаліў у смяротнай тузе зубы, сабраўшы рэшткі апошніх сіл, ударыў мячом. Гэта быў страшны ўдар. Але Вячка ў той міг, як меч абрушваўся на умбон шчыта, рэзка павярнуў, крутнуў шчыт, і меч вырваўся з рукі Готфрыда. Тэўтон завыў ад злосці, крыкнуў:

— Ты — травяны кароль, а наша царква з жалеза! На каго ўзняў руку? Лыжкай не вычарпаеш акіян!

Будзеш ляжаць каля ног нашай царквы!
— Беражы сілы, не крычы,— спакойна адказаў Вячка.— Памры дастойна, тэўтон, як паміраюць мужы.
Готфрыд пырнуў кап'ём, але Вячка спаймаў, заціснуў дрэўка ягонага кап'я пад пахаю левай рукі. Дарэмна Готфрыд спрабаваў вырваць кап'ё назад.
— А ці з жалеза твая выя, тэўтон?! — крыкнуў Вячка і коса секануў Готфрыда там, дзе шыя ўваходзіць у плечы. Галава надламалася, і ўсе ўбачылі жылы, як перасечаныя чырвоныя карані. Валка скончылася. Лясныя пчолы гулі над мёртвымі тэўтонамі. Чаіцы сумна крычалі на Дзвіне. Вячка з хмурасцю глядзеў на справу сваіх рук, спытаўся:
— Хто з нашых Богу душу аддаў?
— Дзецкага Грыкшу забілі,— адказалі яму.
— Добры быў вой. Прыгожа загінуў,— прамовіў Вячка.— Клічце айца Сцяпана і халопаў з церама. Трэба пахаваць усіх мёртвых.
Ён прысеў на цёплы ад сонца камень, заплюшчыў вочы. Ён не мог зразумець — радасць была на душы або туга.
— Князь, літва падыходзіць! — весела закрычаў Халадок.
Вячка ўскочыў з каменя. Зямля дрыжала ад конскіх капытоў. Пяць соцень прывёў з сабою Кунас, малодшы сын Даўгерута. Літоўцы былі высакарослыя, светлавалосыя, са звярынымі шкурамі на плячах, з лукамі, коп'ямі і мачугамі.
— Вітаю цябе, Кунас,— абняў і пацалаваў маладога кунігаса Вячка.— Хочаш сваім кап'ём прабіць жалезныя вароты Леневардэна?
— Даўно хачу, князь,— шырока ўсміхнуўся блакітнавокі загарэлы Кунас.
— Канюшыя і сядзельнічыя, рыхтуйце коней! — закрычаў Вячка.
У гэты час да яго падбег лоўчы Якаў, схіліў галаву, папрасіў:
— Дазволь слова мовіць, князь.
— Зноў пра барсука будзеш гаварыць? — раззлаваўся Вячка.— Нешта часта ты, Якаў Палачанін, маю дарогу пераходзіш.
— Бо адна ў нас дарога,— вытрымаў ягоны позірк Якаў.— Забілі дзецкага Грыкшу, князь...

— Ведаю, што забілі,— рэзка перапыніў яго Вячка.
— Дазволь узяць ягонага войскага каня і меч ягоны.
— Вунь яно што! Дружыннікам маім хочаш стаць?
— Хачу, князь.
— А ты ведаеш аб тым, што воі мае не толькі мёд п'юць, але і жываты кладуць?
Вочы ў Вячкі былі суровыя, пранізлівыя. Ён ва ўпор глядзеў на Якава.
— Ведаю і не баюся,— адказаў Якаў.
— Малайчына! Хвалю на добрым слове,— усміхнуўся Вячка і крыкнуў: — Даць Якаву Палачаніну каня!
Падвялі коней Вячку і Якаву. Вячка ў імгненне вока ўскочыў у сядло. Якаў садзіўся на каня больш марудліва, але ўсё-такі як уліп у сядло, і збоку няблага глядзеўся, быццам увесь век на баявых конях ездзіў. І зноў сказаў:
— Дазволь, князь, яшчэ адно слова мовіць.
— А ты гаваркі,— засмяяўся Вячка.— Не паспеў у пер'е ўвабрацца, а ўжо два словы ў князя просіш. Ну, кажы сваё другое слова, толькі хутчэй, а то нам на рыцара Данііла трэба ісці, на Леневардэн.
— Дазволь, князь, ажаніцца з чаляднiцаю Кулінаю, што княгіні Дабранезе служыць.
Тут Вячка аж прысвіснуў, але адразу ж пасур'ёзнеў, сказаў з расстаноўкаю:
— Прывядзеш да мяне рыцара Данііла за бараду, ажэнішся з чаляднiцай. Вось такое маё княжае слова.
Паўночным берагам Дзвіны рушылі на Леневардэн. Калісьці тут былі старадаўнія гандлёвыя шляхі, але са з'яўленнем тэўтонаў зямля залесілася, дарогі замуравелі. Следам за знузнікамі на вялікіх падводах везлі пароки[1]. У лісцвяным лесе, што наступаў з двух бакоў, пачаўся порсткі дождж. Густы шматслойны шум, ад якога было трывожна і радасна, пакрыў усе навакольныя гукі. На зялёных лісцях ярка і непагасна ззялі дажджавыя кроплі. Вячка і Кунас рашылі ўзяць Леневардэн раптоўным наездам, але на выпадак зацяжнога штурму, аблогі, везлі лёгкія лесвіцы з жалезнымі крукамі на канцах, везлі прымёт, вязкі галля, якімі закідваюць роў.

[1] П а р о к і — каменямётныя машыны.

Парочныя майстры ўзялі з сабой вялікі запас цяжкіх камянёў і бочкі са смалою і пакуллем.
Напасці на Леневардэн знянацку не ўдалося.
Рыцары паспелі зачыніцца ў замку за каменнай сцяной і пачалі ярасную страляніну з арбалетаў. Але Вячка быў гатовы да гэтага — ягоныя людзі ў імгненне вока збудавалі заслоны з бярвенняў, за гэтымі заслонамі паставілі парокі. Першы камень вагою ў тры пуды з ляскам урэзаўся ў гарадскую браму. Другі камень змёў са сцяны частку дубовай абароннай галерэі і заадно чацвярых арбалетчыкаў.
Потым у замак паляцелі вогненныя бочкі са смалой.
Лучнікі Вячкі і літоўскія лучнікі няспынна білі па сценах, не давалі тэўтонскім арбалетчыкам высунуць галаву. Стрэлы з пранізлівым сухім свістам хмараю несліся на Леневардэн. Акрамя таго літоўцы шпурлялі свае баявыя дубіны-мачугі, кожны з іх меў па пяць-шэсць такіх дубін.
У замку пачаліся пажары. Чорны дым закрыў сонца.
Пад шчыльным покрывам дыму кукейноскія дружыннікі падабраліся да рова з вадой і пачалі кідаць у яго прымёт.
Парочныя майстры тым часам бесперапынна білі камянямі па варотах. Велізарныя валуны з вуркатаннем несліся праз дым, гром ад іхніх udaraў быў такі, што закладвала вушы. Нарэшце дубовыя, акаваныя свейскім жалезам вароты не вытрымалі.
— Выбілі зубы ў вурдалакі! — радасна закрычаў Вячка і выхапіў меч: — Рубон!
Воі дружна падхапілі баявы кліч, рынуліся ў дымную імглу. Захістаўся, захрабусцеў пад нагамі прымёт, але вытрымаў, вынес жалезную раку проста на гарадскую браму, на вялізны пралом, што зеўраў у ёй.
Якаў, стараючыся не адставаць ад Халадка, скочыў у пралом і адразу ўбачыў перад сабой тэўтона. Той нацягваў калаўрот арбалета, вочы былі прыжмураныя, злямчаная рудаватая барада тлела ад пякучай смалы.
Якаў рэзка ўдарыў кап'ём у шырокія пукатыя грудзі, адчуў, як завальваецца, кладзецца на спіну тэўтон, пабег наперад.
— Рубон! — грымела наўкол. Звінела жалеза.
Расколваліся ад udaraў шчыты. Нехта енчыў,

прыдушаны брамай, якая рухнула, узняўшы агромністыя слупы дыму і пылу.
Перад цытадэллю замка заклубіўся жорсткі капейны бой. Рыцары і кнехты, абпаленыя агнём, атручаныя дымам, сталі ў карэ, пасярод якога высокі худы капелан махаў крыжам, выкрыкваў малітвы. Ягоны позірк быў скіраваны ў дымнае неба, адкуль клікаў капелан Дзеву Марыю. Але прыляцела страла, ударыла ў непрыкрытыя латамі грудзі, і капелан з кароткім стогнам упаў. Рыцары з кнехтамі адразу ж кінуліся хто куды, пачалі ратавацца, ды паўсюдна чакаў іх бязлітасны метал.
— Данііл уцякае! — закрычалі раптам з дымнага змроку. Проста на Якава наляцеў Халадок, ледзь не ўдарыў мячом, але ў апошні міг пазнаў, ляпнуў цяжкою рукою па плячы:
— Добра тэўтона зваліў. Будзеш дружыннікам.
І адразу ж загадаў адрывістым сіплым голасам:
— Гайда за мной! Данііла злавіць трэба.
Разам са сцягам Халадка Якаў выбег з горада. Отракі-каняводы трымалі напагатове свежых коней, схаваўшыся ад іскраў і дыму пад купку маладзенькіх бяроз. Воі Халадка і разам з імі Якаў ускочылі ў гарачыя сёдлы, і пачалася пагоня.
“Прывядзеш да мяне рыцара Данііла за бараду, жэнішся з чалядніцай”,— успаміналіся Якаву князевы словы. Маркотна было на душы. “Дзе ж знойдзеш таго Данііла? Ён, пэўна, ужо, як вуж, да Дзвіны дапоўз, у лоддзю сеў і ў Рыгу памчаўся. І чаму так павялося, што, каб жаніцца, сям’ю сваю завесці, трэба абавязкова прасіць дазвол у князя або баярына?”
Па балоцістым куп’істым лузе коні вынесліся на сухі грудок, адкуль быў шырокі агляд ва ўсе бакі. Сінімі паламанымі сценамі стаялі на небасхіле сасновыя і бярозавыя лясы. Нідзе — ні духу, ні зыку чалавечага.
— У гэты ж бок яны беглі. Пешшу, без коней,— хмура сказаў Халадок.— Я сам бачыў. І яшчэ Данііла ледзь не на плячах цягнулі. У нагу яго параніла.
Ён злез з каня, пайшоў да ручая, што булькатаў у альшаніку, склаў кубарыкам далоні, набраў вады, напіўся. За ім пакіраваліся астатнія воі. Якаў жа,

злезшы з сядла, самотна сядзеў на грудку, падпёршы падбароддзе кулакамі. Горка было на душы, нібы атруцілі яе дымам тых пажараў, што бушуюць зараз у Леневардэне. Мала ў яго, Якава, сяброў. Калі не лічыць Мірошку, дык і зусім няма. Падабаецца яму Халадок, але ж гэта — старшы дружыннік, князева рука. Ці захоча ён размаўляць з Якавам? І з Кулінаю нявыкрутка атрымліваецца. Кахаюць адно аднаго, але толькі позіркамі гарачымі перакідваюцца, бо загадана Куліне і ўдзень і ўначы быць каля злой княгіні Дабранегі. Якаў цяжка ўздыхнуў. І раптам пачуўся яму нейкі ціхі прыглушаны свіст, нейкае шыпенне. Гадзюка! Якава бы хто падкінуў з грудка. Не хапала яшчэ, каб джыгнула ў мяккае месца агіднае халоднае стварэнне. У час блуканняў па пушчы, асабліва калі пачынала прыпякаць сонца, ён шмат пабачыў гадзюк, нават цэлыя клубкі бачыў, што марудна варушыліся, уздрыгвалі пад гарачымі лагоднымі праменнямі. Ён заўсёды баяўся іх, абыходзіў.
Якаў скочыў на некалькі крокаў, пачаў насцярожана ўзірацца ў грудок. Вось зараз мільгне ў траве бліскуча-шэрая пругкая палоска, і ён убачыць маленькую, як бы расплюснутую галоўку з раздвоеным дрыготкім язычком. Але нічога ён не ўбачыў. Лёгкі ветрык прабягаў па траве, запускаў мяккія пальцы ў зялёныя касмылі, расчэсваў, прыгладжваў іх. "Пэўна, падалося,— падумаў Якаў.— У вушах шуміць пасля валкі". Ён зноў сеў на грудок і зноў пачуў свіст і шыпенне. Ды на гэты раз ён ужо не так спалохаўся, пачаў пільна ўзірацца ў траву, і за два-тры локці ад сябе ўбачыў малюсенькую сухую дудачку чароту, якая тырчала з зямлі. Вось з гэтай дудачкі і выляталі свіст і шыпенне. Жывая дудачка, дый годзе!
Якаў асцярожна паклаў на яе далонь, шчыльна закрыў дудачку, пачаў чакаць, што будзе. Прайшло колькі часу, і раптам зямля побач з Якавам заварушылася, распаўзліся ва ўсе бакі кавалкі зялёнага дзірвану, разляцеліся ахапкі травы, і з-пад зямлі вылезла на белы свет чалавечая галава з сівымі, засыпанымі пяском валасамі. Галава расплюшчыла вочы, кашлянула, чмыхнула, прагна пачала дыхаць, аж захліпваючыся. Якаў мог схапіць



11 Зак. 2990

незнаёмца за нос, так блізка была ад яго галава, але ён скамянеў ад здзіўлення і жаху. І раптам ад рэзкага штуршка Якаў адляцеў убок, а сівагаловы рыцар у бліскучых латах выхапіўся са сваёй схованкі і, кульгаючы, пабег па густым альшаніку. З латаў сцякаў імклівымі ручайкамі бледна-жоўты пясок.

— Данііл! — прарэзліва закрычаў Якаў.— Лавіце Данііла!

Ён усё зразумеў — рыцарам не хапіла сіл цягнуць на сабе параненага Данііла, тым больш набліжалася пагоня, і яны вырашылі схаваць яго, каб потым, як усё ўляжацца, вярнуцца. А дзе схаваеш на роўным, як стол, месцы? І яны прысыпалі яго зямлёй, уваткнуўшы ў рот дудачку чароту. Звычайна людзі ў вадзе хаваюцца, [redacted] гэты, як чарвяк, у зямлю ўтачыўся!

Данііл, нягледзячы на параненую нагу, шпарка імчаўся ў глыб альшаніку, але яго дагналі, звалілі, звязалі бічоўкаю, як бервяно, перакінулі цераз сядло і павезлі да Вячкі. Якаў ехаў следам і бачыў, як моршчыцца рыцар. Гэты Данііл, казалі, у сваім Леневардэне выхваляўся тым, што піў віно з чалавечага чэрапа.

Вячка толькі глянуў на Данііла і адвярнуўся, сказаў:

— Аддаю рыцара літоўцам. Хай прыносяць у ахвяру свайму богу Пяркунасу.

Графа Пірмонта, якога ўзялі ў палон у замку, ён таксама аддаў літоўцам. Пірмонт пачаў быў прасіцца, але Вячка змрочна ўсміхнуўся:

— Я цябе ўжо раз адпусціў з мірам. А ты, граф, зноў прыйшоў. Другі раз я сваіх гасцей не адпускаю. Якава ж князь пахваліў, напомніў:

— Ты хацеў жаніцца з маёй чалядніцай, Якаў Палачанін? Жаніся. Дазваляю. Ты прывёў рыцара Данііла за бараду.

— Рыцар Данііл без барады,— толькі і сказаў Якаў. Аўкштайты тым часам глыбока ўкапалі ў зямлю два дубовыя слупы з перакладзінай, моцна прывязалі да іх каня пад багатым сядлом, ды так прывязалі, што бедная жывёліна хвастом ледзь магла паварушыць, спалохана міргала вялікімі карычневымі вачамі. На сядло ва ўсіх рыцарскіх даспехах пасадзілі Данііла. Ён быў падобны на вялікую бездапаможную ляльку,

быў увесь перакрыжаваны, перавязаны, перацiснуты бiчоўкамi i хаўкаў ротам, як рыба, выкiнутая ў гарачы пясок. Затым па самы пояс рыцара Данiiла абклалi смалянымi карчамi, сухiм ламаччам, веццем. Гэткi ж самы лёс чакаў i графа Пiрмонта. Граф не вытрымаў наблiжэння смерцi, бязгучна заплакаў, буйныя празрыстыя слёзы павольна цяклi па шчоках.

Стары вайдэлот запалiў ад крэсiва трут, потым раздзьмухаў агеньчык, запалiў сухую сасновую галiнку i гэту галiнку, не спяшаючыся, паклаў у велiзарную кучу дроў, якая абкружала рыцара Данiiла. Усхапiлася полымя. Вайдэлот узяў маленькую галавешачку i ўсунуў яе ў дровы каля ног Пiрмонта. Пiрмонт заплакаў на поўны голас.

— Пойдзем адсюль,— сказаў сваiм воям Вячка.

Апошняе, што запомнiлася Якаву,— блiскучыя слёзы ў вялiкiх конскiх вачах. Полымя раўло, гуло, кiдалася да макавак дрэў, трашчала трава, плавiўся пясок, i з гэтага пекла раптам пачуўся рэзкi скрыпучы голас — рыцар Данiiл заспяваў “Багародзiцу”.

З Кукейноса Вячка адразу ж паслаў багатыя падарункi вялiкаму князю полацкаму Уладзiмiру Валадаравiчу: рыцарскiх коней i зброю, рыцарскiя даспехi.

Уладзiмiр за падарункi падзякаваў, i ўсё, зацiх у сваiм Полацку. А з ваколiц Рыгi вiжы кожны дзень даносiлi, што епiскап Альберт збiрае велiзарнае войска для паходу на Кукейнос, што апрача тэўтонаў у тым войску ёсць фрызы i свеi, датчане i бургундцы. “Аж зямля дрыжыць, столькi войска ў епiскапа”,— бляднеючы, казалi лазутчыкi.

Надвячоркам, калi чырвонае сонца садзiлася ў лясы, Вячка паклiкаў да сябе старога сiвабародага чалядзiна Аляксея, якi некалi быў вешчуном.

— Ведаеш, дзе гарыць святы Знiч? — запытаўся ў Аляксея Вячка.

— Служыў святому агню. Ведаю,— адказаў Аляксей, i бясколерныя вочы ўспыхнулi.

— Даю табе лепшага свайго воя, старшага дружыннiка Халадка. Зможаш праз два днi i дзве ночы прывезцi святы агонь у Кукейнос?



— Змагу, але шлях няблiзкi,— прамовiў Аляксей.

Вугалёк радасці гарэў у позірку.
Назаўтра кукейносцы сталі на вечы, і князь Вячка, тройчы пакланіўшыся ўсім, сказаў:
— Добра пагулялі мы ў Леневардэне. Надоўга запомняць тэўтоны кукейноскі меч і зразумеюць, што за кожную нашу слязу патрэбна плаціць сваёй слязою. Толькі так! Мы не трава і не пясок, якія можна таптаць беспакарана. У нас ёсць свая зямля, свой Бог, свая мова. Толькі так! З Рыгі ідзе Альберт. Уладзімір спіць у Полацку. Мы — адны. Альберт, што купаўся ў крыві ліваў і эстаў, хоча пакупацца ў нашай крыві. Ён думае і спадзяецца, што мы схілім свае выі, надзенем на іх ярмо і, стоячы на каленях, будзем сустракаць тэўтонаў. Ніколі палачане не стаялі на каленях! Ніколі не стаялі на каленях слаўныя сыны лэтаў і селаў! — Ён узняў угору кулак, і ўсе глядзелі на кулак у баявой пацёртай пальчатцы.— З дрымучай пушчы імчыцца да нас святы агонь продкаў. Зніч. Заўтра ён будзе ў Кукейносе, і заўтра мы спалім Кукейнос і чорны попел пакінем Альберту. Толькі так! Баяры, вятшыя людзі, забірайце свой скарб і сваіх халопаў, ідзіце ў Полацк і ў Літву. Купцы і людзі рукадзельныя, ідзіце следам за баярамі. А я са сваёй дружынаю таксама пайду, зраблюся князем-ізгоем, буду тут, на берагах Дзвіны, сыпаць тэўтонам вуголлі за пазуху, не дам ім ні спаць, ні піць, буду вычэсваць асінавыя калы для іхніх магіл, не пушчу псоў на Дзвіну, на наш Рубон. Толькі так!
Калі рызышліся мужы-вечнікі, Вячка паклікаў Клімяту Аднарука з Мірошкам, запытаўся:
— Ці гатовы ў дарогу вашы пергамены, вашы летапісы?
— Усё гатова, князь,— пакланіўся Клімята.— Наша срэбра — нашы пергамены. А тое, што любіш, несці няцяжка.
Потым паклікаў Вячка Якава з Кулінаю, сказаў:
— Я помню свае слова, Якаў Палачанін. Заўтра кукейноскай царквы не будзе — згарыць. І пакуль Божы дом цэлы, няхай павянчае вас айцец Сцяпан, а я вып'ю добрага віна за ваша шчасце.
Апошні ж загад, які аддаў Вячка Мірошку і Якаву, шмат каго здзівіў.

— Ідзіце ў лес, выкапайце малады дубок і прынясіце мне,— загадаў князь.
Яны доўга шукалі добрае прыгожае дрэўца, нарэшце знайшлі, асцярожна выкапалі, асцярожна прынеслі ў Кукейнос. Ля гарадскіх варот іх чакаў Вячка. Узяў дубок, пайшоў з ім, трымаў на руках, нібы свайго сына. Адышоўшы сажняў на дзвесце ад Кукейноса, запытаўся ў Якава:
— Не абпячэ заўтрашні агонь дубок, калі мы пасадзім яго на гэтым месцы?
— Не павінна гарачыня дасюль дакаціцца,— сказаў Якаў, прыкінуўшы на вока адлегласць да гарадскіх варот.
Вячка ўзяў лапату, сам выкапаў яму, сам пасадзіў дрэўца, старанна засыпаў карэнні зямлёй, злёгку прытаптаў.
— Расці,— сказаў дубку.— Помні пра нас. Прыйдуць чужыя, усё на свой капыл тут павернуць, а ты нас помні. Вернемся не мы, дык вернуцца нашы нашчадкі,— і пацалаваў халодную пругкую галінку.
Людзі развітваліся з горадам, з жытлом, з магіламі. Не абышлося без слёз, але так бывае заўсёды, калі раптоўная бяда ўздыме народ з абжытага месца, калі здаецца, што гора бязмернае і вось-вось рухне на галаву неба і зямля расчыніцца пад нагамі. Сівабародыя дзяды збіралі ўвесь свой род, і чулася спрадвечнае:
— Сядайце радком, кажыце ладком...
І садзіліся, і гаварылі, і маўчалі...
Апошні свой дзень дажываў Кукейнос. Людзі з усім скарбам, з жывёлаю ўжо выйшлі за гарадскія сцены. Толькі некалькі дружыннікаў засталіся ў горадзе. Яны павінны былі па знаку князя запаліць паходні і кінуць іх у загадзя нарыхтаваныя, аблітыя смалою кучы дроў, якімі былі абкладзены церам, царква, дамы баяр і купцоў.
Вячка з дружынаю ўзышоў на вал, глядзеў туды, адкуль чакаўся святы Зніч. Цёплая раніца прамывала срэбнай расою вочы кветкам. Праменні сонца ляцелі з нябёсаў, разбіваліся аб крыштальную роўнядзь ракі. Нават на вале было чутно, як стракочуць у густой траве няўседы-конікі.
 — Едуць! Едуць! — закрычалі воі. Тры маленькія

кропкі — дзве чорныя і адна чырвоная над імі — паказаліся на небасхіле.
Неўзабаве ўспыхнуў, загарэўся з усіх бакоў Кукейнос. Гудлівае полымя рабіла сваю справу дружна і весела, але невясёлыя былі твары ў людзей, якія з чыстага поля, трымаючы на руках дзяцей, пазіралі на ўсё гэта. Вячка сядзеў на кані, сціскаў у руцэ меч, неадрыўна глядзеў на свой горад. У воблаках дыму, у слупах агню згарала часцінка ягонай душы. Але вочы былі сухія, сэрца білася роўна. Ён сам, уласнай рукою, запаліў свой дом, каб не пусціць у яго ворага. Ён збудуе сабе новы дом, бо ўсё ягонае пры ім — ясная галава, моцныя рукі і вольная воля, дзеля якой не страшна і памерці.
Гарэў Кукейнос...
Побач з князем шумеў малады дубок.

# II

Мінуў не адзін сонцаварот... Шмат разоў мяняўся лёд на Дзвіне і ляцелі вясною гусі на далёкія лясныя азёры. Нарадзіліся немаўляты. Памерлі дзяды. Цякло жыццё — кароткі агеньчык існавання між начных берагоў вечнасці.
У спякотным Рыме аддаў Богу душу папа Інакенцій III, і адразу ж кардыналы ўсчалі між сабой грызню за папскую тыяру, за права быць “рабом рабоў божых”. Ліў Каўпа, адданейшы Каўпа, як называў яго ў сваёй хроніцы Генрых, быў прабіты навылёт кап’ём эста, прыняў тайны цела божага, са шчырай споведдзю выпусціў дух і ўсё сваё дабро завяшчаў рыжскай царкве. Літоўскі князь Даўгерут памёр на халоднай саломе ў тэўтонскай турме. Яго высачылі і схапілі ў той час, калі ён вяртаўся з невялічкай дружынаю з Ноўгарада ў свае лясы.
Тэўтоны прывабілі вялікага князя полацкага Уладзіміра Валадаравіча “вечным мірам”. Так бортнікі прывабліваюць пчалу на талерку з мёдам. Падчас размоў аб міры Альберт прымусіў Уладзіміра адмовіцца ад збору даніны з ліваў. Лівы пачалі плаціць даніну рыжскай царкве. Хоць

запозна, але Уладзімір зразумеў сваю памылку, і калі да яго прыйшлі Вячка са старэйшынам эстаў Лембіту і прапанавалі аб'яднанай сілаю выступіць супроць Рыгі, згадзіўся, пачаў збіраць войска.
Цёплай зеленатраўнай вясною войска сышлося ў стольным Полацку. Уладзімір, вясёлы і рашучы, надзеў баявую кальчугу, шлем, абпаясаўся мячом, узбег на багаты княжацкі струг пад крыкі ўсяго войска, і раптам з горла хлынула кроў. Князь упаў і памёр. Войска, якое ўжо ішло, расцягвалася ў чырвона-сінюю вужаку на правым беразе Дзвіны, спынілася, анямела. Вялікае Біла загрымела ў Полацку. Усіх тэўтонаў і лацінян, якія былі ў той час у Полацку, забілі. Баярына Доўбню схапілі ў Пятніцкай царкве і пасадзілі на палю. Але ў смерці князя ўбачылі нядобры знак нябёсаў, і войска разышлося, растала, як сакавіцкі снег.
Вячку нечаканая смерць князя таксама надоўга выбіла з сядла. Ніколі не сябравалі яны з Уладзімірам Валадаравічам, варагавалі. Уладзімір скінуў з полацкага стальца ягонага бацьку, пастрыг у чарняцы старэйшага брата Васільку. Дзе ўжо было сябраваць? І вось упершыню за доўгія гады зразумелі яны, што павінны стаць пад адзін сцяг, біць агульнага ворага, а вялікі князь узяў ды памёр. Здавалася, нават і цяпер не захацеў стаць саюзнікам Вячкі.
За час, што праляцеў з таго дня, як Вячка спаліў Кукейнос і зрабіўся князем-ізгоем, сівізна прабілася ў яго на скронях, рэзкія маршчыны ляглі на лоб. З дружынаю ў дзве сотні вояў, з княгіняй Дабранегай і трыма яе чаляднікамі, з Клімятам Аднарукам і Мірошкам, якога ўжо даўно звалі Міронам, з Якавам Палачанінам і Кулінай, у якіх ужо нарадзілася двое хлопчыкаў, вандраваў князь па лясах і балотах, то ў Літву знікаў, то на Дзвіну выходзіў і ў тэўтонскіх лоддзях днішчы прасякаў, то ішоў да земгалаў і разам з імі паляваў на рыцараў-мечаносцаў.
Тэўтоны пачалі зваць Вячку шалёным каралём і таксама стараліся ўпаляваць яго, некалькі разоў падсылалі забойцаў. Аднойчы ў гнілым балоце на левым беразе Дзвіны Халадок з воямі выцягнуў з багны страшэнна худога знясіленага чалавека, які

ледзьве дыхаў. Па сівой барадзе ў незнаёмца жвава бегалі сінія балотныя жучкі. Ён ляжаў, заплюшчыўшы вочы, калаціўся ад холаду пад яркім гарачым сонцам. “Жывыя мошчы”,— сказаў пра яго Халадок. І вось калі Вячка прыйшоў глянуць на няшчаснага, нахіліўся над ім, гэтыя “мошчы” раптам выхапілі з-пад бруднай закарэлай кашулі нож, і толькі крыж-складзень, што вісеў на грудзях, выратаваў князя ад немінучай смерці.
— Хто паслаў цябе? — запытаўся Вячка ў незнаёмца, калі таго вялі, каб утапіць у балоце.
— Усё роўна паміраць,— спыніўся, раўнадушна глянуўшы на князя, незнаёмец.— Скажу. Мяне паслаў клірык Генрых з Рыгі. Ведаеш такога? Ён чамусьці вельмі ненавідзіць цябе.
Генрых... Зноў Генрых... Вячка не забыўся пра яго, добра помніў Рыгу, напружаныя вочы маладога светлавалосага свяшчэнніка, якія чагосьці страсна чакалі, помніў дачку Соф'ю, што загаварыла раптам на чужой мове. Як узрадаваўся тады Генрых, якім шчасцем заззяў ягоны твар!
Цяпер Вячка разумеў, што самы галоўны і самы люты ў яго праціўнік — Генрых. Мечаносцы і Альберт хочуць узяць у скораных тубыльцаў зямлю і волю. Генрыху ж гэтага мала — ён хоча забраць душу. “Душу я табе не аддам,— з халоднай рашучасцю думаў Вячка.— Душа ў мяне адна і да скону будзе належаць зямлі, якая мяне ўзгадавала. Я ведаю, чаму ты так ненавідзіш мяне і ўсіх падобных на мяне. Таму, што ты выракся свайго кораня, сваёй веры і мовы, і хацеў жыць спакойна і шчасліва, але раптам убачыў, што ёсць на свеце людзі — і такіх людзей нямала! — якім даражэй за жыццё, даражэй за ўсе зямныя багацці вернасць бацькоўскаму краю. Хай гэты край бедны, хай туманы і дажджы часта засланяюць у ім сонца, але ён родны — і гэтым сказана ўсё. У цябе няма такога краю, ты страціў яго, ты хацеў назаўсёды забыцца пра яго, але ёсць няўмольны голас памяці, голас продкаў, голас крыві. І ён будзіць цябе ўначы, прымушае глядзець на цёмнае неба, на няясныя абрысы воблакаў, што плывуць і плывуць, як маўклівыя караблі, над соннай зямлёй. Што гэта? Хто гэта? Воблакі? Душы

продкаў? Душа тваёй маці, пра якую ты забыўся, стараўся забыцца? Няшчасны чалавек! Ты сам аслеп і хочаш, каб усе аслеплі. Але такога не бывае, бо вочы дадзены людзям, каб глядзець і бачыць. Бачыць сваю маці, сваю зямлю, бачыць сцяжынку, што праз гора і радасць нязменна вядзе да сваёй маці і да сваёй зямлі".

Пасля раптоўнай смерці Уладзіміра Валадаравіча Вячка з дружынаю канчаткова перайшоў на землі эстаў. Было некалькі прычын, каб зрабіць такі выбар. Па-першае тэўтоны, з усяго маху стукнуўшыся аб жалезны полацкі шчыт, зразумелі, што на Дзвіне прайсці на ўсход ім не ўдасца, і дзякуй Богу, што хоць удалося замацавацца ў нізоўі Дзвіны. Усю сілу свайго напору Альберт і мечаносцы перанеслі на эстаў, ваяўнічых, адважных, але разрозненых. Запалаў агонь крывавай жорсткай вайны ў Сакале, Унгаўніі, Віроніі, Сантагане і іншых маакондах[1]. А дзе былі тэўтоны, дзе была вайна, там з'яўляўся і Вячка, нездарма ж у Рызе і ў Рыме яго аб'явілі самым страшным сваім ворагам, шалёным каралём. Па-другое, вельмі блізка сышоўся, пасябраваў князь са старэйшынам эстаў Лембіту і ягоным сынам Меэлісам, якія вялі ўпартую бязлітасную барацьбу супраць тэўтонаў. Малева[2] эстаў разам з дружынай Вячкі не адзін раз ушчэнт разбівала і мечаносцаў, і рыцараў епіскапа Альберта. Але яны, здавалася, былі шматгаловай гідраю — на месцы адсечанай галавы адразу ж вырастала новая, нават дзве галавы вырасталі, і няўмольныя жалезныя шчупальцы зноў лезлі ўперад, крышачы ўсё, што траплялася на дарозе.

У тым самым баі, дзе прабілі кап'ём Каўпа, загінуў і Лембіту. Радасныя тэўтоны адсеклі эсту галаву і ў скураным мяшку павезлі яе ў Рыгу да епіскапа Альберта. У мёртвай галавы вочы былі адкрытыя, і калі галаву паказалі ўсяму капітулу, клірыкі ўздрыгнулі — такая злосць, такая ярасць свяцілася ў мёртвым позірку. Альберт загадаў патаемна ад усіх закапаць галаву Лембіту ў манастырскім садзе.

[1] М а а к о н д — у старадаўніх эстонцаў — зямля.
[2] М а л е в а — войска ў старадаўніх эстонцаў.

Вячка ўжо не мог спыніцца. Дарогі да прымірэння з тэўтонамі не было, ды ён і не шукаў яе, не хацеў шукаць. А тэўтоны шукалі. Некалькі разоў ад Альберта і Генрыха прыязджалі ганцы з прапановаю заключыць ганаровы мір. Альберт абяцаў Вячку, калі той пакладзе меч у похвы, вярнуць Кукейноскае княства. Кукейнос называўся ўжо Кокенгаўзенам, і тэўтоны пабудавалі ў ім каменную цытадэль.
"Ці расце там мой дубок?" — неаднойчы думаў Вячка, калі ноч апускалася на паходны лагер, калі зоркі, як строгія неадступныя вочы, пачыналі глядзець з цёмнага неба на цёмную зямлю. Князь адчуваў і разумеў, што тэўтоны з кожным годам усё больш урастаюць у Лівонію, усё больш мацнеюць і робяцца тым каменем, які не спіхнеш, не зваліш у адзіночку. Мала аднаго пляча. І ён паехаў у Ноўгарад.
Дарога заняла амаль месяц. Князь плыў на ладдзі па нетаропкіх рэках і бурных азёрах. На волаках валачане пад наглядам волацкага цівуна выцягвалі ладдзю з вады на бераг, падклаўшы пад яе дубовыя каткі. Потым ставілі ладдзю на колы — вялізную павозку, у якую былі ўпрэжаны цяглавыя коні,— і везлі да наступнай вады. Цяжка рыпелі колы. Матаючы галовамі, павольна ішлі коні, і хмары аваднёў кружыліся над імі.
Чым далей прабіраліся на поўнач, тым больш халаднелі неба і вада, больш высокімі і пушыстымі рабіліся белыя, падзалочаныя сонцам воблакі. Разам з Вячкам плылі Халадок, Якаў Палачанін, Клімята Аднарук, Мірон — так, той самы Мірошка, але ўжо з прыгожай цёмнай бародкаю — і дзесяць вояў.
Недзе пасярэдзіне дарогі прыбіліся да каравана полацкіх купцоў, дзе было шэсць стругаў, нагружаных велізарнымі шэра-жоўтымі камянямі воску, з якога наўгародскія залатары робяць мадэлі-адліўкі для сваіх будучых вырабаў, вядомых нават у Саксоніі і на Гоцкім беразе,— там іх называюць дзівоснымі.
Павольная рака мякка і няспынна каціла свае хвалі, робячы ў заліўных лугах, у сасновых барах, што высозна ўставалі на пясчаных бледна-залатых стромах, вялікія петлі. Пры набліжэнні такой пятлі стырнавы пярэдняга струга прыкладваў да губ

сурму, і трывожныя, адначасна радасныя і сумныя гукі несліся ўперад, каб папярэдзіць таго, хто мог выплысці з-за павароткі, што яму насустрач ідзе вялікі караван.
Вячка любіў слухаць голас бяссоннай сурмы. Было ў ім нешта ад цягучага крыку мокрай восеньскай птушкі, якая адбілася ад чарады і кружыцца, мітусіцца ў халодным, аж ледзяным небе і губляе пёры, і пёры тыя бязважка падаюць на зямлю з нябеснага змроку, як першы нясмелы снег.
Зямля, вада, святло і вецер плылі насустрач, і не было ім канца — зямлі, вадзе, святлу, ветру. Уздоўж ракі на нізкіх, вільготных берагах часам траплялісся валатоўкі-курганы, што зараслі травой і хмызняком. У тых валатоўках, кажуць людзі, пахаваны вoi велізарнага росту, якія жылі на свеце яшчэ тады, калі зямля была з чыстага срэбра, а рэкі з хмельнага мёду.
Нарэшце прыплылі ў Ноўгарад. На Гарадзішчы, там, дзе Волхаў выцякае з возера Ільмень, Вячка сустрэўся з наўгародскім князем Яраславам Усеваладавічам, сынам Усевалада Вялікае Гняздо, братам вялікага князя ўладзімірскага Юрыя Усеваладавіча. “І тут, як у Полацку, князёў з дзядзінца выгналі, і сядзяць яны за горадам”,— падумаў Вячка.
Яраслаў быў на чатыры сонцавароты маладзей за Вячку, высокі, хударлявы, з учэпістым позіркам невялікіх шэрых вачэй. Ён княжыў у Пераяслаўлі, Разані, Галічы і ўсюды сварыўся з баярамі, адусюль яго выганялі, але потым запрашалі зноў, бо быў ён князем адважным, рашучым, жыцця свайго ў сечы не шкадаваў. Наўгародцы таксама то запрашалі, то выганялі Яраслава. Ён з усім гэтым звыкся і весела сказаў Вячку пры сустрэчы:
— Усяго некалькі сядміц сяджу з дружынаю ў Гарадзішчы. Гайда да мяне, князь.
— Не магу,— адмовіўся Вячка.— Хачу сесці ў Юр’еве, які Яраслаў Мудры, сын Рагнеды Полацкай, заклаў на землях эстаў. Эсты называюць яго Тарпату, а тэўтоны — Дорпат. З-за гэтага і ў Ноўгарад прыплыў, прасіць у цябе, князь, і ў веча наўгародскага дапамогі. Тэўтоны ўкараняюцца на захад ад Чудскога возера, а мы робім туды толькі

набегі. Трэба садзіцца там, караніцца, а то тэўтоны з датчанамі заўтра на Ноўгарад палезуць. Эсты паўсталі на астравах і на мацерыку, і я хачу пайсці ім на дапамогу, але ў мяне мала сілы.
— Без сілы тэўтонаў з ног не зваліш,— уважліва паглядзеў на Вячку Яраслаў.
— Вось і прашу ў цябе, князь, сілы і зброі.
— Зброю дам і дам сваіх дружыннікаў, але няшмат, бо сам на Калывань[1] іду,— адказаў Яраслаў.— А зараз пайшлі, князь, у Спас-Нярэдзіцу Богу маліцца, каб дараваў нам перамогу.
Царква Спас-Нярэдзіца нібы плыла ў сонечных промнях на невысокім узвышшы, аддзеленым ад Гарадзішча ракой Спасаўкай. Сцены, слупы, аркі, купал — усё было пакрыта фрэскамі. Прарок Давід стаяў на поўны рост, сціскаючы ў левай руцэ скрутак пергаменаў. Над ягонай галавой ззяў залацісты німб. Анёлы, здавалася, лёталі над Вячкам. Сорак пакутнікаў цёмнымі вачамі глядзелі на яго. Князь адчуў нясцерпнае хваляванне, застыў побач з Яраславам на каленях, узяў свечку, папрасіў Бога:
— Дай Полацку і Ноўгараду перамогу.
А назаўтра ён стаяў на вечы, кланяўся вялікаму Ноўгараду, і ззяла над ім і над усімі наўгародская Сафія, бронзавыя вароты якой воі-наўгародцы прывезлі з-за мора, калі раптоўным страшным ударам знішчылі ў адзін дзень сталіцу свеяў Сігтуну. На тых варотах выбіты фігуры майстроў-ліцейшчыкаў з абцугамі і вагамі ў руках і напісана: “Рыквін мяне зрабіў”.
З дапамогай Ноўгарада Вячка асталяваўся ў Юр’еве, на высокім пясчаным пагорку, які знаходзіўся сярод балоцістага лугу над ракой Эмайыгі, што азначае на мове эстаў — Мацерка Вод. Князь Яраслаў стрымаў слова — даў Вячку пяцьдзесят сваіх вояў. Тры сотні эстаў прывёў юны Мэліс, які заўсёды хадзіў з лёгкім арбалетам, са скураным тулам, набітым стрэламі.
У Юр’еве, пад ахову гарадскога вала, сышлося з Сакалы і Унгаўніі, з лэцкіх зямель тысячы дзве

[1] К а л ы в а н ь — так наўгародцы называлі Талін.

галоднага шумлівага люду, у большасці сваёй жанчыны і дзеці. Яны спалі проста на зямлі, падаслаўшы саломы, лугавой травы або яловых лапак. Шматлікія кастры дыміліся ў розных месцах, і ад іхняга дыму ў вояў, што круглы дзень стаялі каля забаролаў, слязіліся вочы.

У першыя месяцы Вячка з дружынаю рабіў паходы ў глыб эстонскіх земляў, збіраў зерне, рыхтаваў салёную, вяленую звярыну — галоўную ежу вайны, браў даніну вайпай — грубым трывалым палатном. І ўвесь час адчуваў, што з усіх бакоў ціснe на Юр'еў агромністая неадольная сіла. Тэўтоны пакрысе падбіраліся да Юр'ева. Альберт зрабіў епіскапам Эстоніі свайго брата Германа, кафедру новай царквы асталяваў у Одэнпе, на Мядзведжай Гары. Каб развязаць сабе рукі, тэўтоны прымірыліся з датчанамі. Граф Генрых Шверынскі ўзяў у палон дацкага караля Вальдэмара, і датчане адразу зрабіліся памяркоўнымі, прыслалі на дапамогу епіскапу Альберту сваё войска. Вогненная пастка вось-вось павінна была зачыніцца.

Яраслаў Усеваладавіч амаль чатыры сядміцы прастаяў каля сцен Калывані, якія датчане выклалі з цвёрдага ракушачніку, некалькі разоў хадзіў на прыступ, але толькі зубы зламаў аб Калывань. Злы, стомлены, ён увесь гнеў выліў на сваіх спрадвечных ворагаў, наўгародскіх баяр, кінуў войска, кінуў Ноўгарад і з'ехаў у невядомым кірунку шукаць сваё княжае шчасце. Вячка застаўся адзін. Пад яго ўладаю быў невялічкі шматок зямлі з Юр'евам, усе астатнія мааконды эстаў былі пахрышчаны, прылучаны да Рыгі Альбертам.

Начное жнівенькае неба крэслілі метэарыты, што асабліва густа падаюць у гэты час. Вячка не спаў. Вячка застаўся адзін. Пачыналася яго лебядзіная песня.

У суправаджэнні Халадка і Якава Палачаніна князь узыходзіў на вал, углядаўся ў стылую начную цемень, прыслухоўваўся. Гнятлівая цішыня стаяла наўкол. Гэта цішыня мела тонкія гліняныя ногі, якія вось-вось павінны былі падламацца.

Аднойчы на вал прыйшоў Клімята Аднарук.

— Пішаш летапіс? — запытаўся ў яго Вячка.

— Пішу,— адказаў Клімята.— Хто ж за нас напіша нашы летапісы?
— За нас ніхто не напіша,— згадзіўся Вячка.
Памаўчалі. Яркае невялікае воблака бегла па начным цёмным небе, і ўсе глядзелі на яго.
— У якім баку Полацк? — раптам запытаўся ў Клімяты Вячка.
Кніжнік уздрыгнуў ад нечаканага пытання, падумаў, махнуў рукою:
— Там.
Вячка павярнуўся тварам у той бок, куды паказваў Клімята, доўга ўзіраўся ў цемру. Недзе за валам глуха крыкнула невядомая птушка, якая, пэўна, сядзела на якой-небудзь халоднай купіне пасярод балоцістага лугу. Самотны крык упаў у цемру, як цяжкі камень.
“Аб чым яны зараз думаюць? — глядзеў на сваіх паплечнікаў Вячка.— Я вяду іх на смерць. Здагадваюцца яны аб гэтым ці не?”
— Князь,— ціха прамовіў Халадок,— учора прыйшла сям’я лэтаў з Кукейноса. Яны кажуць, што твая дачка Соф’я абвянчалася з графам Дзітрыхам фон Кокенгаўзенам.
Вячка адчуў, як злёгку закружылася галава, нібы раптоўна ўзляцеў пад воблака і адразу ж пачаў падаць уніз. Ён зняў з дзясніцы баявую пальчатку, асцярожна пагладзіў на пальцы пярсцёнак, сплецены са светлых доччыных валасоў, з дзіцячых валасоў. “У Соф’і валасы за гэты час павінны пацямнець”,— падумаў Вячка.
Дачка выйшла замуж, выйшла за тэўтона. Неўзабаве і сама зробіцца, калі ўжо не зрабілася, тэўтонкай. І дзеці будуць тэўтончыкі.
Вячка сціснуў зубы. Гэта, вядома ж, Генрых стараецца, помсціць, хоча ўдарыць як мага балючэй. За што ён помсціць яму, Вячку? За сябе? За тое, што сам змяніў скуру, змяніў душу, стаў тэўтонам?
— У мяне няма дачкі,— сказаў Халадку Вячка.— Мая дачка памерла, калі ёй было пяць сонцаваротаў.
Кожны дзень па загаду Вячкі воі ўмацоўвалі гарадскі вал глінай, рачным глеем, бярвеннямі і галлём. Жанчыны і дзеці ў навакольных лугах і палях збіралі камяні. Цэлыя горы камянёў ляжалі ўздоўж забаролаў. Збройнікі вастрылі мячы, коп’і,

баявыя сякеры, нашывалі новыя слаі бычынай скуры на шчыты, змазвалі барсуковым тлушчам кальчугі, рабілі тысячы новых стрэл.
У перапынках паміж гэтай цяжкай працаю воям вельмі мала ўдавалася адпачываць, бо Вячка разам са старэйшынам эстаў маладым і маўклівым Мэлісам вучылі іх рукапашнаму бою, вучылі адсякаць канцы штурмавых лесвіц, скідваць на галовы наступаючых бярвенні, агромністыя камяні, гаршкі са смалой і агнём. Лучнікі і арбалетчыкі праз прарэзаныя ў забаролах стралковыя шчыліны вучыліся прастрэльваць кожны сажань зямлі перад Юр'евам. Людскія крыкі і гуд жалеза перакочваліся над горадам.
Толькі ў невялікай халоднай каморцы, дзе Клімята Аднарук пісаў полацкі летапіс, як заўсёды, было ціха. Клімята спяшаўся, хацеў напісаць пра трыццаць полацкіх старых, якія шмат разоў кіравалі горадам, да падыходу тэўтонаў, бо пачнецца бітва, і будзе не да пісання. Мірона ўжо які дзень не было побач — адпрасіўся на вал, узяў кап'ё, надзеў кальчугу і зрабіўся воем. Клімята зайздросціў свайму маладзейшаму сябру, ён таксама б узяў кап'ё, але ж які з яго ваяка з адной рукою? І ён пісаў, пісаў амаль без адпачынку, спальваў свечку за свечкай, якія з княжацкіх пакояў прыносіла Куліна.
У сярэдзіне жніўня ў дзень Успення Прасвятой Багародзіцы велізарныя хмары шэрага пылу заклубіліся ў ваколіцах Юр'ева — епіскап Альберт прывёў з Рыгі сваіх пілігрымаў. Разам з Альбертам прыйшлі рыжскія купцы, бюргеры, мечаносцы з Вердэна, датчане, атрады хрышчаных ліваў і лэтаў. Мноства прыгожых прасторных шатроў з'явілася вакол Юр'ева, якраз на такой адлегласці ад горада, дзе падае, стаміўшыся, страла.
Пачыналася лебядзіная песня Вячкі.
Амаль усе жыхары Юр'ева збегліся на гарадскі вал, глядзелі з трывогаю ў той бок, адкуль ішла да іх бяда. Вячка стаяў разам з усімі, слухаў, аб чым гавораць людзі, і словы іхнія рэзалі яго, як нажы.
— Божае войска прыйшло...
— Тэўтонаў быццам дажджавых кропель — не злічыш...
 — Нашым стрэлам не прабіць іхнюю браню...

— Трэба адчыняць вароты і прыняць хрышчэнне з Рыгі...
— Хай язык распухне і стане затычкай у роце таго, хто сказаў гэтыя словы,— гучна прамовіў Вячка.
Людзі заціхлі.
Пачыналася лебядзіная песня Вячкі.
Ён ужо забыўся, калі спаў. Ноч і дзеньператварыліся ў адзін бясконцы даўжэзны кавалак часу, напоўнены грукатам жалеза, дымам вогнішчаў, пылам, потам, крыкамі вояў, вячэрнімі малітвамі тэўтонаў, што даносіліся з-за вала, іржаннем коней, плачам дзяцей, мігценнем высокага пякучага сонца, якое белымі цяжкімі промнямі страляла з распаленага неба. Потым да ўсяго гэтага дабавіліся глухія ўдары сякер — тэўтоны валілі сосны і будавалі з іх асадную вежу.
Пачыналася лебядзіная песня Вячкі.
Нейкім цудам прарваўся ў Юр'еў праз тэўтонскія шатры ганец з Суздаля ад вялікага князя Юрыя Усеваладавіча. Быў ён маленькі, вастраносы, але з аглушальным і рэзкім, як удар грому, голасам.
— Як мядзведзя цябе, князь, абклалі з усіх бакоў,— сказаў ганец.— Устаіш?
— Не здамся тэўтонам, буду чакаць падмогі з Ноўгарада і Суздаля,— стомлена глянуў на яго Вячка.
— Спадзявайся на Бога і на праўду, князь,— сказаў ганец.
Восем дзён будавалі тэўтоны асадную вежу з тоўстых высокіх соснаў, якія былі перавернуты каранямі ўверх. Пад аховаю вежы паставілі каменямётныя машыны і пачалі абстрэл гарадскога вала. З грукатам ударылі першыя камяні аб забаролы. Некаторыя дубовыя частаколіны былі ўмомант зламаны, скрышаны.
Воям, якія абаранялі забаролы, пяском заляпіла вочы, аднаму эсту камень зламаў нагу. Вячкавы воі адказалі яраснай стралянінай з лукаў і арбалетаў. На тэўтонаў з вала пасыпаліся камені, гаршкі з агнём.
— Што будзе з намі заўтра, князь? — запытаўся ў Вячкі Якаў, які разам з усімі адбіваў наступ тэўтонаў. Вячка глянуў на яго, строга сказаў, варухнуўшы цёмнымі бровамі:

— Жыві тым, што ёсць. Прыспешваючы заўтрашні дзень, мы набліжаем да сябе змрок магілы.
Вячка сціснуў баявую сякеру, захліснутую скураной пятлёй на руцэ.
Пачыналася лебядзіная песня Вячкі.
На забаролах было сапраўднае пекла. Тэўтоны ярасна лезлі на вал. Здавалася — яшчэ напор, яшчэ адзін узмах мяча, і рухне абарона. Але акружаны горад стаяў цвёрда, мужна, стаяў да канца.
Сонца няшчадна пякло з вышыні. Воі абліваліся потам, вусны ў іх патрэскаліся. Усе з надзеяю глядзелі на неба — хоць бы кропельку вады паслала яно. Але неба свяцілася, палымнела гарачым блакітам, і ніводнай хмаркі не было над зямлёю.
Вячка таксама пакутаваў ад гарачыні, ад задухі. Востра і неадчэпна ўспаміналася яму дзяцінства. Тады карміцелька Маланка (“баба-неўміруха”, як казала яна пра сябе) выводзіла маленькага княжыча з церама пад дождж, пад грымучую навальніцу. Ён стаяў з вялізным драўляным кубкам у руках і чакаў, пакуль гэты кубак напоўніцца да краёў дажджавой вадою, навальнічнай вадою.
— Пі навальнічную ваду, і будзеш дужы, адважны, спрытны, як Усяслаў Чарадзей,— навучала Вячку Маланка.
Дождж сек па плячах, па твары. Дрэвы, што раслі на двары церама, купаліся ў ліўні. А маленькі Вячка цярпліва стаяў пад грымотным небам, пад маланкамі і потым, да самага дна, піў з кубка халодную навальнічную ваду, піў вялікімі мужчынскімі глыткамі. Ён адчуваў, як сіла і цвёрдасць уліваюцца ў кожную жылку.
“Паўжыцця аддаў бы за глыток навальнічнай вады”,— падумаў Вячка і спусціўся з забаролаў уніз, туды, дзе ў нішы гарадской сцяны ляжалі параненыя воі. Амаль усе жанчыны Юр’ева былі тут — перавязвалі, паілі вадою, суцяшалі параненых. Была тут і княгіня Дабранега. Вячка ўсміхнуўся ёй здалёку, але не падышоў да яе, падышоў да сівабародага воя, у якога па самае апярэнне засела ў грудзях страла. Вой цяжка, з натугаю дыхаў.
— Баліць? — спытаўся ў яго Вячка.
 — Баліць,— перасмяглымі вуснамі выдыхнуў

вой.— Але выцягваць стралу нельга. Выцягнуць — адразу Богу душу аддам.
— Цярпі, вой,— сказаў Вячка, нахіліўся і пагладзіў яго па шчацэ. Вочы ў параненага ўспыхнулі, засвяціліся, ён хацеў нешта сказаць, ды не змог, сціснуў руку ў кулак, вырваў з зямлі некалькі тонкіх зялёных травінак.
"Я вяду іх на смерць",— думаў Вячка, слухаючы стогны сваіх параненых вояў. Яны заўважылі князя. З усіх бакоў пацягнуліся да яго, як да свечкі, рукі, вочы.
— Вячка! Князь Вячаслаў! — чулася наўкол.
Ён стаяў сярод іх, і сэрца трапятала ад смутку і радасці. "Каб я мог,— думаў ён,— навальнічную ваду ўсіх нябёсаў я аддаў бы ім, сваім харобрым, сваім верным воям. Я напаіў бы навальнічнай вадою ўвесь свой народ. Мой народ! Якая моц, якая адвага і цярплівасць жыве ў ім!"
Ён хадзіў паміж параненых, заглядваў кожнаму ў твар, некаму ўсміхаўся, некага суцяшаў. Ён адчуваў, як зноў напаўняецца сілай паміж гэтых знявечаных, бяссільных людзей.
"Якім словам нашчадкі ўспомняць мяне, маіх вояў? — думаў Вячка.— Што скажуць пра нас? Я, як і ўвесь мой народ, жыў у вечных баях. На ўдар мы адказвалі ўдарам, не скарыліся нікому, ні перад кім не схілілі галаву. Такі народ не памірае. Я шчаслівы, што жыў і жыву з такім народам. Я шчаслівы, бо я чуў крык ваўкалака над Дзвіной".
Ён паспяшаўся да сівабародага воя, які ўжо канаў, сказаў яму:
— Давай пабратаемся з табою.
Зняў свой нацельны крыж, павесіў на шыю вою, а ягоны — на шыю сабе.
— Вось мы і братанічы з табою,— усміхнуўся Вячка,— Цяпер і паміраць не страшна.

У гэты самы час Генрых сядзеў у шатры Альберта, слухаў шум бою і пісаў у сваёй хроніцы: "І сабраліся ў замак Дорпат да караля Вячкі ўсе ліхадзеі з суседніх земляў і Сакалы, здраднікі, братазабойцы, забойцы брацціяў-рыцараў і купцоў, завадатары злых змоў супраць лацінскай царквы.

Галавой і мозгам іхнім быў усё той жа кароль Вячка, бо і сам ён даўно стаў коранем усялякага зла ў Лівоніі".

Генрых стаў, пачаў нервова хадзіць па шатры. Гукі бою ўзмацняліся, пагрозліва насоўваліся, наплывалі на шацёр. "Хто пераможа — я ці ён? — думаў пра Вячку Генрых.— Я ці ён?" Разбалелася галава. Гэтак здаралася ўжо не аднойчы, але сёння боль быў асабліва нясцерпны, востры, нібы кроплі расплаўленага свінцу лілі проста на мозг. Вядома ж, ён ператаміўся, пішучы сваю хроніку, трэба было б адпачыць, але ж чакае Альберт, чакае ўся рыжская царква. Хіба можна не спраўдзіць іхняе чаканне?

У шацёр увайшоў манах у цёмнай рызе з капюшонам. Генрых кінуўся да яго, усхвалявана запытаўся:

— Ты бачыў Вячку? Гаварыў з ім?

— Бачыў і гаварыў, як бачу і чую цябе,— адказаў манах.— Кароль адмаўляецца пакінуць Дорпат. Ён нават не стаў мяне слухаць і прыгразіў, што загадае сваім слугам шпурнуць мяне з вала галавою ўніз.

— Ты казаў каралю, што мы захаваем яму жыццё, шчодра яго ўзнагародзім, калі толькі ён пакіне гэтых адступнікаў-эстаў з Меэлісам? Што мы дадзім яму коней на дарогу да Полацка або Ноўгарада — у любы бок, куды ён пажадае.

— Кароль сказаў, што эсты — яго браты, ■ братоў у бядзе не кідаюць.

— Шалёны кароль,— разгублена прамармытаў Генрых.— Шалёны кароль...

Ён сціснуў скроні, бо жорсткі боль з нечуванай сілаю ўспыхнуў у галаве.

— Табе дрэнна, святы айцец? — пачціва запытаўся манах.

— Ідзі,— млява махнуў рукою Генрых. Калі манах выйшаў, ён лёг проста на затаптанае грубае палатно, якім быў засланы шацёр. Боль паступова слабеў, змяншаўся. Ужо гарошынка болю перакочвалася ў галаве, але і яна супакоілася. "Божа, не дай мне звар'яцець,— думаў Генрых.— Няхай звар'яцее Вячка, твой і мой вораг". Ён узняўся з падлогі, зноў паклікаў манаха і, калі той увайшоў, запытаўся:

— Ці гатовы княжацкія стрэлы?

— Гатовы,— адказаў манах.— Мы зрабілі дзесяць штук.
— Пакажы.
Манах паспешліва выйшаў з шатра і неўзабаве вярнуўся са стралой у руках, асцярожна падаў яе Генрыху. Гэта была звычайная тэўтонская страла з жалезным наканечнікам, сотні якіх несліся зараз на забаролы Дорпата. Толькі каля апярэння была навязана кароткая чырвоная стужачка. Ды Генрых ведаў, што гэтая страла не абы-якая — наканечнік у яе быў густа змазаны атрутай.
— Аддай стрэлы нашым самым трапным арбалетчыкам і няхай страляюць імі толькі ў Вячку,— сказаў манаху Генрых. Ён памаўчаў і зноў паўтарыў: — Толькі ў Вячку. Калі яго не бярэ божае слова, дык возьме божы гнеў. Ён жа не дужа хаваецца?
— Кароль Вячка — адважны рыцар,— сказаў манах.— Ён не туліцца за спіны свайго войска.
У гэтых словах Генрых улавіў як бы прыхаваную насмешку над самім сабой, што сядзіць у шатры ў той самы час, калі ісцінныя сыны лацінскай царквы пад градам камянёў і стрэл, пад ручаямі пякучай смалы ідуць на варожы вал.
— Забіце Вячку! — раптам закрычаў Генрых.— Забіце і прынясіце мне яго галаву!
Злосць, якую ён старанна хаваў ад староннiх вачэй, здаецца, разломвала грудную клетку, раздзірала на кавалкі сэрца. Ён і сам здзівіўся — колькі, аказваецца, жыве ў ім злосці!
У сваім шатры епіскап Альберт сабраў усіх военачальнікаў. Прыйшлі Фрыдрых і Фрэдэгельм, суддзя пілігрымаў Герберт, брат Альберта Іаан. Усе толькі што ўдзельнічалі ў штурме Дорпата, яшчэ гарачы пот ззяў на скронях, яшчэ пахлі дымам белыя плашчы, а ў Фрэдэгельма смалой, якую лілі дружыннікі Вячкі з вала, была абпалена шчака, і ён ад вялікага болю кусаў губы.
— Сыны лацінскай царквы гінуць ад рук вераадступнікаў, ад рук слуг сатаны,— са скрухаю сказаў Альберт.— Давайце памолімся за супакой іхніх душ.
Усе апусціліся на калені, пачалі маліцца, потым суддзя пілігрымаў Герберт усклікнуў:

— Трэба ўзяць замак прыступам, з бою і адпомсціць ліхадзеям на страх іншым. Кожнага, хто з нашых першы ўзыдзе на вал, мы праславім, дадзім яму лепшых коней і лепшага палоннага з тых, што возьмем у замку, акрамя караля Вячкі, якога ўзнясем над усімі, павесіўшы на самым высокім дрэве.

Усе, хто быў у шатры, з ухвалою заківалі галовамі.

Пачыналася лебядзіная песня Вячкі.

Асадную вежу, якая ўзвышалася ўпоравень з гарадскім валам, насунулі на роў і пад яе прыкрыццем пачалі рабіць падкоп. Палову свайго войска кінуў Альберт на падкоп. Уразаліся ў цвёрдую халодную зямлю ўдзень і ўначы. Адны капалі, другія ў плашчах, у скураных мяшках і лазовых кошыках, поўзаючы ракам, выносілі з падкопу зямлю.

У Юр'еве ўсе чулі, як скрыгочуць тэўтонскія рыдлёўкі ў тоўшчы гарадскога вала. Здавалася, скрыгоча зубамі сама смерць.

— Праклятая вежа! — усклікнуў Мэліс і стрэліў з арбалета.

— Трэба падпаліць яе,— сказаў Вячка.— Клічце сюды Халадка і Якава Палачаніна.

Зрабілі вялізныя драўляныя колы, напоўнілі іх пакуллем, смалой, падпалілі і пусцілі з вала проста на вежу, увесь час кідаючы зверху ў агонь сухія дровы, якія падносілі жанчыны і дзеці. Вежа пачала загарацца, але тэўтоны ў латах, ахвяруючы сабою, рынуліся да падножжа вежы, разламалі, пасеклі колы, патушылі полымя. Град камянёў і стрэл паляцеў на тэўтонаў, некалькі дзесяткаў іх загінула, ды вежа ацалела і, як бязлітасны Галіяф[1], стаяла поруч з гарадскім валам.

— Пачакай, мы цябе ўсё-такі падсмажым,— пагразіў Халадок вежы кулаком і налёг плячом, разам з Якавам, Міронам і некалькімі эстамі пачаў спіхваць з вала яшчэ адно кола. Яно як бы з неахвотаю кранулася з месца. Зарыпеў гарачы абвуглены пясок, узвіўся бела-шэры попел. Вось кола пачало набіраць ход, і раптам Халадок ці то паслізнуўся, ці то страціў раўнавагу ад гарачыні і

---

[1] Г а л і я ф — у біблейскай міфалогіі воін велізарнага росту.

вышыні, але здарылася жахлівае і непапраўнае — кола схапіла старшага дружынніка за крысо абпаленага плашча, падмяла пад сябе і пакацілася ўніз, у агонь, у смуродлівы дым.

— Халадок! — закрычаў Мірон.— Халадок!

Ён адчуў, як падкошваюцца калені, і апусціўся на вал каля разбітых, раструшчаных тэўтонскімі камянямі забаролаў. Ён успомніў далёкі-далёкі дзень, хатку, у якой хаваўся ад ваўкоў, паміраў з голаду, і вясёлага, дужага, сінявокага воя, што пад'язджаў да хаткі, накалоўшы на кап'ё воблака.

— Халадок! — зноў крыкнуў Мірон і заплакаў.

Падбег Вячка. У руцэ — меч, шлем з'ехаў набок, і пасма спатнелых светлых валасоў прыклеілася да смуглага лба.

— Дзе Халадок? — запытаўся ў Мірона Вячка.

Мірон усхапіўся з зямлі, паказаў рукою ўніз, у полымя і дым.

— Там.

— Э-эх...— толькі і сказаў Вячка. Пачаўся страшэнны грукат. Гэта тэўтоны ішлі на прыступ, ударaючы ў літаўры, б'ючы мячамі аб шчыты.

— Рубон! — закрычаў Вячка.— Усе на вал!

Але смерць у той дзень абмінула Халадка. Усе, хто абараняў Юр'еў, думалі, што старшы дружыннік загінуў, згарэў ля падножжа тэўтонскай вежы, а ён ацалеў, трапіўшы ў палон да Альберта. Наступнай раніцаю тэўтоны прыкруцілі Халадка ланцугамі да самага верху штурмавой вежы, хаваючыся за яго плячамі, стралялі ў абаронцаў гарадскога вала з арбалетаў. Так яны рабілі з усімі палоннымі ў час аблогі гарадоў.

Параненай знясіленай птушкай павольна падплываў разам з тэўтонскай вежаю Халадок да вала, які абаранялі ягоныя баявыя сябры. Палачане, наўгародцы і эсты спынілі страляніну, з вялікім шкадаваннем глядзелі на свайго няшчаснага скрываўленага, абпаленага пабраціма. Некаторыя плакалі. Вялікая пакута была ў тым, што побач, за некалькі дзесяткаў локцяў ад цябе, канаў суайчыннік, і нельга было яму памагчы. Халадок не захацеў, каб сум і слабасць прынесла яго смерць, гучна, на ўсе грудзі засмяяўся.

— Браты! — закрычаў у свой апошні міг Халадок.— Высока я лётаю і далёка бачу! Стаіць наш Полацк і вечна будзе стаяць! І ніколі не звядзецца наш род! І сонца будзе цалаваць нашу зямлю! Бывайце, Мірошка і Клімята! Біце з лукаў — не шкадуйце мяне! Хутчэй біце!
Тэўтон, гыхнуўшы, размашыста ўсадзіў яму між лапатак востры гарачы корд.
— Біце...— прашаптаў Халадок, і галава ўпала на грудзі.
Зноў закіпела лютая сеча. Ніхто сябе не шкадаваў — ні палачане з наўгародцамі і эстамі, ні тэўтоны. Дым выядаў вочы. Мёртвыя ляцелі з вала ў агонь і там згаралі. Доўгую лесвіцу, якую тэўтоны, лезучы ўверх, абвілі сваімі целамі, Якаў, Мірон і Мэліс, напружыўшы ўсе сілы, адпіхнулі ад вала, і яна, устаўшы на нейкае імгненне дыбком, цяжка рухнула, знікла ў віхуры агню. Толькі чырвоныя вугалі пырснулі ва ўсе бакі.
Тэўтоны, як шалёныя, лезлі на вал, ды там сустракалі іх мячы і коп'і, рогвіцы і шастапёры, камяні і дубіны, сякеры і кісцяні. На іх лілі смалу, кідалі гаршкі з агнём, бярвенні, трупы іх жа рыцараў, якія ўзабраліся на вал, але адразу ж былі там пасечаны. Крыкі, стогны, апошні чалавечы хрып, рэзкія гукі тэўтонскіх літаўраў, шум агню, свіст мячоў і стрэл спляліся ў велізарны вогненны клубок, напоўнены болем, пакутай і смерцю. Напор тэўтонаў мацнеў, здавалася, вось-вось яны зломяць супраціўленне абаронцаў вала, ды раптам над аглушальнай нямоўчнай рознагалосіцай бою ўзвілася песня:

Вядзі нас на сечу, святая Сафія!
З табой пойдзем мы па агні і па багне.
Архангелы стрэлы дадуць залатыя,
Каб звера змагчы, што крыві нашай прагне.

Мужчынскі звонкі голас рашуча паляцеў над валам, дзе абліваліся крывёю параненыя, дзе мёртвыя ўсё яшчэ сціскалі гарачыя мячы.

Мацуй сваіх вояў, святая Сафія,
Няўрымслівых тураў і сокалаў мужных.
Няхай Палата нашы раны абмые,
Калі мы ўпадзем ад мячоў харалужных.

— Хто спявае? Хто спявае? — слухаючы песню, пыталіся адзін у аднаго воі.
— Клімята Аднарук спявае,— весела сказаў Якаў і крыкнуў Клімяту, які стаяў з непакрытай галавою каля забаролаў, падыгрываючы сабе на гудку:
— Далёка наша Палата, Клімята!
Клімята здалёк заўважыў яго, мацней ударыў смыком па струнах гудка, адказаў:
— Няпраўда, Якаў Палачанін. Дзе мы стаім, там і наша Палата цячэ.
І на гэты раз не хапіла тэўтонам сіл, пакаціліся яны з вала. На тым і бой замоўк, толькі воблака чорнага дыму вісела над Юр'евам. Кветкі, прытаптаныя ў ваколіцах Юр'ева нагамі пілігрымаў і мечаносцаў, палахліва ўздымалі з зямлі галоўкі, азіраліся наўкол, быццам хацелі даведацца, ці доўга яшчэ людзі будуць забіваць людзей.
Ноч апусцілася на Юр'еў. За валам і каля вала гарэлі вогнішчы. Ніхто не мог заснуць. Хіба можна было спаць, калі за плячамі кожнага стаяла смерць, калі зоркі густа падалі з неба? І тады зайгралі палачане на гудках і цымбалах, а тэўтоны ўдарылі ў літаўры, задудзелі ў дудкі. І пачалі танцаваць знясіленыя людзі каля вогнішчаў, каб узбадзёрыць сябе.
Вячка стаяў, прысланіўшыся спінаю да абсмаленых частаколін забаролаў, зняўшы цяжкі шлем. Глуха крыкнула за валам невядомая начная птушка, нібы паклікала яго. Кожную ноч ён чуў яе трывожны самотны голас, хоць наўкол ва ўвесь дух ігралі гудкі і дудкі. Здавалася, яна крычыць толькі для яго. Дзе жыве гэтая птушка? Якое ў яе гняздо? Пабегчы б за ёй, скаціўшыся з вала, у начны туман, у лугі і лясы і зноў зрабіцца малым, каб росны лазовы куст пудліва дакрануўся да шчакі, апёк яе дрыготкім холадам. Паляцець бы, як гэтая птушка, далёка-далёка адсюль, ад крыві і смерці, і апусціцца на ціхім лясным азерцы каля Друцка, дзе светлыя хвалі варушаць сонны чарот і месячныя промні начуюць у яловым гушчары. Не паляціш! Нельга. Са сваёй дружынаю ён пойдзе да канца, да самага канца...
Вячка заснуў, сціскаючы у руцэ меч, і цераз вал пераляцела светлапёрая вогненнавокая птушка, села

яму на грудзі, запыталася мяккім пяшчотным голасам:

— Дзе ты, мой князь?

Ён зняў баявую пальчатку, асцярожна, заміраючы сэрцам, пагладзіў абсыпаныя бліскучымі кроплямі расы пёры. Птушка ўздрыгнула, сціснулася ў камячок, зноў запыталася:

— Дзе ты, мой князь?

Вячка прахапіўся, адштурхнуўся спінаю ад забаролаў, напружыў зрок. Дабранега хілілася над ім, ласкава трэсла за руку, што сціскала меч. Зорнае бяздоннае неба развіналася, нібы крыллі, у яе за плячамі.

— Дзе ты, мой князь? — шаптала Дабранега.— Забыўся пра мяне... Днюеш і начуеш тут... Пойдзем са мной у святліцу... Адпачнеш... Пойдзем...

Яна, як малога, узяла яго за руку, павяла, і ён паслухмяна пайшоў за ёю. Воі, што танцавалі каля вогнішчаў, віталі яго крыкамі, але ў гэтых крыках ён адчуваў сум і стомленасць.

— Спіце. Годзе танцаваць,— сказаў ім Вячка.— Беражыце сілы для заўтрашняга бою.

Увайшлі ў святліцу. Велізарная мядзведжая шкура ляжала на падлозе. Месяц асцярожна заглядваў у акно. Здавалася, прастора наўкол была запоўнена, заліта блакітнай і срэбра-зялёнай вадою, і яны паплылі ў гэтай вадзе, як плывуць побач па бязмежным небе дзве начныя зоркі.

— Кахаю цябе,— шаптала Дабранега.— Кахаю цябе, Вячка... Помніш, як вясною ў Кукейносе ты паплыў ноччу па Дзвіне, каб сарваць для мяне белыя лілеі? Помніш, лада мой?

— Помню,— ціха адказваў Вячка.— Ніколі не забуду...

— Помніш, як мы трапілі з табою у лузе пад дождж, як сушыліся каля цяпельца, а потым забраліся ў стог сена і так моцна пахла медуніцай?

— Помню... Ніколі не забуду...

Ноч плыла над Юр'евам. Апошняя іхняя ноч. Месячная, прамяністая, юная...

— Дай мне свежую нацельную кашулю,— сказаў Вячка Дабранезе, калі яны прачнуліся, ляжалі на мядзведжай шкуры і промень сонца драмаў у Дабранегі на шчацэ.

Княгіня заплакала.
— Не плач,— сказаў Вячка.— Табе не трэба плакаць...
— Няўжо Ноўгарад не прышле падмогу? — з надзеяй глянула на мужа Дабранега.
— Не ведаю... Позна... Мы засталіся адны... Але не трэба думаць пра гэта. Дай мне кашулю і давай развітаемся з табою, бо там, паміж людзей, нам не ўдасца гэта зрабіць.
Ён моцна абняў і тройчы пацалаваў Дабранегу.
— Я быў шчаслівы з табою ў гэтым жыцці. Дзякуй табе за ўсё. Дай Бог, каб мы сустрэліся ў будучым жыцці, на нябёсах... Дзякуй яшчэ раз... І бывай... Назаўсёды бывай...
— Князь,— заплакала Дабранега.— Князь... Я кахаю цябе... Я баюся... Не пакідай мяне адну...
— Пайшлі на вал,— паклаў ёй руку на плячо Вячка.
Зноў тэўтоны ўдарылі ў літаўры, зноў каменямёты пачалі біць пудовымі валунамі па гарадскіх варотах, зноў з асаднай вежы ляцелі ў Юр'еў стрэлы арбалетчыкаў, бочкі са смалой і агнём. Гэта быў страшны бой. Ніхто не адступаў. Ніхто не прасіў літасці. Загінуў юны эст Мэліс, рассечаны ад правай ключыцы да пояса вялізнай сякерай мечаносца Фрэдэгельма. Але і Фрэдэгельма наскрозь пранізаў кап'ём Якаў Палачанін.
Каля забаролаў паміж агню і дыму скрыжавалася жалеза з жалезам, рука з рукой, сіла з сілаю, адвага з адвагаю. І зноў не вытрымалі тэўтоны — у які ўжо раз пакаціліся ўніз, а следам за імі, б'ючы іх па спінах і галовах, ляцелі бярвенні, камяні, гаршкі з агнём. Следам за імі ляцела песня Клімяты Аднарука:

Вядзі нас на сечу, святая Сафія...

Клімята ўвесь час быў на гарадскім вале, абпаліў шчокі, сарваў голас, але вочы глядзелі радасна. Убачыў Мірона, закрычаў:
— Мірошка, хадзі сюды!
Мірон падбег, стаў насупраць, абапёршыся на кап'ё.
— Добра ваюеш,— сказаў яму Клімята.— Але паберажы сябе, бо аддаю я табе полацкі летапіс, жыццё сваё аддаю, зразумеў?
І ён пачапіў Мірону на плячо цяжка напакаваную

скураную торбу, абшытую па краях бліскучым дротам.
— Там летапіс? — глянуў на Клімяту, задыхнуўся ад хвалявання Мірон.
— Летапіс. Беражы яго, як сэрца берагуць, як вока берагуць. Маё і тваё жыццё ў ім... І жыццё іхняе,— ён шырока павёў рукою, паказаў на Вячку, на Якава Палачаніна, на залітых потам, засыпаных сажай вояў, што рыхтаваліся адбіваць яшчэ адзін — шосты за дзень! — наступ тэўтонаў.
Зноў тэўтоны пайшлі на штурм. Арбалетчыкі няспынна абстрэльвалі вал, не давалі нікому высунуць галаву. Страла ўдарыла Клімяту Аднарука ў шыю, прабіла горла, ён упаў, захлынаючыся крывёю, і ў той жа міг брат епіскапа Альберта Іаан і ягоны слуга Пётр з паходнямі ў руках узбеглі на вал, і Пётр, наступіўшы нагою, раструшчыў Клімятаў гудок. Вячка ўдарыў мячом, і галава Пятра пакацілася з вала.
— Рубон! — крыкнуў Вячка. Палачане, наўгародцы і эсты, жанчыны і хлапчукі-падлеткі, усе, хто быў яшчэ жывы, з вялікай ярасцю рынуліся на тэўтонаў. Іаана пасеклі на кавалкі. Такі ж лёс напаткаў трох рыцараў мечаносцаў, якія, узбегшы на вал, пачалі махаць сякерамі, рабіць праходы ў забаролах.
Увесь гэты час Генрых не знаходзіў сабе месца. Не вытрымаў, вырваўся з шатра, каля самага вала ўбачыў знаёмага манаха, таго самага, якому даў атручаныя стрэлы, моўчкі схапіў у яго лук, стрэліў у Вячку, што ў раскрыленай барвяніцы сек і сек мячом. Страла праляцела побач з князем. Генрых кінуў лук, закрыў твар гарачымі рукамі, пабег назад у шацёр.
Вячку адсеклі левую руку, ён пахіснуўся, пабляднеў. Да яго падскочыў Якаў, закрычаў:
— Князь, давай я цябе знясу з вала! Кроў табе зялейнікі спыняць.
— У мяне ёсць яшчэ адна рука, Якаў Палачанін,— сашчапіўшы зубы, адказаў Вячка і з усяго маху ўдарыў мячом кнехта, які бег са штурмавой лесвіцай. Яны ўпалі разам — кнехт і князь. Вячка паспеў прашаптаць Якаву:
— Меч... Мой меч вазьмі!..

Якаў схапіў меч, а наўкол грымела лютая сеча,

свісталі стрэлы, палалі забаролы, і нечы тонкі, амаль дзіцячы голас крыкнуў з невымерным адчаем і болем:
— Ой, мамачка!
Епіскап Альберт увайшоў у паходную капэлу, стаў на калені перад распяццем Хрыста, пачаў горача маліцца. Плашч у епіскапа быў разарваны, прапалены ў некалькіх месцах. Епіскап убачыў Генрыха, узняўся з зямлі, радасна сказаў:
— Дорпат ляжыць каля нашых ног. Чуеш, сын мой? Мы перамаглі! Эстонія наша!
— А дзе кароль Вячка? Прывялі яго сюды з вяроўкай на шыі? — перарваўшы епіскапа, запытаўся бледны Генрых.
— Вячка загінуў,— шырока ўсміхнуўся Альберт і перахрысціўся.— Вячка ляжыць каля забаролаў. Мы перамаглі.
— Ён перамог! Ён перамог! — раптам закрычаў Генрых і з ліхаманкавым бляскам у вачах пачаў бегаць каля алтара. Альберт з вялікім здзіўленнем паглядзеў на яго, падышоў да свайго любімага вучня, паклаў яму руку на лоб, сказаў з бацькоўскай цеплынёю:
— Табе кепска, сын мой? Ідзі адпачні і працягвай пісаць хроніку. Няхай нашчадкі даведаюцца аб нашай перамозе і праслаўляць нас.

# III

Чорны дым, як навальнічная хмара, стаяў над Юр'евам. Здавалася, у прыроды не хапала ветру, не хапала сілы, каб спіхнуць яго з месца. Прырода, як і людзі, знясілела і аглухла пасля цэлага месяца лютай сечы. Невераrоднай цішынёй поўніліся неба і зямля. Але вось пайшоў, ціха залопаў па абгарэлай траве, па чорных вугалях нетаропкі восеньскі дождж. Першыя кроплі ўпалі на раку, па якой некалькі дзён запар плылі забітыя людзі.
На рачной строме, што густа зарасла ляшчыннікам і бярэзнікам, раптам зашалясцела трава, зверху ўніз пацяклі струмені пяску. Прабіваючы сабе дарогу рукамі, плячамі, усім целам, са звярынай нары, якой

заканчваўся падземны ход, асцярожна выпаўз Якаў, цягнучы за сабой Усяславаў меч. Аддыхаўся, абтросся ад пяску, нахіліўся, стоячы на каленях над нарою, гукнуў:
— Мірон, трымай руку.
Праз нейкі час на белы свет вылез Мірон, моцна прыціскаючы да грудзей вялікую скураную торбу з полацкім летапісам. Сеў на траву, заплюшчыў і расплюшчыў вочы, здзівіўся:
— Дождж на рацэ шуміць...
— Меч Усяславаў жыве. Слова наша жыве. Пойдзем,— сказаў Якаў, і яны пайшлі туды, дзе чырванелася між хмараў сонца — на ўсход.

## СЛОВА НА РАЗВІТАННЕ

Паклон вам, прашчуры!
Вось і надышоў час развітвацца з вамі. Вы пайшлі, вы зніклі ўдалечыні, а я застаўся...
Сонечным светлым днём стаю каля полацкай Сафіі. Нядаўна ў саборы пасялілася музыка. Узнёсла і высакародна гучыць "Полацкі сшытак", які трыста гадоў назад слухалі і любілі нашы продкі. Толькі нядаўна нотныя запісы знайшлі ў Кракаве, і музыка вярнулася на Радзіму.
З хваляваннем і гордасцю думаю я, што не зганьбілі меч Усяславаў сыны нашай зямлі. Бязлітасна біў ён ворагаў на рацэ Нёман і на Чудскім возеры, на полі Куліковым і пад Грунвальдам. Яго ўзнімалі і Давыд Гарадзенскі, і Андрэй Полацкі, і іншыя беларускія героі.
Паклон ім!
Падыходжу да сцяны Сафіі, асцярожна кратаю яе рукою, быццам выпрабоўваю сцяну на цвёрдасць і ўстойлівасць.
Калісьці да гэтай сцяны бег з баярскай няволі Якаў Палачанін. Калісьці князь Вячка прасіў у яе моцы. Вечная сцяна... Вечныя людзі, што жылі і жывуць у гэтым горадзе, на гэтай зямлі.
Прысланяюся плячамі да сцяны, адчуваючы яе шурпатасць. Наперадзе — бязмежны абсяг Дзвіны, чайкі, людскія ўсмешкі. За плячамі — сцяна, гісторыя, продкі...
Паклон табе, родная зямля!

# ЗМЕСТ

**Дайнека Л.**

Д 14 Меч князя Вячкі: Раман: Для ст. шк. узросту/ Маст. У. Лукашык.— Мн.: Юнацтва, 2000.— 335с., іл. л.

ISBN 985-05-0446-3.

**У рамане "Меч князя Вячкі" адлюстравана геранчная барацьба гараджан старажытнага Полацка з тэўтонскімі рыцарамі-крыжаносцамі. Твор прасякнуты ідэяй аб неабходнасці аб'яднання славянскіх народаў, а таксама іх суседзяў — літоўцаў, латышоў, эстонцаў — дзеля таго, каб супрацьстаяць ворагу.**

**ББК 882.6-93**
**УДК 84(4Бен)6**

Літаратурна-мастацкае выданне

**ДАЙНЕКА Леанід Мартынавіч**

**МЕЧ КНЯЗЯ ВЯЧКІ**

**Р а м а н**

Рэдактар *А. М. Каляда*
Мастацкі рэдактар *К. С. Ракіцкі*
Камп'ютэрны набор і вёрстка *А. В. Русецкай*
Тэхнічны рэдактар *Г. Ф. Дуброўская*
Карэктар *М. Ч. Пермякова*

Падпісана да друку 17.11.2000. Фармат 84×108 $^1/_{32}$. Папера афсетная. Гарнітура Тып таймс. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 17,64. Ул.-выд. арк.17,75. Тыраж 3000 экз. Зак. 2990.

Падатковая льгота — Агульнадзяржаўны класіфікатар Рэспублікі Беларусь АКРБ 007-98, ч. I; 22.11.20.200.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства "Выдавецтва "Юнацтва" Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ № 7, 20.12.1997 г. 220600, Мінск, Машэрава, 11.

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў друкарні выдавецтва "Беларускі Дом друку". 220013, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.